# ПОЛЫМЯ

КНІГА ДЗЕВЯТАЯ і ДЗЕСЯТАЯ

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
1930
ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ

## ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК
## 1930



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

# НА РАСЬЦЯРОБЕ

*(З жыцьця Заходняй Беларусі)*

**Язэп Пралеска**

Алесь абуваўся на прымурку. Зграбна абліпалі анучы, гадзюкай абвівалася вяроўка.

— Нажыць-бы боты,—падумаў Алесь. І шырокая далонь ляснула быццам па халявах, вузлы вяроўкі ўваліліся ў рукі, расьцягнуў яе нібы двухрадку.

Усьмешка прабегла па твары, шэрыя вочы бліснулі ветлівасьцю, нос-бульба прысядаў.

—Яна палюбіць...

Багатыя бацькі... радня дзяўчыны... на ўсю ваколіцу. Боты... гармонік... вясельле...

Скрыпнулі дзьверы. Сівабароды, прыгорблены, яшчэ з парогу гукаў бацька.

— Зьбірайся, не марудзь,—і па старому звычаю падыбаў прысесьці на лаве.

Ужо мужчына і ўвесь па мне, толькі слабейшы, але нішто. Усё-ж лягчэй: падправім гаспадарку, ажаню, пасаг возьмем—гледзячы на Алеся, меркаваў стары.

— Ты-ж, сынку, помні, будзь гаспадарскім дзіцем, не залазь у хэўру з усялякімі распусьнікамі... Беражы грош... Людзі-ж кажуць, што зарабіць можна, а грошы на ўсё патрэбны: падатак заплацім, колы мoжа купім... каня.

— Kіньце, тата,—абарваў Алесь.—Кожны дзень усё тое самае: грошы, грошы.

Прыемныя мары пра боты, гармонік, Прузыну зьніклі і Алесь з нянавісьцю паглядзеў на лыкавыя лапці, старыя шарачковыя нагавіцы і так рэзнуў абору, што адразу выдраў два вушкі.

— Боты трэба,—крыкнуў Алесь і спусьціў галаву, нібы падстаўляе яе пад удары...

— Я і жаніўся ў лапцёх, а табе ўжо хутчэй боты. Сенажаць будзе прадаваць пан, дзесяцінку купіць-бы. Рукі было-б за што зачапіць, а тады ўжо кароўку... Жарабё выгадуем. Мне што? дзень—век. Табе-ж усё застанецца, дзяўчаты замуж павыходзяць,—сьцёбаў бацька.—Пабагацеем,—людзі лепш хінуцца будуць.

Алесь моўчкі канчаў абувацца.

Стары пацерабіў патыліцу, прыжмурыў вочы, дастаў з-пад лавы камень, зьмёў даланёю пыл.

І камень у гаспадарцы патрэбен, гладзенькі, марскі. Колькі поту выціснуў... два тыдні на плячох нёс... Каб мне сёньня ўсе сыры, што гэты камень перацісьнуў—азалаціўся-б. Зямліцы прыкупіў-бы, табе ня трэ' было-б хадзіць па заработках, жыў-бы прыпяваючы. І я гэтак сама адыходвіў. Ужо больш за 20 год, а ўсё роўна як учора. Паганяў плытоў на Нёмане, а бярвеньня, бярвеньня—вось-бы зруб зрабіць з такога.

— Алесь ідзем!

П-фу, згінь ты прападзі,—перапужаў. Заходзь у хату...

Паўз вакно махнулася постаць, падпіразаная пілою, з торбай за плячыма.

Алесь саскочыў з прымурку.

* * *

Конь спаў. Самадзелкавы хамут пятлёй вісеў на яго шыі. Гужы—вяроўкі, умацаваныя самародкавай дугою, падтрымлівалі яго на нагах і толькі калі-ні-калі ён цяліпне галавою і ізноў сьпіць.

На воз мужчыны ўкладаюць пілы, сякеры, торбы з харчам. Каля іх топчуцца жонкі і куча дзяцей. Падол жонак так і ходзіць каля носу.

— Варушэцеся, мужчыны,—падганяў Алеся Габрусь. Кавалак дарогі, а сонца насілкай не дастанеш, поначы горш цягнуцца.

— Трыццаць вёрст,—аўторытэтна заявіў рыжабароды прысадзісты Сьпірыдон, паказваючы чорныя зубы.

— Трыццаць нямераных,—падмігнуўшы папраўіў Габрусь, падпінаючы каня.

Мужчыны тымчасам увязалі воз. Габрусь узабраўся на торбы, упёрся і ў ляжэйку, пакруціў у паветры пугай, выцяў раз-другі каля падсядзёлка і, нарэшце, цмокнуў. Конь паглядзеў на бакі, на Габруся і, нібы зразумеўшы, што цырамонія скончана, нясьмела ступіў паўкрокам...

Хіляючыся крануліся колы, сьпіцы заварушыліся, тоненька заскрыпелі, заглушаючы роў восі. Здавалася, што колы сядуць. Габрусь з апаскай глянуў уніз і ціха прамармытаў:—нічаво, давязуць.

* * *

— А фурманкі ўсё няма,—пацiскаючы папружку прагаварыў Алесь.

— Што, па торбе засмуціўся?

— Ды не, я каб на поезд не спазьніцца.

— Падбяжы лепш даведайся, ці хутка прыдзе цягнік.

— Што вы яго папіхаеце, хлопец першы раз едзе, парадкаў ня ведае, будзе блудзіць па станцыі,—яшчэ пасадзяць. Лепш я падыйду.

— Ня ў лесе, не заблудзіцца.

— А заблудзіцца, няхай гукае.

— І не заўсёды адгукваюцца, — сказаў Сьпірыдон і пакрочыў у станцыю.

Мужчыны моўчкі паварочваліся на пакамечаным травяным дыване. Пажоўклае лісьце залатым вузорам расшывала, абнаўляла яго для новых гасьцей.

— Едзе, едзе, — крычаў Сьпірыдон, які вяртаўся са станцыі. Мужчыны борзьдзенька сталі падымацца.

— Наша.

— Плывец.

— Во, накручвае, на абодвы бакі.

— А ўсё на тым самым месцы.

— Дарма, — прыбрыдзе...

* * *

Ідуць пільнікі. Торбы прыціскаюць, горбаняць. З-пад страхі скамечаных валасоў, што павыбіваліся на лоб, капае. Аднак пра адпачынак ніхто ня думае...

Застаць шафара ў канторы, інакш прападзе дзень. Ды і невядома ці дастанеш заўтра работу, — вось думка, якая прымушае сьпяшацца.

Разьвіднела. Пільнікі націскаюць. Гудок на тартаку. Сьпірыдон агляруўся.

— Засталося 3 вярсты, а прайшлі 15. Націскай, і сам паскорыў крок.

Пільнікі моўчкі прынялі загад Сьпірыдона, толькі торбы закраталіся і яшчэ больш урэзаліся ў плечы.

У хмызьнячку, каля новага зрубу, зашмальцованыя кепкі, тужуркі, пацёртыя капялюшы, чорныя паліто, гальштукі, камашы, перамяшаліся са срэбнымі кашулямі, лапцямі, шарачковай вопраткай, замурзанымі шапкамі. Торбы, чамаданы, сякеры, пілы — усё мітусіцца.

— Во, народу! Няўжо дарма прыехалі? — думаў Алесь. — Не, я буду прасіцца. Ды як-жа дамоў вярнуцца? Засьмяюць. На вуліцу нельга будзе выйсьці. А яшчэ хваліўся, што бяз ботаў і гармоніка не вярнуся. Ня бачыць тады мне Прузыны...

Жаданьне даведацца чаго чакае такі вялікі натаўп узрастала. Алесь прыбавіў кроку і хутка дагнаў Сьпірыдона, які ішоў першым.

— Што тут за зборышча?

— Кантора шафара, а гэта — на заработкі прыехалі, — нехаця адказаў Сьпірыдон.

— І для ўсіх хопіць работы?

— А скуль я ведаю, можа хопіць, можа і не. Хутка даведаемся.

А што калі і сапраўды ня будзе работы? Дамоў вярнуцца? Таксама няма чаго рабіць, ды і грошы засталося толькі два злотых, а білет каштуе 4. Пяхтурой? — Далёка, невядомая дарога. Буду прасіцца. Пры-

муць хоць на тыдзень-два,—меркаваў Алесь, дыбаючы да канторы. І чым бліжэй падыходзіў, тым больш нарастала трывога: будзе работа ці не?

— Пад гэтай хваінай,—ставячы пілу, сказаў Сьпірыдон. І адна за аднэю з плеч злазілі торбы.



На ганку шафар Пухальскі. Рэдкая бародка дзюбае ва ўсе бакі, праз вакенцы-акуляры—хітрыя чорныя зрочкі прыкідаюць, куды разьмеркаваць народ.

Побач чакаюць загаду, падпершыся кіямі-мэтрамі лясьнікі, дзесятнікі, павольна пазяхаючы, жмурацца на сонца.

Натоўп варушыцца. Нецярплівыя прабіраюцца наперад, іх штурхаюць, памінаюць маці, радню. Злосны погляд—і моўчкі ізноў цісну[цц]а, бліжэй.

— Гэ-к-гы.

Прыціхлі. Пухальскі яшчэ раз кашлянуў. Правая рука павольна падымаецца ўгору, выкручвае казьліную пятлю. Адварочваецца, аб нечым ціха шэпча лясьніку-дзесятніку.

Рука грабе, пралазіць пад вопратку, мацае мускулы.

— Шліфроўшчыкі тут?—прахрыпеў бараковым голасам Пухальскі, разразаючы паветра.

Нібы віхор уварваўся ў незавершаны стог саломы і раптам усю яе ўздыбачыў. Падымаюцца сякеры, торбы, бражджаць чайнікі, конаўкі, прарываюцца да вызначанага месца.

Шафар прыжмурыў правае вока, а левае са злой усьмешкай пагля- дала, як прупца людзі дастаць працу...

І зноў рука паўтарала выкрутасы, бараноў голас адчыканьваў далей: шпалы тут, пільнікі бярвеньняў, шасьцярок, дзевятак, сабачак, мэтраў— тут 20 чалавек, у грузчыкі—10 чалавек, у тартакі—тут...

— Плата якая, чаму не гаворыце...

— Мала падзяліць, трэба сказаць, колькі дасьцё.

— Ці варта ісьці ў лес?—пыталі з натоўпу.

У адказ бразнулі дзьверы. Шафар моўчкі зьнік.

З паважнымі мінамі новыя „паны“ лясьнікі занялі месца шафара. Цяпер ужо яны гаспадары. Цыбаты, доўгі зламаны нос, сухая левая рука, крывёю налітыя чорныя вочы, лясьнік-афіцэр з банды Балаховіча— беспасрэдны памоцнік шафара, Залівака, злазячы з ганку прахрыпеў:

— Мы ўсё растлумачым. Супакойцеся.

Тоўстыя сшыткі павольна вылазілі з запазухі лясьнікоў. Шэрыя лісткі шурпавата варочаліся... З выкрунтасамі ўразаліся прозьвішчы, адрасы і кожны запісаны атрымліваў нумар.

Шліфравікоў прымаў сам Залівака.

— Дзе працаваў?—барабанячы алоўкам па стале, пытаў Залівака, запісваючы па чарзе.

— У саюзе састаіш?

— Якой партыі? Баставаў? У Чырвонай арміі служыў? А дзе быў у 1920 г.,—перакідаючы нага за нагу, пытаў Залівака.

— Ага, значыцца, сядзеў на печы,—дэзэртыр, бальшавікам дапамагаў... Трэба праверыць, ці справішся са шліфам. Стань у бок, пачакай... Ну, ты, чарговы... У чырвоных служыў? Чужой зямлі хацеў? мабілізаваны? знаем... А па-твойму, хто бальшавікі? А-га, рабочая і сялянская бедната, а ты таксама рабочы, бедната. Пачакай... А, пан стрэлец? Вось квіток. Глупства, справіцеся. Пазьней пагутарым. Заходзьце ў мой пакой.

* * *

Сьпірыдон з Алесем далучыўся да самай большай групы пільнікаў. Алесь добра разгледзеў людзей. У крамнай вопратцы і камашах.

Здалёку не пазнаеш, зблізку іншая рэч. Адразу відаць, што гэта не паны, нават не паходзяць на іх. Якая-ж гэта вопратка... латаная, уся замазучана, ледзь трымаецца на плячох, меркаваў Алесь.

— А камашы?

Г-гы, як вышчарыліся. Не прамяняў, бы на лапці. І самі худыя, бледныя, толькі вочы неяк блішчаць. Нябось у лапцёх трохі гладзейшыя, гарадзкія пэўне і бульбы ніколі ўволю не зьядуць.

— Што ты аслупянеў? працiскайся. Не забудзь-жа, што дзьве зімы працаваў на дзевятках,—зыкнулі каля вуха.

— Алэ, дзьве зімы... у лесе.

— Што балбочаш? Прычыні. Разьехаўся... на бярозавым дамоў хочаш?—прашыпеў Сьпірыдон...

Што за ліха,—меркаваў Алесь, прасоўваючыся за Сьпірыдонам. Сярмягі і лапці адзін праз аднаго лезуць, аж б'юцца, абы запісацца. І ніхто толкам ня ведае, якая плата. А вось у крамнай вопратцы... нешта падлічваюць, радзяцца.

Тут нешта ёсьць.

— Што, каб да іх далучыцца—ціханька запытаў Алесь у Сьпірыдона, паказваючы вачыма ў бок рабочых. Мо' разам з імі хутчэй работу дасталі-б.

— Ат, што ты плявузгаеш. Яны з гораду, ім лацьвей. Паперкі ўсякія маюць і ўсё такое. Кажуць, што баяцца іх. Каб не бунтавалі, дык шлюць сюды. Вось ім работу дадуць, а ты правароніш і прапала.

— А мы ня можам бунтаваць?

— Маўчы, дурань, а то дагаворышся... Нашоў пра што пытацца. Плюну зараз і кончана. З іншым кім-небудзь спаруся, а ты на ўсе чатыры. З табою бяды набярэшся.

Алесь вінавата спусьціў вочы, змоўк. Нейкая невядомая цікавасьць узбудзілася ў ім. Хацелася ведаць усё пра рабочых, а Сьпірыдон злуецца.

Дармо, брат, даведаюся,—рашыў Алесь,—распытаю...

— Як ні як, а мы ўжо пэўны, што работу маем і дзялянка бліжэйшая,—выціраючы лоб локцем, весела падміргнуўшы, сказаў Сьпірыдон, вырваўшыся ад стала дзесятніка.

Алесь ня чуў, што сказаў Сьпірыдон, ня бачыў яго вясёлай усьмешкі. Ён хапаў паветра, цяжка глытаў, вочы бяз цікавасьці блудзілі навокал.

— Цяпер пойдзем даведацца пра плату.

— А дзесяцкі нічога не казаў?

— Што ты з глузду зьехаў, ці што? Дзесяцкі тут будзе гаварыць? Запіша, прывядзе ў лес, там і скажа.

— Вось, які парадак...

— Парадак не парадак, а адтуль уцякаць горш, там ужо колькі скажа, столькі і добра, тут даведацца трэба. Пасядзі пры торбах.

* * *

Лес уздыхае, калоцяцца дрэвы, крык жаху.

У-у-у-х!—разьвітваюцца суседзі...

Яно хапаецца, прабуе затрымацца і бездапаможна валіцца назаўсёды. Шматвяковы дуб шырока распусьціў свае гольлі, каля яго спыніліся пільнікі. Разглядаюць, мяркуюць, радзяцца.

— Лес таварны.

— Ёсьць дзе разьвярнуцца.

— Лепшай мясьціны нідзе ня знойдзеш,—стукаючы абухам каля карэньняў дубу, хваліў Сьпірыдон.—Са мной не прападзеш, я лес знаю... Вось тут і застановімся. Сьцяна адна ёсьць пэўная: ні бура, ні мароз ня пройме. На тавар ня гожа, крывая. На мэтры пойдзе. Адсюль ня скора нас сівы прагоніць у баракі.

Алесь вызваляўся ад торбы. Вяроўка ўелася ў плечы, рукі адранцьвелі і ня хочуць слухаць, а выдаць сваю слабасьць стыдаўся. Што падумаюць дружакі? Хто захоча мець такога хаўрусьніка?

І хоць ня зусім падабалася яму выбраная Сьпірыдонам мясьціна для шалаша, але не пярэчыў, а ківаў галавой. Добра, толькі хутчэй, а дзе— усё роўна.

Нявысокі, у моцна падношанай крамнай вопратцы, беспрацоўны тытунёвец з Горадні ўпалымі блакітнымі вачыма шукаў нізіны.

— Вады тут ці здабудзем?—спакойным роўным голасам запытаў Сьпірыдона.—Здаецца, што тут высокая мясьціна, можа лепш пройдзем туды... бліжэй будзем і да вады і да іншых шалашоў, весялей будзе.

— Вады хопіць ня толькі піць, а нават і памыцца конаўку можна будзе вымеркаваць. Я лес знаю. З малых дзён з пілою, з сякераю— гэта мая спэцыяльнасьць. А вясёласьці тут ніякай ня трэба, абы аддыхнуць дзе было.

Хваёвыя галінкі пераплятаюцца, сьцелюцца каля наўкоса пастаўленых жэрдак. Дзірачкі стараннаканапацяцца лісьцём, мохам. Сьцяна

пухне. Раўкі пад шнур адведзены да ямак. Дзьверы—пляцёнка бярозавай закруткай прывязаны. Засоўка—дубовы сучок, абчэсаны—ляжала пры дзьвярах. На падлогу насеклі таўсьцейшых сукоў.

— Ні я казаў, што палац выйдзе шык!—прыкідаючы тапарышчам таўшчыню сьцяны любаваўся Сьпірыдон.—А нары яшчэ прыладзім. Во, зажывем, дамоў не захочацца. Я заўсёды люблю зрабіць адразу добра. Найбольшы дождж, а ты, як у хаце, сухі ляжыш на нарах: і цёпла, і добра.

— Што тут добрага? Мядзьвежая бярлога, а ты хваліш... Сказаў-бы, што прымушан перабівацца абы пражыць. Ці-ж тут адпачнеш пасьля працы. Бадзёрся—гэта добра, але не расхвальвай, ня люблю я гэтага,—гаварыў з націскам беспрацоўны ткач з Беластоку. Гэта, браце, добраахвотная катарга, а ня жыцьцё, не заработкі.

— Нідзе ня дзенешся, мусіш ісьці, калі ня хочаш згінуць з голаду.

— Я-ж кажу, што ня бачыш, як цябе гоняць, а адчуваеш, вось чаму я і называю яе добраахвотнай, а розьніца невялікая. Працуем не на сябе, а на паноў.

— Не займайцеся, братка, політыкай. Баюся я гэткіх людзей, і сам не агледзішся,—пападзешся. Тады пакутуй немаведама за што...

— Ня бойся, дзядзька Сьпірыдон,—політыка не такая ўжо страшная рэч. Прывыкай, вучыся.

— Вы людзі гарадзкія, разумнейшыя,—адбаярваўся Сьпірыдон,—лепш ведаеце, як і што, а я вясковы, няпісьменны. Чуў, што за політыку б'юць, у вастрог садзяць. Дык навошта яна мне? Неяк дажыву свой век і без політыкі. Мо' калі і палепшае.

— Не пражывеш, дзядзька. Прымусяць цябе выбіраць з кім ты: з намі, ці з імі?

— Я з панамі? Нізавошта! Я заўсёды з вамі, толькі без політыкі.

— Ну і дзіўны, Сьпірыдон. Калі ты з намі, дык, значыцца, супроць паноў, дармаедаў.

— Вядомая рэч, супроць, асабліва супроць памешчыкаў. Вось гэтых гадаў перадавіў-бы... Ня здрыгнула-б рука. Мо' зямліцы які загон дасталася-б, а то пакутую на дзесяціне—восем душ; трэба пракарміцца вось з іх.—І Сьпірыдон выцягнуў правую руку з суцэльным мазалём—падэшвай:

— З іх жыву...

— Ня ты адзін корміш дармаедаў, у каго рукі, як пампушкі.

— Яно то так, але што ты зробіш. Трэба гараваць.

— Усё можна зрабіць, ідзі толькі з намі, навучышся... Супольна будзем будаваць жыцьцё...

Сьпірыдон спачатку нічога не адказаў, а потым, бяручы Алесеву сякеру ў поўны голас, нібы просячы прабачэньня сказаў: — Пайду шукаць вады.

— Разумныя людзі, але боязна з імі,—меркаваў Сьпірыдон.

— Мне нічога, я воўк бывалы, выкручуся. А што будзе з Алесем? Ён-жа слухае ўсё, растапырыўшы вушы. Нядобрая хэўра, сапсуюць хлопца.

— Во, паралюш, сукі перашкаджаюць, а здаецца добрае месца.

Сякера роўна біла па шнуры; далёкім водгульлем адбівалася: га-га. Прысеў на калена, падважыў тапарышчам. Стаўбунок крануўся, ён схапіў за залабніцу і выкаціў, схіліўся, хутка вылятала ліпучая гразь. Рука па паху залазіла ў студню і наводзіла парадак, пасьля сякера: папераменна.

— Вада ёсьць.

* * *

Агонь патрошку зьядаў сучкі. Пільнікі моўчкі падкідалі ня то шкадуючы, ня то баючыся абкарміць. А ён ліжа саганчыкі, просіць больш... і з лёгкай рукі то той, то іншы глядзіш і дабавіць.

Саганчыкі крыўдзяцца, усхліпваюць,—вось-вось гатовы расьсьлініцца пасапраўднаму, але да гэтага не дапусьцілі, жменя брусьнічніку супакоіла іх, праўда не надоўга, ізноў насупіліся і расплакаліся так, што іх зьнялі з начэпкі.

— Ніштаватая гарбата і ніякага паху імшарынай,—дапіваючы конаўку хваліў тытунёвец.

— О-го, такая гарбата. На грудзі памагае. Сахарыны толькі мала— гэта праўда, але можна жыць... Дома часамі к сьвяту купіш пушачку сахарыны. Вось ужо папіваеш тады ўсёй сям'ёй. Добрая рэч гэтая сахарына, каб яе ня было, салодкага век не пакаштаваў-бы.

— Што, ты, Сьпірыдон, усё хваліш? Сушыць грудзі, мазгі, а ён расхваліў. Быццам мы ня ведаем. Гэта, брат, атрута.

— А дзе возьмеш грошы на цукар?

— Грошы? У тым-та і рэч, што ўсё забіраюць яны...

Чаму з такой ненавісьцю гаворыць пра паноў гэты ткач? Чаго ён хоча? Вось, здаецца, усіх-бы павешаў на тым суку, дзе мая торба, паварыў у гэтым саганку. Разумны відаць, а ўсё-ж такі боязна.

— Пара спаць,—сумысьня прарваў гутарку Сьпірыдон, штурхнуўшы Алеся.

* * *

Жвавы прыказчык, з залізанымі ўгару чорнымі валасамі, адзначаў на іменных квіткох забор тавараў. Касір прыбіваў пячаткай „крэдыт“.

Алесь дастаў з шапкі закладзены пад цыратку скручаны квадрацік, падаў прыказчыку, палахліва азіраючыся на бакі.

— Што бярэш?—буркнуў прыказчык пад нос.

— Вялікіх селядцоў, хлеба і сахарыны,—глуха прагаварыў Алесь.

— Наступны,—крыкнуў прыказчык.

І Алеся штурхнула моцная рука ўперад. Ён павярнуўся, хацеў было вылаяцца, але так і застанавіўся з адчыненымі вуснамі. Нявысокая, чор-

намазая дзяўчына, каротка пастрыжаная, круглая шыя, заняла яго месца, і бойка гаварыла прыказчыку, што выпісаць. Бяручы квіток, падлічыла і запісала сабе ў кніжачку.

— Што стаіш?—прамінаючы Алеся, сказала дзяўчына і ветліва паглядзела яму ў вочы.

Такой дзяўчыны яшчэ ня бачыў ніколі,—падумаў Алесь. А яна весела сьмяялася, падзадорвала Алеся.

— Сьмялей прабірайся, хлопча, а то затруць цябе тут.

Алесь ня мог адвесьці вачэй, хацеў нешта сказаць, але язык блытаўся, упіраўся ў зубы і ён ледзь выціснуў:

— Нічагуткі.

Нясьмела падышоў і стаў за незнаёмай. Выпадкова яе штурхнуў пярэдні ў чарзе, яна пахіснулася на Алеся. Вочы блїснулі ні то ад нечаканасьці, ні то ад злосьці і, прытуліўшыся да Алеся, жартлівай усьмешкай сказала:

— Трымайся.

Пераступаючы з нагі на нагу, як-бы сам да сябе, адвярнуўшыся ў другі бок, Алесь запытаў:

— Тут жывіцё?

— Ня жыву, а працую на тартаку,—папраўіла дзяўчына.

— А ты дзе?

— Мы ў лесе. І я таксама хацеў-бы на тартак.

— Будзеш суседам, — паказваючы белыя зубы, сказала дзяўчына, укладаючы ў кошык накупленае.

Вяртаючыся да баракаў, Алесь усю дарогу думаў пра незнаёмую дзяўчыну. То сварыўся з ёю, што штурхнула яго, то лагодна падхапляў рукамі, каб ня ўпала. Ніяк ня мог даравацъ сабе, што ня спытаўся, як завецца, дзе жыве. Заняты сваімі думкамі, ён і не агледзеўся, як прышоў да дзялянкі, выцер рукавом лоб, пераклаў торбу на другое плячо, глыбока ўдыхнуў паветра і голасна сказаў:

— Шкада, лоўкая дзеўка, ці давядзецца ў жыцьці яшчэ хоць раз спаткаць?

* * *

Павячэраўшы, пільнікі ладзіліся на адпачынак, а каб спакайней спалася, быў заведзен звычай „прудзіць“ перад сном кашулі і нагавіцы. Пільнікі стаялі наўкола агню, полымя ўзьнімалася ў рост, а яны трымалі расьцягнуўшы кашулі, паварочвалі на ўсе бакі, страсалі і зноў грэлі.

— Чорт іх усіх „выпрудзіць“. Прыемаліў кашулю, а яны сядзяць,— гаварыў тытунёвец, скідаючы паліто.

— Не лянуйся, агледзь, а то распаўзацца будуць.

— А ты думаеш, што ў гэтай лахамідзе іх менш?

Алесь паглядзеў на сярмягу, аблепленую латамі, з абрыдасьцю страсянуўся.

— Адгэтуль ня выкурыш.

— Выкурыць можна,—з упэўненасьцю сказаў Алесь і пачаў расказваць, як бацька удвору „прудзіў“ вопратку, накрываючы ёй потнага каня.

Ткач і табачнік нехаця ўсьміхнуліся, Алесь запэўняў, што пасьля гэтага вопратка рабілася зусім чыстай.

* * *

Першыя дні ў гарадзкіх рабочых дрэнна выходзіла пакуль налаўчыліся спускаць з пня. Падсякуць ні з таго боку, павісьне, ашчарэпіцца сукамі за другое дрэва і ўпрэцца. Прабуюць сапхнуць,—дзе там. Топаюць, аглядаюць і зразаюць другое, але і яно падае ў абдымкі... ды так зачэпіцца, што і пілы ня могуць выратаваць. А трэба сьпяшацца, праца на дзялянцы зьдзельная—гарадзкія ня хочуць менш зрэзаць за сваіх таварышоў вясковых „спэцаў“.

Ледзь золак пільнікі браліся за працу. Расхрыстаныя кашулі, пад пахамі хоць лыжкі мый, а яны адпачываць ня маюць часу, нават закурыць. Трэба-ж да сьнеданьня наваляць столькі з пня, каб хапіла парадкаваць на ўвесь дзень. Гарбату і полудзень рыхтавалі па чарзе. Каб менш траціць часу, заўсёды бралі з сабой саганчыкі з вадою. Агонь раскладаў чарговы тут-жа, пры месцы працы. Ставіў кацялкі і пагдядаў, каб ня выгатаваліся. Сьнедалі, звычайна, на хаду: пакуль рассалодзіцца сахарына, луста хлеба і селядцы сьціраліся з пэтлухамі дашчэнту. Закурваючы, перакінуцца двума-трыма словамі і зноў за працу.

— Нічога не заробіш пры такой рабоце, на харч ня хопіць, ня тое, каб дамоў што-небудзь прывезьці,—штодня скуліў Сьпірыдон.—Шмат часу траціцца на полудзень.

Аднак яго ніхто ня слухаў.

І сёньня, закурыўшы пасьля сьнеданьня, Сьпірыдон пажмурыўся на сонца, пацерабіў паясьніцу і нарасьпеў працадзіў:

— Ужо пад поўдня бярэцца, ня варта гатаваць.

— Ня дуры, Сьпірыдон, лыжка стравы не пашкодзіць.

— А як ты,—прыціскаючы нагу Алеся, падмігнуў Сьпірыдон,—есьці сюды прыехаў, ці ў заработкі?

— Сёньня яго чарга,—паказваючы рукой на тытунёўца, агрызнуўся Алесь і моцна рвануў нагу.

— Значыцца, зноў груцаная каша з сахарынай.

— Ня інакш, бо сала-ж няма.

Сьпірыдон узяў торбу і насыпаў у саганак ледзь абдзёртага ячменю.

* * *

На дзялянку праз дзень-два рэгулярна прыходзіў дзесятнік-лясьнік.

Паглядзіць, зьмерае таўшчыню, даўжыню некалькіх бярвеньняў, пасядзіць на пні, пакурыць і адыходзіць далей. Пільнікі пытаюць, ці добра

сартуюць. Лясьнік нехаця выціскае некалькі незразумелых слоў і пачынае байкі. Сьпірыдон заўсёды слухаў і рагатаў, хоць нічога сьмешнага лясьнік не гаварыў, і як ні шкадаваў ён часу, аднак заставаўся слухаць. Ён дзівіўся, што ткач перабіваў лясьніка:

— Глупства, пан, гародзіш, а пра справу маўчыш,—скажа ткач і адыходзіць на работу.

Лясьнік чмыхне, адвернецца, нібы яго не датычыцца, і плявузгае далей, а Сьпірыдон слухае іківае галавой. Пойдзе лясьнік, Сьпірыдон злуецца, плюе, успамінае маці, лясьніка і з усяе сілы націскае, каб нагнаць патрачаны час.

І так адрываліся, як асеньнія лісткі, дзень за днём.

* * *

Пільнікі, нагнуўшыся, апаражнялі кацялок. Елі моўчкі. Сьпірыдон насупіўся, рыжыя бровы сыйшліся. Ён аблізваў лыжку і думаў аб гаспадарцы, жонцы, дзецях.

— Я тут яшчэ туды-сюды, з хлебам. А як яны? Бульба не ўрадзіла, пакінуў асьмінку жыта. Няўжо яе ўсю зьвядуць. Калі-б яшчэ заціркай, дык так-сяк і дацягнулі-б да каляд, а як часамі жонка падумае сьпячы хлеба, разарыць. Дзетвара, што ім, толькі падавай. Купіць-бы які пуд. Малая надзея. З заработку, відаць, нічога не прывязу, а хацелася-б паправіць хату. Цэглы на печ трэба. Коніка і сёлета купіць ня ўдасца...

— Што, па лясьніковых байках засмуціўся?—жартаваў тытунёвец, кладучы руку на яго плечы.

— Хварэй ён няхай з сваімі байкамі. Патрэбны яны мне? Тавар во ня здадзен. Я лес ведаю. Параскідаеш, а пасьля і сам усяго ня знойдзеш і пойдзе праца чорту лысаму на хвост.

— Сьпірыдон праўду кажа, ня любіць ён басьняў, заўсёды плюецца,— заступіўся ткач,— а пра тавар гаворыць справу. Дакуль-жа чакаць? Чацьверты тыдзень у канец ідзе, грошы патрэбны—сям'я дома.

— Казаў-жа, зараза, што яшчэ на тым тыдні будзе прыём, а пасьля і носу не паказаў.

— Можа ў іншым месцы прымаюць?

— Ат, круціць духамі. Я-б іх вось так, во!

І Сьпірыдон скруціў маладую асінку ўзакрутку.

— А я-б іх так,—вырваўшы скручаную асінку з каранём, шыбнуў у бок ткач.

— Вось і пан лясьнік ідзе. Добры дзень пану!

Лясьнік нібы ня чуў і не заўважыў, што Сьпірыдон зьняў шапку, але павольна зьняў з плеч стрэльбу, паставіў яе каля пню, акінуў поглядам усіх, разгладзіў далоняй вусы, у якіх ледзь стрымліваў усьмешку і прамармытаў:

— Як-жа маецеся? Каля яды ўсё завіхаецеся?

— Невялікая яда. Чакаем вось палучкі.

— У доўг-жа ўсё даюць.

— Усё роўна вылічаць будуць, лепш было-б купіць за грошы.

— А пан лясьнік ня ведаеце, калі будуць прымаць матар'ял?

Лясьнік пакасіўся, адвёў вочы ў бок, нібы гэта не яго пытаў Сьпірыдон, пачухаў сярэднім пальцам у носе, памацаў у кішэні, дастаў капшук з тытунём, скруціў цыгарку, зацягнуўся і сам сабе крэкнуў:

— Праз два дні прыедзе шафар. Падрыхтуйце.

Ткач моўчкі глядзеў э-падылба на лясьніка, глянуў на Сьпірыдона, той ламаў на дробненькія кавалачкі галінку.

* * *

Ня сьпіцца Алесю. Нібы мурашкі поўзаюць па целе. Прытуліцца да плячэй Сьпірыдона, скорчыцца, ухінецца сярмяжкай, заплюшчыць вочы... Прузына з палатном, круглая, як макаўка, сьпяшаецца да саду. Ён паўзком крадзецца каля кустоў, каб убачыць яе зблізку, палюбавацца. Прузына падкасвае спадніцу, лезе ў сажалку мачыць палатно, ікрыстыя лыткі блішчаць...

— Што за ліха? Чаго яна чэпіцца?

Алесь моцна прыціскае галаву да нагавіцаў... Зноў кратаецца сярмяга. Незнаёмая дзяўчына ўсьміхаецца, жартаўліва штурхае. Ён сьціскае яе руку. Дзяўчына цягне да сябе, на тартак. Разам цягаюць тачкі з пілавіньнем, носяць дошкі, аполкі. Ён упіраецца. І вось з ёю дома, побач жнуць... Зьнікла яе постаць, а Алесь ляжыць з заплюшчанымі вачыма, стараецца злавіць прыемныя мары, яшчэ трошкі пабыць з ёю.

— Ня ўмее, мусіць, жаць, — уздыхнуў Алесь і ізноў памыкаецца заснуць...

Вёска. Ён у новых ботах з гармонікам. Вячорка. Ідзе зваць Прузыну, падбіраецца пад вакно, упрыгожанае пеўнямі. З сянец выбягае Прузынін бацька з пугай. Пуга сьвішча каля вушэй, уразаецца ў лытку...

— Ой!—крыкнуў Алесь і сеў.

— Не, такі, як відаць, сёньня не засну,—устаючы, ціха сказаў Алесь.— Выйду ўдыхну паветра.

Ён памацаў анучы, што вечарам падаслаў пад бок сушыць, пачухаўся, зморшчыўся.

— Вільготныя яшчэ.

Гальлё глуха трашчэла. Босыя ногі шукалі раўнейшага месца. Алесь вылазіў з шалаша. Мароз ласкатаў пальцы, рэзкі сівер дзіравіў сярмягу.

— Перабяруся ў баракі, што-б там ня было, згодзіцца Сьпірыдон, ці не. Здадзём матар'ял, атрымаю грошы і айда. Можа ўбачу там і яе. Ці дзяўчына толькі? Вось, каб як даведацца,—думаў Алесь.

Кратаючы пальцамі, Алесь на цыпачках прабіраўся назад у шалаш. Яго разабрала цікавасьць, як трывае ткач пад сваім паліто-рэзгінамі ў такую сьцюжу.

— Што за ліха? Дзе-ж ён? Няўжо ўцёк?

Алесь запаліў сярнічку і абмацаў месца, дзе спаў ткач.

— Няма, уцёк.

Ён кінуўся у кут, дзе стаялі пілы з сякерамі

— Есьць. Дык якая-ж трасца? Дзе-ж ён мог дзецца?

На босую нагу ўшчаміў лазовыя, насьпех закруціў аборы, надзеў у рукавы сярмягу, прабаваў зашпіліцца, але... пальцы ня слухалі, а драўляныя гузікі ніяк ня ўлазілі ў петлі.

Наўкола цёмна, ціха. Алесь узіраецца ў кожны кусток. Пагрэцца-б. Няўжо агенчык? Лоўка, абагрэюся. І подбегам накіраваўся на сьвет.

Яшчэ ганей за двое ён убачыў, што каля агню сядзяць людзі. Стаў. Ісьці ці ня ісьці?

Утупіўшы галаву ў сярмягу, ён асьцярожна абыходзіў сукі, гальлё, ціха ступаў, нібы крадучыся, прыслухоўваўся, як зубы выстуквалі буславы песьні. Ён нават не заўважыў, як апынуўся зусім блізка каля агню. Адгэтуль ён мог ня толькі разгледзець, але і чуць гутарку.

— А, значыцца ён тут. Грэецца... Не, ня толькі грэецца. Нешта, відаць чытаюць, і Алесь кінуўся бягом да агню, як падсмалены. Група людзей разам павярнулася, углядаецца ў цемру, скуль нёсься глухі водгук трэску сукоў. Чалавек, які чытаў, запхнуў руку ў кішэню, нешта мацаў, шукаў, потым з другой кішэні дастаў махоркі і кавалак газэціны, скруціў банкрутку.

— Пагрэцца можна? Скалеў зусім.

— Грэйся, грэйся. І я таксама зьмерз. Прышоў пагрэцца,—гледзячы на Алеся гаварыў ткач.—І пад сярмягай прабірае.

— Ня грэе,—расхінаючы полы над агнём, апраўдваўся Алесь і схіліўшыся, хапаў рукамі маленькія пасмы полымя, здавалася, набіраў, усмоктваў цяпло ў сябе.

— Закуры, супакой зубную музыку.

— Баначку пакінуў там.

— У мяне яшчэ вытрасеш на папяроску,—праказаў чарнамазы мужчына, і здаровая жылістая, моцна аброслая валасамі, рука падала бляшаную пушачку.

— Нялоўка неяк, апошнюю. Як-жа вы?

— Да цябе прыдзем. Пачастуеш?

Алесь засаромлены такім нечаканым пытаньнем не адразу адказаў.

— Хто іх ведае, а мо' і сапраўды прыйдуць? Абкураць,—думаў ён. Але, нарэшце, парашыў разгуляцца для кампаніі і нясьмела прагаварыў:

— Што-ж прыходзьце.

Чарнавусы пацягнуўся, засьмяяўся, паглядзеў на ткача. Неўзаметкі звузіў правае вока. Чорненькая істужка нібы пытала:

— Ну, што маўчыш?

Ткач заміргаў, нахінуўся, выгарнуў сучком вугальчык і ўжо хацеў закурваць, як раптам падступіў кашаль. Ён выпусьціў з рук сучок, сьціснуў папяросу, другою рукою хапіўся за грудзі і зайшоўся ад кашлю.

— Нічога не памагае, нават і брушнічнік. Кожны дзень кашляе. Пэўне, з роду такі,—думаў Алесь і нарэшце сказаў—

— Прастудзіўся.

— Гэта фабрычны кашаль,—з больлю вырвалася ў ткача...

* * *

Ударыў апошні раз адбой і водгульле разьнеслася па ўсіх дзялянках. Адбой стукаў каля кожнай будкі шалаша і ўзбуджаў у яго жыхароў і радасьць і трывогу. Яны, лахматыя, шэрыя, вылазілі на сьвет.

На расьцяробе чуцён глухі, як з-пад зямлі, голас.

— Го-о-оп... адбіваецца ціха аб пні, на расьцяроб аддаецца з большай сілай.

— Го-о-оп... падхаплялі тысячы галасоў, аглушаючы лес.

Пільнікі пераждэргвалі праз белых і шэрых нябожчыкаў, што ляжалі роўна выцягнуўшыся, штурхалі, абмінаючы пузатыя шліфы, касіліся на мэтравыя пушачкі і крочылі да расьцяробу.

На расьцяробе грамада людзей жвава спрачаецца-радзіцца...

Ткач рвануўся і ўліўся ў грамаду. За ім падыбаў Сьпірыдон. Ён азіраўся, хістаўся, ня бачыў роўнага шляху, па якім крочыў ткач. Алесь, наглядаючы, ішоў побач, быццам зблудзіў, кідаўся ў бакі, хацеў забегчы наперад, але ня ведаў шляху і, прыблізіўшыся да ткача, ён патроху стаў разумець, што той шлях, па якім ішоў ткач, ёсьць адзіны пэўны і толькі па ім прабярэшся праз расьцяроб...

Грамада поўным рашучым крокам ішла наперад. Прыблізіўшыся да яе, Алесь заўважыў таго, хто пры агні частаваў яго махоркаю. Ён бачыў, як той узяў руку ткача, яны зьніталіся ў адну. Другую руку незнаёмы працягваў Алесю і як-бы вабіў да сябе:

— Ідзі за намі!

* * *

Палучка. Вялікай грамадой пільнікі рушылі з баракаў. Меншымі групамі ішлі з шалашоў. Усе зьбіраліся каля канторы. Сёньня палучка, чуецца „сьвяточны“ настрой.

Ткач ішоў наперадзе, бровы сышліся, лоб прарэзалі глыбокія маршчакі, правая рука роўна адбівала ў такт. Рвануў галінку, крутануў яе.

— Было-б добра, каб усе,—ціха сказаў ткач і кінуў галінку ў бок.

— Га-га-га-га.

— Абмывай.

— Абмывай лапці, інакш ў кантору ня пусьцяць—гаварылі мужчыны.

— Собіла-ж у такую калдобіну ўлезьці, па калені замачыўся,—сказаў Сьпірыдон.

— Што за жарт, памаглі-б выбрацца,—сур'ёзна сказаў ткач.

Але мужчыны яшчэ грамчэй зарагаталі.

Сьпірыдон не злаваўся. Страсануў нагавіцы, абіў гразь аб пень і пакрочыў, прамінаючы мужчын, якія дружна рагаталі ўжо з тытунёўца.

А з тытунёўцам цэлае няшчасьце. Зачапіўся за корч і адвалілася падэшва, скача на аднэйназе.

— Дайце вяроўкай падвязаць... з палучкі лапці куплю,—крычаў тытунёвец, прысеўшы на купіну.—У каго доўгія аборы, прызнавайцеся?

Алесь кінуў вокам на свае лапці і ўзяўся разьвязваць.

— Даўжэйшую, не шкадуй. Вось так, рэж каля забарсьні.

— Ня спрытна рукі ходзяць,—жартаваў Сьпірыдон.—Што, мо' памагчы ўвязаць?

— Ня ўсім-жа мець тваю спрытнасьць лазіць па ямах...

— Глядзеце, глядзеце, як зграбна зацягвае сабачы вузел. Вяжы васьмёркай, вось так,—не пераставаў Сьпірыдон.

Шурпатыя, з крывянымі падцёкамі пальцы моцна зацiскалі кароценькія кончыкі вяроўкі. Тытунёвец падняўся, тупнуў, крутнуў нагой і весела сказаў:

— Цяпер хоць у скокі, вытрымае,—і шмаргануў рукамі аб шэры вільготны мох.

— Ідзем.

Ох і высыпяць сёньня грошай, гульнуць хлопцы—сказаў Сьпірыдон і смачна глынуў сьліну.

* * *

Стаяць дзьве вінтоўкі. Белы певень распусьціў крыльля, натапырыў кіпці. Праз вакно выглядае шафар. Паўзе пануры, устрывожаны погляд па пільніках: Шафар узьнімае вочы, бачыць белага арла. Горкая ўсьмешка распаўзлася па твары, губы пакасіўшыся шапталі:

— Зяхаеш? Ня стрымаеш, белы! Сьцісьні дзюбу,—са злосьцю, хрыпла прашыпеў ён і адыйшоў ад вакна.

Камы дыму і лаянкі вісяць, згусьціўшыся ў паветры. Пільнікі мітусяцца, нецярпліва паглядаюць на вакенцы, дзе лясьнікі прыладжвалі столік.

Нарэшце, да століка падыйшоў Залівака. Ён з абрыдласьцю пагледзеў на лахматыя, аблепленыя латамі, сярмягі, сплюнуў і ўзабраўся на зэдаль. З хвіліну памаўчаў. Панюхаў носам і немым голасам зароў:

— Па дзялянках станавісь!—І выпрастаўшыся застыў.

Зьмяніўшы голас, ён выклікаў прозьвішчы. Натоўп ускалыхнуўся. Прабіваюцца бліжэйшыя па чарзе да канторы. Іншыя марудна разыходзяцца.

— Ня скора наша чарга,—упалым голасам гаворыць Сьпірыдон,—скруцілі дзень у трубу.

— Так, дзень страчаны, і невядома ці атрымаеш сёньня, хоць-бы позна.

— Можа і так быць.

— Стаяць абрыдае.

— Пойдзем лепш да крамы, мо' што на полудзень дастанем,—і ўпаўголаса ткач дадаў:

— І пабачым, як адбіраюць заработак...

Алесь стаяў побач з ткачом і не зразумеў яго апошніх слоў. Зьдзіўлена выпучыў вочы і перапытаў:

— Хто будзе адбіраць?

— Сам убачыш, загадкава адказаў ткач, нібы хацеў падкрэсьліць сказанае ім. Апошняе адбяруць.

— Аддаць грошы? Ні за вошта. Лепш пропадам-прападу, загіну, але ад мяне і гроша ня вырвуць,—думаў Алесь.—Я так схаваю (і міжвольна рука мацавала кішэнь пад пахай, ушытую з сярэдзіны кашулі), што і сам чорт іх на знойдзе, ня выдзярэ.

Сьпірыдон пяцярнёй чухаў каля вуха, устрахваў плячыма, быццам жадаў вырвацца з вопраткі, касіўся на бакі, шукаючы дапамогі і, нарэшце, буркнуў:

— Палуднаваць ня варта. Атрымаем грошы, тады перакусім. А што цяпер цягнуцца? Толькі лапці таптаць. Не пайду,—ужо больш рашуча гаварыў Сьпірыдон, лепш пасядзець дзе-небудзь. Праўда, Алесь?

Хоць і не хацелася Алесю пярэчыць, аднак ён ня мог з ім згадзіцца. Адчуваў, што да крамы нешта цягне, вабіць.

„А мо' яшчэ раз убачу яе" і, пакруціўшы галавою, падыбаў за ткачом.

Наўкола пільнікі мітусіліся ва ўсе бакі. Хэўра ў некалькі чалавек разыгрывала васьмушку, іншыя круцілі банкруткі, падлічвалі, колькі прыпадае на брата.

Алесь углядаўся. Вопратка за чатыры тыдні так падалася, што відаць было голае, пачарнелае ад сіверу цела. Камашы „факстрот" замянілі лыкавыя і з няпрывычкі распаўзаліся. Замест папружкі, абвіўся гальштук. Падыходзячы да крамы Алесь убачыў, як натоўп нацiскаў. Бакавыя дошкі-шалёўкі крамы ўгіналіся, здавалася, што натоўп хоча сапхнуць краму з месца.

Увайсьці ў краму ня было магчымасьці. Тыя што вырываліся, з гордасьцю паглядалі на чаргу і цяжка сапучы шукалі сваёй хэўры.

— Як мы палезем?—са страхам у голасе запытаў Алесь.

— Ня варта, няма па што лезьці... Так абыйдземся, паглядзімо. Абрыдае яшчэ сядзець. А пасьля... пасьля зойдзем, народу менш будзе.

— Менш ня будзе, палучка.

Ткач засьмяяўся, узяў Алеся за локаць, паглядзеў у вочы і з уздымам прагаварыў:

— Палучка, кажаш? Праўда, палучка. Толькі ня наша... Яны,—і ў вачох загарэліся іскаркі,—сёньня ўжо падлічылі барышы, а мы палучым і зараз-жа аддадзём ім...

Алесь прыжмурыўся.

— Добра, аддавай ты сабе ім, а я не.

Яму ўспомніліся словы бацькі „беражы грош, падправім гаспадарку". Ён быццам баяўся гутарыць пра грошы і шукаў выпадку перапыніць.

— Што там такое?—паказваючы на склад крамы рукою, спытаў Алесь.

— Палучка. Пойдзем пабачым.

Дзьверы складу, загароджаныя скрынкамі, засланыя „Рэч паспалітай", нагадвалі „буфэт". Прыказчыкі распакоўвалі скрынкі і ў радок стаўлялі „белагалоўку". Пільна ўсё аглядалі, рыхтаваліся да бою, усё павінна быць напагатове, пад рукамі.

Алесь паглядзеў на ткача, хацеў штосьці спытаць, але не адважыўся. Ён першы раз бачыў яго такім сярдзітым. І сапраўды ткач сьціснуў кулакі, бровы сышліся, вось-вось накінецца на зялёныя рады „белагаловак". Але гэта толькі здавалася.

Ткач глядзеў на ўпрыгожаныя дзьверы, якія быццам па заказу былі прыбраны плякатамі: над касьцёлам „ляцяць" самалёты... у масцы, узброены, з гранатай напагатове, стаіць паліцыянт (плякат „ЛОПП"— лігі абароны паветранага панства), з-пад яго выбіваецца—„галасуйце за ППС", „галасуйце за Вызваленьне, ніжэй бутэлька—„лепшае віно і гарэлка Бачэўскага"...а са складу вытыркнуліся вусы „дзядка Пілсудзкага" і зьвісаюць бізуном...

— Організавалася свалата. Шмат папрацаваць трэба, каб зьнішто-жыць усіх. Але-ж мы сіла!—і ён моцна страсануў Алеся:

— Чуеш, Алесь?—сіла!..

Алесь бадзёра сказаў:

— Сілы ёсьць, размахнуцца толькі.

Застаўшыся адзін, Сьпірыдон сеў пад хваінку, дастаў з кішэні бірку ў зазубрынках і пералічваў здадзены матар'ял. У думках ён прыкідваў, колькі растраціў на яду і колькі сёньня патраціць з „палучкі".

— Мне павінны барыша паставіць. Як-ні-як, а я і пілы вастрыў і будзіў раніцою. Алесь яшчэ цяцёрка маладая, конаўку хлебане і саўецца. Невядома, як ткач. Ніколі ён пра гэта не гаварыў. Мо' і зусім ня п'е? Во, хаўрусьнік будзе. Але з тытунёўцам вып'ем, ая-яй як вып'ем. Гэта, відаць, свой чалавек.

І язык змачыў патрэсканыя губы...

— Вось і яны ўжо плятуцца.

І, стыдаючыся сваіх думак, Сьпірыдон адвярнуў галаву ў другі бок, зьміргнуў, вымушана кашлянуў і падняўся на ногі.

— Папалуднавалі?

— Дзе там даступішся.

— Ня я казаў, лепш пасядзець, адпачыць.

— Насядзішся яшчэ, здакучыць.

— Ня надта. Я быў нядаўна, наша чарга падыходзіць. Ну, як, прывезьлі?

Ї Сьпірыдон хітра падміргнуў.

Ткач адвярнуўся ў другі бок і моўчкі сеў.

— Чуеш, Алесь, што пытаю?—ужо са злосьцю перапытаў Сьпірыдон.

— Прывезьлі,—скрозь зубы адказаў Алесь,—поўны склад скрынак бачыў.

— Бачыў... трэба было ўзяць, а то пасьля ня будзе.

— У „доўг“ не дадуць,—нехаця азваўся ткач, ды і навошта яна нам?

— Ну, мы яшчэ дастанем,—перабіў Сьпірыдон.—Дастанем і вып‘ем. Ня можа быць, каб з палучкі ня ўспырснуць...

— Ї можа, і трэба...

Сьпірыдон з падылба глянуў у бок ткача, ухмыльнуўся.

— Пойдзем палучаць, а там убачым.

У чарзе Сьпірыдон занепакоіўся. Ён бачыў, як адыходзілі ад вакна, крылі матам.

— Аблічылі ... іх маць. Ї яшчэ штрафы. Даволі, вырвем на білет і айда. Лепш ужо прападаць дома, каля радні, як у пушчы.

Сьпірыдон хацеў паказацца спакойным, сьмелым. Нават думаў, як будзе спрачацца, калі часам яго аблічуць. Ён моцна сьціскаў у кішані бірку.

— Толькі тут правільная бухгальтэрыя,—думаў Сьпірыдон,—лішняй зарубінкі няма, але і свайго не папушчу...

— Твой квіток,—крыкнулі з вакна.

Сьпірыдон падаў сіні лісток. Ён перастаўляў ногі, быццам зямля краталася і адцягвала ад вакенца, упарта глядзеў на шафара.

— 37 злотых.

— За ўсё?—зьдзіўлена крыкнуў Сьпірыдон і хапіўся рукою за прыстолак. Ён адчуў, што ўнутры нешта ёкнула, абсунулася.

— Ні за ўсё, а ўсяго,—паправіў той-жа голас і прадаўжаў: дзевяткі, шасьцёркі, шпалы,—разам 75 злотых 30 грошы.

— Няправільна, панок, няправільна. Больш, больш, у мяне правільна...

Але той-жа голас чытаў:

— Вылічана ў краму за тавары 30 злотых, штраф, за высокія пні і кароткі памер бярвён 6 злотых, падарожных 2 злотых.

— За што? якіх падарожных?

Калі хто не захоча працаваць і ня будзе мець грошы дамоў заехаць, дык што, вы думаеце мы сваімі будзем плаціць?

— Але-ж я...

— Нічога, мы з кожнага вылічаем,—і панізіўшы дадаў;—і добрахвотнае адлічэньне 30 грошы на ЛОПП.

— Ня хочу ніякіх добрахвотных адлічэньняў на...

— Ужо запісана.

Сьпірыдон застагнаў. Моцна зашчымелі рукі, як-бы з іх зьдзіраюць скуру, глянуў на бок, просячы ратунку.

Умацаваная рамянём пад бараду, на яго сурова глядзела гарбузморда. Сьпірыдон міргнуў вачыма, белы арол засланіў паліцыянта, упусьціў кіпці ў Сьпірыдонаву сьпіну... цісьне, корчыць... Сьпірыдон выпроставаецца... зрок паў на пачырванелыя мазолі рук.

— Стаў крыжыкі.

— Ня крыжыкі, а асінавы кол!

І Сьпірыдон з націскам працягнуў доўгую палачку, аж-но покнула пяро. Адышоўшыся на два крокі, з матам выплюнуў багародзіцу, матку шафара, лясьніка, махнуў рукою:

— Прапала... Алесь з цябе паўбутэлькі...

* * *

Кулька за кулькаю прабівае вада па сьпіне, выплюхвае праз лапці... Алесь перастаўляе лыкавыя, махае рукавамі, сьпяшаецца ў барак. Ён з апаскаю паглядае на бакі, яму здаецца, што хтосьці кіем барабаніць па плоце, гэтак лязгочуць зубы. Стаў. Глянуў на сярмягу. Роўненькія струменчыкі каціліся па брындзох. Страсануўся і хутка пакрочыў. Ускочыў у барак і...

— Куды прэсься з цэбрам вады? Выкручвай на двары.

Алесь ня бачыў, хто крычаў. Пара з дымам хмараю затапіла барак. З хвіліну ён стаяў, соп, не адважваўся, што рабіць. Адрыцьвелыя рукі парываюцца разлучыць гузік з пятлёй... і бездапаможна апускаюцца. Ён чуе, што абліваецца лядзянкай... Моцная рука хапае яго за плечы.

— Ты ўсё мерзнеш?

Раптоўны прыліў сілы. Алесь рвануўся. Ён прыпамінаў, дзе чуў гэты голас, павярнуўся, але нічога ня бачыў. А тым часам сярмяга, ужо рашпіленая, злазіла з плеч, а за ёй кашуля.

Ткач сядзеў на нарах, схіліўшыся над газьнічкай і накладаў на латы нагавіц большыя латы. Алесь шарахнуўся паўз яго, той прыпадняў вочы і зьдзіўлена спытаў:

— Алесь, ты?

— Я...

— Чаму ты голы?

Алесь пацінуў плячыма. Цяпер ён толькі сьцяміў, што немаведама хто забраў вопратку і ці верне. Вось пытаньне і ён не знаходзіў слоў.

— Прынясуць, можа...

Ткач зьдзеў сваю кашулю і сунуў Алесю.

— На, надзявай. Разувайся хутчэй.

Борзьдзенька ўшчапіўшы кашулю, Алесь узяўся за аборыны. Не пасьпеў яшчэ вызваліць ног, як да нар падышоў шыракаплечы мужчына з закасанымі рукавамі і палажыў барахло на краю нар.

— Пераапрануўся? Скідай нагавіцы, усяроўна ўжо мокрыя рукі, выкручу, а ты грэйся.

Гэта той самы, што каля агню даваў курыць, мільганула ў памяці Алеся. Ён заёрзаў на нарах, быццам чаго шукаў і саромліва прагаварыў:

— Ня турбуйцеся, я сам...

Але нядоўга прышлося спрачацца, бо за калошы нагавіц уплялася дужая рука і ён апынуўся бяз іх.

Што гэта за чалавек,—думаў Алесь,—раз спаткаўся, а такі блізкі, свой... Нецярплівасьць нарастала і ён парашыў спытацца ў ткача. Ткач паглядзеў на Алеся, пагладзіў лысіну, бровы крышку пасунуліся, і ціха сказаў:

— Мой таварыш, мэталёвец, таксама беспрацоўны.

— Блага працаваў?

— Ды не. Ня ў гэтым справа.

— Я чуў,—хваліўся Алесь,—што на фабрыках выдумалі некую мудрагельную машыну. Адзін за трох можа працаваць. Ну, значыцца, лішніх звальняюць. А каб ня было гэткай машыны, была-б работа. Ці праўда гэта?

Ткач усьміхнуўся. Лоўкі хлапец, цікавіцца ўсім, трэба больш вучыць, знаёміць з жыцьцём. І ўголас сказаў:

— Ёсьць такая машына, што плодзіць беспрацоўе. Вось яе трэба зьнішчыць.

— Бяры вешай, няхай сохнуць,—зьнянацку прагрымеў барытон і мэталёвец кінуў нагавіцы ў рукі Алесю,—а лапці пры да печы, а то праваронііш чаргу.

— Абавязкова трэба зьнішчыць гэтую самую машыну,—мармытаў Алесь, нясучы сушыць лапці.

Бляшаная печка з усіх бакоў абвешана лапцямі і анучамі. Алесь патопаў, паглядзеў і прымайстраваў сваю пару крышку воддаль. Сярмягу расьцягнуў на краю нар, а нагавіцы ўцісьнуў на дрот, каля печы.

— Гэта дружакі,—разважаў Алесь.—Для іх нічога не шкада. Пачастую тытунём. Няхай сабе кураць, хоць усю пачку. І яны-ж мяне частавалі.

Вярнуўшыся да нар Алесь не застаў мэталёўца. Абціраючы пілавіньнем гразь на нагах, ён нешта шаптаў і, нарэшце, зьвярнуўся да ткача:

— А дзе-ж ён? Падзякаваць хацеў...

— Вось калі ты апомніўся, а я думаў, што ты ўжо падзякаваў.

— Забыўся.

Ткач усьміхаючыся махнуў рукой.

— Глупства, ён не пакрыўдзіцца.

Па вячэры пільнікі валіліся на нары. Гам сьціхаў. Там-сям пачыналі храпці. У іншых куткох ціха гутарылі. Алесь паклаўся побач з ткачом. Распраўляючы маты яны меркавалі хоць крыку прыкрыць дошкі, але ім гэта ніяк не ўдавалася. Падаслаць-жа было нечага. Алесява вопратка зусім мокрая, ткачова паліто замяніла коўдру, а нагавіцы падушку. Толькі ўляглісяя, як зараз-жа ткач запаліў газьнічку, змайстраваную з бутэлькі.

— У-га колькі іх!

Ён пакратаў Алеся.

— Давай, брат, зьмяцём, спакайней спаць будзем.

Алесь нехаця падняўся, сеў. На галаву капае, ён моршчыцца, глядзіць на столь са страху.

— Толькі што печ ёсьць. Цяплей, як у будцы, але-ж плюгаўства. Ая-я, во, паўзуць.

Сьнігіром заліваліся сырыя дровы, не паддаючыся агню. Печ, пчала бяз джала, шыпела. Барабанілі па страсе шрацінкі дажджу і прабіваліся ў барак. Там-сям крылі выбухі гармат, кулямётаў. Пад гэтую музыку па ўзалочанай прусакамі сьцяне павольна наступалі клапы.

Пасьля „пруджаньня“ ткач з Алесем стулілі плечы, угрэліся, заснулі.

Алесь праз сон круціць галавой, ачнуўся... Лапоча ў вуху.

— Трасца тваёй матары, куды залезла. Як-жа выпараць?—калупаючы пальцам, шаптаў Алесь.—Не задушыш.

Ён успомніў, што гэтак і дома траплялася. Бацька тады наліваў у вуха вады і ўсё праходзіла. І як ня шкода была расставацца з нагрэтым месцам але іншай рады ня было. Зьлез з нар, і цёпкаючыся па гразі, пабрыў на двор. Ледзь высунуўся праз дзьверы і раптам аслупянеў. Знаёмыя галасы. Яна і мэталёвец... Яна. Адзін раз бачыў, а не расставаўся ніколі. Заўсёды думаў аб ёй, жыў ёю. Ён увесь закалаціўся, на чуў ужо, што лапоча ў вуху.

Хто ён ёй—мужык ці брат?

Алесь адчуваў нейкую асаблівую павагу да мэталёўца. Але ўступіць яе...

— Заўтра значыцца пабачымся,—у паўголаса гаварыў мэталёвец.—Ну, дык трымайся, дружа.

— Заўтра ён пабачыцца. А я?

Мэталёвец сьпяшаўся ў барак. Падышоўшы да дзьвярэй, ён кінуў пільны погляд на Алеся і, наблізіўшыся сурова спытаў:

— Ты што робіш тут?

— Што раблю? Бачыш, што па ваду іду.

— Навошта вада?—прыжмурыўшы вочы, падазрона дапытваў мэталёвец.

— У вуха нешта ўлезла.

— Ну дык хутчэй бяры,—ужо ласкавей сказаў мэталёвец.—Хадзі я зальлю, а то самому нязручна.

— Так, была, выплывае. Іш ты яе. А я і ня ведаў такога спосабу. Лоўка прыдумана.

— А ты, брат, беражыся, ходзіш босы, нават нічым не абхінуўся. Захварэеш і... яма.

* * *

У пакоі шафара спрачаліся лясьнікі за падзел прыбытку ад штрафаў. Рахункавод падлічваў проценты ад тавараў, купленых пільнікамі ў „крэдыт". Гаспадар, лежачы на канапе, чытаў тэлеграму даходаў.

Яшчэ досьвіткам Алесь вышаў з трыма кацялкамі па ваду. Марудна прасмокталася вада праз скарэлыя анучы і толькі каля самай студні ён пачуў, што хлюпчыць няпрыемная халодная сьлізь і распаўзаецца паміж пальцаў. Паставіў кацялкі і ўжо браўся за почап, як зрок упаў на паперкі, што былі раскіданы недалёка каля студні. Вецер шастае імі, але яны ня кратаюцца, а шапацяць, нібы вабяць да сябе. Алесь кінуў почап.

— Зьбяру, курыць будзе. І сабе і таварышом. Памацаў адну—другую паперку,—тоненькая.

Заўважыў, як да студні падыходзіў другі рабочы з кацялкамі.

— Ты што падбіраеш?

— Папера, лоўкая курыць. Хопіць і табе, магу падзяліцца.

— Глупства, хлопча, гародзіш. Раскідай назад. Гэта чытаць, а ня курыць.

— Чытаць?

Алесь пакасіўся. Шкада яму была расставацца з назьбіранай паперай, але пабаяўся. Вельмі ўжо суровы голас быў у рабочага. Ён неўзаметкі запхнуў за пазуху некалькі штук, рэшту раскінуў, у руцэ пакінуў толькі дзьве.

— Нявучаны ты яшчэ...

І рабочы пакрочыў у барак.

Алесь наліў кацялкі. Да студні ішлі яшчэ двох. Ён спусьціў галаву і спадылба пазіраў, ці возьмуць яны. Адзін нагнуўся, схапіў і борзьдзенька захаваў у рукаво.

— Вось дык лоўка. І сапраўды я цяцера. Цікава даведацца, што гэта такое? Чаму хаваючыся бяруць? Паставіўшы кацялкі на печ, Алесь з подбегам накіраваўся да ткача.

— Во, брат, глядзі колькі. На цэлы месяц хопіць.

— Дзе ты браў?

— Дзе браў? Назьбіраў каля студні. Ах і шмат-жа там было, але мне некі перашкодзіў, загадаў, каб усё назад раскінуў. Але я не падкачаў.

Ткач сур'ёзна глянуў на Алеся. Прабіваў яго наскрозь, выварачваў нутро і прыблізіўшыся зусім ціха сказаў:

— Усе да аднэй парасклaдай каля нар, але так, каб ніхто, ні адна душа гэтага ня бачыла.

— Я сабе адну пакіну.

— Адну пакінь.

Алесь прысеў каля нар, дастаў з запазухі адозвы. Ён цікавячыся абсунуўся па ўсіх нарах і так захапіўся гэтай работай, што нават і на свае нары палажыў і іншым ужо стаў класьці па другім разе.

* * *

На тартаку загудзеў трывожны гудок... Ён стагнаў, вырываўся, дзесьці высока прападаў і нарэшце, сканаў.

— Значыцца на тартаку бастуюць,—падумаў ткач і памецiўся ўставаць. Але не пасьпеў зрабіць і кроку, як барак агаласіўся грамавым голасам:

— На тартаку бастуюць, у другіх бараках таксама парашылі баставаць...

— Даволі дарма працаваць.

— Абкрадаюць, круцяць.

Грамада бурліць, нібы тая затока прамывае, прабівае сабе шлях. Гучаць грамавыя, баявыя словы, іскрацца, запальваюць агні ў цёмных забітых кутках.

У бараках сходы. Адзін за адным выступаюць рабочыя, выкрываюць зьдзекі, што ўчыняюць над імі.

Алесь уважліва слухаў, што гаварылі рабочыя. Ён хацеў-бы і сам што-небудзь сказаць, нават памыкаўся, але кожны раз не хапала сьмеласьці. Яшчэ пачакаю,—думаў ён, лёгка кусаючы губы.

На нары ўзьлез Сьпірыдон. Выпрастаўся, зыбнуўся, быццам хацеў упэўніцца, ці вытрымаюць нары, глянуў на грамаду пільнікаў, апусьціў да долу вочы, шукаў чагосьці на сваіх лапцёх.

— Гавары,—крычаць пільнікі.

— Я, бачыце, брацы,—пачаў Сьпірыдон,—мяркую так: няхай лепш усіх разьлічаць і айда да дому, нечага траціць час на забастоўку...

— Правільна, пачулася некалькі галасоў.

— Няправільна,—заглушаючы словы Сьпірыдона, крычалі пільнікі.

— А ну, мэталёвец, раскажы,—ня ўнімаўся натоўп.

— У большасьці з нас няма куды варочацца, няма дому,—гаварыў спакойным голасам мэталёвец.—Мы маем толькі рукі для працы, а ў горадзе працы няма. Там таксама галадаюць... Трэба дамагчыся, каб тут палепшыць...

— Праўда.

— Во, гэта па-нашаму.

— Баставаць...

Малады рабочы з тартаку ўскочыў у барак, выцер крысою лоб, скамечаную шапку моцна сьціскаў у руцэ, і крыкнуў:

— Браткі, усе да канторы! Нашы патрабаваньні...

— Ідзем!

— Усе хадзем!

І праз хвіліну грамада рушылася да канторы.

Пустая кантора,—закінены прытон драпежнікаў. Ад баракаў пёрся Залівака. Ён аглядаўся назад, ускочыў на ганак, настаражыўся, прыслухаўся і зьнік за дзьвярыма. Праз хвіліну, як выгнаны з цёплай бярлогі мядзьведзь, закульдыбаў Пухальскі. Ён соп грузавіком і ледзь успоўз на ганак.

Цьвёрды, упэўнены крок рабочых. Расхваляванае мора—грамада затапіла ўвесь двор канторы.

Дырэктар лесараспрацовак выпучыў чорныя вугалі зрэнак і ўглядаўся праз фіранкі ў вакно. Пульхнай рукой ён сьціскаў падакеньнік, баючыся адарвацца. Яму здавалася, што вось выйдзе на двор і хваля разаб'е, сатрэ яго дашчэнту.

Да нас прышлі,—паўшопатам далажыў Пухальскі.

— Знаю. Што хочуць? Пагавары з імі і скажы мне,—сам адышоў ад вакна, сеў, пацёр лоб.

— Тартачнікам трэба набавіць, а пільнікаў знайду па гэтай цане,—разважаў сам з сабою дырэктар.—Вельмі ўжо іх многа... гарадзкіх... з імі горш.

Пухальскі, лёгка стукнуў у дзьверы, разьвёў рукамі.

— Што?

— З вамі хочуць гаварыць... дэлегаты.

— Дэлегаты?

— Так, кажуць выбраныя ад усіх.

— Кепскія справы,—падумаў дырэктар. — Забастоўку арганізавалі гарадзкія... з імі трэба...

— Многа іх? Кліч сюды.

— 15?

— Кліч...

Дырэктар роўнымі крокамі зьмерыў адлегласьць ад стала да дзьвярэй, узяў аловак, пакруціў і кінуў. У габінэт увайшла група рабочых.

— Добры дзень.

— Добры дзень... панове... Што-ж добрага скажаце?

Крок наперад, выступіў мэталёвец. Дырэктар падняў бровы.

— Мы прышлі заявіць ад усіх рабочых, што так далей нельга жыць...

— А што вы хочаце—лагодна спытаў дырэктар.

— Мы патрабуем павялічэньня заработку, свабоднай арганізацыі профсаюзу.

— Я не магу,—глуха перабіў дырэктар.

— Зьнесьці штрафы, процанты...

— Не магу,—больш сурова перабіў дырэктар.—Хто ня хоча працаваць, можа праз тры дні атрымаць разьлік. Набяру сьвежых рабочых.

— З нас ужо высмакталі кроў,—не сьцярпеў мэталёвец.—З другіх хочаце...

— Больш няма аб чым нам гаварыць.

І дырэктар крута павярнуўся—сьпіною.

— Мы заяўляем, што будзем баставаць да перамогі і нікога працаваць ня пусьцім, вызначым пікеты...

* * *

Рыпіць завала. Іржавы болт з енкам уразаецца ў шайбу. Ляскаюць ключы. Прыказчыкі адбягаюць ад дзьвярэй крамы, нібы заперлі дзікуна і ён вось-вось вырвецца, накінецца на іх.

Пухальскі праз вакенцы акуляр глядзеў, як калаціліся рукі прыказчыкаў, моршчыўся, мацаў рукою кожнае падазронае месца, спрабаваў ці туга зацісьнуты завалы. Прыказчыкі кідалі яму ў рукі ключы, а ён перакідаў іх, як гарачае вугальле. Тупаў каля адных і каля другіх дзьвярэй, і, нарэшце, быццам правяраючы сам сябе спытаў:

— Моцна? Не павінны ўлезьці.

— Заўтра можа адчынім?

Пухальскі моўчкі пакруціў галавой і паклаў ключы ў сваю кішэню.

* * *

Грамада мітусіцца. З канторы выйшлі дэлегаты.

— Ціха!

— Ці-ш-ша!

— Гавары!—разам крычала некалькі галасоў.

— Што ў дырэктара?—ня ўнімаўся натоўп. Тысячы вачэй глядзелі на мэталёўца, які ўзьлез на пень. Усе настаражыліся.

— Нашы патрабаваньні адхілены...

Нібы электрычны ток страсануў, адарваў ад зямлі грамаду. Яна разам падалася наперад. Градам сыпаліся словы:

— Баставаць да перамогі!

— Давай грошы!

Словы несьліся над галовамі, прабіваліся ў габінэт дырэктара.

Мэталёвец трымаў уключацель. Напор рабочых узрастаў! Гам узмацняўся.

— Задушыла! Задушыла!

У момант грамада прыціхла. У аднэй сарочцы, бяз шапкі, з лесу прыбліжаўся хлапчук. Раскудлачаныя валасы, на васільковых вачох вялікія кроплі расы... Шморгаючы носам, дрыжачым голасам, ён расказаў, як наткнуўся на трох рабочых, зацісьнутых шліфрамі.

— Ратунку просяць,—і хлапчук расплакаўся.

* * *

Да нар, дзе сядзеў ткач з Алесем, падышоў мэталёвец. Заклапочаны, зморааны выгляд, пахмурны рэзкі погляд сьведчылі аб тым, што ён пра нешта моцна думае. Ад усяе постаці біла рашучасьцю, адвагай. Ён нахінуўся крышку і зьвярнуўся ўпаўголаса:

— Слухай, браце... ты ідзі на расьцяроб, выберы месца для магілы, хлопцы ўжо чакаюць. А ён, — мэталёвец вачыма паказаў на Алеся, — няхай высеча роўненькіх хваінак. Ты ведаеш навошта... Дзяўчаты пойдуць з вамі, сплятуць вянкі. Ну, шпар, не марудзь.

І мэталёвец павярнуўся і адышоў.

Ткач з Алесам зараз-жа апрануліся і хуткім крокам пайшлі за мэталёўцам, а ён ужо гаварыў з работніцамі гэтак-жа спакойна і ветліва.

Алесь пераступіў парог і анямеў. Ногі ня хочуць слухацца, а ў галаве памуцілася... Яна... тут.

Ну, пойдзем, Алесь. Што з табою? Учадзеў, ці што?

— Не, я так, ня ведаю...

— Дык гэта той Алесь, якога ты хваліў? — сьмяючыся сказала работніца. — Ну, здароў! Я завуся Надзя. Ты помніш мяне?

І яна моцна пацiснула яму руку.

Ніколі не забудуся...

Вось лоўка! — і дзяўчына засьмяялася. — Ты так моцна пакрыўдзіўся, што заняла тваю чаргу.

— Ды не, так... я... ня ведаў, як звацць.

— Не заставайцеся! Роскукаваліся! Будзе яшчэ часу, нагаворыцеся, — перайшоўшы праз кладку, крыкнуў ткач.

— Я сьніў аднойчы, што разам працавалі на тартаку, а пасьля калі...

— Хто?

— Я і... ты.

— Я? Разам? — Вось глупства. Яшчэ на тартаку — разумею, а жаць — ніколі ня жала. Я увесь час працавала на фабрыцы... і бацькі...

— Гэта ня бацька ваш, мэталёвец?

— Не.

— А хто?

— Хто?.. Ну, добры мой таварыш. Ён рабочы, а я работніца. Вось мы з ім і дружым. Таварышы.

— Таварышы?

— А як ты думаў? У нас усё супольнае: — і праца і барацьба. А ты што думаў?

— Можа твой мужык?

— Мужык?

— Але, бо ўчора ноччу бачыў вас разам.

— Ты гэта, пэўне, сасьніў.

І яна раптам насупіла бровы і строга паглядзела на Алеся.

Алесь, блытаючыся, расказаў усё ўчарайшае здарэньне з вухам. Яна ўважліва сачыла за ім. І калі Алесь зазначыў, што мэталёвец дапамог яму, яна жартуючы сказала:

— Загубілі зьзярка,—і, крышку памаўчаўшы, дадала:

— Ты памыліўся. Гэта ня я была. Тут шмат работніц.

А сама думала: чаму змаўчаў мэталёвец? Няўжо палічыў дробязьзю?

На расьцяробе, на ўзгорку чатырох рабочых капалі дол. Навокал некалькі чалавек сьцягвалі ў кучу сукі. Іншыя расьцярэблівалі да дарогі. Усе працавалі моўчкі. Відаць было, што яны думалі ня толькі пра нябожчыкаў. Сваё, жывое гора ціснула іх, камячыла... Закапаць-бы яго, каб ня ўстала ніколі.

Ткач з Алесем насеклі роўненькіх шосьцікаў, прыселі на пні.

— Ты, Алесь, абразай сукі, а я пайду пабачу, як там дзяўчаты з вянкамі.

— Можа я зьбегаю? Я-ж маладзейшы...

— І я ня стары яшчэ. Сядай,—больш рашуча сказаў ткач.

Алесь сеў, зірнуў ткачу ў сьпіну і ўзяўся за работу.

Работніцы плялі вянкі. Надзя адхінулася на хвілінку, а прабыла паўгадзіны... Работніцы гукаюць, а яна адгукнецца:

— Іду-у, іду-у!—і ўсё ня ідзе.

— Як ты думаеш, можна Алеся ўцягваць патрошку ў работу?

— Я лічу, што і можна і трэба. Відаць хлопец шчыры.

— Ты можа ўкахалася?

— Як ува ўсіх вас, так і ў яго. Ня больш. Але да справы, мне здаецца, ён ірвецца. Трэба толькі дапамагчы і навучыць.

— Добра, згодзен.

Ціха, ціха ў лесе. І толькі шолах новай крамніны, якую яна вымала з-за пазухі, парушыў пакой.

— Колькі тут?

— 5 мэтраў, а чорнай істужкі—2.

— Малавата. Тысяч 7—8 рабочых і толькі... трэба-ж яшчэ адарваць на труны.

— На труны ёсьць. Там усё будзе зроблена.

— Уладзь хутчэй, а я з дзяўчатамі панясу вянкі.

Алесь завіхаўся абразаць сукі. Ён любаваўся роўненькімі кійкамі, хоць і ня ведаў на што яны патрэбны.

— Вось гэта, дык дзяўчына,—сам з сабою гаварыў Алесь,—руку падала. А ціcьне як. Ветлівая, ня то што Прузына. Каб у мяне яшчэ лепшая вопратка... палюбіла-б... Пабягу і я туды, толькі скончу.

Гучны кашаль уздымаў грудзі і заглушаў трэск сукоў. Ткач ішоў схіліўшыся, цяжка дыхаў, а кашаль сьціраў грудзі, ня ўпускаў сьвежага паветра. Наблізіўся да Алеся, застанавіўся, упэўніўшыся, што нікога няма блізка, паскорыў крок. Алесь узарваўся... Ня чуў пад сабою ног,

вось так-бы і паляцеў туды да яе. Васёлая ўсьмешка прабівалася праз засьмяглыя губы, да шчок прылівала гарачая маладая кроў...

— Я таксама хачу зьбегаць, паглядзець!

— Няма часу,—падыходзячы сказаў ткач.

— Я на хвілінку.

— І на хвілінку нельга.

І ткач узяў Алеся за абедзьве рукі вышэй локцяў, уставіўся проста ў вочы і доўга нямігаючы глядзеў.

Алесь крыху засароміўся, нават спужаўся, „што з ім"—падумаў.

Няўжо мае якую злосьць? На погляд не сярдзіта, але-ж прабіраецца да душы.

— Знаеш што Алесь?

— Што?

— Сёньня будзем хаваць трох нашых таварышоў. Пакляніся словам гонару, што аб тым, што я табе скажу і пакажу—магіла.

— Дык я, братка... клянуся.

— Ніякіх браткаў. Цяпер мы з табою таварышы. Ён падаў яму руку і моцна пацісnуў.

Ткач дастаў з пад палы чырвоны паркаль, разаслаў яго на зямлі.

— Чатыры сьцягі выйдуць добрыя. З тартака напэўна прыдуць са сваімі. Прыб'еш вось так, у мяне цьвікі ёсьць.

— А з чорным што рабіць?

— Чорным павяжам...

* * *

Дошкі зьбіты. Вялікая грамада пільнікаў сабралася ля бараку нябожчыкаў. Іх клалі ў труны. Чырвоныя палотнішчы засланы на веку. Чакалі прыходу рабочых з тартака.

У сваім габінэце, палажыўшы пуза на стол, дырэктар трымаў тэлефонную трубку. Глыбокія зморшчакі зрэзалі голы лоб. Другая рука выбівала па стале „мазура".

— Алё... Пане камэнданце?.. Дзень добры, дзень добры. Так, так, шлеце і ксяндза і папа... Прыедзеце самі?.. рад, рад... невялікі атрадзік... чакаю...—і паклаў трубку. Паціраючы рукі падышоў да канапкі.—Так. А ўсё-ткі... Вялікія страты буду мець... пайшло-б заўтра ўсё пастарому... Залівака!

Залівака даўно стаяў пад дзьвярыма, прыгорбіўшыся асьцярожна мацаў за кішэнь, нібы там ляжаў дынаміт, гатовы зараз-жа выбухнуць. Пабіты нявольнік чакаў пад дзьвярыма загаду гаспадара. Залівака нясьмела пераступіў парог і на цыпачках падыйшоў да дырэктара. Рука калацілася, але ён дастаў з кішэні зьверненую паперку і працягнуў дырэктару. .

— Адозва?—і каб утаіць сваё хваляваньне, дырэктар узяў акуляры, павольна выцер іх хусьцінкай, зморшчыўся, быццам праглынуў горкую пілюлю.

— Дзе?

— Каля баракаў, на тартаку, скрозь былі раскінуты ноччу. Прынёс наш чалавек.

— Хто раскідаў?

— Невядома.

— Як-то невядома? За што плачу?

— Пане дырэктар, я кожны вечар хаджу, прыслухоўваюся пад баракамі і людзей сваіх прымусіў у бараках жыць...

— І нічога...

— І нічога не магу зрабіць.

— Вы павінны...

— Трудна, пане дырэктар, увесь лес у будках. У кожную не пашлеш чалавека.

— Бальшавіцкае гняздо трэба знайсьці, інакш...

У габінэт увайшлі поп і ксёндз. Дырэктар стараўся зрабіць вясёлую міну, хоць гэта яму ледзь удавалася. Ён поглядам загадаў Залівaку выйсьці, ня мог спакойна на яго глядзець... „Столькі грошы даю гэтым бандытам, а яны ня могуць прасачыць“... І каб не западозрылі яго хваляваньня поп з ксяндзом, з прымусовай вясёласьцю сказаў:

— Панове, гарбаты вып‘еце?

— Не.

— Раю з дарогі падмацавацца троху, віно ёсьць, закускі. А пасьля трэба пахаваць траіх. Апроч набажэнства, проша сказаць што-небудзь, растлумачыць запаведзі хрыстуса. Распусны цяпер народ стаў.

Поп глядзеў на ксяндза, левай рукой гладзіў бараду, а правай тузгаў крыж. На стале ўжо стаяла гарэлка з закускай і ён ня мог адарвацца ад марынаваных баравічкоў.

— Ці дадуць гаварыць?—нарэшце сказаў ксёндз,—у касьцёле іншая рэч...—і перакінуў шклянку з віном...

Дырэктар маўчаў, круціў kулькі з мякіша пірага і роўненька клаў перад сабой.

— На гэта большая надзея, сьвінца трэба... раз крыж не памагае,— сказаў устаючы дырэктар.—Бяз сьвінца царква ня можа абыйсьціся. У нас, у праваслаўных, так разбэсьціўся народ, што ў царкве сьвішчуць, а тут...

Шырока расчыніліся дзьверы. На парозе стаяў камэндант паліцыі. Шэрыя мігаючыя вочы абляцелі ўвесь пакой, зларадная усьмешкай спыніліся на айцох. Ён ляскаў абцасамі і паціскаў рукі-порхаўкі.

* * *

Ад баракаў роўным ціхім крокам рушыцца на расьцяроб працэсія. Высока ўзьнімаюцца чырвоныя сьцягі. З тысяч грудзей узьлятае ў вышыню „ Ахвярай вы палі"... Земляныя твары пільнікаў, замурзаных грузчыкаў, закапцелых тартачнікаў былі сур'ёзнымі, пахмурнымі.

Зьнянацку на павароце выпаўзаюць айцы, дырэктар і камэндант паліцыі. Камэндант нэрвова лапае па кішэні, мацае курок, айцы „аблачаюцца" і робяць нясьмелыя крокі да процэсіі, спрабуюць зацягнуць „сьвяты божа". Але жывая сьцяна нарастае наўкола трун, адцясьняе айцоў, і хутка яны захліпаюцца на „сьвентым моцным". Некалькі крокаў, яны тонуць за ўзгоркам.

Камэндант насупіў бровы. Ён пільна ўглядаецца ў граmаду. „Цяпер ці пачакаць?.. не дапусьціць... не дапусьціць агітацыі".

Ён махнуў у паветры белай хустачкай...

Тры сьвежыя магілы,—адна брацкая. Вецер перастаў дыхаць. Усё прыціхла, насташжылася. На сьвежы жоўты курган узышоў мэталёвец. На хвіліну грамада замітусілася, зблізілася, зраслася. Ён стаіць, ахапляе вачыма грамаду.

Сталёвы барытон разарваў і сьвідрує паветра. Зьлітым комам паўстае пакутнае жыцьцё тых, хто ня вернецца ніколі, і тых, хто прышоў іх хаваць. І словы мэталёўца праціскаюцца праз калючы чартапалох, узварушваюць кволыя раны, кранаюць набалелыя месцы...

З дзікім рыкам банда паліцэйскіх выскачыла з хмызьняку на расьцяроб і кінулася з двух бакоў на грамаду. Коні спатыкаліся аб карчы, пні, пападалі ў логвы, бізун упіваўся ў іх цела.

Грамада зварушылася, здавалася што хтосьці накінуў жалезны абруч, націскае. Усё, што было збуцьвелае—быўшыя балахоўцы—выпаўзалі з грамады. Гніль была выпляснута.

Атрад паліцэйскіх на чале з камэндантам спрабуе ўрэзацца ў грамаду. Сьвішчуць бізуны. На месцы топчуцца коні, нібы рыхтуюцца пераскочыць праз сьцяну. Драпежнікам глядзіць камэндант на грамаду. Ён гатоў кінуцца, разьбіцца аб сталёвую сьцяну піл, сякер, але не адступіць.

— Разыйдзіся!—нема зароў камэндант, і водгульле правалілася, заглохла ў балоце...

Сьпірыдон стаяў каля краю, ледзьве чуў словы мэталёўца, лавіў, глытаў іх і моцна прыплюшчваў вачыма. У ім узрастала нянавісьць да паноў.

— „Пра маё жыцьцё гаворыць,—думаў Сьпірыдон.—І скуль ён усё ведае?"

— Біць паноў. Даволі гутаркі,—уголас сказаў ён.

— Ціха, не перашкаджай слухаць,—ветліва, але рашуча сказаў тытунёвец, пацягнуў Сьпірыдона за крысу сярмягі.

Сьпірыдон вінавата паглядзеў на яго, прыпадняўся на цыпачкі выцягнуў шыю.

Раптам пачуўся голас:

— Паліцыя.

І зразу сотні вачэй уперліся ў конны атрад.

Сьпірыдон праціснуўся на край. З-пад папружкі асьцярожна выцягнуў сякеру (меў такі звычай, не пакідаць у бараку), моцна сьціснуў тапарышча.

— А коні, коні. Эх, каб мне такога,—падумаў Сьпірыдон, гледзячы як яны гарцуюць,—зажыў-бы гаспадаром.

— Эх! ну і коні,—і сякера ўзьнялася ўгару.

Ня чуў Сьпірыдон, як крычаў камэндант,—„разайдзіся“. Ён утаropіўся і стаяў на месцы, і калі на яго наскочыў камэндант, Сьпірыдон наставіў лязо ў персьць каня.

* * *

На сьвежы медна-залацісты курган работніцы ўсклалі дзеразы і зялёных лапык вянок. Над магілай схіліліся, як чырвонае зарава, сьцягі. Грамада замітусілася і масаю рушыла да баракаў.

Вужакай шнырыў атрад паліцыі. Ён кідаўся на жывую істужку дэманстрантаў, але разарваць яе ня мог. Паўз шэрагі навальніцаю праляцела паліцыя і раптам рынулася на сьцягі. Заблішчэлі шаблі, бізуны заскакалі па плячох. Некалькі рук паліцэйскіх цягнуцца, хапаюцца за сьцягі...

Моцны прыліў жывой хвалі адбівае, засланяе сабою сьцягі. Сьцяг у дужых мазольных руках.

* * *

Шчыльна зачынены вакеніцы. Дырэктар ходзіць па габінэце, нецярпліва паглядае на дзьверы. Перакінуўшы нага праз нагу камэндант калыша расшытым шоўкам пантофель, галаву схіліў, углядаецца, быццам лічыць крокі дырэктара.

— Пульку. Згуляем пульку?—устаў з канапкі, пацягнуўся, пазяхнуў, і вочы засьвяціліся радасьцю.

Дырэктар паціснуў плячыма і павольна, адрываючы кожнае слова, працадзіў:

— Паглядзім... што будзе адтуль... Пачакаем Залівакі.

Камэндант нахмурыўся, рынуўся на канапу і засьвістаў „Мы першая брыгада“...

Туляючыся паўз баракаў, ціха крадучыся, снаваў Залівака. Ручкай „Нагана“ стукаў тры разы ў шалёўку і ўгрунь зьнікаў у цемені... Да яго выцягваюцца іржавыя цьвікі-постаці, падпаўзаюць, шыпяць:—„грошай давай, грошай“...

— Заплачу.

— Ашукаеш і цяпер...

— На колькі набраў гарэлкі?

— Гро-шы.

Залівака павярнуў паляўнічую торбу са скуры зайца і дастаў бутэльку...

— Ну, гавары.

— Грошы... грошы...

— Доўг, што ў карты праіграў, памятуеш?

— Ты кру-уціў...

— Няма калі спрачацца, падпішы...

І дастаў талёны, што атрымаў ад дырэктара. Залівака падлічваў колькі яму належыць, рука трэслася. Ціха, але сакавіта, лаяўся.

— Кажаш ён у камітэце? Цягні.

Булькала зялёная вужака.

* * *

Поўнач. Зычны сухі тупат. Трашчаць дубцы. Праз рэдзенькі малады беразьняк прабіраецца на ўскрай лесу зграя ваўкоў. Калі-ні-калі блісную электрычныя вочы: шукаюць дарогу.

Узьлесьсе. Застанавіліся.

Вакенцы-люкі баракаў цьмяна адлюстроўваюць пасмачкі сьвятла газьнічкі, са шчылін выбіваюцца, зыбаюцца і тут-жа гінуць праменьні. Чорная поўнач насунулася на баракі і яшчэ глыбей уціснула іх у зямлю. Перамогшы дрыжыкі, стуліўшыся, спалі рабочыя.

З-за вугла барака падняўся слуп сьвятла,—зьнік. Праз хвіліну зноў.

— Час,—працягла завыў камэндант. Зграя выцягнулася... Коні застагналі, зачхалі.

Мігацяць ліхтарыкі. У баракі ўрываецца паліцыя. Сонных, у адных кашулях, сьцягваюць з нар. Пад дулам вінтовак стаяць рабочыя з паднятымі ўгару рукамі. Сівер прабіраецца праз скуру... На зямлі ляжаць расьцягнуўшыся торбы і хатомачкі. Баракі затоплены паліцэйскім сьвятлом.

* * *

Маўчыць гудок. Ня будзіць, ня кліча да працы. Зьвіняць ланцугі. Зьвіняць ад краю да краю, па глухіх кутках.

Ад баракаў гоняць групу рабочых. У два рады абапал ідзе пешая паліцыя. Конныя атрады наперадзе... і адзаду. Роўны цяжкі крок. Царкоўным звонам лязгаюць ланцугі, падчэпленыя да пояса. Апошні раз азіраецца Алесь на баракі.

— Ці не забыўся чаго?—ціха прашаптаў, і рука памкнулася памацаць кішэнь... Вострая боль, бразгатаньне ланцуга...

— Алесь, ня рві рукі.

— Я... я забыўся, што скаваны, хацеў памацаць кішэнь.

— Мы даўно скаваны... Але парвем ланцугі.

— „Такая сіла напэўна парве“—падумаў Алесь.

Цяпер ён пераканаўся ў моцы мазольнай рукі мэталёўца. Алесь бачыў: накінуліся паліцэйскія, мітузілі, валачылі па зямлі... адскаквалі... ад яго рукі.

— Аб чым ты задумаўся?—перабіў думку Алеся мэталёвец.

— Пра дом думаю,—салгаў Алесь,—бацьку нічога не паслаў, а думаў купіць...

— Што купіць?

— Боты і гармонік...—вырвалася ў Алеся. Ён засароміўся сваіх слоў і дадаў:

— Але цяпер ужо маю... зьвініць гармонік, блішчаць боты.

— Гармонік польскіх паноў...

— Ня ўнывай Алесь, надыходзіць час, калі зайграе такі гармонік, што ўвесь сьвет хадуном пойдзе.

— Што там за такі гармонік?

— Наш гармонік завецца—пролетарская рэволюцыя.

* * *

Барак абцягнут чорнай хмарай. Выйсьці нельга. Каля сьцяны прытуліўся, згорбіўся Сьпірыдон. Гарыць нутро. Спрабуе ўстаць—абледзянелы, закаваны. На дварэ чуе сьпевы. Цягнецца да шчыліны бараку: тартачнікі з чырвоным сьцягам ідуць грамадай, да іх далучаюцца пільнікі. „Сьмела ў бой пайдзём“...

Узарваўся.

— Куды?— і кінуўся за імі.

Чорная хмара разрадзілася пяруном... Грамада меншала, зьбіралася ў іншым месцы. Ізноў удары. Нылі плечы. Сланяючыся ўпхнуўся ў барак, расьцягнуўся на нарах.

Дзялілі бульбу... Тры вазы прывезьлі беднякі-сяляне бастуючым. Сабралі па вёсках. Сьпірыдон плёўся па сваю порцыю. Пагладзіў каняку: „Худы“. Страсануў калёсы: „Скрыпяць, як і мае“. Зьеў бульбы. Блытаўся ад бараку да бараку.

Прыехаў нейкі пан. Зьбіраў пільнікаў. Нехаця падняўся Сьпірыдон. Слухаў.

Што за ліха сталася? І паны за нас,—думаў Сьпірыдон.

— Хто гэта?—спытаў у рабочага.

— Пэ-пэ-эс.

— Мы будзем абараняць у сойме, пратэстав...

Махнуў Сьпірыдон рукой і памецціўсяісьці. З другога краю гаварыў ткач. Туды цісънуліся рабочыя, туды папхнуўся і Сьпірыдон.

* * *

Бурчэў жывот. Павячэраць ніякай надзеі. Калупаў у носе і меркаваў, што рабіць далей.

— Уцякай дадому,—не адступала, хадзіла за ім назольная думка.

Вывярнуў торбу, вытрас, выграб апошнія крошкі сухароў. Перавеяў іх у руках, жваў смакуючы.

Прынёс Алесяву сякеру, пакруціў яе, памацаў лязо, зьбіў з тапарышча і сунуў у торбу. Торба ляжала зьвязаная, нават шлейкі роўненька падагнаны: бяры на плечы.

— Паслухаю, што людзі гавораць, а тады,—тады пабачым,—і з сілай шыбнуў торбу ў кут.

— Куды дзецца?—голасна сказаў Сьпірыдон.

— Скрозь ціха... жудасьць находзіць. Пайду...

Каля баракаў зьбіраліся невялкія групы рабочых, завязваліся спрэчкі.

— Ты кажаш, баставаць да пера могі? А мне здаецца нічога ня выйдзе. Прыдуць другія.

— Раз пачалі. Няма чаго круціцца.

— А што есьці будзеш?

— Лепш разыйсьціся ўсім.

— Мы хочам дабіцца, каб было што есьці, галадуем-жа ўвесь час...

Сьпірыдон пацісную плячыма і пайшоў да другога натоўпу.

— Упартыя гэтыя гарадзкія, зсохся, ледзь ногі перастаўляе, а ўсё сваё. З нашых, відаць, шмат хто хоча дамоў, не адзін я,—меркаваў Сьпірыдон.

Ён і ня прыкмеціў, як падышоў да невялічкай групы пільнікаў. Пасяродку стаяў Залівака, размахваў рукамі.

— Лепш ідзеце працаваць па старой цане. Наедуць людзі сьвежыя, тады ўжо ня прыме дырэктар тых, хто бастуе.

Сьпірыдон прасунуўся бліжэй, прыслухаецца.

— Хто пойдзе зараз на работу, таму, казаў дырэктар, заплаціць даражэй. А праз тыдзень-два штрафы здымуць.

— Ах, ты сыч, круцель... т... маць... сам штрафы накладаў, а цяпер...—падступаючы да Заліваке, сказаў Сьпірыдон.

Залівака павярнуўся ў бок, зрабіў міну, што ня чуе і працягваў далей:

— Ня слухайце толькі, мужчыны, бунтароў, бальшавіцкіх агітатараў, і ўсё будзе добра.

— Каму добра?—крыкнуў Сьпірыдон.—Людзей навошта забралі?

— Не я браў,—скрывіўшы рот, адказаў Залівака.

— Хлусіш, падлюга, я бачыў цябе ў бараку, ты біў Алеся,—сьціснуўшы кулакі, падступаў Сьпірыдон.

Два другіх балахоўцы схапілі Сьпірыдона і выпхнулі са сваёй кучкі. Сьпірыдон заскрыгаў зубамі, плюнуў і пайшоў у свой барак.

* * *

Імгліў дождж. Марудна цягнуліся хвіліны. На нарах моўчкі ляжалі рабочыя, апранутыя, абутыя,—чакалі кожны момант другога нападу... Каго возьмуць?

— Апранутыя будзем спаць?—прагучэў голас і чулася ў ім, што ён ня пытаў, а іменна раіў не распранацца.

Маўчаць, толькі доўгі парывісты кашаль стукаецца аб дошкі бараку.

Сьпірыдон ляжаў, пазіраючы навокал. Зусім не хацелася спаць.

— Што, калі прыдуць арыштуюць, будуць зьдзекавацца,—сьвідравала думка.—Не, лепш уцякаць.

Яшчэ ня бралася на золак, калі вышаў з бараку Сьпірыдон. Парожняя торба туга ляжала на плячох, толькі саганок з конаўкай барабанілі, сваруліся за месца. Ад дзьвярэй бараку мільганула постаць і зьнікла ў цемені, ля складу шпал.

— Няўжо, таксама, дамоў? Весялей-бы ўдвох. Пабягу на цянькі,—мяркаваў Сьпірыдон, а там сустрэну.

Угрунь, праз імшару дабег Сьпірыдон да клетак шпал, спыніўся, прыслухаўся. Недалёка шамацяць трэскі. Крок што раз выравьнейшы, постаць рушыла проста на Сьпірыдона. Ён углядаўся і чакаў. Шасьнула сярнічка, Сьпірыдон закалаціўся, памкнуўся скочыць, але стрымаўся. Ён пазнаў Заліваку. Інстынктыўна рука выцягнула сякерку, моцна сьціснула тапарышча.

Скрыпіць сухая асіна. Вецер гойдае дрэвы... Гнілыя сукі адбіваюцца, покаюць.

Гакнуў абух...

Каля канторы вылі сабакі, вецер разносіў водгульле... З імшарыны адзывалася сава...

* * *

На ўзгорку сядзеў Сьпірыдон. Сякерка ляжала побач. Ласкавым поглядам акідаў сваю вёску,—яна прытулілася да балота. Вузенькія палоскі ражэнчыкамі ўпіраліся ў тоўстую калоду, што расьцягнулася ад панскага палацу...

Ня быць мне гаспадаром, пакуль стаяць іх палацы... Усіх-бы паноў

Бліснула сякера, толькі кончык тапарышча выглядаў з пяску... Сьпірыдон сядзеў моўчкі... Устае выцягвае сякеру.

Ты яшчэ будзеш патрэбна!

# СТРЭЛ [1])

*(Вершаваная комэдыя)*

**А. Безыменскі**

## ДЗЕЯ ЧАЦЬВЕРТАЯ

### МАЛЮНАК ВОСЬМЫ

**Дэкарацыі першага малюнку першае дзеі, але вагон відаць значна больш. Дзямідаў сядзіць. Граеўскі бегае па сцэне**

Граеўскі.

Баюся я—ён скамянелым стаў.
Ён лае Гладкіх, нас і плача бяз прычыны.
І адчуваю я сябе ад гэтых брудных спраў—,
Як быццам маю я два чыны:
Дурны ды дурачына.

Дзямідаў.

Ці даўно прышоў ён ад ваколіц?
Ад былога вузкая мяжа.
Кожнай лаянкі
Ён ведаў пах і колер.
Ведаў тайны
Фінскага нажа.
Завод яго адклікаў з нізу.
Ён доўгі час
Пасьля
Ішоў,
Блытаўся між фінскім нажом
І комунізмам.
Рука бальшавізма вядзе нас,
Калі-ж аслабее,
Дык так
На хлопца мы трацім надзею
Як на ўшчэнт
Паламаны варштат.
Адыйдзе другі не далёка,

1) Працяг Гл. „Полымя“ № 5—6, 8 за 1930 г.

Ды як-бы ня мкнуўся і дзе—
Ён будзе маторам бяз тока:
Сам мёртвы—
Другіх не вязе.

(Пагражае кулаком)

Здаровыя заўжды палохаюць калеку!
Наш сакратар у акулярах...
Розум без вачэй.
Без чалавека
Мо' загад зрабіць лягчэй,
А будаваць—ніяк без чалавека.
Злуем мы на сукі,
А шкодзіць нам бярвеньне:
Бяздушнасьць іх папер, хлусьня.
А ўсё адно
Найшоў на бервяно—
І твар пабіў у вокамгненьне,
Усё вінаваты сук,
Ніяк
Ні бервяно.
Хай дурань—сакратар. Ды канцылярскім рыпам
Сыстэму ён стварыў—усіх у ход бярэ.
Пры насмарку адзін дык захварэе грыпам,
Другога заразіць,
А той, глядзіш, памрэ.
Брукуюць вуліцу—
Двум трэба ніць трымаць,
А іншыя паводле ніткі ўжо брукуюць.
У нас наадварот:
Чыноў надзеўшы збрую
Усе за ніткаю—;
Хто-ж будзе брукаваць?

Граеўскі.
Але што тут рабіць? Ты дай мне, братка,
рады!
Узяліся на бюро надоечы карыць—
Забаранілі мне падтрымліваць брыгаду.
Так могуць думаць нам забараніць.

Дзямідаў (сьмяецца, напявае).
Улада ў нас! Улада ў нас!
На бойку не чакай мандатаў.
Уздымай нянавісьць мас
На праклятых бюракратаў!

Граеўскі.

Ды так, але...

Дзямідаў.

Пятро, ты—бот!

Граеўскі.

Бяздовадна.

Дзямідаў.

А цьфу ты, немач!
Брацъ батальёнам горад мог,
А ў буднях твой запал—танее.
Што здарылася?
Ты касіў
Бяз стомы іх апошнім часам,
Ты дужа многа страціў сіл,
Ты абуджаў да змогі масы,
Ты сам паказваў шлях братве
І сам быў лепшым ёй узорам.
І вось ў гэткай галаве
Прыцьменьне:
Памуціўся розум.
Ідзе зараза і ў нізы,
На папяровым целе стайкай
Расьце гультайства ад бузы
І бузацёрства ад гультайства.
Бюро і будзе ў нас бюром.
Партыйнай масай трэ' змагацца.
Ў аднэй хваробе трэба бром,
У другой—паболей опэрацый.
Ня мы для іх. Яны для нас.
І выканаўцы нашы толькі.
Што-ж! Слухаемся.
Але раз
Трамвай наш губяць...

(Уваходзіць Панаў і Сьцяпанаў).

Панаў.

Дзе Сарокін?

Граеўскі.

А што?

Панаў.

Прыёмку вось зрабіць.
Да часу зроблены вагончык!

Сьцяпанаў.

Каму патрэбны гэткі спрыт?

Дзямідаў.

А для вытворчага, брат, фронту!
І для цябе...

Сьцяпанаў.

Як для мяне?

Дзямідаў.

Ну, хіба-ж ты яшчэ ня знаеш?
Працуе Янка за цябе,
Ты за яго адпачываеш.

Панаў (рагоча).

Паддзеў!

Граеўскі.

Цябе, сьвіньня, паддзеў!

(Панаў пачынае кашляць).

Сьцяпанаў.

Сарокін пнецца на чужое!
Разрад такі-ж як у мяне,
А выпрацоўвае дык двойчы.

Дзямідаў.

Між вамі розьніца.

Сьцяпанаў.

Але!

Дзямідаў.

Ёсьць розьніца, ты не крыўляйся—
Ад працы так бадзёры ён,
А ты стаміўся ад гультайства.

Панаў.

Ты што, стары?—Глытнуў? Але?

Дзямідаў.

Не—хлопец, вось, гляджу, шыкарны
Мазгі і сэрца на сяле,
Кішэні з порткамі ў такарні.

Сьцяпанаў.

Ды вёскі не аддам, дзядзькі,
За ваш варштат, я, бязумоўна...

Панаў.

Ну, гэта ты, дзяцюк, пакінь!
Варштат пакрыўдзіш—суну ў морду!

Граеўскі.

Ты гэтак пераконваць звык?

Дзямідаў.

Пакінь, Пятрок! Тут будзе звалка.
На словах палкі...

Панаў.

Маўчы стары!

Дзямідаў.

Працуе дык ня дужа палка.

Панаў.

Маўчы стары!

Граеўскі.

Чаго „маўчы“?
Разьдзьмухвала брыгада справу,
Вы-ж,
Гультаі і трапачы,
Вы толькі гадзілі ёй жвава.

Панаў.

Хто гадзіў?

Граеўскі.

Ты.

Панаў.

Няпраўда, не!

Граеўскі.

Нам людзі гэткія вядомы!
Бяруць удзел яны ў вайне
Ня йначай, як на ложку, дома.
І ты з такіх.

Панаў (абурана).

Я не з такіх.

Дзямідаў.

Штось ня відаць.

Панаў.

Лухту ты кажаш!
Ствару брыгаду са старых
І моладзі яшчэ пакажам.

Граеўскі.

Урра!

Панаў.

Ды...

Граеўскі.

Брава!

Панаў.

Ды...

Граеўскі.

Урра!

(Уваходзяць рабочыя, адзін за другім. Паступова сцэна напаўняецца людзямі).

Кудрын.

Чаго вам, чэрці, гэтак рупіць?

Панаў (разводзячы рукамі).
А я-ж ўчора ім казаў,
Што ты-б ішоў, напэўна, супраць.

Граеўскі (абнімае Панава)
Дзівача! Моладзь крый, але-ж
Яна яшчэ пакрые двойчы.

Дэямідаў.
Але!

Панаў.
Ніяк не зразумець...

Граеўскі.
Дзівак! Дасюль ты дрыхнуў моўчкі,
А тут ня хочаш, ды ідзеш.

(Уваходзяць Гладкіх, Прышляцоў, Брэст).

Брыгада вам прабіла дзьверы...

Гладкіх.
Ты пра брыгаду тут? Цішэй!
Бюро сказала...

Граеўскі.
Ну, цяпер нам
І дыхаць-жа куды лягчэй.
Вадзім! Старыя, брат, дзядзькі
Брыгаду ўласную ствараюць.
Ну, моладзь! Нутка, байструкі!
Хай паспрачаюцца на справе.

Гладкіх.
Чаму-ж так радавацца мне!

Граеўскі.
Гультайства брыдкае скасуем
Спаборніцтва цяпер пачнем—
Вытворчасьць мы перабудуем.

(Гладкіх вынімае паперу).

Каб перабудаваць свой край
Нагрузак трэба нячуваных,
А мы да іх яшчэ якраз
Ніколькі не падрыхтаваны.
Але, спаборніцтва, мой друг,
Вось дзе напор па бальшавіцку!

Гладкіх.
Кампаній гэткіх не знайду
У нядаўна атрыманым сьпісе.

Прышляцоў.

Другі-б вы паўтарылі раз,
Што ёсьць гультайства?

Граеўскі.

Трэці нават.

Брэст.

Вы меціді ў каго?

Граеўскі.

На вас.

Брэст.

Я протэстую!

Дзямідаў (сьціснуўшы рукі).

Будзе справа!

Граеўскі.

Ёсьць самакрытыка—адно,
Што чысьціць засасаных тваньню.

Гладкіх.

Цыц!
Самакрытыка—яно,—
Унутрыпартыйнае пытаньне.

Граеўскі (Шапталаву, які схаваўся ў глыбіні сцэны).

Ты што стаіш там, як нявеста?
І лаешся закрыўшы рот.

Прышляцоў.

Для самакрытыкі ёсьць мейсца!

Граеўскі.

Яна сама бярэ яго.

(Выцягвае Шапталава на сярэдзіну, трымае яго за руку).

Крычаў ты ўчора—
Усе мы чулі.
Скажы сягоньня.

Шапталаў.

Не хачу.

Граеўскі.

Ты як працуеш?

Шапталаў.

Ды маўчу я.

Граеўскі.

А як змагаешся?

Шапталаў.

Маўчу.

(Рабочыя рагочуць).

Прышляцоў.

Хто самакрытыкаю тыча,—
Я-ж вам дакладваў пра яе.
Не дапушчальна для партыйца.
Так дыскрэдытаваць людзей!

Дзямідаў.

Гуляць з самім сабою сьмешна
У хованкі.
Было сьціскаць
Вам самакрытыку выгодна,
Дык не сярдуйце-ж вы, нарэшце,
Што кляпан крытыкі свабодна
Праз выбух будзем адмыкаць.
Магутныя сіл нашых хвалі,
Мы станем цьвёрда на чале
І хвалі гэтыя на далей
Па нашым рэчышчы пашлем.

Гладкіх (з жахам).

Тут беспартыйныя!

Граеўскі.

Дык што там?

Дзямідаў (да рабочых).

Вось сакратар, таварыш наш,
Дазнацца хоча,
Што даражэй рабочым
Ці новае, ці старына?

(Рабочыя замінаюцца. Некалькі хвілін—маўклівасьць).

1-шы рабочы.

Я гаварыў-бы вельмі многа,
Ды што-ж! Рабочы ня пры чым.
Загналі крытыку ў бярлогу,
Пасьля злуюцца, што рычыць.

2-гі рабочы.

Яны-б маглі-б так век ня сьціхнуць,
Пра неактыўнасьць-бы зьвінець—
А гледзячы па справах іхных,
Абыйдуцца і без мяне.

3-ці рабочы.

Гадок назад проэкт мне давялося зьнесьці,
Што-ж трэба пачакаць яшчэ два-тры гады.

Гладкіх (ціха да Прышляцова).

Ды гэта-ж просты гвалт, нарэшце...
Няма райкомца, да бяды.

4-ты рабочы.

Я паляпшаць хачу работу,
Калі-ж скажу вось гэтак я—
Запытваюць адразу—хто ты,
Але вытворчасьць-жа мая!
А хто проэкты нашы засьціць?
Хварэе мой трампарк!

Дзямідаў.

На што? Кажы хутчэй.

4-ты рабочы.

Хварэе на людзей.

Прышляцоў.

А хіба ты ягоны ўласьнік?

4-ты рабочы.

Я!
Ах, ты, чорт цябе дзяры?

(Выходзячы наперад).

Я гаспадар—вось хто. Гаспадары мы ўсе...
Што на зямлі—маё.
І тэхнік, і профэсар,
Вагон, завод, і ток, і горад, і компрэсар,
І шайба, і матор і сьвет ва ўсёй красе.
Мне трэба шрубкі—рыхтуюць сталь для іх.
Для сталі льлюць чыгун. Для чыгуна руда ёсьць.
А там яшчэ, яшчэ—
Працуюць і ствараюць
Усё ў сьвеце для мяне!
А сам я—
Для другіх.

2-гі рабочы.

А ёсьць рабочыя, забудуцца на гэта
І абкрадаюць так сябе няўзнак
Прагулам, ленасьцю сабе нашкодзяць так,
А потым кажуць, што ім дрэнна пры саветах.

1-шы рабочы.

Рабочага вучы! І дамагайся, да вучы.
Спачатку зазлуе, а потым будзе ўдзячны.
У нас ты гэтага ніколі не пабачыш—
Ці брэшуць крыкуны, ці ліжуць трапачы.

5-ты рабочы.

Ад кожнага бяры. У кожным шмат ёсьць сілы.
А разам хто нас здолее стрымаць?
Маглі-б вы толькі браць...

Ды чалавека ў вас няма—
Ёсьць літара—
І танна вось, і гніла.

4-ты рабочы.
Ды што тут і казаць!
Мы самі, браткі, гады.
Арганізуй сябе, каб весьці мог другіх.
Я шчыра вам кажу: злаваў я на брыгаду,
А болей на сябе—
Таму што горш за іх.

Васіль (выскокваючы наперад).
Ты што суеш брыгаду нам?
Перад усімі гэты тон кінь!
Я, комсамолец, бачыў сам:
Брыгада п'янствуе і толькі!

(Шум).

3-ці рабочы.
Хлусьня!

Голас Чакмазава.
Ён свой-жа!

Горын.
Даўні чын!

Голас Чакмазава.
Ён знае лепей!

Голас.
Вось дзе гною!

Граеўскі (да Гладкіх, паказваючы на Васіля).
Падтрымлівае, сукін сын,
Перадавых байцоў настроі.

Васіль.
Распусьнічаюць, можа, век!
Я сам...

Голас.
Сам браў удзел у гэтым?

Васіль.
А Лена з чатырма жыве!

Дзямідаў.
Таварышы! Хто іх ня ведаў?
Паклёпам іхным хто паверыць,
Хлусьня—няма чаго й казаць.

Голас.
Ім трэба паказаць на дзьверы!

Гладкіх (уцякае).

Ў райком! ў райком! Буза! буза!

Голас Чакмазава.

Усе лыкам шыты вы адзіным.
Распуста, п'янка, гвалт,—адна
Хвароба. Што шукаць прычыны?
У камуністых век хлусьня.

4-ты рабочы.

Што-о-о? Ах падлюга! Гад ганебны!
А паспрабуй сюды выходзь!
Валі, цягні яго за жэбры!
Каб храпу ў кроў яму спароць.

(Агульны рух).

Прышляцоў.

Ды крыў-жа камуністых ты?!

4-ты рабочы.

Сароміўся-б!
Сябе я лаю!
Я крыю уладу ды маю.
Каго са мною ты раўняеш —
Таго, каго я ў бойцы б'ю.
Хлапцы! Хоць мы прагналі гада,
Ды цень яго жыве між нас.
Ня верце байкам пра брыгаду!

Дзямідаў.

Вось гэта так!

(Крык за сцэнаю. Гадзіна цэлая—якраз).

Убягаюць Озоль, Сарокін, Лена, Уласюк, Астапенка, Рэйдбрук і Зелянкоў.

Сарокін (задыхаючыся).

Апошні раз... Прычын—дык горы...
Былі мы...
Ба-а-ацюхна!
Людзей!..

Уласюк.

Ох, матухна!

Лена.

Які нам сорам!

Озоль (да Прышляцова).

Сягоньня мой прагульны дзень.
Вось што: Карчагіна пабілі.

Крык.

Хто?

Озоль.
Хуліганы—басанож!
Усю ноч так у яго былі мы,
Нарэшце, угаварылі усё-ж.
Каб не хадзіў ён на прыёмку.
Стары рабочы.
Вось гэта хлопец! Гэта ёмка.
Брэст (мятусьліва).
Ну што-ж хіба, пачнем! Ідзем.
Граеўскі.
Таварышы! на касталомку
Адказ—рабочым кулаком.
Прышляцоў (быццам ачуняўшы, сурова рабочым).
А вы чамусь-жа не на працы?
А продукцыйнасьць як тады?
1-шы рабочы.
Мы паглядзець...
2-гі рабочы.
Мы не бадзяцца...
4-ты рабочы.
Мы адпрацуем заўсягды.
Прышляцоў (патэтычна).
Я згодзен, раз жаданьне ёсьць,
Я слухаў спрэчку вашу ўсю,
Я зразумеў, што мы чагось
Не ацанілі аж дасюль.
Каб вораг з самых розных шчылін
Ня поўз на наш заветны шлях,
Ход самакрытыцы адчынім,
Абробім-жа яе пасьля!
Вядома, тут былі ухілы,
Ды прызнаю сваю віну.
Дзе знойдзем працу без памылак?
Голас.
Даўно-б вам так!
Прышляцоў.
І я пачну
З таго, чым трэба скончыць, значыць,
Вагона сёньня перадача
Брыгадай нашай маладой.
І ўсёй працоўнаю сям'ёй
Нам трэба, як парад, вагон
Прыняць—хай пойдзе сёньня ён.
Ура кіраўнікам брыгады!

Усе.

Урра!

Прышляцоў. (Паціраючы рукі).

Я спланаваў—і рады.

Агульны рух. Брэст, Прышляцоў, Панаў, Сарокін і Уласюк абкружаюць трамвай. Рабочыя напружана, натаўпам, застываюць на месцы, нахіліўшыся наперад да вагона.

Панаў.

Пачнем прыймо.

Граеўскі (да Дзямідава).

Вось? Наглядалі?

Дзямідаў.

Ен сам сябе цяпер забіў.

Прышляцоў.

Навошта аглядаць дэталі?

На шлях адразу! Ў новы быт!

Сарокін уваходзіць на пляцоўку. Напружаная маўклівасьць. Сарокін рушыць ручку контралёра. Вагон стаіць. Сарокін праводзіць рукою па ілбе. Зноў цягае за ручку. Вагон стаіць. Сарокін зьбянтэжана на сэкунду зьбягае, нечага аглядае вагон, убягае на пляцоўку, зноў цягне за ручку. Вагон стаіць. Сарокін паволі сыходзіць з пляцоўкі.

Сарокін.

Ня йдзе.

Натаўп рабочых адхлыньвае ад вагону. Уласюк з крыкам выскоквае.

Уласюк.

Няпраўда. Ўчора ён хадзіў!

Агульная мятусяніна, рогат, сьвіст, сварка. Усе бегаюць па сцэне.

Крыкі.

— Працаўнічкі!

— Бач, ганарацца, гады!

— Сапліўцы!

— Пойдзе!

— Дарма-ж ён ня крыў!

— Ён пойдзе!

— Прэч!

— Яшчэ праверце!

Васіль (крычыць з радасьцю).

Вось вам брыгадны слаўны ўздым!

Ганебны ўчынак на заводзе!

Папрыглядайцеся, куды

Усіх самакрытыка заводзіць.

Крыкі.
— Няпраўда!
— Праўда!
— Не!
— Ня верце-е!

Прышляцоў.
А што-ж! Вам гультаі да сэрца?

Дзямідаў.
Вось паглядзеце:
Ціхі кот
Паказвае свой воўчы рот.

Васіль.
Вы так любілі верашчэць,
Нас лаялі,—
А як-жа самі?
Цяпер вагон разьбіўся ўшчэнт,
І самакрытыка таксама.

Прышляцоў.
Не! Я ня з тых, хто шле дакор.
Загад Цэка заўсёды цэнны,
Ды—самакрытыкі ўзор:
Вагон ня йдзе і...

Праз маўклівы натаўп прабіраецца абвязаны Карчагін.

Карчагін.
Браткі... Ленін...
Сказаў...
Што возьмем мы
Увесь сьвет...
Ды толькі...
Усёй...
Рабочай клясай...
Вагон ня йдзе...
(Крычыць).
Ня веру! Не!
Няпраўда!
Не!

(Хістаецца. Раеўскі яго падхоплівае).

Зьяўляецца Гладкіх і інструктар райкому.

Гладкіх.
Даць тлумачэньні
Хоць зараз гатоў,
Вось яны,
Ворагі ўсякіх асноў.

*Гонг.*

МАЛЮНАК ДЗЕВЯТЫ

Саля паседжаньняў парт'ячэйкі. Адзін найсумнейшы таварыш Д у н ь д з я, з паперамі.

Д у н ь д з я (цяжка ўздыхае).
Бр-рыгада! Дыхаць цяжка стала!
Адсэк гаворыць аб вайне.
Абдумаць трэба, кажа, стала,
А думаць...
Не да густу мне.
Ды думаць што-ж? Маўчы і думай.
Вось небясьпечна—гаварыць!
У ўхіл загнеш,
Сплутуеш сумай
Ці не здалееш дагадзіць.
Шчасьлівыя на сьвеце... рыбы...
І не гавораць,
І з мазгом.
На край філёзофаў такіх-бы...
Двух—трох...
І трэба-б гэтым тром
Людзям даць падабенства конча,
На фоне роўнасьці галоў,
А там наладзіць і вытворчасьць—
Стандартных вырабаў мазгоў.
І быў-бы сьвет тады разьлічаны...
Як шафы, людзі ўсе, гужком,—
Пачуцьці ўзьняты між паліцамі,
І думкі ўсе
Пад нумарком.

(На час зьнікае. Уваходзяць двое).

П е р ш ы.
Калі прышоўшы на даклады,
За што, ня знаеш, галасуць,—
Заўсёды падсядай адзаду,
Відаць адразу большасьць стуль.

(Сядаюць. Уваходзяць двое).

П е р ш ы.
Сварлівы бабы ўсё-ж народ.
Рэўнуе жонка—сорам горкі.
Ці ў клюб пайду я,
Ці на сход,
Яна крычыць—
Да баб паперся.

Другі.
Да дзевак цягнецца юнак.
Ды—
Не жаніцца.
Можна так!..
Каму ён трэба гэты шлюб.
Які гадуе толькі шлюх.

Сядаюць. Комсамолец цягне ва рукаў дзяўчыну праз салю да дзьвярэй.

Комсамолец.
Мы—Комсамол.—Ну што мы скажам?
Ня мы-ж ля іхняга старна.
Ухіл у партыі?
Няхай-жа
Сама змагаецца яна.

Дзяўчына.
Але выпадак ненармовы.
Супроць загадчыка! Цікава!
Аднак хоць, мы народ вайсковы:
Налева скажуць—
Мы налева,
Направа скажуць—
Мы направа.

(Выходзяць. Убягае партыец з портфэлем).

Партыец.
Ну, што-ж учыніш ты з падобнымі людзьмі!
У хвастох—сваты, браты, ўся плесьня,
Ты абываталя хоць на забой кармі,
А ён заўсёды у чаргу палезе.

Уваходзяць двое.

Першы.
Ён свойскі хлопец!

Другі.
Чым?

Першы.
Што-ж? Ёсьць!
Ён ціхі. Працы ён ня мае.

Другі.
Чым ён ня дрэнны—
Мы ўжо знаем,
Ня ведаем чым добры вось!

(Уваходзяць двое).

Першы.
Не зразумець,

Хто атакуе,
А хто ўсё пнецца, каб назад...

Д р у г і.

Скажы мне,
Як ён крытыкуе,—
Я назаву яго аклад.

Прыходзяць партыйцы. Прышляцоў па-панібрацку здароўкаецца з імі за руку. Адказваюць яму на дзесяткі ладоў: у пераважнай большасьці—злосна і сурова. З аднаго боку ўваходзяць Граеўскі, Прышляцоў падыходзіць да Граеўскага. Той пахмурнее.

П р ы ш л я ц о ў.

Папера дрэнь! Папера топіць.
Папера дурыць прастакоў.
Чамусьці дваццаць дзевяць копій
Наплодзіць кожны пратакол.

Г р а е ў с к і.

Калі-б усе ў нас пазіралі
На справы—плён твае рукі,
Дык копію адну-б здымалі.
Але і тую—
ў Р. С. І.

П р ы ш л я ц о ў.

Ня вышла змова.
Карта—варона
Наперад! Напад—лепшая абарона.

Прышляцоў горда выходзіць. Саля поўная людзей. Уваходзяць—Дзямідаў, Озоль Сарокін, Уласюк. Навакол іх зьбіраецца натаўп.

Д з я м і д а ў.

Хлапцы узьнімемся сьцяною?

У с е.

Так.

Д з я м і д а ў.

Значыць, будзем так ісьці.
Бяз шуму на пачатак бою.
Даволі будзе нас пяці.
Казаць вам другакраць ня варта
Пра значнасьць посьпеху для нас.
Тут нападаюць на брыгаду,
А значыцца—на ўсіх на нас.
Яна прычэпка ім дый годзе.
Тым лепей. Нават сто брыгад...

У л а с ю к.

Куды-ж загнеш ты?

Озоль.

Ціха, Тодзік!

Дзямідаў.

Я бараніць вас буду, брат.
Але калі нам прапануюць—
Партлінія або хто з нас
нічога тут не абмяркуем!

Голас.

Вядома. Далей.

Дзямідаў.

От якраз
Кароткі плян.
(Да Граеўскага) **Ты—будзь задзірам.**
Я—кананадай.
(Да Озоля) **ты—стралой.**
Галоўнай мэтай быць павінна
Разьбіць усіх іх з галовай.
Бяз шуму, праўдаю суровай,
Нам трэба іх перамагаць
І самакрытыкай здаровай
Перабудову пачынаць.

Убягае Дуньдзя. Заім ідуць Гладкіх, Прышляцоў, абедзьве Парт-цёткі, Васіль, Шапталаў і яшчэ некалькі чалавек.

Дуньдзя. (абвяшчае).

Таму што дэмократыя востра стаіць
І ня можна даваць дэмагогам лейцы.
Будзе ячэйка.

(У бок).

Замест бюро
Запрашэньнем радавых членаў ячэйкі.

(Усе сядаюць, Гладкіх затрымоўваецца на авансцэне).

Гладкіх (да публікі).

Цяганіна мусіць быць...
А ў мяне ўхіл адкрылі...
Эх, было-б куды спакайней жыць
Каб кожны ляжаў-бы
У сваёй магіле.

(Ідзе да стала, моцна звоніць).

Таму, што моцны парадак абавязковы
І трэба весьці пасяджэньне сурова,
Абвяшчаю сябе старшынёй адмысловым
І нікому не даю слова.

**— Таварышы! райком сёньня патрабаваў, каб стаяла пытаньне пра ўхіл пра правы. Але таму, што да мінулага тыдню гэты ўхіл не існаваў, дык мы гэта пытаньне на камісіі паставім. Слова для дакладу пра скасаваньне комсамольскай ударнай брыгады капітальнага рэмонту мае таварыш Прышляцоў. Рэгляманту непатрэбна.**

Прышляцоў.

Таварышы! Я буду сьціплым
Прад тварам пролетарскіх мас
Тут дыскрэдытавалі нас
Ад галавы да ног сумысьля...

Граеўскі.

Вы самі!

Гладкіх.

Цыц! Не прыпыняй.

Прышляцоў.

Дыскрэдытаваны трамвай
І самакрытыка з ім разам.
Ганьба і сорам, і абраза!
Я сам падтрымліваў брыгаду быў раней,
Ды паглядзеце, што з іх працай вышла!
Спачатку ўзвысілі, хвалілі іх даўней...
Цяпер згадаць мне сорам аб калішнім.
Распусьцім! Усе таго жадаюць.

Дзямідаў.

Нават?

Прышляцоў.

Адказ за ўсіх бярэце, брыгадзір?
Ваш стаж хоць значны,—
Стаж і мой на славу!

Граеўскі.

Ды для цябе твой стаж—кукарда і мундзір.

Прышляцоў.

Я не адказваю на злосныя нападкі.
Тут страх ня ў тым, што зьнішчаны вагон.
Наводзіць нехта ў нас найноўшыя парадкі
І свой сапраўдны ухіл тым выяўляе ён.
Дзямідаў крые нас. Крыві брыгада хоча,
З-за самакрытыкі ўзьнімае цэлы гвалт.
Але мы ўбачылі, хто гэта насурочыў—
Яны пакрыўджаны за дробненькі разрад!
Але, групоўка тут! Таму я іх і крыю,
Што самакрытыкай развальваюць знарок...

Граеўскі.
А вы хацелі-б зацягнуць яе ў скляпок
І ручкай кволаю ў куце скруціць ёй шыю!
Прышляцоў.
Каб з самакрытыкаю ня прыйсьці бядзе,
Рэглямэнтуем:
Хто можа кінуць слова,
Каму, практычна,
Як,
Калі
І дзе,—
Усё паводле тэзісаў Сьляпкова!
Спачатку высьветлім, што нельга гаварыць,
Спачатку высьветлім, дзе праваліцца можна.
Бі заўжды моцна—але трэба тармазіць.
Конкрэтным будзь—
Але з асобамі будзь асьцярожным.
Мільён разоў правер—пасьля ўжо напішы...
Голас.
А няпісьменны я!
Гладкіх.
Ну, зрэшты, не бярыся!
Прышляцоў.
Дакумантальнасьць толькі фактам да душы,
А з слова часта карыстае скандалісты.
Калі інстанцыі пацьвердзілі—далей
І дакумэнтыкі пакажаш,—грунт на чым—
І крытыкуй тады хоць суткі усе...
Граеўскі.
Але—
Ні ў дзень, ні ўвечары, ні ўраньні, ні ўначы!

(Сьмех. Воплескі).

Прышляцоў.
Так, ты зачыншчык іх. І той. І той. І гэты.
Працуе ўпартая злачынная рука.
Павінны выкрыць мы прад партыяй ваш мэтод,
Мы ўсіх пацягнем вас адразу ў Губ-Ка-Ка!

(Шум. Парт-цётка і Васіль пляскаюць).

Крыкі.
— Заехаў!
— Прэч!
— Далоў!

— У самаго ухільчыкаў бясконца!
Зажым.
Ціскач на гумавых падэшвах.
Прышляцоў.
Ёсьць рэзолюцыя, таварышы.
Я скончыў.
Гладкіх.
Я вам цытату прывяду канешне.
Галасы.
Пакінь цытату!
Ты на слове!
Голас.
Ён быццам фокусьнік—яздок,
На ўсім скаку, што трэба, ловіць—
Канец, Пачатак
Ці радок.
Озоль.
Чытаў калісь ён не багата,
І поўны мудрасьці былой.
Аднэю маніць ён цытатай
„Во здравье
И за упокой!“
Гладкіх (звоніць).
Маўчаць!
Парт-цётка Мотка.
Ды што тут гаварыць!
Ўсё бачым мы.
Голас.
Хто мы?
Парт-цётка Мотка.
Усёроўна!
Васіль.
Навошта ў лаянцы ў іх спрыт?
Шапталаў (піскліва).
Для справы!
Озоль.
Як вы рызыкоўны!
Дзямідаў.
Таварышы! Цяпер зірні—
Пабачыць кожны ўсё да крапінак.
Ў брыгаду мецілі яны,
А ў самкрытыку патрапілі.
Пад маскаю турбот старых
Хавалі твар свой кшталтам злодзея,

Ды гэта толькі да пары,
Схавацца пакрадзенага—
Усё-ж ня здолелі.

Прышляцоў.
Навошта палкасьць?
Прызнаю:
Пагарачыўся я наяўна,
Навошта-ж вы віну маю
Да вынікаў вядзеце ўяўных?

Граеўскі.
У кусты, лясы?

Гладкіх.
Мне слова!
У нас
Распусту разьвяла брыгада.
Маглі рабочыя якраз
Сягоньня ўраньні біць ўладу.
Няхай ухілісты кінуць спрыт!
І беспартыйных ня трывожаць!
Адміністратараў-жа крыць
Пры масах нельга!..

Дзямідаў.
Дзе-ж?
У спальнях можа?

Парт-цётка Мотка.
Калі пры ўсіх нас будуць крыць,
Дык наш аўторытэт заплямяць.

Граеўскі.
Так, твой найлепшы доказ—крык,
Ты дырыгуеш аглаблямі.

Парт-цётка Мотка.
Ты ухілісты! Ў барацьбе
Ганьбуеш партыю што сілы.

Граеўскі.
Ты прычапіла ўсім ухілы,
Адно забылася сябе.

Парт-цётка Мотка.
Я лекар вам і карантын,
Я—ўрач для вас усіх, няшчасных!

Граеўскі.
Даеш тыфозным асьпірын
І дынамітам лечыш насмарк.

Парт-цётка Мотка.
Ты кпіны строіш з нас, а з іх?

А хто ў цэхах—адна ўсё трасца!
І покуль бяз культуры масы,
Соцыялізм—
Ён не для ўсіх.
Граша рабочы той ня варты,
З каго ня вышла ў столькі год
Загадчык,
Ці намесьнік,
Ці бухгальтар,
Ці хоць-бы дзелавод.
Хто ля варштата? Там адна скацінка!
І гэта ім? Крытыкаваць?

Граеўскі (нешта запісвае).

Ай, малайчына!

Прышляцоў.

Хлопцы кіньце!
Навошта сваркі аднаўляць?
Хай маса—скарб, хай маса—цуда,
Ды зразумейце-ж вы мяне:
Ну, як-жа я загадваць буду,
Калі крытыкаваць пачне
Рабочы той, які на гора
Не разумее? што было-б?

Дзямідаў.

Ты мысьліш партыю канторай,
А пролетарыя сталом?!

Парт-цётка Аўдотка.

Ты дэмагог. Ня ў гэтым рэч-жа.
Дэмократычнасьць вырашаць
Ніяк ня можна так нарэшце.
Ты правядзі яе, канешне,
Ды спрытна. Потым—не сьпяшай!
Вось, скажам, выбары,—дай рады—
Няўжо за масаю ісьці?
Калі гуляць у дэмократа,
Не навязаўшы кандыдата,
Дык гэта, любы мой... хвасьцізм!

Васіль.

Вось, быццам чэрці іх наслалі!
Навошта гэтак назаляць?
Ды хіба-ж мы загад давалі,
Што нельга нас крытыкаваць?

Голас.

Ды што загад... От скажаш „рэзка“...
На від адразу-жа ўляціць.

Парт-цётка Аўдотка.

Каля уборнай, там абвестка
Пра самакрытыку вісіць,
Хіба ня досыць?

Граеўскі.

Браткі! Браткі.
Ды гэта-ж самы чысты гной!

Парт-цётка Мотка.

...І больш няма чаго шалацца
Нам з беспартыйнаю шпаной!

Озоль.

Вось мэтод лёгікі асьлінай!

Граеўскі.

А самакрытык ўва ўсёй красе!
Бач, агітуе ён дубінай,
Сякерацю-ж блыху сячэ.

Озоль.

Перараджэнцы!

Парт-цётка Мотка.

Ах, тупіца!
Няварты вораг наш пляўка.
Хто быў хоць месяц ля станка,
Ня можа ў век перарадзіцца.

Гладкіх (звонячы).

Та-ва-ры-шы!

Парт-цётка Мотка (да Граеўскага).

Глядзі тут пэўна!
Што значыць грубасьць для братвы?
Рабочым, калі скажаш „вы“,—
Яны пакрыўдзяцца, напэўна.

Озоль.

Што сэрцы ў вас
ці сухары?

Гладкіх.

Маўчаць!

Васіль.

Настаўнічаеш гэтак?

Парт-цётка Мотка.

Пра далікатнасьць не кажы—
Нявучаны ў нівэрсытэтах.

Прышляцоў.

Таварышы, тут не забава.
Чаго мы лаемся дарма?
Правадырам славутым слава
І самакрытыцы—ура!
Ды з рэшты тут-жа, каб ні я
Ня мелі-б вы тады даклада
Пра самакрытыку зусім.
Я першы вам падаў параду,
Паставіў шмат проблем у ім.

Дзямідаў.

Каб ліса ня прыперла,
Аўца-б воўка зжэрла!

Прышляцоў.

Абдумаўшы, прапрацаваўшы
Мы лёзунг правядзем на яць.
Ды толькі нехта шкодзіць заўжды
І трэба некага суняць.
Хто-колечы не бяз прычыны
Ідзе ў хвасьце адсталых мас,
Забыўшыся на дысцыпліну,
Усіх нацкоўвае на нас.
А самакрытыка—ня сварка!
Асоб хто сьмее зачапіць?
На крытыку з нас кожны з правам,
Ледзь скарыстае яго...

Гладкіх (аўтоматычна).

Цыц!

(Рогат. Гладкіх звоніць. Дзямідаў падымаецца).

Дзямідаў (да Прышляцова).

Ты пра чужыя хлусіш справы,
Сам галаву ў портфэль схаваў.
У габінэтах я-б люстэркі ставіў,
Каб кожны бюрократаў наглядаў!

(Шум).

Таварышы! Ўсё зразумела.
Ня мора топіць! топіць твань.
Прамова Прышляцова сьмела
Ягоны паказала твар.
Жагнаецца ён Марксам.
З енкам,
Як найпартыйная паненка,

Падыме вочы проста ў столь,
Рукою левай памахае,
А, памахаўшы, выстаўляе
Свой правы кулачок на стол.
Ня верыць нам—
Чужым паверыў,
Паблытаў берагі якраз
І з самых лепшых інжынэраў...
Найгоршых ворагаў абраў.
Пра плян крычыць ён кожнадзённа.
І пра індустрыю—шточас.
Таму,
Ён загадзя,
Вядома,
Аддаў прыватніку заказ.

Прышляцоў.
Я ў абурэньні надзвычайным!
Я справу з гандляром вяду.
Але, я можа, маю тайны,
Што адкрываюцца...

Озоль.
Суду!

Прышляцоў.
Вы нам ня суд! Судзіць вам рана.
У трэстах цяганіна,—так?
Прыватнік знойдзе ўсё старанна.

Граеўскі.
А справа клясы?

Прышляцоў.
Вось лухта!
У Маскве надумаюць сабе
А потым паўтараць вы рады...
Не! Ёсьць дзьве лініі—у працы, барацьбе...

Дзямідаў.
Ёсьць клясавая—для дакладу
І касавая—для сябе.

(Агульны шум. Гладкіх звоніць).

Гладкіх.
Пашто прыватніка чапаць?
Стаіць пытаньне пра брыгаду.
Калі-ж прыватніка і ўзяць—
Яго назваць ня можна гадам.

Як Маркс глядзеў на гэта? От.
Усе клясы мы прыцягваць станем,
Бо праіснуюць многа год
Буржуй, рабочы і сяляне.
А калі так, дык вынік, што
Усе—струмкі з адных пачаткаў.
Калі карысны ты—пашто
Сячы бязьлітасна і гадка?
Заказ прыватніку.
Далей?
Ён мае рацыю на гэта!
Калі прыватнік багацей,
Дык багацей і край саветаў.

Парт-цётка Аўдотка.

Ды што? Вось вёска сёньня ўся так!
Не разумеюць, што і як.
На кулака кладуць падатак,
А краю хлеб дае—кулак!
Савгасы? Што з іх за карысьць!..
Бяз іх і гора-б нам ня ведаць.

Дзямідаў.

І ў нашай партыі, сябры,
Ёсьць буржуазныя паўпрэды.

Партыец (прарываючыся да стала).

Даволі! Праўды вам ня зганіць!
Даволі фальшы і маны!
Ні клясавае! Ні змаганьне
Вось што сказалі нам яны!

Дуньдзя.

Я разумею так. Яно
Было раней... Тады, ў падпольлі.
Цяпер у нас, вядома, воля
Змаганьня і няма даўно.

(Рогат).

Крыкі.

Ты ўсё сказаў, ішак партыйны!
Яшчэ-ж шукалі правых тут дарма!

Гладкіх.

Заяўляю неофіцыйна:
Небясьпекі правай,
па сутнасьці справы,
няма.

Моцна звоніць. Ніхто ня слухае. Вакол Дзямідава і Граеўскага зьбіраецца натаўп, шумлівы і грозны. Слоў ня чуваць. Асобныя партыйцы застаюцца на месцах і перамінаюцца. Вакол Гладкіх зьбіраюцца Прышляцоў, Дуньдзя, абедзьве парт-цёткі, Васіль і два партыйцы.

Галасы (з групы Гладкіх).
— Ня выйдзе.
— Выйдзе.
— Мой загад!
— А загулі,—
Нібы на рынку.
— Эх, самакрытыку я так хачу кахаць,
Каб задушыць яе ў сваіх абдымках!
Пачынай.

Гладкіх звоніць. Усе сядаюць. Маўклівасьць.

Гладкіх (палохаючыся раптоўнай цішыні).
Таварышы. Маючы на ўвазе асаблівы парадак,
Таму, што толькі мы разумеем ваш кожны крок,
Прэзыдыум пастанавіў, што наконт пытаньня
пра брыгаду
Галасуюць толькі члены бюро.

(Пачынае гаварыць хутка, хутка гледзячы ў стол).

Ёсьць прапанова скасаваць ударную комсамольскую брыгаду капітальнага рэмонту. Іншых прапаноў няма? Няма. Якія папраўкі, дадаткі, зьмены? Гэткіх няма. Хто за ўнесеную прапанову? Відавочная большасьць. Хто супроць? Гэткіх няма. Хто ўстрымаўся? Гэткіх няма. Пасяджэньне скончана.

(Усе застываюць на месцах. Ніхто не падымаецца. Хвіліна маўклівасьці).

Дзямідаў ідзе да стала і бярэ з рук нярухомага Гладкіх званок.

Дзямідаў.
Таварышы. Паседжаньне ячэйкі абвяшчаю адкрытым. На парадку дню адно пытаньне: пераабраньне бюро. Хто за гэта?

(Усе падымаюць рукі).

Гладкіх (запішчэўшы).
Няправільна-а-а! Уціск! Нахабнасьць!
Дзе самакрытыка ў вас?
(Усе рагочуць).
Няма прадстаўніка начальства!
Ды я вам пакажу наказ!

(Капаецца ў портфэлі. Выкідае з яго паперкі).

Дзямідаў (падымаючы руку).
Таварышы! Нам не да сьмеху
Спакойна ўперад зноў ідзём.
Мо' раптам адгукнецца рэха
Ад голасу мінулых дзён...

За сцэнаю гучны стрэл. Усе ўскокваюць. Агульнае замяшаньне. Гладкіх—на крэсьле, махаючы абежнікам.

Гладкіх.
Калі паперы ўсе ў парадку,
Усё правільна,
І хто-б ня цэліўся...

Убягае Лена. Хістаючыся, і ідзе да стала. Засланяе рукамі твар.

Лена.
Мікола...
Карчагін...
За...
Стрэ...

Паволі апускаецца экран. На экране;

У АГУЛЬНЫМ...
ЦЭЛЫМ...
УСЁ...
СПАКОЙНА.

*Гонг.*

(Канец будзе)

З расійск. мовы перакл. **Ю. Таўбін.**

# У БЕЛАПОЛЬСКІМ ПАЛОНЕ [1])

*(Урывак з кнігі)*

**С. Бройдэ**

Дзівосныя незразумелыя словы нараджаюцца недзе ў таямніцах мозагу і там-жа паміраюць, не прагучэўшы.

Кароткія прасьветы, што нішчаць пачуцьцё незразумеласьці, і зноў правал у прадоньне.

Ні неба, ні зямлі. Марш—марш!

Я імчуся і на шляху няма нічога, што магло-б затрымаць гэты імклівы бег.

Я абмяркоўваю... Гэта атака. Гэта ня трупы побач, гэта байцы.

Я чую, як храпуць коні, і каманду начальніка. У некага зьляцела папаха і мчыцца побач з намі. Я павінен дагнаць яе, гэта не папаха, гэта вораг. Я мацней сьціскаю шаблю, і раптам усё правальваецца.

Ні байцоў, ні коняй, ні папахі...

Рука ня сьціскае шаблі. Вакол нікога.

Ніякімі патугамі мне не ўдаецца аслабіць бегу. Мяне кінулі і таварышы—байцы і камандзір. Я не сумняваюся, што на дне бяздоньня вострае каменьне і яно разьдзярэ на часткі маё цела. Колькі часу цягнецца гэты шалёны палёт—хвіліну, вякі...

Я ня ведаю...

Мяне кідае на зямлю... Мне холадна...

Я ляжу ў гразі. Усё маё цела, усе каморкі наскрозь праняты гразёю. Ліпучая, халодная яна пластамі накачваецца на грудзі. Я задыхаюся.

Хачу дзіка выць, крычаць у невядомасьць аб паратунку, але толькі сквільныя стогны сударгава вырываюцца з горла. Я пужаюся іх і змаўкаю.

Чарната ночная шарэе.

На фоне гразі вымалёўваюцца сілуэты. Знаёмае да болю, знаёмае аблічча. Чый гэта даўно ня голены твар і амаль увесь у масцы з гразі.

Дзіўны твар і страшны. Паспрабаваць прасунуцца бліжэй. Я спрабую падняцца, але востры боль голкаю праколвае усяго мяне наскрозь і я падаю прыкаваны к месцу.

— Можа быць ты вораг, павярні твар да мяне, я не баюся цябе. Быць можа друг ты, павярніся дапамажы! Але моцна сьвінцом заліты рот, я ня чую свайго голасу...

[1]) Гл. „Полымя" № 8 за 1930 г.

Шэрая мгла пераходзіць у малочную. Галава ня рухаецца. Побач з ёю нешта цямнее. Такое знаёмае і разам такое простае, як штых альбо салдацкі кацялок, а я ня ў сіле распазнаць.

Я заплюшчваю вочы... І раптам, галава Калмыка, Федзькі-Калмыка, вісіць перада мною, а побач з ёю, папаха, надзвычайная чорная папаха.

Я шпарка ўзьнімаю павекі і выразьліва разьлічаю ў некалькі крокаў ад сябе і галаву Федзькі і папаху.

Мне балюча...

Балючай, чым ад ран.

— Федзька і ты таксама знайшоў апошні прыпынак на гэтым балоце, а побач з табой—гордасьць усяе сотні—твая папаха. Ты гардзіўся ёю і калі мы, запыленыя, часта босыя, досьвіткам займалі сонныя польскія гарадкі, ты, сьпяшаючыся, прывязваючы вялікі чырвоны бант да папахі—на страх буржуазнай погані—паважна глядзеў на суседзяў, якія не мянялі сваёй будзеннасьці ў такія ўрачыстыя моманты.

— Федзька, ты прынёс гэту папаху праз галодны стэп, захаваў яе ад бяспрытульных на Бранскім вакзале ў Маскве, красаваўся ў ёй на прывакзальных рынках каля Кіева і данёс яе да гэтага сьмярдзючага балота, якое стала магілаю і табе і папасе.

— Федзька, я не хачу тут ляжаць і не хачу, каб п'яўкі ссалі тваю кроў. Ты быў сумленным байцом і магілай тваёй павінен быць курган у стэпу, адкуль зоркія вочы павінны бачыць бязьмежны краявід, а ня шэрую дрыгву тарпянога балота.

— Федзька, мне холадна! Мы адны, мы памерлі.

Над тваёй галавой чорнае махае крыльлямі і, асьцярожна прырыхтаваўшыся, у момант узьлятае, апускаецца на яе. Груган замахваецца дзюбаю, я пытаюся крыкам адагнаць немарасьць, але ўсё балота груганы, навіслая мгла навальваецца на мяне і я зноў імчуся ў прадоньне, моцна заціснуўшы ў руцэ папаху Федзькі. Наперад! Хутчэй! Хутчэй!

Нехта пнецца адабраць яе ў мяне, але я моцна да болю сьціснуў яе ў пальцах і нечы роўны, спакойны голас кідае: „не чапайце, няхай трымае“.

Я расплюшчваю вочы—перада мной нечы худы з бародкаю твар, і я моцна трымаю нагу, сьціснутую ботам.

Побач ложкі, на іх людзі, пакрытыя белым і на малочна-матавых сьценах адсьвечвае бляск ліхтара.

Я ў бальніцы... Я хворы...

Усё гэта было брэдам: і гэты шалёны палёт, і Федзька, і жудасны груган... Я сярод жывых.

Я быў бяз прытомнасьці, быў ахоплены немарасьцю—хутчэй забыцца заснуць.

Засынаючы, я чую той-жа роўны голас: „Няхай сьпіць, не чапайце“.

. . . . . . . . . . . . . .

Прасынаюся ў вялікай палаце. На кожным ложку сваё жыцьцё: хто голіцца, хто чытае газэту, хто працягвае гутарку, спыненую ўчора на паўслове. Ніхто не зьвяртае на мяне ўвагі, нікому няма справы да таго, што адкрыў вочы і гляджу на ўсіх.

Пакрыўджаны пнуся прайсьці зноў шлях ад апошняй стаянкі да шпіталю, але гэта мяне хутка стамляе і ад бясьсільля сьлёзы пачынаюць сыпацца з вачэй.

Нечая клапатлівая рука выцірае сьлёзы і затрымліваецца на маёй потнай скроні. Гэта заспакойвае.

Ні аднэй часткаю цела я не магу рухаць, рукі, як анучы. Тады я лаўлю вуснамі руку—шурпатую, цёплую руку сястры і цалую яе.

Цалую за паратунак ад жудаснай немарасьці пакутнага падарожжа, пачатак якога адыходзіць у нейкую шэрую даль.

Сястра зьбянтэжана адрывае руку і гаворыць: „Ну і нэрвовы ты, брацішка! Іж, нюні распусьціў. Ляжы, памоўквай, здаровы будзеш“.

Злуецца, а сабе вачмі ўсьміхаецца.

— Дзе я?

— Пяты Віленскі Шпіталь. Вось ужо два тыдні з табой возімся. Кажу, маўчы, набірайся сіл. На—вось, выпі і ляжы ціха, пакуль доктар прыдзе.

Сястра ўлівае мне ў рот нейкай жыдкай бурды з прысмакам валяр‘янкі і нячутна адыходзіць.

У палаце гул. Гэта адабражаюць шум натоўпу статыстыя за сьцяной. Да гэтага можна прывыкнуць і ня чуць.

Пнуся ўспомніць, дзе і калі я захварэў.

Гэта было, напэўна, у Вамішулях. Не, не тады, трохі пазьней. Памятаю, я кінуўся ля мураванага плоту. Перад вачыма тырчэла вялікая чырвоная труба бровару, а трохі далей кумпал белага касьцёлу. З касьцёлу цокаў кулямёт, а труба ўсё расла і расла. Яна павінна была нямінуча ўпасьці і зруйнаваць касьцёл.

Я напружана чакаў... Труба з грукатам разрэзала касьцёл. Увесь краявід засланіла пылам. Далей, як ня сілюся, нічога не магу ўспомніць. Малая экскурсія ў мінулае выклікае зморанасьць. Потым? Цемра! Ізноў пачынаю драмаць.

Перад вачыма ізноў выростае касьцёл і кулямёт стракоча—та-та-та-та-та-та-та-та... Напружаньнем волі прасынаюся, а ў вушох той-жа строкат кулямёту. Яго нельга адагнаць, ён то заціхае, то зноў узмацняецца.

Мяне трасе ад гэтага сухога строкату і я, крадучыся, аглядваю палату—ці не заўважаюць хворыя мой стан.

Усе заняты нечым больш важным: у палаце ціха і ўсе да чагосьці настарожана прыслухоўваюцца.

Я ясна чую строкат кулямёту, сухі і сур‘ёзны. Няма ніякага касьцёлу, а ёсьць палата, у палаце хворыя (тыя-ж байцы, з якімі я даўно ўжо

дзялю дні і ночы, толькі твары ў іх іншыя, пакаёвыя) і недзе зблізу працуе кулямёт, сапраўдны кулямёт.

Несьвядомая трывога ахапляе мяне, у роце адразу сохне.

Бу-у-ух... грукоча воддаль...

Шыбы зьлёгку дрынчаць. Мацней грукоча і ўсё няспыньней дрынчэньне шыб.

Трывога ахапляе ўсю палату. Барадаты сусед з тварам Уладзімерскага багамаза і так недарэчнай з яго татуіроўкай на аголенай руце, парыўча нахіляецца да мяне, гаворыць прыглушаным голасам: „Падходзяць, курвіны сыны“, і, не чакаючы рэплікі з майго боку, паварочваецца да суседа справа, напэўна, з тэю-ж фразаю.

Трывога ўва мне павялічваецца, мне цяжка ўсьвядоміць сэнс гэтай злавеснай фразы, але ў палату сьпяшаючыся ўваходзіць сястра і ўголас пры раптоўнай цішыні, абвяшчае:

— „Таварышы, бяз панікі! За 20-ць вёрст ад Вільні зьявіўся атрад палякаў. Яго адгоняць у бліжэйшыя дні. На тое вайна“.

Надта шмат для першага дню выздараўленьня!

У палаце пачынаюцца спрэчкі, кіруе імі мой барадаты сусед.

З усіх бакоў да яго нясуцца выкрыкі, але я ня чую слоў.

Я стаміўся.

Мяне зьбілі з правільнага шляху: зараз усё было-б ужо скончана і я-б не зазнаваў гэтага гідкага пачуцьця бясьсільля перад пагрознаю небясьпекаю.

Апатыя апаноўвае мяне. Ледзь праглынаю некалькі лыжак малака і засынаю ў той момант, калі доктар лічыць мой пульс. Гэтым канчаецца мой першы дзень выздараўленьня.

Раніца пачалася задоўга да звычайнага часу. Уласна ў пакоі было яшчэ цёмна і толькі адна дзяжурная лямпачка цьмяна асьвятляла вялікі пакой, але трывога пэрсоналу і строкат кулямётаў, які набліжаўся, адразу прагналі прэч ноч і прывялі палату ў рух.

У хворых быў выгляд пасажыраў, якія зазналі крушэньне цягніка і фантастычнасьць павязак узмацнялі гэта ўражаньне.

Усё было нязвычайным гэтаю раніцаю: палату ня прыбіралі, санітары тоўпіліся ў калідорах і аб нечым уголас гутарылі і нават прыход доктара ў такую няўчасную пару прашоў для іх незаўважаным.

Доктар аглядзеў хворых і выпісаў усіх, што выздараўлівалі. Да апошніх далічаўся кожны, хто мог хоць-бы трохі пакінуць палату.

Праходзячы каля майго ложку, доктар зрабіў падбадзёрваючы гэст, праверыў пульс і сказаў:

— Ну, вось і малайчына! Хутка ізноў ваяваць будзеш.

Аднак, профэсыйнай бадзёрасьці супярэчыў погляд доктара—насцярожаны і спагадлівы, і я ня мог не заўважыць гэтага.

Мы былі ў небясьпецы—я і тыя таварышы, што не маглі падняцца з ложкаў. Нягледзячы на нядаўні стан няпрытомнасьці, мозг выразьліва

маляваў увесь жах пэрспэктывы. І ўсё-ж надзея жыла недзе ў глыбі— можа, страляніна ня будзе небясьпечнай, палякі будуць адкінуты.

Тым часам хворыя пачалі парадкавацца. Мой барадаты сусед выцягнуў з-пад падушкі запэцканы ліст і, падаўшы яго мне, коратка сказаў:— Пачытай мне, брацішка, трэба будзе парваць.

Ліст пачынаўся з пераліку імён усіх байцоў эскадрону, якія перадавалі прывітаньне барадачу. Судзячы па навінах, якія ў ім перадаваліся, ліст быў даўнішні і адносіўся да пэрыоду, калі мы імкліва наступалі. Акрамя агульных навін, у лісьце паведамлялася, што „Дзьмітры Аляксеевіч трымаюцца сур'ёзна, як гэта трэба байцу ў Чырвонай арміі і нядаўна на Мірона Васільлевіча з Сальскай з шабляю палезьлі, за абразу чырвонай. Мірон Васільлевіч сказалі, што ня ўстояць чырвонай супроць мэрыканцаў таму у іх на ерапланах усе езьдзюць, як у станіцы конна. Шаблю ў іх Мірон Васільлевіч адабралі і зьлёгку па патыліцы стукнулі, каб ня лезьлі да старэйшых, аднак загадалі берагчы Дзьмітрыя Аляксеевіча, таму баец сапраўдны выйдзе. Так што цяпер уся сотня за ім сочыць".

Барадач слухаў уважліва, хоць ведаў, відавочна, ліст на памяць...

— Дзьмітры Аляксеевіч, Міцька,—гэта сынок? Вельмі яны за мной у армію ўвязаліся. А гадкоў яму і цяпер ня больш, як чатырнаццаць.

Ён адвярнуўся, каб я не заўважыў набегшай сьлязы, а потым стаў разрываць ліст на дробныя кавалачкі.

Між тым, раніца няпрыкметна перапаўзла ў поўдзень і абстаноўка рабілася напружанай. Трывога расла з кожнаю гадзінаю і паказальным была адсутнасьць хоць якога-небудзь нагляду за хворымі.

Кананада заціхла.

Нечакана ў палату зьявіўся доктар. Твар яго быў заклапочаны.

— Таварышы, прашу захоўваць спакой. Горад узяты палякамі. Бясспрэчна, палякі хутка зьявяцца сюды. Прашу вас быць з імі далікатнымі. Усё роўна, бегчы ўжо нельга, да вы хворыя і ня здолееце!

Доктар быў спакойны, звычайны спакой доктара каля пасьцелі цяжка хворага. Гэтага вымагала профэсыя і зараз у тым жудасным становішчы, у якім мы апынуліся, ён стараўся мэтодамі, прызвычаенымі дзесяткамі пакаленьняў дактароў, аслабіць сілу ўдара.

Калі ён выходзіў з палаты, згорбіўшыся і ўцягнуўшы галаву ў плечы, было відаць, што ён стары, ледзь валачэ правую нагу і што пад халатам на ім цывільны гарнітур.

У гэты момант ён быў адзінай ніцьцю, што зьвязвала нас з нашым мінулым і калі яго згорбленая постаць зьнікла ў цемры калідору, мы востра адчулі, што дзьверы ў мінулае зачыніліся.

Мы былі адны. Два з лішкаю дзесяткі мізэрных, бездапаможных хворых з поглядамі, накіраванымі ў дзьверы, за якою таілася невядомасьць і адкуль павінен быў прысьці ўдар. Мільгнула думка і зьнікла пра тое, каб уцячы.

Сьмешна і думаць пра гэта, калі ногі чужыя і на бок можна павярнуцца толькі пры дапамозе сястры.

Хворыя шапталіся. Так і зьніжалі голас, калі вораг блізка і чакаюць яго з хвіліны на хвіліну.

Рыжы дзяцюк, ложак якога стаяў каля самых дзьвярэй, тулавам высунуўся ў калідор і перадаў у палату свае назіраньні.

Нечакана ён адкінуўся на сьпіну і адначасна з гэтым з калідору данёсься цяжкі тупат ботаў.

Сэкунды адлічвае тыханьне сэрца. Першы, які ўвайшоў, на хаду выцягвае з-пад галавы рыжага дзяцюка падушку, хапае бумажнік і апускае ў кішэню шынэлю.

Дзесятак убегшых легіянэраў рассыпаюцца паміж радамі ложкаў і ўзнагароджваючы штурхамі і ўдарамі прыкладаў хворых, шпарка на хаду хапае мізэрны салдацкі скарб.

У выніку „праверкі“ я ляжу на падлозе і ніхто ня ў моцы мне дапамагчы.

У палаце сьціхае. Я чакаю санітара, які падняў-бы мяне. Баюся крычаць—быць можа ў калідоры пачуюць пераможцы.

Сусед па-ложку падушкай заціскае вока і з барады ў яго кропля за кропляю сьцякае кроў.

Мне дрэнна.

Я закрываю вочы.

Праходзіць дзень. Нас не кармілі, не давалі лякарства. Мы ляжым у тых-жа позах, у якіх нас пакінулі легіянэры. Няўжо ноч будзе гэткаю-ж пакутнай, як дзень.

— Ідуць!—крычыць рыжы дзяцюк, палохаючы напружаную цішыню.

У палату ўбягаюць два палякі.

— Хто тут комуністыя?

Сястра, якая ўвайшла ў палату ўсьлед за палякамі, дае тлумачэньні, што ў палаце комуністых няма, яны ўчора ўсе выпісаны і адступілі з вайсковымі часьцямі.

— Маніш, курва,—зарычэў адзін з палякаў на сястру, адпіхаючы яе ў бок. Яны рушылі ля ложкаў, зьбіваючы на хаду хворых.

— Устаць, курвіны сыны!—крычаў кожнаму паляк. Застрэлю зараз, халеры!

Стогны хворых, якіх катавалі, плач міласэрных сясьцёр, рык паўп‘яных палякаў. Трэба моцна сьціснуць зубы і маўчаць. Адзін з „гасьцей“ падходзіць да мяне, глядзіць у твар.

— Здыхаеш, халера?

Адчыняе столік каля майго ложку, пільна рыецца ў ім, забірае некалькі савецкіх соценных паперак, што выпадкова захаваліся ад першых наведвальнікаў і, выцяўшы нагой у бок, пераходзіць да наступнага ложку. Каля мяне другі легіянэр. Налёт ня спыняецца...

На яго вачох сястра правярае мой пульс і кажа:

— Ён, напэўна, да ночы памрэ!

Што значаць словы сястры? Ці выратоўвае яна мяне ад катаваньняў, ці дыягноз правільны і я сапраўды безнадзейны.

Палякі ня чулі альбо не хацелі чуць рэплікі сястры, ды калі і пачулі-б, дык, відавочна, гэта не зьмяніла-б іх адносінаў. Мы былі ў іх вачох сабакамі, якіх трэба бязьлітасна зьнішчаць. Мы былі бясьсільнымі і зьбіваць нас было бясьпечна: дзьве напужаных жанчыны і куча бясьсільных цел на ложках... Ці-ж можна было баяцца супраціўленьня?

Аднаго ўдару было даволі для таго, каб я страціў прытомнасьць...

А ачуньваю глыбокай ноччу. Цяжка падняць галаву і аглядзецца. Пры невялічкай спробе гэта зрабіць усё пачынае рухацца вакол мяне: і груды хворых цел, і ложкі, і лямпачка. Боязна страціць прытомнасьць, стараюся ня рухацца.

Ляжу, думаю.

Напэўна, сёстры паклапаціліся, ізноў перанесьлі нас на ложкі. Трэба быць бадзёрым. Ёсьць ня толькі ворагі, але і прыяцелі. Уперадзі шмат гора—трэба падцягнуцца і, калі будзе хоць якая-колечы мажлівасьць, паспрабаваць уцячы.

Уцячы...

Гэта акрыляе, вызначае выхад.

Створанае становішча можна-ж лічыць даволі ясным: нас або даб'юць, або расстраляюць.

Углядаюся ў твары хворых. Сьвятло лямпачкі слабое і я не магу нікога разгледзець. З розных кутоў даносяцца стогны. Нехта са сну лаецца.

Судзячы па ўчарашнім налёце, даволі будзе каму-небудзь паказаць на мяне, як на комуністага, і мой лёс будзе ў момант вырашаны. Я ўсяго трэці дзень у прытомнасьці; я ня ведаю складу хворых,—адзін здраднік і я загінуў, і зусім бескарысна спрабую разгадаць чые сілуэты на ложках.

Сусед таксама прасынаецца. На вусох запяклася кроў. З барады выдран шкумат і на голым месцы адкрытая рана.

— Канец прышоў, брацішка. Крыўдна толькі, што зьдзекуюцца. да чаго злыя нягоднікі, усё мецяць балючай ударыць. З чаго гэта? Стаялі мы ў іхнай вёсцы. Людзі, як людзі і бедных шмат. Адзін аднаго панамі вялічуць, а ў пана лапці на нагах заместа ботаў. Дапамагалі ім чым-колечы і каня падарылі перад адыходам—нагу папсаваў. Вельмі былі ўдзячны і нават перапечак хлапцу на дарогу далі, а самі сядзелі бяз хлеба. Учора-ж вунь тому рыжаму дзяцюку паміж ног прыкладам стукнулі, дык дагэтуль і ляжыць. Вазіліся, вазіліся сёстры з ім і кінулі. Ня іначай, памёр.

Я заўважаю, што звычайна жвавы дзяцюк ляжыць пластом, уткнуўшыся носам у падушку. Учора ён быў дазорным ад палаты. Няўжо ўсім будзе гэткая доля?

— А, вось, з табой што зрабілі,—працягвае барадаты,—сястра ім кажа, што ты паміраеш, а ён табе прыкладам па галаве. Ну, нічога, папомняць, погані. Вось народ!

— Не мялі языком, абзываецца хворы на той бок барадатага. Народ дарэмна ня лай. Бачыў сам, як на пана працуе, а сам у лапцях ходзіць і есьці яму няма чаго. Народ на фронт пагналі, а гэта погань акапалася ў тыле з афіцэраў і іх халуёў і з хворымі ваюе. Эх, блазнота, ня ведаеце дзе вораг сядзіць, а яшчэ байцы. Прыдзе час, народ гэту погань сам у Духонінскі штаб адправіць, а ты іх у народ запісваеш.

Барадаты зьвяртаецца да мяне сьцішана—„Комуністы, з іхных, а парасійску здорава гаворыць. Зловяць палякі—з жывога скуру злупяць. Ну-ж і нашаму брату наўрад ці жывому выйсьці. Нябось кармі нас—рахункі дрэнныя, а кулі ня шкода. Гэтага дабра ў іх колькі хочаш“.

Сьпіна мая моцна прыліпла да койкі.

Я ня маю сілы падаць знак таварышу, але сьвядомасьць, што на адлегласьці ў аршын ляжыць таварыш надае мне бадзёрасьці.

— Кінь паніку разводзіць,—злосна кідаю я барадатаму.—Я думаю, у станіцы старыкі ня раз табе сядзібу часалі, а жывы застаўся. Баец, а за скуру дрыжыш. Ты-б яшчэ на абраз памаліўся! Што табе будзе? Накладуць у шыю і дамоў адправяць, будзеш з бабай на печы ляжаць.

Адчуваю фальш сваіх слоў, але па тым, як бянтэжыцца барадаты, дагадваюся, што словы дасягнулі мэты.

Лямпачка пад стольлю гасьне, ранішняе сьвятло пачынае праходзіць у палату.

Уваходзіць сястра, бледная ад бяссоннай ночы. Спужана ўздрогвае каля пасьцелі рыжага дзяцюка і, паглядзеўшы ў яго бок, ідзе ўдоўж ложкаў. Кідае на хаду словы. На момант затрымліваецца ў нашым радзе, заўважвае татуіраваную руку барадатага і пачынае шпарка яе забінтоўваць.

— Матрос, сапсаваў,—тлумачыць барадаты. На стаянцы. Бабы, казаў матрос, іхнага брата за гэта любяць. Ну, і нам захацелася ня горш за іншых быць. З брацеьнікам Сярожкай разам і расфарбаваліся.

— Пачакай, вось заўважаць у цябе палякі адзнакі на руцэ, яны табе пакажуць бабу,—заўважыла сястра, старанна хаваючы татуіроўку марляю.

З калідору даносіцца тупат дзесяткаў ботаў—цьвёрды ўпэўнены крок здаровых людзей, абвешаных зброяй.

Сястра шпаркім рухам перакрывае мяне з галавою, і сама застывае ля маёй пасьцелі.

— Уставаць, вашыўцы, уставаць хутчэй, халеры! Крычыць голас на сю палату.

Пасьля шалёнага вокрыку польскага уньцер-афіцэра. Хворыя спалохана паднімаюцца з ложкаў.

Я не магу гэтага зрабіць, я ня здолею нават сьцягнуць з сябе бальнічны халат.

Сястра закідвае мае рукі за сваю шыю і ставіць мяне на ногі. Я падаю на падлогу і паўзком плятуся да дзьвярэй.

— Выхадзіць,—ня крычыць нават, а сквіліць паляк.—Але прэндзэй, халеры!

Ён патрабуе ад нас жвавасьці, якой ніхто з хворых, разумеецца, ня можа дапяць. Тады ідуць у ход прыклады.

Усіх нас выганяюць на двор і строяць у шэраг па два. Маўчанка.

Урэшце, злавеснае:

— Хто тут комуністы? Два крокі ўперад!

Хворыя дрыжаць ад ранішняга холаду. Чуваць, як стукацяць зубы. Ніхто не абзываецца. „Сярод нас няма комуністых“.

— А халеры, курвіны сыны! Ня хочаце прызнавацца, дык мы прымусім вас гаварыць.—Па 20 шампалоў кожнаму,—крычыць уньцер-афіцэр.—Кладнісь!—кідае ён у наш бок.

Усьлед за ім хорам крычаць конваіры:—кладнісь!

Хворыя не разумеюць, што значаць словы—„кладнісь“. Можа быць ня хочуць разумець, вельмі люты і недарэчны гэты загад. Думка не ўкладваецца ў галаве. Ня верыцца, што салдаты, няхай нават палякі, якіх пераконвалі, што бальшавікі—дзеці дзьябла, будуць катаваць хворых.

Катаваньне пачынаецца. Б'юць прыкладамі, ботамі, не разьбіраючыся датуль, пакуль усе хворыя не ўляглiся ў рад на голай зямлі.

Пасьля гэтага салдаты, узброеныя шампаламі, ад аднаго раду пераходзяць да другога. Крыкі, стогны і згінаючыяся пад кованым ботам целы.

Я ляжу—рот набіты зямлёй, я моцна сьціскаю камы зубамі.

Высокі салдат узьнімае нада мной шомпал; у гэты час другі б'е мяне прыкладам па галаве. Удары частыя і я не пасьпяваю нават пераменьвацца.

— Досыць, досыць,—спагадліва кідае нехта зблізу мяне.

Сыты, спакойны твар і боты ў люстраным бляску, напэўна, начальнік, альбо ваенны доктар.

— Адвядзеце хутчэй гэтых нягоднікаў, а то паздыхаюць тут, давядзецца вазіцца!

Вось так „гуманнасьць“ лекара немачы чалавечай. Я перастаю адчуваць боль, шаленства апаноўвае мяне. Я хачу пляўком, зьмешаным з крывёю плюнуць у яго блакітныя вочы, закапаць яго чыста вымыты твар у кроўю напоеную зямлю, запхаць яго рот колам...

— Уставаць, халеры, прэндзэй, прэндзэй,—крычыць уньцер-афіцэр і хорам уторагь яму салдаты.

Ледзь трымаючыся на нагах, мы зноў строімся ў шэраг. Мы падтрымліваем адзін аднаго і кроў руччамі струменіць па нашым рызьзі. Даволі подыху ветрыка, каб ізноў усе паваліліся на зямлю. Напаўраздзетыя з пакрываўленымі тварамі, мы жудасныя сваім калецтвам і сапраўды былі падобныя да тэй банды, якою пудзілі польскіх мяшчан у час нашага паходу.

Паставіць нас пад апарат і круціць яго, круціць без канца. Затушаваць раны і пакінуць на фільме гэтыя апухлыя твары, пакрыўленыя з выбітымі зубамі раты, раздутыя павекі—які эфэкт зробіць гэта галярэя злачынцаў, ад якіх польская ваеншчына ратуе культурную Эўропу.

Яны элемэнтарныя—гэта дзесятак халуёў з сваім старэйшым. Яны не атрымалі гэтага заданьня. Іначай яны спыніліся-б, бо для здымак як нас даволі падрыхтавалі.

Але яны павінны добра выканаць галоўнае заданьне—скалечыць нас, і калі уньцер камандуе па-польску: „Шагам марш", а хворыя не разумеючы загаду, стаяць бяз руху, то ізноў пускаючы ў ход прыклады і шампалы.

Побач са мной мой барадаты сусед, яму выбілі вока і яно зацякло крывёю. Уньцер-афіцэр ударам нагі ў жывот шпурляе яго далёка з нашых шэрагаў і працягвае расправу, вышукваючы найбольш балючыя месцы.

Нельга абараняцца і няма сілы для гэтага. Можна толькі грызьці зямлю і сквіліць ад болю. Мы ўсвайваем, што павінны без развагі падначальвацца загаду, як-бы недарэчным ён ня быў. Шомпал у руках уньцера ў любы момант апусьціцца на нашы галовы.

Захаваньне жыцьця залежыць ад шпаркасьці выкананьня загаду, хоць яго можна страціць і выканаўшы загад добра. Нас зноў строяць. Хворы з выбітым вокам ня мае сілы падняцца. Ён застаецца на дварэ. Заліты крывёю твар павернуты ў наш бок. Нехта з новых гаспадароў шпіталю кідае на яго папону. Мы выходзім з варот, баючыся азірнуцца. Знадворку на варотах таблічка: „РСФСР, Віленскі Шпіталь № 5".

Гэты дом быў часткаю РСФСР. Хто-б ня прышоў у яго пазьней, памятайце пра гэта. Бывай, таварыш, накрыты папонай. Мы на вуліцы. На панэлі шмат зявак, шмат жанчын. Маленькі лысы чалавек раздае канвойным патроны. Ён жвава нешта гаворыць канвойным і праз кожныя 2—3 словы паўтарае „пся крэў". Мы разумеем, што „пся крэў"—гэта мы, але не разумеем чаго хоча чалавечак. Уньцер здаволена махае галавой, а чалавечак падбягае да пярэдняга хворага ў нашых шэрагах, б'е яго па твары з пляча, зьбівае з ног і крычыць:

— Што даваяваліся? Забралі Варшаву?! Зрабілі яе чырвонай?? Беце агіднікаў!

Некалькі камянёў ляціць з натоўпу ў нашы шэрагі. Нехта з натоўпу залоўмое па чалавечку, які пішчыць, як парасё. У натоўпе пачынаецца бойка. Дворнік суседняга дому выбягае з мятлой. Канвойныя штурхаюць нас у сьпіны, таропяць, самі паскорваючы крок.

Ужо ў гэтыя некалькі гадзін мы настолькі пасьпелі адчуць усю „прыгожасьць" польскага палону і шампалоў, польскіх афіцэраў, каб не сьпяшацца ў тую невядомасьць, куды нас вялі. Адразу вызначылася, што нас і надалей будуць біць, катаваць, калечыць і ня было падстаў

меркаваць, што ў тым месцы, куды нас вядуць, сустрэнуць іначай, чым на шпітальным двары.

З натоўпу, што сабраўся на панэлі, чуліся выкрыкі, з якіх можна было ўгледзець спачуваньне нашай бядзе. Відавочна, у натоўпе былі ня толькі ворагі, але і тыя людзі, якія разумелі, што мы ваявалі не з народам, а за яго, з панамі і фабрыкантамі.

Гэта наводзіла на думку, што выпадак дасьць магчымасьць знайсьці дапамогу і ўцячы з рук катаў. Я замáрыўся і няпрыкметна падышоў разам з другімі да будынку, перад каторым стаялі куляметы, разьяжджалі коньнікі, дзе ўсё гаварыла пра тое, што тут зьмяшчаецца важная ўстанова. Будынак быў агароджаны каменнымі сьценамі, уваход у яго вёў праз вузкую калітку. Нас прапусьцілі лікам праз калітку, узнагароджваючы кожнага некалькімі ўдарамі шампалоў, альбо прыкладам, у залежнасьці ад шпаркасьці, з якой мы праходзілі на двор.

Мы ў комэндантуры.

У глыбі двара стол. За ім сядзелі тры чалавекі: два афіцэры і салдат. На стале чарнільніца і невялічкі лісток паперы. Перад сталом на зямлі чалавек, твару яго ня відаць, па яго позе можна здагадацца, што ён у няпрытомнасьці.

— Стой!—крычыць, які суправоджваў нас, уньцер-афіцэр.

Слабыя і змучаныя, ледзь трымаючыся на нагах, мы строімся ў два рады, як гэтага патрабуе уньцер-афіцэр, аматар ваеннай выпраўкі. Кулакамі ў жывот ён падцягвае тых, хто ня можа адразу выпрастацца. Стогны і зглушаныя праклёны ў нашых шэрагах.

Я ў першым шэрагу і таму мне зручна назіраць за тым, што адбываецца на дварэ. Вельмі хутка карціна робіцца зразумелай: два афіцэры, якія сядзяць за сталом і салдат—гэта нішто іншае, як польскі суд. Трохі зводдаль ім дапамагае група польскіх салдат, узброеных шампаламі.

Дапытваюць усіх нас па чарзе. Праўда, назваць гэта допытам ніяк нельга. Хутчэй, гэта катаваньне з мэтаю прымусіць нас выдаць комуністых, што знаходзяцца сярод нас.

Ніхто з нас не выдае таварышоў, ня гледзячы на пагрозы, якія падмацоўваюцца зубатычынамі.

„Суд“ траціць цярпеньне.

Салдаты па нейкаму вышэйшаму найсьцю, па нейкім ім адным вядомым няўлоўным адзнакам, пачынаюць выбіраць з нашага асяродку падазроных, накіроўваючы іх для допыта к сталу.

Там расправа кароткая: западозраным у комунізьме задаецца некалькі пытаньняў, прычым пытаньне ідзе адно за другім. Адказ-жа, відаць, суд ня цікавіць. Пытаньні за сталом „суда“ падмацоўваюцца ўдарам, які адбываецца тым, хто пытае. Усьлед за гэтым афіцэр крычыць:

— Застрэліць,—і процэдура суду гэтым канчаецца.

І я, і мае таварышы з жахлівай хуткасьцю прывыкаем да відовішча. Мы чакаем сваей чаргі і калі-б пракляты уньцер пусьціў нас прысесьці

на зямлю, мы-б даравалі яму ўсе катаваньні сёньнешняга дню. Я хачу без дазволу сесьці на зямлю, усё роўна ўперадзе сьмерць, але жахлівей сьмерці кулакі, боты і шомпал уньцера—я не магу іх болей зносіць! Мой мозаг выразьліва працуе, я не раскайваюся ні ў адным дні свайго жыцьцёвага шляху, які прывёў мяне да сьцяны Віленскай Комэндантуры, але я хворы і скалечаны і не магу змагацца бяззбройны.

— Расстрэленых цягнеце да трупярні,—крыкнуў афіцэр, калі лік забітых пачаў расьці.

— Так, так,—пацьвердзілі салдаты...

Нам камандуюць павярнуцца направа і вядуць нас да левага боку сьцяны. Напэўна „суд“ перахапіў маю думку—адмовіцца ад комэдыі і перастраляць.

Мы набліжаемся да прызначанай сьцяны. Трэба крыкнуць што-небудзь катам. Крыкнуць так, знайсьці такія словы, каб вывернуць іх душы навыварат.

Каля парогу я шукаю ў сябе падтрыманьня і мужнасьці комуністага. У гэтыя кароткія мгненьні, роўна столькі, колькі цягнецца шлях у некалькі крокаў да сьцяны, я авалодаў сабою і думаю, што стаю перад клясавым ворагам, які абараняе сваё права на эксплёатацыю працы, абараняе ўсімі мэтодамі—чалавечымі і зьвярынымі, і ня трэба ніякіх слоў, ніякіх выкрыкаў, яны недарэчныя тут. Трэба сказаць толькі самому сабе, што „змаганьне ня спыняецца“ і ня спыніцца пасьля таго, як нашы трупы пойдуць „да трупярні“.

Мы ля сьцяны—тварам к суду.

Да нас падбягае некалькі уньцер-афіцэраў з крыкамі:

— Кажы, хто „комуністы“ і „чырвоны інструктар“, выхадзі, прызнавайся!

Усьлед за гэтым з нашых шэрагаў аднаго за адным выцягваюць хворых комуністых і пачынаюць іх катаваць.

Моцны ўдар і я ляту ў бок. Удар прыкладам наўздагон і я трачу прытомнасьць.

Прачнуўшыся, я бачу дзікую расправу каля процілежнай сьцяны. Ляжаць тут няпрыкметна, ня рухаючыся, дыхтуе мне інстынкт самаахоўы.

Валяецца кавалак толя, які напэўна адарваўся ад страхі. Асьцярожна пасоўваю яго на сябе, каб не заўважылі, што жывы. Я ня мог бачыць, каго менавіта з маіх таварышоў па шпіталю расстралялі, але калі тым, што засталіся, загадалі выстраіцца, я ўбачыў, як парадзелі шэрагі. Няпрыкметна падпоўз к шэрагам. Схаваўся ў глыбі.

Нас выводзяць з немарачнага двара комэндантуры.

Вядуць па горадзе пад конвоем узмоцненага атраду салдат пад няспынную лаянку вялікай колькасьці зявак. Лаянка і абразы ідуць сьледам за намі, але мы не рэагуем на гэта. Пасьля таго, што адбылося ў комэндантуры двара, ці-ж магло гэта нас закрануць.

Цямнее. Нас вядуць бакавымі вуліцамі. Зрэдку мы пераходзім асьветленую агнямі якую-небудзь цэнтральную вуліцу. У вокнах магазынаў стаяць васковыя манэкены.

На іх шчогальскія гарнітуры. Каля вітрын людзі. Праводзяць нас колькі крокаў, потым адстаюць.

Салдаты сьпяшаюцца, яны адганяюць усіх, хто спрабуе блізка падыйсьці да нас.

Я заўважаю чалавека, які ўпарта сочыць за намі. Але уньцер-афіцэр яго таксама заўважыў. Ён паказвае на яго канвойнаму і той асьцярожна вылучаецца з каманды.

Чалавек зьнікае ў вароты старога доміка, канвойны топчыцца колькі хвілін на месцы і даганяе нас.

Хвалюючыся, я сачу за гэтым паляваньнем на чалавека. Я радуюся няўдачы канвойнага салдата. Гэты чалавек пасланы таварышамі, мільгае думка. Мы не пакінуты.

Сярод ворагаў хаваліся прыяцелі.

Блізка сьвісткі паравозаў. Напэўна, нас вядуць к вакзалу. Мы падходзім да станцыйнага будынку. Нас заганяюць у пакгауз. У вялікім хляве ёсьць яшчэ людзі, акрамя нас. Чуваць расійская мова. Напэўна, палонныя з шпіталяў, а можа быць і захопленыя ў часе адступленьня. Каля ўваходу ў пакгауз у ліхтары мігціць недагарак сьвечкі. Чым далей ад недагарку, тым гусьцей цемра.

Адтуль чутны толькі стогны—твараў ня відаць.

Хворыя ўкладваюцца на дашчаную падлогу і ў цемры рызьзём перавязваюць раны.

Прытарным пахам тхне ад змардованых, пакалечаных цел. Мы ў пекле, якое моцна ахоўваюць. Гэта адчуваецца па тым руху, якое даносіцца праз сьцены.

Можа быць рыхтуецца працяг. Паўзу далей ад уваходу, каб ня быць заўважаным адразу. У цемры натыкаюся на групу, занятую жвавай гутаркай.

— Ляжы, таварыш, усё роўна далей не прабярэшся, народу напхана, як селядцоў у бочцы.

Да таго знаёмы голас... Асьцярожна пытаюся:

— Пятроўскі?

— Пецька!—Ён паднімаецца на ўвесь свой вялікі рост і разам з Пятроўскім я бачу і Сашку Грэбеньнікава, і Гразнова і яшчэ некаторых таварышоў па палку.

Першым успамінае пра становішча Пятроўскі.

— Нельга, нельга стаяць,—кажа ён,— сядайце, а то палякі такіх ліхтароў панаставяць, што будзе ўсім сьветла.

Селі. Пачаліся распытваньні. Падзяліліся адзін з адным уражаньнямі пра нядаўнія хвіліны і гадзіны. Ніхто нікога ня зьдзівіў. З усімі было

тое самае. Нехта стаў заспакойваць сябе тым, што Вільна будзе хутка ізноў занята Чырвонай арміяй.

— Будзе добра,—дадаў Пятроўскі,—калі нас да таго часу ня вывецуць назаўсёды ў расход!

Сказаўшы гэта, Пятроўскі заўважыў, як усе змоўклі пасьля гэтага прароцтва, пачаў выяўляць позыцыю, занятую кожным з нас у стаўленьні да свайго будучага.

Выслухаўшы ўважна ўсіх, ён накінуўся на нас за тое, што заместа пляну дзеяньня, мы займаемся вызначэньнямі моральных якасьцяй палякаў.

Пятроўскі расказаў пра двух блізкіх таварышоў, якія загінулі за гэтыя кароткія дні: адзін паў ахвярай палявога суду ў комэнданцкім двары, другі загінуў ад рукі польскага шляхціца ў момант, калі зьбіраўся выбрацца на волю.

І колькі было яшчэ такіх нашых сяброў, зьяднаных агульнай ідэяю, адным парываньнем, што загінулі бяз вестак у гэтыя цяжкія дні адступленьня.

Трэба сконцэнтраваць усю волю на аднэй мэце—уцячы, а не на размазваньні перажытага.

— А можа, вырвемся адсюль, тады будзе і на нашай вуліцы сьвята.

Пятроўскі зноў упаў у звычайны гіронічны тон і дадаў, зьвяртаючыся да мяне:

— Ты, брат, ня крычы, не абурайся, а то падойдзе „курвін сын", ды як лізьне цябе адзін раз па хлябалам—выб'юць яшчэ ў цябе пару зубоў. Паглядзі вось на Грознава—ён амаль зусім бяз зубоў застаўся.

Вышла, што ў той час, як ішлі мае таварышы ад шпіталю да чыгуначных казармаў, Грознаву выбілі некалькі зубоў.

— А, ну, разяў свой рот, пакажы свае зубы,—жартаваў Пятроўскі.

— Нам з табой добра, прынясуць хлеб, паямо, а вось таварышу і шамаць нельга. Прыдзецца нам для яго хлеб разжоўваць і ў рот класьці.

Мы забраліся ў кут і пачалі абмяркоўваць, як выбрацца з палону. Былі прапановы, дзесяткі комбінацый.

Недагарак даўно згас, а мы ўсё яшчэ сядзелі над нязбытнымі і фантастычнымі плянамі. Хто прапаноўваў разабраць сьцяну пакгауза, у той час, як акрамя рук у нас ня было ніякіх прыладаў, хто прапаноўваў захапіць зброю ў варты і ўсё накшталт гэтага.

Урэшце, зморанасьць апанавала ўсіх і, прытуліўшыся адзін да аднаго, мы заснулі.

Калі мы прачнуліся, быў, напэўна, ужо поўдзень. Але ў бараку было цёмна і людзі ўсё таксама былі абкружаны густой загародкаю, як і ўночы.

Дыхаць было цяжэй і цяжэй. Мы мачыліся тут-жа, бо ніхто ня мог рызыкнуць зьвярнуцца да канвойнага з просьбаю адчыніць дзьверы пакгауза, бо гэта паграджала шомпалам і катаваньнямі. Нас кінулі, як зьвяроў, у клетку, з той толькі розьніцаю, што зьвяроў звычайна кормяць.

Можна было звар'яцець, і па асобных бяссэнсавых словах, якія даносіліся да нас, мы адчувалі, што вар'яцтва ўжо ахапляе асобных таварышоў і пагражае перайсьці ў масавы псыхоз.

Адносна дабрабыту ў нашым гуртку мы абавязаны былі Пятроўскаму.

Чалавек з вялікай фізычнай сілай, ён прынёс з сабой настойлівасьць людзей з поўначы і іхнае ўменьне, бяз скаргаў, зносіць пакуту. У яго быў гумар, які ня зьнікае ні пры якіх умовах і была чуласьць, якая ствараецца пастаянным жыцьцём на людзях.

Усе гэтыя якасьці ведаў полк і ён іх захаваў пасьля жахлівых збойстваў апошніх дзён.

З першых-жа хвілін ён стараўся пераканаць нас, што нават у такім становішчы можна змагацца. У ім жыў правадыр і мы гэта адчувалі.

З ім усё здавалася прасьцей і вялікае жаданьне вырвацца з палону здавалася магчымым зьдзейсьніць.

Час ішоў з балючай марнасьцю. Варта забылася пра наша існаваньне, альбо лічыла нас надоўга выведзенымі з строю.

Мы зьбіраліся ўжо класьціся спаць, але дзьверы пакгаузу расчыніліся і пачулася вядомае: „Уставаць, выходзіць на двор“.

Мы вышлі з казармы на двор.

Вокрыкі, сьвіст шомпала, удары прыкладамі і мы рушыліся ў дарогу.

— Напэўна, расстрэльваць вядуць,—казалі ў шэрагах.

— Кіньце глупства,—зашыпеў Пятроўскі.

Хутка нешта зачарнела ўперадзе. Мы падышлі да таварных вагонаў, прырыхтаваных да нашай адпраўкі.

— Стой, курвіны сыны!—зараўлі канвойныя.

Нам загадана было па чарзе падыходзіць к вагону.

Зноў катаваньні, зноў пытаньне, зноў вымаганьні выказаць комуністых. Усё гэта пад акомпанімэнт шомпалаў. Ці ня надта шмат для двухтрох дзён?

Але каты ня спыняліся... З кожным новым новым днём лютасьць узрастала. Першая ператруска ў шпіталі здавалася дзіцячай забаўкай. Тут каля вагонаў была тая-ж разьюшанасьць, у якой мы стыкнуліся у комэндантуры.

Толькі пасьля допыту дазволілі забрацца ў таварны вагон.

Падышла чарга Пятроўскага і мая да пасадкі.

Пятроўскаму нанесьлі некалькі ўдараў па твары, але ён шпарка ўскочыў у вагон, зацісnуў маю руку, напэўна, думаючы уцягнуць мяне за сабой і гэтым выратаваць ад катаваньняў. Але ня тут-та было. Двох учапіліся мне ў нагу і сьцягнулі ізноў на зямлю. Як трапіў у вагон— не памятаю.

Усё цела ные. Галава цяжкая, не падняць.

Пашукаў каля сябе ў цемры і рукамі намацаў нечае цела.

— Хто?

— Пецька!

— Маўчы, а то яшчэ дададуць,—кажа Пятроўскі (гэта быў ён).

— Трымай галаву ніжэй, ляжы і сьпі, не гавары. Кладзі галаву мне на сьпіну і няхай гэта заменіць табе падушку.

— Вось чалавек!—падумаў я. Якой вялікай сілы і вытрымкі. Мне-б узяць з яго прыклад, нават у такой абстаноўцы здольны жартаваць.

Толькі пазьней я ацаніў тую вялікую сілу пяшчотнасьці і прыязьні, якую зрабіў у адносінах да мяне Пятроўскі. Ён сабраў усе свае сілы для таго, каб мяне слабога пасьля катаваньня, падбадзёрыць. Ён прыкідаўся моцным і спакойным у той час, калі сам ледзь стрымліваў рыданьні.

Я кладу сваю параненую, змучаную галаву на сьпіну Пятроўскага і спрабую заснуць. Я ўладжваюся на сьпіне сябра і сьлёзы крыўды і прыніжэньня цякуць з вачэй. Сябра адчувае і маўчыць. Ня сьпіцца. Перабіраю маток жыцьця... Далёкія гады, работы ў лесе...

Сьсячэш дрэва і яно з трэскам кідаецца на зямлю і гул ідзе па ўсім лесе.

Таварыш загінуў пад дрэвам, не пасьпеў уцячы. Паміраў у лесе. Вакол было ўрачыста і бела.

Дзесяткі сяброў гніюць, сярод адкідаў, памерлі ня ў бойцы, а пад палачнымі ўдарамі.

А ўперадзе-ж маячыла Варшава.

Палякі ня вытрымалі націску і адступалі.

Пад мерны стук калёс я пачынаю брэдзіць. Я іду у бойку, апошнюю бойку. Я павінен узяць апошнюю перашкоду. Я крычу „ура“.

— Цо холера,—чуецца нечы вокрык.

Скрыпнулі дзьверы, два салдаты кінуліся біць прыкладамі ўсіх, што ляжалі ў вагоне. Адбывалася ўсё гэта ў цемры і таму было яшчэ больш жахліва. Зрэдку чуўся стогн.

Усё-ж білі жывых людзей!

Пастарункі (канвойныя) нацешыліся даволі.

Білі датуль, пакуль не змарыліся. Потым зачынілі дзьверы і вышлі.

— Што з табой?—запытаўся ў мяне шопатам Пятроўскі.

— Ня ведаю, мне здалося, што я ізноў у палку.

— Дзівак, будзь асьцярожным, а то ўсе загінем ні за грош.

— Добра, я буду сіліцца і не драмаць.

Дрыжу, адчуваю, што ізноў вось-вось аддамся ва ўладу брэду.

Вагон ня спыняе ходу, мерна каціцца па рэйках:

— Куды нас вязуць?

Астаноўка. Скрыпяць дзьверы вагону.

— Прыехалі, зараз будзем выходзіць. „Уставаць, курвіны сыны“,— крычаць палякі.—Зараз будзем выходзіць.

Усе падняліся.

Нехта набраўся сьмеласьці і пытае пастарунка, на якую станцыю прыехалі. Заместа адказу атрымоўвае ўдар прыкладам. Выходзім на пляцформу. Строімся па чатыры ў рад.

Зірнуўшы ў напрамку, дзе павінна быць станцыя, чытаю надпіс: „Волковыск“.

— Нас прыгналі ў Волковыск,—шапчу Пятроўскаму.

— Гэта недалёка ад нашай граніцы.

— Калі нашы возьмуць Вільну, дык яны да нас хутка дабяруцца.

— Ідзі,—камандуе вартавы уньцер афіцэр.

Вартавыя абкружаюць нашу групу цесным колам. Мы ідзем уперад. Ня верыцца, што я здолею маршыраваць.

Упяршыню пасьля доўгага перапынку хочацца пакурыць. Шукаю ў кішэні, разьлічваў знайсьці крыху махоркі. Выняў кісет, дастаў з яго газэтную паперку, каб скруціць казіную ножку.

На шматку, загаловак „Праўды“. Я ўглядаюся ў чарнату літараў, моцна двума рукамі ўтрымліваючы родны кавалачак паперы.

Канвойны б'е мяне шомпалам па руках. Кісет і папера ляцяць на зямлю. Кісет падбірае канвойны, а шматок паперы падхоплівае вецер і адносіць. Я праважаю яго вольны палёт.

Мы падходзім да агароджанага калючым дротам будынку. За агароджай зьнікае сьвет. На агароджы дашчэчка з надпісам: „Управа Волковыскага Комэнданта“.

# КРОК ЗА КРОКАМ

З. Бандарына

*Прысьвячаецца—*
*Таму, хто ў агні гартаваны,*
*Хто буру ў зацішку пазнаў*
*Заместа нябёскай манны,*
*Вітаючы буйны шквал.*

Ад варштатаў
і рунеючых палёў
творчых дзён
імчыцца эшалён.

Зоры ў травах,
у ветра-хвалях—
шалясьцяць
гучна струнным
пераборам лічбу
ПЯЦЬ.

Праз туман,
над мшыстым
курганом
сталь лілёвая
электра-
правадоў,
у рыштаваньнях
сонечных
Комун,—
гімн зьвініць народжанаму дню:

— За працаю,
з працай
штодзенна,
сумленна.
Прагулам,
нядбайству—
упартасьцць
на зьмену.

Мінуты—
у хвалі,
жыцьцё—
ў завіруху...
І блізкая
далеч
кіруе
рухам.

Рубільнік
сталёвы
машына
ня зломіць,
у новае
новымі
ўрастаюць
заводы.

Правады,
правады,
правады...
Бязупыннай
гудуць
пераклічкай.
Комсамолец
—юнак
брыгадзір
перамогу
вітае
ў лічбінах.

Дні,
гадзіны
і тыдні...
Хто і калі
іх зьлічыў!
Зіма
пагражала
стыньню,
вецер буяніў
злачынцам.

Па вуліцах роднай сталіцы
грукаціць адвячоркам трамвай,—

там няспынна у далеч
імчыцца
маладога імпэту хваля.

Па вуліцах роднай сталіцы
выскаляецца рэклямны сьвет.
У вагністых плянованых
лічбах
Новы Менск нараджаўся
гарэў.

А у сонцам
прыжмураны ранак—
пераклічка
знаёмых гудкоў,
урачыстая
арка вакзалу
і паводка
аўто...

XIII,
партыя Леніна
упартай
крочыць
хадой.
Ударнікі, чуеш—
заве яна
да пляну
Вялікай будоўлі.

Адказ —
прамфінплянам сустрэчным
— сірэны фабрык, заводаў
а сьледам:
Тэ -
ле -
фо -
на -
гра -
маю
па
пра -
ва -
дох:
— Партзьезд вітаем
скончаным севам!—

Гордым акордам хваль,
музыкай творчых будняў—
узьняўся магутны шквал
у нетрах глухіх,
непрабудных.

Кожнаму з нас,
хто гарыць
Зоркай
Сусьветнай
Комуны, —
радасьць
нясуць правады,
веру гартуюць
колюмны.

Сэрца,
вызваньвай
радасьць,
Вочы,
глытайце
плянэту!

Мудрая
з мудрых
нарада
плянуе
імкнёнасьць
гэтую!

Ліпень, 1930 г.
Ялта.

# ЧУЖЫ*)

*(Роман)*

**Д. Сьверчкоў**

## Разьдзел пяты

1

— Здрадніцкі напад японцаў на расійскі флёт!—крычэлі, захлынаючыся, газэтчыкі, ледзь спраўляючыся раздаваць у публіку, якая сабралася вакол іх, сьвежыя адбіткі тэлеграм і атрымліваць за іх пятакі.

Сабураў праціснуўся ў натоўп і ўзяў лісток.

*„Найпадданейшая тэлеграма*

*Яго Імпэратарскай Вялікасьці ад Намесьніка на Далёкім Усходзе.*

*Найпадданейша даводжу да Вашай Імпэратарскай Вялікасьці, што каля паўночы з 26 на 27 студзеня японскія мінаносцы раптоўна атакавалі мінамі эскадру, якая стаяла на вонкавым рэйдзе цытадэлі Порт-Артуру, прычым браняносцы „Рэтвізан“, „Цэсарэвіч“ і крэйсар „Паляда“ атрымалі прабоіны,—ступень іх сур‘ёзнасьці высьвятляецца. Падрабязнасьці падам Вашай Імпэратарскай Вялікасьці дадаткова.*

*Генэрал-ад‘ютант Аляксееў“.*

Сабураў сьціснуў зубы. Дабіліся! Стары князь і Ржэўскія, мусіць, ня толькі прадалі паперы дзяржаўных пазык, але і купілі акцыі заводаў, якія цяпер пойдуць угару ў сувязі з хваляй дзяржаўных заказаў на вайсковыя патрэбы.

Тэлеграмы бялелі шматкамі сярод застыўшай хвалі людзей. Тыя, што не пасьпелі яшчэ купіць, пыталіся ў другіх, якія ўжо прачыталі. Апошнія ахвотна паведамлялі пра навіну, прычым дадавалі сваю ацэнку.

— Ну, і ўсыплем-жа мы гэтай брыдзе!—напышліва выхваляўся адстаўны вайсковы ў папярочных палкоўніцкіх наплечніках, гладзячы вусы і адчуваючы сябе героем дню.—Толькі вось зносіны з Далёкім Усходам цяжкаватыя. Якім здагадлівым быў нябожчык цар, калі будаваў

*) Працяг. Гл. „Полымя“ № 4, 5—6, 8 за 1930 г.

сібірскую магістраль! Усё-ж такі справімся ў якія два-тры месяцы. Нам патрэбна замацавацца на берагох Ціхага акіяну.

— Але страты, нанесеныя нашаму флёту?..—нясьмела з запытаньнем сказала адна з дам, якая з захапленьнем глядзела ў твар палкоўніку.

— Глупства! Канешне, прыкра. Не разумею, як гэта вышла. Эскадра-ж павінна была мець ахоўную варту. Ня так ужо і лёгка падкрасьціся і пусьціць міну... Ну, нічога. Там яшчэ асталася дастатковая колькасьць вайсковых караблёў, а ў выпадку патрэбы, вышлем адгэтуль з Кронштадту.

— Цару цяпер столькі клопатаў!—прашаптала дама, падняўшы вочы да неба.

— Усе зьяднаемся вакол яго вялікасьці. Русь зьлiецца ў адно ў абурэньні супроць здрадніцкага нападу японцаў.

Сабураў скамячыў тэлеграму і ткнуў яе ў кішэню. Калі-б яны ведалі праўду!

Ён пайшоў па Неўскім. У галаве круціўся мотыў з „Гейшы“: „Чон-кіна, чон-кіна Нагасакі, Ёкогама, Хакодашэ гой!“ і ад яго ніяк нельга было адчапіцца.

Што цяпер будзе? Як вайна адаб'ецца на агульным становішчы Расіі? Якую позыцыю будзе займаць партыя? Няўжо і тут будуць рознагалосьсі паміж прыхільнікамі Леніна і Мартава? Дужа патрэбна было-аба ўсім гэтым зараз-жа даведацца. Але куды ісьці? І хто можа адказаць на ўсе гэтыя пытаньні?

Зірнуўшы навакол, Сабураў убачыў, што стаіць перад будынкам, дзе жыве Шурынаў. Узышоў па ўсходках, пазваніў, увайшоў.

У габінэце Шурынава ішлі спрэчкі. Сабураў пачуў крыху скрыплівы голас профэсара Паўлы Мікалаевіча Мілюкова, які аўторытэтна тлумачыў прысутным:

— Вайна гэтая, зразумела, будзе вадой на млын вызваленчага руху. Нам патрэбна знайсьці цьвёрдую лінію паводзін. З аднаго боку, мы павінны прыкласьці ўсе сілы да таго, каб гонар Расіі, як дзяржавы, астаўся зусім непарушаным, а з другога—пераканаць урад, што яму неабходна абаперціся на ўсе грамадзкія сілы, без якіх ён ня зможа выканаць паўстаўшай перад ім гістарычнай задачы. Мы ня можам ня выкарыстаць становішча, якое стварылася, мы павінны прыцягнуць на свой бок войска, а для гэтага, поруч з узмацненьнем пропаганды за ўдзел прадстаўнікоў краіны ў справе кіраваньня дзяржавай, мы павінны перш за ўсё крыкнуць: няхай жыве армія! Гэты кліч, бясспрэчна, знойдзе шырокі водгук у колах перадавога афіцэрства, з якім мы, такім чынам, замацуем і пашырым сувязь і ўзмацнім іх сымпатыі да вызваленчага руху.

— А мне здаецца, нам у першую чаргу трэба распачаць кампанію выкрываньняў з тлумачэньнем сапраўдных прычын вайны. Больш характэрны прыклад выкарыстаньня дзяржаўнага апарату дзеля інтарэсаў вузкай купкі вялікіх князёў, адмірала Аляксеева, Абазы, Безабразава

і іншых, цяжка было-б нават знайсьці! Бязглуздасьць вайны з Японіяй ніколі ня зробіць яе папулярнай, і яна нічога, апрача ганьбы ўраду ня дасьць. Лёзунг Паўлы Мікалаевіча: няхай жыве армія!—толькі саб'е з панталыку нават шчырых яго пасьлядоўцаў, бо гучыць такім квасным патрыётызмам, ад якога, як я мысьліў, мы даўно адышліся на вялізарную адлегласьць. Народ гэтай вайны ніколі не зразумее,—горача спрачаўся Шурынаў.

— Я думаю,—перапыніў яго Мілюкоў,—у нашым гуртку можна не гаварыць пра народ: мы-ж не на якім-небудзь шырокім сходзе. Народ—гэта быдла, якое покуль яшчэ ідзе і будзе вельмі доўга ісьці за шапкай павятовага спраўніка. Наконт непапулярнасьці вайны я таксама нязгодны. Вайна будзе адбывацца так далёка ад рубяжоў эўрапэйскай Расіі, што тут мы яе наўрад ці адчуем, хіба толькі з тэлеграм агентаў.

Сабураў раптам адчуў такую нуду, што цішком апрануўся і вышаў.

## 2

Ён вярнуўся на Неўскі. Газэтчыкі, як і раней, раздавалі тэлеграмы ў публіку, якая сабралася вакол іх. Вайна была адзінай тэмай для гутарак.

— Добры дзень, Уладзімер Мікалаевіч!—раптам пачуў ён, падняў галаву і ўбачыў перад сабой прыветны тварык Каці, які выглядаў з хутровага каўняра паліто. Побач з Кацяй стаяла высокая бялявая дзяўчына і зацікаўлена разглядала Сабурава.

Сабураў узрадаваўся з гэтага спатканьня і моцна паціснуў пададзеную яму руку.

— Дазвольце вас пазнаёміць: князёўна Сіцкая. Уладзімер Мікалаевіч Сабураў, пра якога я табе апавядала,—сказала Каця, зьвяртаючыся да князёўны.

— Я і не меркаваў, што зьяўляюся тэмай для апавяданьняў,—усьміхнуўся Сабураў, вітаючыся з князёўнай.

— Мы накіроўваліся купіць што-колечы ў Гасьцінны двор і спыніліся, каб купіць тэлеграму,—Каця выцягнула з муфты складзеную паперку.—Вы ўжо чыталі?

— Так. І ўспомніў адну гутарку, якая мела месца ў Ржэўскіх з год назад.

— Можа, вы дапаможаце нам аблюбаваць тканіны на сукню?—сказала Каця.

— З прыемнасьцю, хаця нічога ў гэтай справе не разумею.

— Тады пойдзем. Што вы думаеце аб вайне? Хаця гэтую тэму кратаць небясьпечна пры вашых пераконаньнях.

— Не, чаму-ж? Я думаю, што гэтая вайна ня можа быць папулярнай: яна-ж ня мае зусім нічога супольнага з інтарэсамі рускага народу і распачалі яе толькі дзеля выгоды некалькіх асоб...—пачаў Сабураў і зараз-жа падумаў, што паўтарае думку Шурынава, якую толькі цяпер

чуў.—Вось што,—паправіўся ён,—давайце нічога не гаварыць пра вайну тут,—Неўскі для гэтага зусім не падыходзіць.

— Я чула, што вы вельмі левы?—зьвярнулася да Сабурава Сіцкая.

— Ну, гэта за вельмі гучна сказана. Проста шмат якія думкі і разуменьні здаюцца мне старымі і існуюць толькі па інэрцыі.

— Гэта якраз тое, пра што я часта думаю. Але ў нашым асяродзьдзі на гэтыя тэмы нават няма з кім гутарыць.

— Скажу вам пад сакрэтам,—узяла Кацю пад руку Сабурава і нахілілася да яго.—Учора ў Ржэўскіх была адна асоба і паведаміла, што ёсьць проект абвясьціць поўнае памілаваньне тым з палітычных высланых, якія пададуць заяву аб жаданьні стаць добраахвотнікамі ў арміі і змагацца супроць японцаў. Ці будзе гэты проект мець посьпех, зразумела, невядома, але шмат хто горача яго падтрымліваюць. Што вы наконт гэтага мяркуеце?

— Думаю, што гэта будзе бескарысна, гэта значыць,—паправіўся Сабураў,—што ніякіх пажаданых для ўраду вынікаў проект ня дасьць. Калі хто-небудзь згодзіцца на гэта, ён ужо не рэволюцыянэр, і, такім чынам, увесь палітычны сэнс проекту адпадае.

— Глядзеце, глядзеце, што гэта наперадзе?—раптам сказала Сіцкая.

Па Неўскім здалёк ішоў вялізарны натоўп з абразамі і з трохкаляровым сьцягам наперадзе.

Далятаў сьпеў „божа, цара храні“. Публіка шпалерамі спынялася на панэлі. Некаторыя далучаліся да процэсіі. Гарадавыя камянелі з рукой пры брылі.

— Патрыётычная маніфэстацыя,—крыва ўсьміхаючыся, сказаў Сабураў, адчуваючы, як у грудзях у яго ўсё кіпіць ад агіды і як вялізарнасьць натоўпу тысячапудовым цяжарам кладзецца на сьвядомасьць.

З набліжэньнем маніфэстацыі мужчыны, што стаялі на панэлях, скідалі шапкі і капялюшы. І ўсё-ж побач са сьпяваньнем гімну чуліся моцныя крыкі: „Шапкі далоў! Шапкі далоў!“

Сабурава ахапіла дрож. Хацеў хутчэй сыйсьці куды-небудзь у магазын ці ў папярочны завулак, каб толькі ня скідаць шапку перад портрэтам цара і нацыянальным сьцягам, але было зусім немагчыма раптам пакінуць Кацю і князёўну Сіцкую. Ён скорчыўся, забегаў вачыма па бакох, але, раптам, зірнуўшы на блізкую ўжо маніфэстацыю, шырока адчыніў вочы. Сумненьня ня было. Сярод маніфэстантаў была вялікая колькасьць рабочых. Яны таксама сьпявалі і крычалі „ура“!

— „Шапку далоў!“—зароў амаль ня ў самае вуха Сабурава нейкі высокі мужчына ў чорнай шапцы з брылем і Сабураў адразу адчуў яго моц і сваю мізэрнасьць.

Рука машынальна ўзьнялася да брыля шапкі і скінула яе. Косым поглядам ён азірнуўся на Кацю. Яна нічога ня бачыла, захопленая нечаканым відовішчам. Князёўна Сіцкая таксама глядзела на натоўп. Сабураў выняў насоўку, потым зноў паклаў яе ў кішэню і стаў прыгладжваць

рукой свае валасы, нібы ён апрастаў галаву толькі для гэтага. Як толькі пярэдняя частка маніфэстацыі са сьцягам і портрэтам прайшла міма, Сабураў шпарка надзеў шапку. Натоўп яшчэ ішоў на ўсю шырыню Неўскага проспэкту і канца яго ня было відаць.

— Як вам падабаецца процэсія?—запыталася Каця.

Сабураў хацеў знайсьці ў яе запытаньні схаваную насьмешку, але яна глядзела на яго яснымі вачыма.

— Натоўп заўсёды будзе натоўпам,—адказаў Сабураў, сам добра не разумеючы, які менавіта сэнс трэба было ўкласьці ў гэты сказ.

— Пойдзема з імі. Яны ідуць да Зімняга палацу. Напэўна, да іх выйдзе цар. Я хачу паглядзець,—сказала Каця.

Сабураў адмовіўся, спасылаючыся на неабходнасьць ісьці па справах, выняў гадзіньнік і з робленым непакоем глянуў на іх.

— У такім выпадку, да пабачэньня.

Сіцкая моцна паціснула руку Сабурава, упарта паглядзела яму ў вочы і сказала:

— Я ведаю, што вы вельмі заняты, але можа быць у вас знойдзецца хвілінка пазваніць па тэлефону 5-55-55,—мы наўмысьле выбралі такі нумар, каб яго было лёгка запомніць. Вельмі здаволена, што спаткалася з вамі. Пяць разоў па пяць, не забудзецеся?

3

Сабураў выняў з шуфлядкі стала бутэлечку з бескаляровай вадкасьцю; узяў чыстае пяро і пачаў пісаць на лістку паштовай паперы корэспондэнцыю ў „Іскру“.

„Трымаецца ўпартая чутка, што пры пераправе праз Байкал затанула 3000 салдат. З артылерыйскага складу паведамляюць, што разам з баявымі на фронт пасылаюцца вучэбныя набоі. Калёсы для гармат аказаліся папсаванымі і іх толькі цяпер пасылаюць у рамонт. Сакрэтным загадам начальнікам дывізій і камандзірам палкоў загадана організаваць збор ахвяраваньняў на вайсковыя патрэбы сярод салдат, прычым рэкамэндуецца адлічэньне пэўнага проценту (напрыклад, 1 проц. з салдацкае пэнсіі, а салдаты атрымліваюць $22^1/_2$ капейкі ў месяц). Па заводах ад рабочых вымагаюць такіх самых адлічэньняў на пабудову мінаносцаў. Ад міласэрных сясьцёр бяруць падпіску, што яны ня будуць пісаць з арміі закрытых лістоў, а толькі паштоўкі, і нічога не паведамляць пра разьмяшчэньне войска...“

Сабураў пісаў не пакідаючы ніякага сьледу на паперы пяром, правяраючы напісанае толькі па бляску нявысахшай бескаляровай вадкасьці.

На лістку паперы ўжо быў напісаны па-нямецку ліст з паведамленьнем пра ход спраў з продажам расійскім фірмам хірургічных інструмантаў і з запытаньнямі пра магчымасьці крэдыту буйным пакупнікам. Гэты тэкст быў напісаны раней звычайным атрамантам, а цяпер Сабураў дроб-

ным уёмістым почаркам упісваў паміж яго радкоў корэспондэнцыю. Скончыўшы яе і даўшы высахнуць хэмічнаму атраманту, ён уклаў ліст у каляровы конвэрт і надпісаў адрас: Пану Краўзэ, агулавы склад хірургічных інструмантаў у Франкфурце на Майне.

— Тфу, чорт, забыўся на самае галоўнае!—прамармытаў ён, выняў зноў ліст з незаклеенага яшчэ конвэрту і размашлівым почаркам напісаў унізе на левым рагу дату: 5 сакавіка 1904 г. Па напісанай на гэтым месцы ліста даце, адрасат зразумее, што ён павінен быць неадкладна перасланы ў Швэйцарыю на адрас „Іскры“.

Лічба пяць прыцягнула ўвагу Сабурава. Пяць разоў па пяць... Тэлефон. Хіба пазваніць? Вечар якраз быў вольны.

Апрануў паліто, наклеіў на конвэрт 10 капеечную марку і вышаў на вуліцу. Зайшоў у цукерню і папрасіў дазволіць пазваніць па тэлефону.

Адказаў жаночы голас.

— Князёўна дома?—запытаўся Сабураў і раптам успомніў, што ня ведае яе імя і па бацьку, што ў яе могуць быць сёстры...

— Я сама гавару,—пачуў ён адказ.

— Добры дзень. Я—Сабураў, памятаеце, мы пазнаёміліся ў часе маніфэстацыі?

— А я ўжо думала, што вы забыліся які мой тэлефон. Вельмі рада, што пазванілі.

Князёўна паведаміла, што яна адна, што ўсе яе хатнія паехалі на некалькі дзён у Маскву, што ёй вельмі нудна і яна будзе рада, калі Сабураў прыдзе яе наведаць. Ён абяцаўся, прычым зьдзівіўся, што яна запрашае яго да сябе ў дом, тады, калі ён незнаёмы з яе бацькамі, але растлумачыў гэта яе вольнадумствам, пра якое яна пасьпяшыла сказаць яму пры першым знаёмстве.

Праз поўгадзіны Сабураў званіў ля пад‘езду багатага дому. Яму адчыніў швайцар у ліўрэі з бакэнбардамі, з выгаленымі вусамі і падбародкам, што зрабіла яго падобным да амэрыканца.

Сіцкая спаткала Сабурава ў перадпакоі.

— Як добра, што вы пра мяне ўспомнілі,—усьміхаючыся сказала яна, моцна, па-мужчынску, паціскаючы яго руку.—А я зусім адна. Нават пакаёўку сваю адпусьціла. Хадзеце на маю палову.

Яны прайшлі доўгую амфіляду пакояў. Сіцкая адчыніла вялікія цяжкія дзьверы і ўвяла Сабурава ў маленькую гасьцінную.

— Тут ужо мае ўладаньні. Сядайце і расказвайце,—паказала яна рукой на шырокую пэрсыдзкую канапу.

— Перш за ўсё дазвольце даведацца, як вас зваць.

— Кацярына Мікалаеўна.

— Таксама Каця?—вырвалася ў Сабурава.

Сіцкая засьмяялася.

— Хіба вы графіню завеце скарочаным імем?

— Не...—замяшаўся Сабураў.—Я-ж ведаў яе зусім дзяўчынкай.

— А вас завуць Уладзімер Мікалаевіч,—я, як бачыце, добра запомніла.

Сіцкая была ў лёгкім хатнім адзеньні з кароткімі рукавамі. Вялікая сьветларусая каса нядбайна абкруцілася вакол галавы і была прышпілена трыма ці чатырма чарапахавымі шпількамі, і здавалася, што яна вось-вось распусьціцца і цяжкой вужакай абаўецца вакол яе цела.

Сіцкая заўважыла, што Сабураў кінуў погляд на яе гарнітур і сказала:

— Я не апраналася для прыйма гасьцей. Даруйце, калі гэта вам не падабаецца. Але я ўжо казала, што ненавіджу ўсякія ўмоўнасьці і, калі магчыма, стараюся іх унікаць. А мне здалося, што з вамі гэта можна. Праўда?

Сабураў паказаў на сваю куртку.

— Усе перавагі на вашым баку.

— Раскажэце мне што-небудзь пра рэволюцыю,—сказала яна, усаджваючыся на канапу і падабраўшы пад сябе ногі.

— Ваша пытаньне паказвае, што вы мала ведаеце пра рэволюцыйны рух, таму што ў гэтай агульнай форме на яго адказаць немагчыма. Народ нездаволены існуючым урадам і організоўваецца, каб яго зьмяніць. А з тае прычыны, што такая перамена мірным шляхам адбыцца ня можа, дык даводзіцца рыхтавацца да гвалтоўных падзей,ісьці на ахвяры.

— А вы самі ўваходзіце ў рэволюцыйны гурток?

— На такое пытаньне таксама звычайна не адказваюць. Правільней, яго не задаюць, па колькі ўдзел у гурткох забараняецца паліцыяй і жандармамі і мае за сабой высылку, калі ня горш.

— Я і без таго здагадваюся, што ўваходзіце. Вось што. Давайце кінем усякія цырамоніі, а я лепш сама ў вас запытаюся пра тое, што мяне асабліва цікавіць. Вы верыце ў бога?

— Не.

— У нашай сям'і таксама ніхто ня верыць. Акрамя, быць можа, аднэй бабулькі. Але кажуць, што рэлігія патрэбна для таго, каб трымаць у паслухмянасьці народ. Інакш ён ня будзе прызнаваць нічога сьвятога і стане зусім распусным. Дзеля гэтага мы прымаем сьвяшчэньнікаў у вялікія сьвяты, акуратна ходзім у царкву, гавеем. Гэта робіцца для прыкладу другім. Інакш нельга. І ведаеце, хто менш за ўсё верыць у бога? Самі служкі боскія. Яны гэтага інады нават не хаваюць. Ды і нельга верыць, калі сам робіш заўсёды ўсякае глупства, якое называецца „таінствамі“ і нясеш такую лухту, як малітвы... Ох, як-бы мяне аблаяла бабулька, каб пачула, што я кажу!—засьмяялася яна.

— Строгая?—усьміхаючыся, запытаўся Сабураў.

— Фэномэнальна! Яе ўсе ў нас страшэнна баяцца. Але скажэце, у прыродзе-ж так многа незразумелага. Ці не бярем мы на сябе сьмеласьць адмаўляць тое, што ня ведаем? Ці ня ёсьць гэта проста палітыка страуса?

— У мяне наконт гэтага свая тэорыя,—сказаў Сабураў.—Мне няма ніякай справы да таго, існуюць ці зусім ня існуюць якія небудзь рэчы

або прадметы, адчуваць якіх я не магу пры дапамозе сваіх пачуцьцяў. Напрыклад, мы прымаем колер паперы за белы, вашага адзеньня—за ружовы, гэтых порт'ер—за зялёны, але-ж гэта толькі атабражэньне ад гэтых прадметаў праменьняў спэктру, якія маюць такі колер, а ў сапраўднасьці ўсё афарбавана ў нейкі невядомы нам колер і адрозьніваньне яго на розных рэчах заключаецца толькі ў тым, што адна адбівае ўсе праменьні сьвятла і з гэтай прычыны прадмет здаецца нам белым, другая адбівае толькі чырвоныя, трэцяя—паглынае ўсе праменьні і здаецца нам чорнай. А якога колеру яны ў сапраўднасьці? Пра гэта мы ніколі не даведаемся, бо гэты іх натуральны колер можна ўбачыць толькі ў абсолютнай цемры, пры адсутнасьці ўсякіх праменьняў, але тады мы зусім нічога ня бачым... Ці ўплывае як-небудзь гэтая акалічнасьць на нашае жыцьцё? Ніяк. Навошта-ж я буду ламаць сабе галаву і біцца над разьвязваньнем задачы, якую, напэўна, нельга разьвязаць. Тое самае і наконт існаваньня бога. Ці ён ёсьць, ці яго няма, я ня ведаю, і гэта мне зусім ня цікава. Яго адсутнасьць ці існаваньне ня можа ўспрыняць ніводнае з пачуцьцяў, якія мае чалавек, а значыць усе разважаньні пра яго зьяўляюцца бяссэнсіцай.

Сіцкая пасунулася бліжэй да яго і паціснула яму руку.

— Калі ласка, гаварэце. Вы паўтараеце менавіта тое, пра што я думаю, але ў такой адлітаванай і скончанай форме, да якой я яшчэ ня прышла.

— Я вам падам прыклад. Уявеце сабе на хвіліну, што бактэрыі, якіх мы бачым у кроплі вады пад мікроскопам, маюць сьвядомасьць. Ці ёсьць у іх і ці могуць у іх быць якія-небудзь пачуцьці, пры дапамозе якіх яны маглі-б даведацца пра існаваньне чалавека? Зразумела, няма. Яны нават і не падазраюць, што мы разглядаем іх у мікроскоп. Цяпер скажэце, ці ёсьць у нас хоць якая-небудзь падстава сьцьвярджаць, што ў прыродзе няма яшчэ якіх-небудзь іншых істотаў, да якіх мы стаімо ў той самай прапорцыі, што і бактэрыі да нас? Магчыма, што ёсьць. Але якая мне да іх справа, калі я не магу ні ў якой меры ўспрымаць іх існаваньне і калі яны ніякага дачыненьня да нашага жыцьця ня маюць?

Сіцкая раптам уздрыгнула. На ілбе яе лягла маршчынка, але хутка разгладзілася.

— Няўжо і нас з вамі зараз хто-небудзь разглядае ў мікроскоп?— засьмяялася яна.—Я не хачу!

Яна саскочыла з канапы і спусьціла на вокнах цяжкія шторы. Потым запаліла маленькую настольную лямпачку, пакрытую кулькай зялёнага каўпачка і згасіла люстру. Пакой патануў у паўзмроку.

— Так ня ўбачаць, хаця-б і глядзелі,—сказала яна і села зноў поплеч з Сабуравым.

— Ведаеце, мне здаецца, я цяпер ня буду спакойна спаць ад гэтай думкі. Як цяпер распранацца?

— Ня думайце пра гэта,—вось і ўсё.

— А што дасьць рэволюцыя жанчыне?

— Перш за ўсё жанчына больш ня будзе нявольніцай, рэчай, якой загадваюць мужчыны па сваім угледжаньні. Поўнае роўнапраўе.

— Так...—працягнула Сіцкая задуменна.—Вы ня ведаеце, як я зайздрошчу кожнаму хлапчуку. У жыцьці і так мала прастору, а нас замкнулі ў такія вузкія рамкі, што крануцца цесна. Тое—няможна, другое—не пасуе, трэцяе—недазволена дзяўчыне... Адным словам, сядзі сьціпла склаўшы ручкі і чакай, покуль хто-небудзь з вас зьверне на цябе сваю ўвагу і зробіць гонар быць яго жонкай. А пасьля гэтага вольнасьці яшчэ менш! Я ненавіджу свой род...

— Так. Я ведаў адну, якая застрэлілася ад гэтых думак,—задуменна і з журбою сказаў Сабураў.

Сіцкая з цікавасьцю глянула на яго.

— Вы яе кахалі?

— Не. Я вельмі мала яе ведаў. Але мог пакахаць.

— А чаму яна застрэлілася?

— Пасьля дэмонстрацыі 3 сакавіка 1902 году. Ня вытрымала збойства, прышла да думкі, што да рэволюцыйнай барацьбы не падыходзіць... Таксама праклінала лёс, які зрабіў яе жанчынай.

— Вы вельмі пакутвалі?—ціха спыталася Сіцкая.

— Так.

Яна ўзяла яго руку і пагладзіла.

— Бедны...

Сабураў нахіліўся і пацалаваў яе руку.

— Мне з вамі так добра,—зашаптала Сіцкая, зусім схіляючыся да яго.—Я ведала, што гэтак будзе, і таму дужа хацела, каб мы спаткаліся...

Раптам Сабураў адчуў, што яна хоча, каб ён яе абняў. Ён узьняў галаву і ўбачыў яе глыбокія ласкавыя вочы, што глядзелі на яго з захапленьнем і з любасьцю. Ён прыгарнуў яе да сябе і прыціснуў вусны да яе маленькага гарачага ратка, які адказаў моцным пацалункам, адчуваючы трапятаньне і млявасьць, якая агарнула ўсё яе цела. Ён цалаваў яе вочы, шчокі, вусны, рукі, нібы ўсё так і павінна было быць, нібы менавіта за гэтым ён і пазваніў па тэлефону і прышоў да яе.

Раптам Сіцкая рэзка вырвала ад яго рукі і парыўна ўстала, адышлася да вакна і схавала твар у фіранку. Сабураў падышоў да яе.

— Што з вамі?

Яна маўчала. Потым плечы яе пачалі ўздрыгваць, і Сабураў убачыў, што яна плача.

— Любая, што з вамі? Я вас пакрыўдзіў? Даруйце...

— Вы мяне цяпер... ня будзеце паважаць...—пачуў ён шэпт.

Ён узяў яе за рукі, моцным рухам пакруціў да сябе. Яна хавала твар, намагалася вырвацца.

— Слухайце, гэта-ж дзіка! Мы толькі што гаварылі пра тое, што мы ворагі ўсякіх забабонаў і цяпер вы мяне падазраеце ў мяшчанстве!..

Я быў такі шчасьлівы, здавалася, што мы з вамі сталі такія блізкія, хацелася выказаць вам усё, усё, самае патаемнае... Я паддаўся незразумеламу парываньню... Я, бязумоўна, вінаваты... Калі-б вы ведалі... Мяне агарнула захапленьне, я не падумаў пра вас... Вы раптам сталі мне чамусьці такой роднай... І мне здавалася, што ўсё гэта так натуральна...

Сабураў гаварыў гэта, спусьціўшы галаву і не глядзеў на Сіцкую, якая прыслухоўвалася да яго слоў і прагна ўглядалася яму ў твар. Яна дакранулася да яго рукі.

— Гэта праўда, што вы гаворыце?

— Хіба вы не адчуваеце?

Сабураў глянуў ёй у твар. На вейках яшчэ дрыжэлі дробныя сьлязінкі, але вочы яе блішчэлі радасьцю і на вуснах сьвіцілася ўсьмешка.

— Я вам веру. Але больш... ня трэба так...—апусьціла яна вочы. Яна села на крэсла, запрасіўшы Сабурава заняць старое месца на канапе. Сабураў думаў пра тое, што здарылася між імі і раптам зразумеў, што яна здагадалася, што ён сапраўды адчувае да яе менш павагі, чым да другіх дзяўчат, якія, бясспрэчна, ніколі не дазволілі-б цалаваць іх пры першым спатканьні. Хацелася абвінаваціць у гэтым толькі сябе аднаго, але-ж яна сама выклікала яго на гэта, яна адказвала на яго пацалункі, ды ён ніколі і не адважыўся-б яе абняць, калі-б не адчуў, што яна гэтага хоча! Няўжо да яе наогул так лёгка дацтупіцца? Ён разглядаў яе і намагаўся знайсьці адказ на гэтае пытаньне. Але яна нічым не адрозьнівалася ад іншых знаёмых яму вельмі выхаваных дзяўчат з яе асяродзьдзя. Такое сумненьне абуджала жаданьне азнаёміцца з ёй бліжэй. Дужа хацелася ашукацца ў сваіх меркаваньнях, хацелася, каб яна была асаблівай, лепшай за ўсіх іншых, нязвычайнай, менавіта такой, якую ён марыў калі-небудзь спаткаць і назваць сваёй жонкай...

— Ведаеце,—сказаў ён.—Давайце будзем зусім шчырымі... Я адчуваю, што магу вас пакахаць. Вы мне адразу спадабаліся тады, на Неўскім, калі я вас спаткаў з Кацяй. Але я падумаў, што вы такая-ж, як усе,—тым больш, што вы ішлі купляць убёры. Я не хацеў знаёміцца з вамі менавіта таму, што мне было-б цяжка пераканацца ў праўдзівасьці гэтага. Чаму я сёньня пазваніў—ня ведаю. Захацелася. Давайце ўмовімся: зразумеем адно аднаго і, калі я з вашага боку спаткаю сур'ёзнае пачуцьцё і калі сам сапраўды пакахаю вас, будзем жыць разам. Добра?

— Я згодна.

— А як спаткае гэта ваша радня?

— Я думаю, што з іх боку ня будзе перашкод. Вы—з вельмі добрай сям'і. Гэта ім самае галоўнае.

— Але вы багатая, а я нічога ня маю...

— У вас дык я ўпэўнена, што не ажэніцеся дзеля грошай,—горача сказала яна.

Сабураў з удзячнасьцю глянуў на яе.

— Як гэта неяк цікава,—казала яна.—Мы гаворым з вамі першы раз, былі разам менш, чым дзьве гадзіны і ўжо сур'ёзна абмяркоўваем пытаньне аб супольным жыцьці...

— Дайце веры, што мне гэта ня толькі ня прыходзіла ў галаву, калі я ішоў да вас, але я быў таксама далёкі ад такой думкі, як і ад філёзофіі Конфуцыя,—сказаў Сабураў, але тут-жа адчуў, што гаворыць няпраўду, што недзе глыбока, можа ня зусім усьвядомленае было імкненьне сысьціся бліжэй з прыгожай і багатай дзяўчынай з радавітай княскай сям'і,—не таму, што ён да гэтага імкнуўся, а таму, што такі шлюб разьвязаў-бы безьліч вострых пытаньняў з асабовага жыцьця: можна займацца той справай, якая падабаецца, а ня тэю, якая дае заработак, можна адчуваць сябе зусім вольным і ні ад кога не залежным, нарэшце, можна прынесьці больш карысьці рэволюцыі. Цяпер гэта раптам стала зусім блізкім, дасягнёным. Вось яна, тут, варта толькі выпрастаць рукі і ўзяць яе. Што ён зможа абудзіць у ён сапраўднае пачуцьцё, ён не сумняваўся.

Трэба заняцца яе разьвіцьцём, узьняць да сябе, зацікавіць сур'ёзнымі пытаньнямі, зрабіць з яе сапраўднага чалавека. А зараз трэба даць ёй магчымасьць абмеркаваць усё, што адбылося.

Ён устаў.

— Значыць, умовіліся?—сказаў ён, усьміхаючыся.

— Так,—глыбокім голасам адказала яна, падаючы яму руку.

— Цяпер ужо я не забудуся ніколі на ваш тэлефон, нават калі вы яго зьменіце, і ён будзе лічыцца не пад такімі лёгкімі лічбамі.

— Яна ўстала.

— Я хацела папрасіць вас аб адным... Можна?—з пытаньнем узьняла яна на яго вочы.

— Зразумела.

— Не рызыкуйце вельмі... пры вашай дзейнасьці там...—ціха сказала яна.

Ён спахмурнеў. Адразу-ж замах на яго самастойнасьць.

— Гэтага я вам дакляраваць не магу,—адказаў ён цьвёрда.—Тая справа—заўсёды будзе вышэй за маю асабовую.

Яна ўздыхнула.

— Усё-ж вы будзеце помніць пра мяне?

— А хіба я мог-бы забыцца?

— Пазванеце праз колькі дзён, прыедуць мае.

— Так. Мне трэба з імі пазнаёміцца,—усьміхаючыся, адказаў Сабураў.

4

Ва Ўладзівастоку ўзьляцеў на паветра браняносец „Петрапаўлаўск", наткнуўшыся на міну. На сваю ці на чужую—не гаворыцца. У адну мінуту загінула больш за 700 чалавек экіпажу, у тым ліку адмірал Макараў,

на якога ўскладаліся асаблівыя надзеі, і славуты мастак Верашчагін. Затое выратаваўся вялікі князь Кірыл Уладзімеравіч, якому ўдалося выплысьці з віру. Урадавыя газэты паказваюць на гэтае выратаваньне, як на доказ асаблівай боскай схільнасьці да царскай сям'і, а пецярбурскія жартаўнікі ўжо знайшлі яму больш матэрыялістычнае тлумачэньне, якое на вуха расказваюць адзін аднаму ўсюды. Тут просты фізычны закон, наводле якога „гной плавае, а ня топіцца". Аўтарам гэтага тлумачэньня, якое ўсюды сустракаюць рогатам, называюць аднаго з таварышоў вялікага князя па бутэльцы, які мае ўсе падставы, каб падвесьці яго імпэратарскую высокасьць пад гэтую неадухоўленую катэгорыю.

Войска на Далёкім Усходзе галадуе. Забесьпячэньне арміі, зразумела, аказалася неналаджаным. Апрача гэтага харчы раскрадаюцца. Пра недахват харчоў у Манчжурыі вымушаны пісаць нават чорнасоценныя газэты. Але-ж найбольш яркая з іх „Московские ведомости", рэдактарам якой зьяўляецца сапраўды рускі чалавек пад прозьвішчам Грынгмут, сьцьвярджае, што „недахват харчоў скасоўваецца высокім уздымам духу"...

Палітычныя сасланыя, якім абвешчана дараваньне, калі яны пажадаюць уступіць у армію, якая дзейнічае на Далёкім Усходзе, катэгарычна адмаўляюцца гэта зрабіць і выносяць рэзолюцыі абурэньня супроць гэтай прапановы.

Выдавец часопісі „Гражданин" князь Мяшчэрскі, які абараняе неабходнасьць фізычных пакараньняў і плача па скасаваньню прыгоннага права, стаў выдаваць яшчэ адну часопісь „Дружеские Речи", атрымаўшы на яе буйную субсыдыю. Па Пецярбургу ходзіць вершаванае апісаньне размовы Мяшчэрскага з Мікалаем 2-м на гэтую тэму:

„Что-б любовью хам пылал
К трону—жарче печи,—
Издавать давай журнал:
„Дружеские Речи".
Будет страшен тот журнал
Дьявольской крамоле,
Только-б денег на него
Ты давал поболе..."

Вясна. Па Няве ідзе дробны крышталёва чысты Ладаскі лёд. Вее холадам. Але між каменьняў на бруку скрозь вылазяць рэдкія жмуткі маладой зялёнай травы, пупышкі на дрэвах набраклі, палопалі і абгалілі канцы ліскоў. Вільготная зямля цяжарная на буйнае жыцьцё. Хочацца на выспы, дзе няма каменных шчытоў, што скавалі зямлю, дзе мільгаюць сярод зелені першыя кветкі, дзе пратокі Нявы коцяць у мора свае хвалі, дзе лодачнікі рыхтуюцца да сэзону і дзе пахне растопленай смалой і зьвініць птушынае шчабятаньне. Але трэба рыхтавацца да экзаменаў.

За год і так шмат прапушчана, трэба даганяць. Ня будзе-ж ён, Сабураў, карыстацца дапамогай падстаўных асоб, якія заўсёды гатовы за некалькі дзесяткаў рублёў здаць экзамен за кожнага студэнта, карыстаючыся тым, што на юрыдычным факультэце больш за 600 чалавек і профэсары ніяк ня могуць ведаць у твар усіх сваіх слухачоў. Сабураў часова спыніў заняткі ў гуртку і ўсякую працу, абклаўся кнігамі і літографаванымі лекцыямі і загубіўся ў іх.

З Сіцкай наладзіліся роўныя добрыя сяброўскія адносіны. Бацькі яе ставяцца да яго прыхільна і, як Сабураў мог зразумець з далёкіх намёкаў яе маткі, глядзяць на яго, як на магчымага мужа для дачкі. Але перш за ўсё патрэбна скончыць унівэрсытэт. Асталося яшчэ два гады. Яны праляцяць шпарка.

Запрашалі прыняць удзел у маёўцы. Прышлося адмовіцца. Прайшла яна за горадам у лесе ня вельмі што добра. Увечары ў тэатры былі раскіданы проклямацыі ў вельмі невялікай колькасьці, бо перад самым першым мая ахранка арыштавала партыйную друкарню. Загінула звыш 9000 ужо надрукаваных проклямацый і 8 пудоў іншай рэволюцыйнай літаратуры. Арыштавана некалькі таварышоў, незнаёмых Сабураву. Аднак усе гэтыя весткі трывожаць менш, чым раней. Трэба перш за ўсё вытрымаць экзамены. Клапоціць пытаньне, як быць з фінансамі. Грошы, што асталіся ад бацькі, ужоканчаюцца. Іх хопіць пры сьціплым жыцьці самае большае яшчэ на год. А тут усякія непрадбачаныя выдаткі: прышлося пакінуць простыя кашулі і куртку, а арыентавацца больш на студэнцкі сурдут, насіць крухмальныя каўнерыкі і манжэты,—інакш хадзіць да Сіцкіх няёмка. Але, нарэшце, усё гэта часова. Трэба іх прывучыць крыху да сябе, а потым ужо можна перайсьці цалкам да старога жыцьця.

У Сіцкіх адбыўся дрэнны выпадак. Сабураў спаткаў там шчогальскі апранутага чалавека, з якім, зразумела, прышлося прывітацца. Той назваў сваё прозьвішча: Пусэп. Успомнілася нешта вельмі знаёмае і надзвычайна агіднае. Гэта—судовы сьледчы, які згвалціў на станцыі Ціхарэцкай нейкую Золатаву, арыштаваў яе пасьля згвалтаваньня і аддаў у рукі казакаў. Пад арыштам пасьля ўсялякіх зьдзекаў, яна скончыла самагубствам. Гэтая справа была прычынай для забастоўкі рабочых. Растоўскі камітэт партыі выдаў спэцыяльныя проклямацыі, газэты ўсюды апавясьцілі аб дзеяньнях Пусэпа і яму давялося шукаць абарону ў ахранцы... Якая брыдота! Сабураў паклікаў у бок князёўну, вышаў з ёй у другі пакой, расказаў ёй гэтую гісторыю, і яна абяцалася папрасіць, каб больш гэтага суб‘екта ня прымалі. Сабураў доўга адчуваў ліпучы агідны бруд на сваёй руцэ, якой ён прывітаўся з Пусэпам, а зараз, калі ўспамінаў пра гэты выпадак, па твары праходзіла грымаса агіды. Як гэткі тып прабраўся ў сям‘ю Сіцкіх? Сабураў пайшоў тады ад Сіцкіх, ні з кім не разьвітаўшыся і даручыўшы Каці растлумачыць прычыну яго раптоўнага адыходу „на ангельскі фасон“. Мусіць, яны не пакрыўдзіліся.

5

— Зойдзем у гэты скляпок,—сказаў Ржэўскі, спыняючыся каля жоўтазялёнае шыльды, на якой буйнымі літарамі было напісана: „Каўкаскі рэсторан князя Макаева“.

Сабураў паслухмяна ўвайшоў у дзьверы. Насустрач ім падняўся грузін, які драмаў за стойкай у чорным бэшмэце, падпяразаным вузкім пасам з срэбраным убраньнем. Яго маленькія чорныя вочкі глыбока ўвайшлі ў тлустыя бугры выгаленых шчок, другі падбародак тлустаю зморшчкаю спусьціўся амаль на грудзі і вялізны жывот узварухнуўся, калі князь схіліўся нізкім паклонам перад наведвальнікамі.

— Калі ласка. Прашу. Асобны габінэт?—адчыніў ён перад Ржэўскім адны з дзьвярэй, якія выходзілі ў доўгі калідор.

— Тут няблага гатуюць шашлык і ёсьць добрае кахэтынскае,—казаў Ржэўскі Сабураву, уваходзячы ў маленькі пакой з тонкімі перагародчатымі сьценамі. Габінэт упрыгожвалі карціны, якія адабражалі нязьменны замак царыцы Тамары ў Дар'яльскай цясьніне і з другога боку—статак бараноў, які пасецца на горным схіле, і старога чэркеса ў поўным абмундзіраваньні, які грае на флейце вывернутымі пальцамі. За канапаю, што стаяла перад нізкім столікам, вісела люстэрка ў залочанай раме.

Князь увайшоў у габінэт сьледам за наведвальнікамі.

— Што загадаеце? Шашлычок?

— Але,—адказаў Ржэўскі.—Па кабардзінску. І бутэлечку кахэтынскага з вашых асобных запасаў.

— Іншага я і не пасьмеў-бы вам прапанаваць,—адказаў князь, зноў варухнуўшыся ў уклоне.

Вышаўшы ў калідор, ён голасна закрычаў нешта па-грузінску повару.

— Як добра, што я вас сустрэў,—сказаў Ржэўскі Сабураву.—Вы гэтак даўно ў нас ня былі. Гэты рэсторанчык так зручна стаіць на Неўскім, і куды-б ня ісьці ён заўсёды па дарозе.

— Вы бываеце тут і вам падабаецца?—спытаўся Сабураў, аглядаючы запляваную абстаноўку габінэту.

— Інады заходжу з таварышамі пагуляць. Помніце Арлова? Ён толькі сюды і ходзіць, бо ўласьнік скляпка хоць і грузінскі, але ўсё-ж князь. А апрача гэтага, варта шапнуць, і яго сьветласьць князь Макаеў дабудзе з свае канторкі альбомчык з фотографіямі дужа гжэчных дзяўчатак, і якую хочаце з іх выкліча зараз-жа сюды, вядома, за асаблівую для сябе ўзнагароду. Але ён робіць гэтага толькі для вузкага кола спэцыяльна рэкомэндаваных яму асоб. Ну, зараз нам гэтага не патрэбна. Што вы парабляеце?

— Як мага, рыхтуюся да экзамінаў. Так хочацца хутчэй скончыць унівэрсытэт.

— Я ўсё чакаю ад вас новае літаратуры. Цікава, як „Іскра“ глядзіць на вайну і злучаныя з ёй падзеі? Я не падзяляю ўра-патрыётызму

і сыстэмы закідваньня японцаў шапкамі. Японская армія ўжо выказала сябе вельмі бояздольнай, а ў нас усё служаць імшы і пасылаюць на фронт абразы. Кажуць, у аднаго Курапаткіна іх набралося ўжо некалькі тысяч, дасланых яму асабіста. Ходзіць прыказка, што японцы нас знарадамі, а мы іх імшою. Але фінансавае становішча Японіі дужа цяжкое. Тут іхні слабы бок, але нашы патрыёты дапамагаюць ім. Вы чулі апошнюю навіну пра японскую пазыку за-межамі?

— Не. А што такое?

— Японія выпусьціла ваенную пазыку, рэалізаваць якую ўзяліся францускія банкіры. Пазыка дужа выгодная,—дае восем процантаў і выпушчана па курсе 92 за 100. Дык вось, бадай на палову облігацый купілі нашы расійскія капіталістыя і ў першую чаргу—маскоўскія купцы.

— Ня можа быць,—усхапіўся Сабураў.

— Хіба я хоць раз паведаміў вам няправільныя весткі?

— Чорт ведае, што!

— Чаму вы дзівіцеся?—Вы—соцыял-дэмократ, інтэрнацыялісты, ну, а капіталістыя ў гэтых адносінах куды больш інтэрнацыянальныя, чым вы-

У дзьверы пастукалі, і афіцыянт—каўказец падаў на доўгім ісподку гарачы шашлык. Сьледам за ім увайшоў сам Макаеў з пыльнаю бутэлькаю, якую адкаркаваў і паставіў на стол.

— Алавэрды да вас!—зноў схіліўся ён перад гасьцямі.—Ежце і піце на добрае здароўе.

Наведвальнікі ўзяліся за шашлык і за віно, якое аказалася дужа добрым.

— Я хацеў спытацца ў вас па-сяброўску,—зьвярнуўся Сабураў да Ржэўскага, калі Макаеў і афіцыянт вышлі,—што ўяўляюць з сябе Сіцкія?

— Старадаўні князеўскі род. Рурыкавічы. Багатыя. Старыя нічым не адрозьніваюцца ад іншых арыстакратаў. Князёўна Кацярына Мікалаеўна, якая вас цікавіць, напэўна, у першую чаргу,—арыгінальная дзяўчына, бравіруе ўмоўнасьцямі, і таму на яе глядзяць трохі скоса. Вельмі гожая, шмат, відаць, чытае, але бяз ніякае сыстэмы, любіць рызыкаваць, ня спыняецца ні перад чым, калі ёй здаецца, што яна мае рацыю. Вось усё, што магу вам сказаць.

— Мне яна дужа падабаецца,—памаўчаўшы, сказаў Сабураў.

— Ну, што-ж. У добрую гадзіну,—адказаў, усьміхаючыся, Ржэўскі.

Пасьля шашлыку яны выпілі па кубачку турэцкае кавы і пайшлі пад разьвітальныя нізкія паклоны гаспадара.

6

Фролаў спыніў Сабурава каля ўваходу ў аўдыторыю.

— Колега, на пару слоў.

Яны адыйшлі да вакна, якое выходзіла на унівэрсытэцкі панадворак.

— Іван Сымонавіч пытаўся пра вас. У гуртку за Неўскаю заставаю вы больш ня бываеце, у нас у організацыі таксама не зьяўляецеся. Як гэта растлумачыць?

— Экзаміны,—засьпяшаўся Сабураў.—Я пераходжу на апошні курс і не магу больш манкіраваць заняткамі, як гэта рабіў раней.

— Кажэце шчыра, колега, гэта не адгаворка? Можа, вы надумаліся зусім адыйсьці ад руху? І якраз у той час, калі хваля расьце і партыі так каштоўны кожны працаўнік?

— Клянуся вам, не,—горача адказаў Сабураў.—Ніякіх акалічнасьцяй, якія-б шкодзілі маёй працы ў партыі, ні па-за мною, ні ўнутры мяне ня існуе. Не ўтаю ад вас, што ўнутрыпартыйны раскол трохі выбіў мяне з каляіны і здаецца мне асабліва шкодным менавіта цяпер, у пэрыод уздыму. Але я не пакідаю без выкананьня некаторых абавязкаў, пра якія, напэўна, ня ведае Іван Сымонавіч,—дадаў Сабураў, думаючы пра свае корэспондэнцыі ў „Іскру“.

— Што-ж мне яму сказаць?

— Растлумачце і папрасеце даць мне адтэрміноўку.

— Добра. Але помніце, што вы павінны сачыць за партыйнаю літаратураю, іначай адарвецеся.

— Гэта я ведаю сам. А як у нас, усё добра?

— Вы здраджваеце сябе гэтым пытаньнем. Хіба вы ня ведаеце, што тры дні назад арыштавана больш дванаццаці студэнтаў, у тым ліку Яршоў і Івашын? Але ўсе нашы друкарскія сродкі цэлыя і мы ўжо зноў наладзілі выданьне лісткоў і бюлетэняў.

— Я быў вельмі заняты і ні з кім не сустракаўся.

— Вы не заўважалі, каб за вамі сачылі?—спытаўся Фролаў.

— Не. Гэтыя дні я бываў толькі ў няцікавых для ахранкі мясцох.

— Вас бачылі, як вы выходзілі з каўкаскага скляпка Макаева на Неўскім.

— Я быў там з адным знаёмым. А чаму наведваньне гэтага скляпка так прыцягвае ўвагу?

Фролаў узяў Сабурава пад руку.

— Да нас у організацыю хоча паступіць Плятнёў, філёлёг 2 курсу. Ён—сын жандарскага палкоўніка, служачага ахранкі. Каб давесьці сваю шчырасьць, ён прынёс нам некаторыя цікавыя паперы са спраў свайго бацькі. З гэтых папер мы дазналіся, між іншым, што скляпок Макаева—служыць месцам спатканьня для шпегаў. Таму лепш туды не хадзіць.

Сабураў горача пацiснуў руку Фролаву.

— Як добра, што вы мне пра гэта сказалі. Гэта больш значна, чым вы думаеце. Вядома, я больш туды не пайду. А як вы вырашылі наконт Плятнёва? Я лічу, што калі ён даў гэткія доказы свае шчырасьці, прыняць яго можна.

— І абяцаў даваць у далейшым. Але мы яшчэ памяркуем. Калі прымем, дык будзем лічыць яго толькі дапаможнаю асобаю, ні ў якім

выпадку ня ўводзячы яго ў нашы справы, не таму, каб мы яму ня верылі, а проста ён выпадкова можа прагаварыцца, назваць якое-небудзь прозьвішча ці проста выглядам твару выявіць перад татулем, што які-небудзь факт яму вядомы...

— Але... сямейным абставінам яго пазайздросьціць нельга.

— Ён паставіў перад намі пытаньне, ці ня лепш яму пакінуць бацьку? Але мы тады пазбавімся каштоўнае крыніцы для атрыманьня сакрэтных вестак з ахранкі. Усё гэта трэба абмеркаваць.

— А ці вытрымае ён сваю ролю, застаючыся ў сям'і?—спытаўся, памаўчаўшы Сабураў.

— У гэтым увесь сэнс. Трэба спачатку яго добра вывучыць, а тады ўжо вырашаць.

*(Працяг будзе).*

З расійскае. З рукапісу пераклаў **М. Багун.**

# ЯГО ЖЫЦЬЦЁ

## Юлі Таўбін

*Тав. Айзіку Роткіну, старому рабочаму Дубровенскае тэкстыльнае фабрыкі, з любоўю.*

Звычайны сухаваты твар
Ды векам згорбленая постаць
І толькі вочы неяк востра,
Вясёлкаю з-пад цьмяных хмар
Глядзяцца, граюць аганькамі,
З пяшчотай воўчай сьцерагуць,
Гавораць, паляць і пяюць
непараўнанымі радкамі...

Поэты пачыналі так:
„Гары, ружовая Аўрора!“...
Ён апраўляе свой пінджак
І зноў—прыдушана гаворыць
Жыцьцё яго—няма паўней;
Усім-бы нам пражыць такое...
Жыцьцё яго—туга завей
І штандара ўрачысты колер.
Цяпер за пекным туманом
Яно зьнікае зьнічкай дальняй.

... Ён безбародым юнаком
На фабрыцы працуе ткальнай.
Тады прыходзіць першы бунт
І... дзіўна дзецям нашай эры,—
Эсэры, „іскраўцы“ і „Бунд“
Купляюць разам рэвольвэры.

Ідзе за пятым шосты год.
Цямнеюць твары ветлых зорак...
Як душыць дзён бяздушны лёд
І белы, як нябожчык морак.

І шмат адсеялася прэч
На пошукі прытулкаў вольных,

А ён застаўся, каб гарэць
Сухотнай працаю падпольнай.

Маёўкі пад аховай зор...
Чырвоны сьцяг над пылам вуліц
І прарываецца тэрор
Нястрыманай гарачай куляй.

Ці перакажаш гэта ўсё!..
А бізуны?.. А забастоўкі?..
А нескончоныя масоўкі?
Хіба ягонае жыцьцё
Ня з тых, якімі ганарацца,
Хіба, як конча разгарацца
Сусьветных бунтаў ліхтары
І промін выклічуць удодні,—
Ня ўспомняць нашчадкі тады,
Яго між тысячаў падобных?
Ты чуеш, скептык малады?
І зараз, многа іх, як Роткін,
Кладуць апошнія гады
На выкананьне пяцігодкі.

Консьпірацыйны змрок вачэй
Даўно ў сьвітанках сьвежых згінуў...
Мы ночы думалі пільней
Над сабекоштамі тканіны.
Віднейшая прад намі даль...
Расьце романтыка другая.
Ды добраякасны паркаль
Кратна працы вымагае.

Я веру ў моладасьць маю
І ў нашых „старыкоў“ нязломных
На ткальнях, сьлёсарнях ці домнах,
Ў зашмальцаваную сям‘ю,
У яе працоўную адвагу
І так як некалі ў баёх,
У мірных бойках, мірных днёх—
Мы атрымаем перавагу
Пад тым-жа сэрцу дарагім,
Пад тым-жа слаўным і старым,
Пад баявым чырвоным сьцягам.

Жнівень, 1930 г.
Ворша.

# І ТАМ, ДЗЕ БАЛОТЫ...

**Сяргей Дарожны**

Словаў шукаў
І ніводнага гэткага,
Каб у адным—
Шырыня нашых дзей!
Кволая лірыка,
Таварышы поэты,
Прыстала (у самай напружанай хадзе).

Прыстала тады,
Калі трэба на штурмы
Весьці мільёны
У заўтрае нам.
Таварышы, поэты! поэзіі сурмы
Мобілізуйце,
Каб з намі яна!..

Каб пела краіна
Вясной фабрычнай,
Каб несьлі энэргію
Сотні балот,
Ад станцый-комбінатаў
Электрычных,
У тысячы і мільёны вольт!

---

Яшчэ не ашчанулі
Нетры магутаю.
Вы чуеце?
Варушыцца на Мазыршчыне граніт...
Вы чуеце?
Дымяцца на Барысаўшчыне гуты,
На Бабруйшчыне торф
Пачынае гаманіць!

Гэта Беларусь—
Балотамі закутая,

Тая, што білася,
Як рыба аб лёд,
Тая, дзе жыць—
Азначала пакутаваць,
Сягоньня варушыцца
Ї паднімае чало.
Ї там, дзе мяжа
Векавое маруды
Палын гадавала ды чортавы мох,—
Шуміць залацістае жыта
Па грудзі—
Грунтоўнейшы доказ
Людзкіх перамог.

Ї ноч адчыняе
Зьдзіўлёныя векі.
Ї мы, каб уцеха
Глыбей на душы...
Мы ў рост адчуваем
Їмя чалавека,
З каторым лягчэй
Ї змагацца,
Ї жыць!

**Менск, 1930 г.**

# РАЙ

## Азат Уштуні [1])

Слоў монатонны рокат,
Сказаў павольных туман.
У мячэці кнігу прарока
Чытае стары імам [2]).

— Суровасьць сугуччаў мерных
Слухай, народ, і вер.
Гэта—для прававерных,
Кожны марудны верш.

Карану салодкі водар.
Кнігі мудрэй—няма...
Усім абяцае шчодра
Месца ў раі імам.

Там пышнацелыя феі,
Поўныя кволых чар,
Палкім каханьнем завеюць
Цябе, галодны Амар!

Там, дзе няма марозаў
І ў дыямэнтах раса—
Бараду вадавоза
Німфы пачнуць часаць...

Жабрак, ты пабачыш гулі—
Прыемна ў раі жыцьцё.
Шаўковая кашуля
Акрые цела тваё.

Гэта ўсё прававерны чуе
І ў марах, гурыям рад,
Цераз слоў імамавых дую
Ў блакітны ляціць Джанат [3]).

---

[1]) Азат Уштуні—выдатнейшы пясьняр сучаснай Арменіі, комуністы, сябра Закаўкаскае Асацыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў. Ён пачаў сваю пісьменьніцкую дзейнасьць з 1915 году. Шмат якія творы Уштуні перакладзены на іншакраёвыя мовы Характэрнай асаблівасьцю ягонае творчасьці зьяўляюцца мотывы клясавае барацьбы на Ўсходзе.—*Заўвага перакладчыка.*

[2]) Імам—духоўная асоба

[3]) Джанат—рай.

І раптам у ціш мячэці,
Дзе кожнае слова—лёс,
Быццам сталёвы вецер
Голас высокі прынёс:

Абяцаеш тылоўка, імам,
Але ў словах бідаць асьцё...
Ты скажы, што рабіць жабракам,
Пакуль на зямлі іх жыцьцё?

Табе будзе, імам, няўдача,
Але ня пройдзе ігра;
Я сваімі вачыма бачыў
Ў нашым горадзе гэты рай...

Бячыў я—халіфа ў палацах,
Дзе раскошна й багата жывуць,
Шмат жанчын прыгожых за плату
Сьмехам крывяцца і пяюць.

Многа гурый рагочуць звонка,
Аздабляючы яго спакой.
Яго жыдзенькую барадзёнку
Яны песьцяць белай рукой.

Дваццаць год я, нібы закляты,
Ня маючы, нават, сну,
Вартаваў залатыя палацы
Пад пагрозаю бізуна.

Дваццаць год, як я бровы хмурачы
Вартаваў і палац і сады,
І ніводная з тых вось гурыяў
Не кранула маёй барады...

Тваё словы, не імам заглушаць
Дзён інакшых лады і страі.
Кінь спадзеўку на нашыя душы
Ў гэтым выдуманым раі!

Пераклаў Юр. Лявонны.

# БЕЛАРУСЬ ІНДУСТРЫЯЛЬНАЯ [1])

*Эскізы*

Аркадзь Лясны

## Зьмяняецца твар зямлі

Гальлё старога саду пасплятался ўверсе зялёнай паветкай. Між высокіх пабеленых яблынь прабеглі пад'ездныя пуцявіны чыгункі. На даўно пакінутым і спусьцелым палетку бялеюць баракі будаўнікоў і вялікая, з выгнутым, як неба, дахам, сталоўка-клюб.

Старыя пазелянелыя хаткі баязьліва прытуліліся да зямлі і трапечуцца, поўныя страху за сваё існаваньне. Побач узьняўся доўгі астоў пабудовы заводу дзеля апрацоўкі касьцей. Растуць белыя мураванкі рабочага пасёлку.

Па-над жытам зьвініць песьня жаўранка, як заўсёды, поўная захапленьня ціхім хараством прыроды. Жыта таксама перарэзана чыгункай. Насупраць яго невялікая пляцформа. Яна пабудавана спэцыяльна для выгрузкі шматтонных трансформатараў на Магілеўскай падстанцыі Асінбуду. Высокія простакутныя аркі. Іх многа, розных памераў. Яны стаўпіліся, як падставы дзеля нейкага гіганцкага мосту. Гэта жалезныя конструкцыі адчыненай часткі падстанцыі. На іх накінуты залаціста чырвоныя косы кручанага мядзянага дроту. Яны на сонцы зіхацяць, як бліскавіца. Праз некалькі месяцаў па гэтых бліскучых косах-правадох пабяжыць з Асінстану ток сілаю ў 110 тысяч вольт. І сапраўды, гэтыя моцныя конструкцыі, будуць падставаю для гістарычнага мосту электрыфікацыі, па якім уся Магілеўшчына парэйдзе ў новую бліскучую эпоху соцыялізму.

У невялічкай дашчатай хатцы баявы штаб падстанцыі. Над сінімі аркушамі, перакроенымі роўнымі і няўхільнымі белымі лініямі рысункаў, быццам над стратэгічнымі картамі, схіліліся сур'ёзныя, загарэлыя твары тэхнікаў. Кіраўнік прац, як галоўны камандзір у часе бою, назірае за ўсёй сваёй дзялянкай, упэўненым спакойным і цьвёрдым голасам аддае загады, увесь час ахоплены напружнасьцю змаганьня і насьцярожаны, каб у выпадку чаго, адразу-ж накіраваць на самае слабое месца самую моцную сілу.

---

[1]) Канец. Гл. „Полымя“ № 8 за 1930 г.

Зямля калоціцца ў ліхаманцы сьпешнага будаўніцтва. Апухла кучамі гравія, пяску, цэманту. Як плечы хворыя банкамі, застаўлена скрынямі з абсталяваньнем. У іх масьленікі, разраднікі, ізолятары. Цяпер ёй, няшчаснай старэнькай хворай робяць асноўную опэрацыю. Сьпешным парадкам кладуць муры будынку падстанцыі. І прадчуваючы хуткае ачуняньне, зямля па ўсёй Магілеўшчыне, Аршаншчыне, Віцебшчыне панастаўляла белыя каўнерыкі слупоў, і толькі чакае ўрачыстых дзён, каб надзець на іх бліскучыя модныя гальштукі правадоў з сталёва-алюміневага дроту і белыя, як сьнег, запанкі ізолятараў.

Як млечны шлях на небе, праляглі гэтыя слупы белай істужкай праз увесь краявід, праз рэчкі, яругі, дарогі, лясістыя ўзгоркі, палі.

Адны з іх бездапаможна пазьвешвалі з перакладзін млявыя рукі гірлянд і маюць, нажаль, няпрыгожую форму вісельніц (яны гэтак і называюцца), якая па няпрыемнай асацыяцыі толькі выклікае з мінуўшчыны журботныя думкі. Другія прыгожымі стромкімі верхавінамі ў стылі готычных шпіцаў імкнуцца ў вышыню. Асабліва прыгожыя дваццацімэтровыя апоры павышанага тыпу, якія ставяцца пры пераходзе праз рэчкі, чыгункі, дарогі. Усе слупы з жоўтавата-белых здаровых хвой. Камлі для большай моцнасьці прапітваюцца спэцыяльнай смольнай масай-кобрай, якая захоўвае дрэвы ад гніеньня да 18 гадоў.

Праз Магілеўшчыну і Аршаншчыну пройдзе ланцуг у 984 гэткіх слупоў. 638 будзе ад Асінбуду да Віцебску.

Адным словам, кожны ўзгорак і кожны палетак мецьме гэты слаўны штандар у той урачысты дзень, калі заб'ецца сэрца Асінстану і там,

„Дзе за пасёлкам лёг пасёлак,
Гіганты ўзьнімуць сьцяг бунтарны,
І ў блісках квецістых вясёлак,
Дым гасячы лучын і смолак,
Зайскрыць электрыка ўладарна" [1]).

Яны прынясуць яе бліскучае сьвятло і няўтомную энэргію ня толькі на прадпрыемствы і ў саўгасы, але і ў самыя глухія вёскі. І тады, як зоры, стажары і зьнічкі, яскравыя ў чорную ноч, гаснуць у дзенным сьвятле, згаснуць навекі падсьлепаватыя газовачкі, у цьмяных водсьветках якіх цяпер праходзяць дзявочыя вячоркі і марозныя ранкі гаспадароў у гумне за старасьвецкай мэлёдыяй цэпа. А тады пачнуць адміраць і цапы... Бо гэтыя слупы зробяць цэлы пераварот ў жыцьці і гаспадарцы вёскі. Яны і там, дзе яшчэ не разьвеяна ноч няпісьменнасьці, неразуменьня і даўкай адрыжкі бяззубай прышыбеевўшчыны (у выглядзе перагіба), асьветляцьмуць вёсцы яе шлях па шырокім гасьцінцы колгаснае працы.

---

1) *Янка Купала*—„Сыходзіш вёска зяснай явы"...

## Новыя людзі

Новы сьвет нараджаецца на руінах старога. І людзі, якія будуюць яго, часта амаль упяршыню сутыкаюцца з ім у сфэры сваёй дзейнасьці. Большасьць рабочых-будаўнікоў і значны процант рабочых новай індустрыі прыходзяць з вёскі. Сярод іх шмат няпісьменных і шмат такіх, якімі яшчэ ўладна кіруе індывідуалістычны інстынкт: „багацей“, а ўсё іншае, чорт яго бяры. Тут мы яшчэ толькі ля вытокаў новага чалавека.

Я сядзеў у канторы Магілеўскай падстанцыі Асінбуду, чакаючы пакуль кіраўнік прац (яго тут усе звалі па-расійску—прорабам) падпісваў нейкія паперкі і вырашаў розныя адміністрацыйныя і гаспадарчыя пытаньні. Ён абяцаў павесьці мяне на лінію паказаць, як устанаўліваюцца слупы. Але пакуль ён вызваліўся ад спраў—мы спазьніліся.

Высокая апора—падобная формай на высокія сталюгі—ужо ўпэўнена і горда ўпіралася чатырма нагамі ў жоўты пясок старадаўняга магільніка, і глядзела на бурлівы віхор суседняга будаўніцтва. Калі яе краналі яшчэ нацягненыя струны сталёвых тросаў, яна зьлёгку ківала галавою і азіралася на свае пастаўленыя загараць пад гарачым ліпавым сонцам стройныя плечы.

На мяжы могільніка—пустога кавалку зямлі, папсаванага, як прышчамі, буграмі можа сталетніх могілак і парослага нейкай нізкай і жосткай травой—з абодвых бакоў глядзелі на слуп лябёдкі, быццам дзівіліся, што гэта яны тут нарабілі. Яны ставяцца на адлегласьці ў два разы большай за даўжыню апоры. Гэтага патрабуе тэхніка бясьпекі „на ўсякі выпадак“, хаця, як казаў кіраўнік прац, такі выпадак быў усяго адзін раз. Ён здарыўся яшчэ ў самым пачатку, на Віцебскай лініі. Вядома, пры такой адлегласьці лябёдак, рабочым ён пашкодзіць ня мог, але нават і апора, зьвінчаная з некалькіх бярвеньняў, засталася цэлай.

Апора ўстаноўлена належным чынам. Адпушчаныя сталёвыя тросы, адпачываючы, вольна павісьлі на ветры. Шэсьцера хлопцаў узяліся за рыдлёўкі, і з кожным узмахам іх рук красуня-апора мацней асталёўвалася па-над усёй навакольнай цішынёй.

— А нябожчыкаў вы тут не патрывожылі?—пацікавіўся адыходзячы кіраўнік прац.

— Вось у гэтай яме знайшлі аднаго, мабыць, ахвіцэр нейкі. Яшчэ мундзір цэлы.

Рабочы адгарнуў зямлю і правёў рыдлёўкай па чэрапе, прыкрытым гнілымі жмуткамі валасоў.

З глыбокай ямы дыхнула мінулай сьмерцю. На некалькі хвілін ён няпрыемна сьцяў нашы адчуваньні і рэзкім дысонансам навеяў маўклівасьць і думы.

— Ну, засыпайце!—сказаў брыгадны маньцёр.

Рыдлёўкі энэргічна замахалі пяском і ён ізноў схаваў у зямлі патрывожанага мерцьвяка.

Стройная апора, як маладая, усьміхалася небу і сонцу і ўсяму, што яна магла бачыць на сваім шырокім кругаглядзе. У далячынь, праз лагчыны і ўзгоркі, беглі слупы.

— Тут вельмі няроўны профіль—паскардзіўся кіраўнік прац—з-за гэтых яруг часам прыходзіцца даваць кілёмэтраў па шэсьць кругу, пераводзячы лябёдкі.

За полем, даючы навочную ілюстрацыю яго словам, жаўцеюць глыбокія спады яругі і ўцякае за небасхіл зьвілістая стужка хмызьняку, якім яна абрасла, як валосьсем.

Мне ўсё-ж шкода чамусьці, што не ўдалося пабачыць самога працэсу ўздыманьня апоры. Як яна züкiвае сваёй белай верхавінай, задрыжыць і, ўроўнаважаная з двох бакоў сталёвымі тросамі лябёдак, плаўна стане на ногі.

Быццам угадаўшы мае думкі кіраўнік прац кажа:

— Цяпер паедзем на другі бок гораду. Там каля шашы ўстанаўліваюць вялікую апору, павышанага тыпу.

Я не аглядзеўся, як мы ізноў апынуліся ў горадзе. Каламажка неміласэрна лемантавала па бруку, спускаючыся стромкімі завулачкамі пад зялёнай павецьцю цяністых прысадаў быццам кудысьці на дно. За горадам навісла змрочная навальнічная хмара. Час-ад-часу бліскалі маланкі і грозныя грымоты магутна калацілі паветра.

Але за горадам нас таксама чакала расчараваньне. Каля пакопаных ям жаўцелі кучы пяску і ў самоце ляжала вялікая апора, высока выставіўшы свае бурыя, прапітаныя кобрай ногі, быццам дулы гармат.

— Чаму-ж іх няма тут!—Цень нейкай няўмоўнай эмоцыі прабег па заўсёды спакойным твары кіраўніка прац.—Ну, паедзем далей.

— Тут у мяне бузацёры. Яны незадаволены расцэнкай, хаця яны зарабляюць ня менш як тры рублі ў дзень. Але яны, вясковыя хлопцы, ня хочуць ісьці належным шляхам, праз конфліктную камісію. Яны лічаць лепш вырашаць справу крыкам.

Вузкай палявою дарогай паўз залацістае, налітае маладым пукатым зернем, жыта мы даехалі да пракладкі новай пуцявіны чыгункі, а за ёю хутка ізноў узьнімаліся ўгару ногі ляжачай апоры. Накрапваў дробнены дождж. Навальнічная хмара пайшла стараною і навісла над горадам. Брыгадны маньцёр з нейкімі інструмантамі хадзіў каля ям. Лябёдкі, скорчыўшыся ў клубок, накручанымі тросамі, маўчалі. Некалькі хлопцаў ляжалі на прыгорку і курылі. Кіраўнік прац прывітаўся з імі:

— Добры дзень, бузацёры!

— Добры дзень, таварыш прораб!

— Ну, як працуеце?

— Ды нічога, вось толькі махоркі няма!

— Ёсьць-жа на складзе, прывезьлі ўчора, можаце атрымаць.

Між імі пачалася мірная гутарка. Толькі вельмі часта, як маланкі з трох воддальных хмар, урэзваліся ў яе зласьлівыя заўвагі.

— А селядцоў прывезьлі?

— У іх селядцы ёсьць, толькі цукру няма.

— Хутка і гарэлкі ня будзе. На аднэй вадзе хочаце станцыю пабудаваць, га, таварыш прораб!

Я не аглядзеўся, як пракаціўся гром. Высокі востратвары хлопец у расхістанай кашулі ўскочыў і мірная гутарка адразу перайшла ў крык. Бліскавіцы шматпавярховых слоў калацілі паветра. Кіраўнік прац абурыўся. Твар заліўся чырваньню. Голас рашуча адрэзаў:

— А я вам скажу, што калі ня пойдзеце за 35 рублёў уздымаць тую мачту, я заўтра-жа дам разьлік.

— Няма чаго гразіць, таварыш прораб. У СССР жывем, а не ў буржуазным Захадзе.

— Гэта не пагроза, а афіцыйны загад дзесятніку. Заўтра я прышлю табе новых рабочых. А іх прышлі ў кантору за разьлікам.

Хлопцы загулі. Пачынаў вялікі востратвары і ў тон яму ўтуралі іншыя. Бліскавіцы вострых слоў сыпаліся часьцей.

Кіраўнік прац ня слухаў іх. Спакойным голасам камандзіра, які бачыць у часе бою перамогу сваіх, ён зьвярнуўся да дзесятніка і папрасіў блёкнот. Дастаў аловак, падыйшоў да хлопца, які капаў яму, прысеў на карачкі і запытаўся:

— Ты згодзен працаваць на тэй дзялянцы па ранейшай расцэнцы.

— Згодзен!

Падышоў да другога.

— Згодзен.

— А ты?

— Згодзен.

— А ты?

Чарнявы хлапчук абапёрся на рыдлёўку, пачухаў патыліцу, з хвілінку падумаў.

— Я застаўся-б, каб далі авансу, а то грошай няма.

— Можна. Прыдзі заўтра ў кантору.

Кіраўнік прац зьвярнуўся да „бузацёраў“:

— А вы, таварышы, ня хочаце больш працаваць?

— Далей па лініі мы згодны. А гэтую апору за 35 рублёў не.

— Дык вось, заўтра я прысылаю сюды другіх рабочых. Дзесятнік, прышлі іх заўтра ў кантору за разьлікам. А там іх рабачком праверыць.

— Страх вялікі! Другой работы ня знойдзем! Толькі каб заўтра-ж і грошы былі!

— Грошы будуць. Паехалі!

Кіраўнік прац паклікаў дзесятніка.

— Я толькі прашу цябе, пільна сачы за інструмантам. Бо бачыш, які ў іх настрой. Ты скажы ім рашуча, што і ў нас, таксама, як на будаўніцтве, або на прадпрыемстве, кожны робіць ня тое, што хоча, а тое, што патрабуе ад яго праца. Калі яны незадаволены расцэнкай, на гэта

ёсьць устаноўлены парадак. Хай скардзяцца ў РКК (расцэначна-канфліктную камісію). А самавольна кідаць працу, уносіць дэзарганізацыю і займацца рвацтвам мы нікому не дазволім.

— Вось бачыце, як часам прыходзіцца дзейнічаць з тымі хлопцамі, якія толькі што прышлі з вёскі. Рабочы ад варштату гэтак ніколі ня зробіць. Калі ён не задаволен расцэнкай, дык ён падасьць заяву ў РКК, але на працу пойдзе. Магчыма, што ён менш выпрацуе ў той дзень, але варштату самавольна ніколі ня кіне, бо ён ведае, што гэта шкодзіць вытворчасьці. Конфліктная камісія на працягу 24 гадзін разглядае яго заяву і калі задаволіць—дык ён будзе працаваць, як і раней, калі-ж не, дык папрацуе дзень-два і папросіць перавесьці яго на другі варштат. А гэтыя вось думаюць, што РКК, хоць там і прадстаўнікі рабочых, усё роўна падтрымлівае толькі адміністрацыю. Ім больш падабаецца пакрычаць на тэму „за што баролісь“, а разам, ось бачыце, яны прыплятуць і селядцы, і цукар. А чаго яны яшчэ хочуць. Яны атрымліваюць па норме, як і ўсе. Я нават пастараўся, каб ім выдавалі махорку звыш нормы. Таксама і расцэнку. Яны мотывуюць тым, што гэтая апора вялікая і яе цяжэй уздымаць. Я павялічыў ім расцэнку на яе на 40 процантаў супроць звычайных слупоў, але яны хочуць, каб павялічыць на ўсе 100, а гэтага бязумоўна ні я, і ніхто ім ня можа зрабіць.

— Ну, і што цяпер з імі будзе?

— Заўтра я іх звольню і пашлю ў рабачком. Там з імі пагамоняць. Пасьля яны пойдуць на другую працу. Іх разаб'юць па адным сярод іншых рабочых. Там яны прыгледзяцца, як працуюць другія, і адумаюцца. Пасьля яшчэ прыдуць да мяне прасіцца, каб я іх ізноў узяў да сябе на працу. Ну, а ў некаторых выпадках, калі нішто не дапамагае, прыходзіцца звальняць зусім.

— І гэта часта?

— Вельмі рэдка. Я-ж кажу, гэта яны 'шчэ нядаўна ў нас працуюць. Пасьля яны прыгледзяцца да другіх рабочых і зразумеюць, што на прадпрыемстве ня тое, што ў сябе на вёсцы, рабі што хочаш і калі хочаш, а павінна быць дысцыпліна. Асабліва пры нашых тэмпах. Ведаеце, у мяне на Віцебскай лініі былі і не такія яшчэ здарэньні. Цяпер гэта ўжо мне не навіна. З імі толькі трэба дзейнічаць у такім выпадку рашуча і афіцыйна. Інакш яны будуць уносіць дэзарганізацыю ў працу і толькі зьбіваць з панталыку іншых рабочых. У нас усё адно, як і на вайне, раз загад аддадзен, ён павінен быць выкананы. Нават горш, як на вайне. Калі ямы выкапаны, іх трэба абавязкова зараз-жа засыпаць. Бо калі пойдзе дождж, яны сапсуюцца. Размые. А яны выкапалі тут ямы і самавольна перайшлі на другую дзялянку. Гэта ні ў якім разе нельга дапушчаць.

Малады кіраўнік прац усю дарогу быў пад уражаньнем толькі што здарыўшагася конфлікту з „бузацёрамі“. На яго заўсёды спакойным энэргічным твары час-ад-часу прабягала хваляваньне.

Каламажка ізноў лямантавала на вымытым, бліскучым пасьля дажджу бруку. І „бузацёры“, і пакінутыя імі ямы з бездапаможна задраўшай угару нагі апорай павышанага тыпу засталіся там, у палёх. У горадзе толькі што была моцная навальніца. Імклівыя каламутныя струмені бурліва імчаліся з яго ўзгоркавых вуліц.

---

Таварыш Прэс працуе на вытворчасьці адзінаццаць год. З 1922 году ў комсамоле, цяпер ужо сябра партыі. Ён працаваў на мэханічным заводзе ў Віцебску, пасьля быў там-жа старшынёю акруговага праўленьня профсаюзаў. Калі ў сувязі з шпаркім разгортваньнем прамысловасьці пачаў адчувацца недахоп кваліфікаванай рабочай сілы, ён пайшоў ізноў на прадпрыемства. Скончыў шасьцімесячныя курсы маньцёраў і зараз працуе памочнікам майстра на Магілеўскай шаўковай фабрыцы.

На некалькі хвілін адарваўшыся ад працы, ён павёў мяне ў прадзільны цэх, дзе ў два рады выстаўлены даўжэзныя трынаццацімэтравыя варштаты, тыя самыя, на якіх бурая вадкасьць віскозы будзе ператварацца ў жаўтаватыя яшчэ найтанчэйшыя ніці будучага шоўку. Асьцярожна, каб не парушыць парадку паложаных дзеля монтажу частак, т. Прэс, а сьледам за ім і я, узьлезьлі на варштат, каб зірнуць на раскрытую таямніцу яго мэханічнай анатоміі і фізыолёгіі.

— Вось бачыце, тут уверсе ёсьць валікі, даўжынёю ў трынаццаць мэтраў, на ўвесь варштат. Прадзільныя варштаты робяцца двохбаковыя і валікі бягуць паралельна. Пры ўстаноўцы іх і іншых дэталяў здараецца некаторае нязначнае, няпрыкметнае для вока, адхіленьне ў 5-6 мілімэтраў. Але пасьля, калі варштат пачне працаваць, гэта выклікае значныя, відавочныя ўжо скрыўленьні і псуе варштат.

— Нямецкія маньцёры, якія працуюць тут у нас, расказвалі, як на аднэй буйнай фабрыцы ў Францыі, дзе яны таксама ўстанаўлівалі абсталяваньне, варштаты пакрывіліся былі да таго, што на іх нельга было працаваць і трэба было ізноў выклікаць маньцёраў правіць варштаты.

— Я доўга думаў, якую-б тут можна было даць раду. Нарэшце, знайшоў цэнтральную лінію варштату. Прылада, скомбінаваная з шнура, працягнена па цэнтральнай лініі варштату і вілачак, якія рассоўваюцца на віньце, дае магчымасяць рабіць монтаж усіх частак варштату на роўнай адлегласьці ад цэнтральнай лініі, бяз ніякіх адхіленьняў. Інжынэры ухвалілі маю вынаходку і дазволілі ўжываць яе на фабрыцы. Цяпер яна знаходзіцца ў стадыі патэнтаваньня. А вось па ёй монтыруюць варштат.

— Ды тут у нас бясконцы простор для вынаходніцтва і рацыяналізацыі...

Таварыш Прэс гаворыць гэта вельмі ціхім, удумным голасам. А ў вачох трымціць няўтомнае палыханьне творчага запалу... Мы стаім у вузкім праходзе паміж высокіх нямецкіх варштатаў. Глядзім на монтаж, якім кіруе вынаходка рабочага маладой беларускай індустрыі. І ў гэты

момант цэх здаецца неабсяжным. У ім адчуваецца веяньне чагосьці вялікага, адчыняюцца бязьмежныя далягляды.

Бо ў гэтым выпадку маладая соцыялістычная тэхніка нашай тэхнічна адсталай краіны перагнала ўжо высока-разьвітую капіталістычную тэхніку Заходняй Эўропы. Бо тут мы яшчэ на адзін крок падыйшлі да ажыцьцяўленьня вялікай задачы „дагнаць і перагнаць“!

Таварыш Прэс, вядома, не зьяўляецца рэдкім выключэньнем. Ён толькі адзін з шэрагу тых энтузіястых соцыялістычнага будаўніцтва, якія няпрыкметна і ціха, але ўпарта, не шкадуючы сілы і працы, імкнуцца як мага наблізіць дасягненьне гэтай мэты.

Тут-жа ў гэтым самым прадзільным цэху ён паказаў мне вынікі аднэй вельмі каштоўнай прапановы старога рабочага.

Белдзяржбуд зрабіў няроўныя падставы для варштатаў. Дзякуючы гэтаму, устанаўліваючы варштаты, прыходзілася падкладаць пад іх жалезныя брускі. Шкода было, што гэтак непродукцыйна траціцца шмат жалеза і т. Сьпірын унёс прапанову замяніць брускі спэцыяльна сконтруяванымі ім дужкамі. Гэтае мерапрыемства дало экономію ў 400 пудоў жалеза.

— А вось і сам т. Сьпірын!

Тав. Прэс паклікаў яго і мы прывіталіся.

— Скажэце, вы даўно працуеце на заводах?

— А ўжо, як на вытворчасьці, 23 гады. А як служыць пайшоў, дык і ліку няма. Змалку. Я сірата—быў малым хлапчуком, як памёрлі бацькі і пайшоў на свой хлеб. Служыў на Волзе, на параходзе. Пасьля падаўся на машынабудаўнічы завод у Царыцыне, цяперашнім Сталінградзе. Гэта была першая мая праца на прадпрыемстве. А пасьля шмат дзе быў. У Магілеве застаўся пасьля вайны. Да мінулага году працаваў у чыгуначным дэпо.

Гэтыя доўгія цяжкія гады працы з маленства, старых заводаў, вайны адбіліся глыбокімі маршчынамі на худым і жоўтым твары т. Сьпірына. Але ў голасе яго гучыць маладая жыцьцярадаснасьць:

— Эх, нічога мне так ня хочацца, як пабываць цяпер на радзіме ў Сталінградзе, паглядзець на новыя заводы, на новае будаўніцтва...

— Дык чаму вы ня зьезьдзіце?

— Ніяк ня выберуся. Усё працы поўна. Ось пусьцім ужо тут раней фабрыку, а тады ўжо трэ‘ будзе зьезьдзіць.

Як далёка адгэтуль да бузацёраў з лініі Асінбуду!

Так. Але-ж ня трэба забывацца, што тыя яшчэ сэзоньнікі, а гэта зусім іншая справа. А на прадпрыемствах разам з першымі каменьнямі будаўніцтва, разам з устаноўкай першых яшчэ маўклівых машын пачынаецца марудная крапатлівая праца фабкому, парткому, комсамольскіх ячэек. Спачатку, мабыць, як правіла, яна ідзе вельмі павольна. Праводзіцца галоўным чынам і амаль выключна на сходах. Гэта абумоўлена цэлым шэрагам прычын. Але, як толькі фабрыка пачне выказваць пер-

шыя праявы жыцьця, зьяўляюцца насьценгазэты, лікпункты, рознастайныя курсы, гурткі. І старыя рабочыя і моладзь вучыцца. На шаўковай фабрыцы організавана пры фабкоме навукова-тэхнічнае таварыства, першай задачай якога зьяўляецца даць магчымасьць старым маньцёрам, якія маюць доўгі стаж і добрую практыку, набыць і пашырыць тэорэтычныя веды. Там-жа на Магілеўвалакнабудзе 180 чалавек вучыцца на курсах падрыхтоўкі малодшага тэхнічнага пэрсоналу. У большасьці моладзь. Шмат хлопцаў і дзяўчат у комсамольскіх гарнітурах—юнгштурмах. Сярод іх некалькі пажылых, у большасьці жанчын. І паглядзець толькі з якою прагнасьцю да ведаў ловяць яны кожнае слова лектараінжынэра. На дасьледчай установцы па пачыну моладзі організаваны сьлесарна-мэханічны гурток. І цэлы шэраг іншых школ, гурткоў і курсаў. Яны ствараюць новы тып рабочага, узброенага з галавы да ног тэхнічнымі ведамі, рабочага-вынаходцу, рацыяналізатара і толькі што прыведзеныя прыклады хіба не зьяўляюцца залогам магутнага ўздыму нашай савецкай тэхнікі ў наступныя гады і пяцігодкі.

Гэтага мала. Новыя прадпрыемствы (бязумоўна, гэта ў значнай меры датычыцца і рэорганізаваных старых) ня толькі зьяўляюцца адначасна і рабочым тэхнічным унівэрсытэтам, дзе кожны рабочы мае шырокую магчымасьць разьвівацца і павышаць сваю кваліфікацыю, яны зьяўляюцца ня толькі вогнішчамі соцыялістычных мэтодаў і школай політычных, грамадзкіх, дзяржаўных дзеячоў. На Магілеўвалакнабудзе організавана таксама рабочая брыгада дапамогі кіраўніцтву фабрыкі—кузьня вылучэнцаў і актывістых.

Наша эпоха, эпоха вялікага будаўніцтва, калі зусім мяняецца твар зямлі і перайначваецца сьвет, стварае зусім новага чалавека, чалавека з вялікімі імкненьнямі і ўпартаю воляй; актыўнага будаўніка і творцу, ахопленага энтузіязмам і радасьцю вялікае працы, надзей і творчых узьлётаў.

Быць можа, яшчэ рана гаварыць пра яго, як пра закончаны, аформлены тып. Быць можа, рана яшчэ маляваць яго портрэт. Таму я абмяжуюся на гэты раз толькі невялічкімі эскізамі, толькі вокамгнёнымі фотаздымкамі, якія перадаюць быць можа ўсяго адну ці дзьве дэталі жывой істоты ў часе яе руху. Але і ў гэтых невялічкіх дэталях відны ўжо зусім новыя рысы новага характару.

Малады спэцыялісты. Яго радзіма, сям'я і маленства засталіся дзесьці ў Заходняй Беларусі. Ён помніць толькі Чырвоную армію, фронт, пасьля вучэньне і працу. Цяпер ён кіруе будовай аднаго вялікага і значнага прадпрыемства. Калі ён вядзе паказваць яго, за ім цяжка пасьпець. Калі вы спыніцеся дзе-небудзь у маўклівым сузіраньні больш чым трэба, ён скажа—пойдзем далей. Але з захапленьнем, быццам крыху ўзрушаны тым, што некага цікавяць вынікі яго працы, ён стараецца не абмінуць ніводнага процэсу, ніводнай дэталі і ўсё паказаць, расказаць, растлумачыць.

— Вось глядзіце, гэта зроблена за сёнешні дзень. Учора помніце, яшчэ гэтага ня было.

На хаду ён увесь час робіць заўвагі брыгадзірам. А ў канторы ў яго заўсёды чакаюць тысячы спраў. Ён уяўляецца мне ня інакш, як носьбіт вечнага руху. Ён увесь кіпіць працай. І ў той-жа час заўжды такі спакойны і рашучы, быццам ён праходзіў дзеля таго спэцыяльную школу. Быць можа такой, школай была для яго Чырвоная армія.

* * *

Вылучэнец адміністратар. Вакол яго стала ніколі не размыкаецца кола людзей. Зусім юны, ружовы і сьвежы, як у дзяўчыны, твар. Мяккі голас і бясконца ветлівыя вочы. Але паглядзеце, як ён размаўляе па тэлефону. Твар палае настойлівасьцю і кожнае слова адсякае ў паветры рукою.

Двое інжынэраў падыходзяць да яго і доўга вырашаюць нейкія пытаньні. Мяккі голас зьвініць упэўнена і рашуча. Нарэшце зусім катэгорычна патрабуе ад іх нейкі расклад на новы месяц.

— Вы абяцалі мне зрабіць гэта пазаўчора. Сягоньня чацьвертае і ня можа быць ніякіх апраўданьняў. Заўтра-ж пляны павінны быць вывешаны.

* * *

Тэхнік. Загадчык цэхам. Абсталяваньне яго цэху складаецца з найскладнейшых машын—апошняга слова замежнай тэхнікі. Машыны дастаўлены з-за межаў бяз рысункаў монтажу. Аднак цэх адмовіўся ад дапамогі замежных спэцыялістых. Загадчык цэхам правёў монтаж, як ён кажа, „па інтуіцыі“, вывучаючы іх па фотоздымках у замежных выданьнях і замежнай літаратуры. У проект монтажу, зроблены спэцыялістымі ў трэсьце ў Маскве, ён на свой рыск унёс зьмены і палепшаньні. Пасьля гэтыя зьмены былі ўхвалены самымі аўторытэтнымі профэсарамі.

* * *

Малады профшколец. У вялікіх прадонных вачох блакітная задуменнасьць і мора жыцьця. Калі ён стаіць ля варштату, уся яго вялікая, асілкавая постаць прыкавала да дзіўных рухаў аднэй з самых навейшых машын. У яго руках упэўненая стрыманасьць. Выступаючы ад імя рабочых на мітынгу, ён спачатку яшчэ неяк хвалюецца, пасьля з кожным словам увaходзіць у сваю ролю і рашуча запэўняе ў тым, што:

— Мы будзем помніць усе тыя запатрабаваньні, якія прад'яўляе да нас соцыялістычнае будаўніцтва і аддадзім усе свае сілы на выкананьне промфінпляну і пяцігодкі ў чатыры гады.

* * *

Стары інжынэр. Ён шмат усяго бачыў за свой век. Цяпер працуе на новым заводзе. З захапленьнем юнака ён паказвае і тлумачыць кожную дэталь, кожную новую машыну. Дзеля параўнаньня ўспамінае мінулае. Як дзікунскія паданьні, як вынаходкі археолёгаў, часам проста, як анэкдоты, гучаць яго апавяданьні пра старую і саматужную вясковую прамысловасьць. Але ў злучэньні з імі яго гутаркі і тлумачэньні малююць суцэльную карціну нашай прамысловасьці ў гістарычным разрэзе і ўспрымаюцца, як лекцыя надзвычайна здольнага прамоўцы-вучонага. Ён нястомна водзіць мяне па заводзе некалькі гадзін. Нарэшце, паказваючы машыны навейшай конструкцыі, ён ніяк ня можа супакоіцца ад захапленьня.

— Падумайце толькі, яно робіць шэсьць тысяч зваротаў у хвіліну. Тут цэлая маленькая электростанцыя—цэлая сыстэма электраматораў. І ў іх хуткасьць электрычнага току раўняецца хуткасьці радыёхваль. Наш завод абсталёван самымі новымі і найлепшымі ў сьвеце машынамі.

І ў яго словах зьзяе, пераліваючыся праз край, глыбокая радасьць.

* * *

Працаўнік фабкому. Яго школа—праца з маленства на заводзе, Чырвоная армія. Паміж справамі, задаволеньнем наведвальнікаў і тэлефоннымі званкамі, ён падрабязна расказвае гісторыю завода і пералічвае ўсе першыя крокі культурнае працы фабкому. Але раптам у голасе пачуліся журлівыя ноткі і ён пачынае расказваць, як з прычыны адставаньня жыльлёвага будаўніцтва і таму, што клюб яшчэ толькі будуецца, вельмі цяжка ўцягці ў працу старых рабочых.

Яшчэ ўлетку нічога. А ўвосень і ўзімку бяда. Яны раскіданы па ўсім горадзе і ніякім чынам іх не зацягнеш ні на сход, ні ў гурток.

Малады яго твар засьцілаецца водбліскам смутку.

Але гэта толькі на момант. Праз хвіліну ізноў зьвініць тэлефон. Жывы энэргічны агонь прабягае ў вачох таварыша і ён гаворыць далей пра павышэньне кваліфікацыі, шэфства, гурткі, прамфінплян, соцспаборніцтва. Набліжаецца чацьвертая гадзіна. А ў яго яшчэ паседжаньне, шэраг пытаньняў і непачатае мора працы.

## Лясны асілак

Сонца блукала дзесьці далёка ў Сібірскай тайзе, і таму зямля яшчэ ціха спала, захінуўшыся ў коўдру туманавай імжы. Лес толькі яшчэ прадзіраў вочы і ўмываўся сьцюдзёнай расою. На небасхіле, вартуючы змрок, зусім нізка нахіліліся да зямлі дзьве электрычныя зоркі. У шэрым сутоньні выплыў каменны гмах станцыі Бярэзіна. Яна на момант прачнулася, задрыжэла са сну людзкім рухам і хутка сьцішылася ізноў. Пры-

ход цягніка перабіў яе сон і цяпер яна, ня гледзячы на вакольную начную маўклівасьць, раз-по-раз варушылася і чакала сьвітаньня. Яно надышло неяк хутка і раптам замітусіліся рамізьнікі. На дапамогу ім прышлі станцыйныя прыбіральшчыкі, якія з настойлівай ветлівасьцю прасілі пасажыраў ісьці пагуляць на вольным паветры, а ім дазволіць прыбраць памяшканьне.

Горад яшчэ толькі думаў прачынацца. Муры пабудовы хлебазаводу пазяхалі чорнымі вокнамі. На бязьлюдных вуліцах маўчалі будынкі і ў цэнтры на скрыжаваньні іх, як нярухомыя постаці монумэнтаў, стаялі два міліцыянэры. На ўскраіне гораду рупныя гаспадары маленькіх дамкоў бразгалі засаўкамі калітак, выходзілі паглядзець ці вялікія лужыны пакінуў дождж на шырокіх небрукаваных вуліцах, ішлі ў суседнія двары за вадою. На цэнтральнай Соцыялістычнай вуліцы ў даўгім двохпавярховым будынку гулі і стракаталі машыны арганізаванай у сакавіку гэтага году досыць вялікай швэйнай фабрыкі на тысячу з гакам рабочых. На пабудову тэатру жвавым гоманам ішоў на працу натоўп будаўнікоў.

Гадзіны дзьве я ўглядаўся ў маўклівае аблічча соннага Бабруйску. Яго аднастайныя вуліцы мала цешылі вока. Праўда, іх ня зусім звычайная для іншых невялікіх гарадоў, шырыня, роўнае разьмяшчэньне простымі лініямі і новыя будынкі—белыя, чыстыя, сьвежыя,—сярод якіх сустракаліся нават трохпавярховыя, крыху згладжвалі яго шэрую аднастайнасьць, але ўсё-ж пасьля Магілеўскіх садоў і прысадаў голы камень або размыты дажджом пясок Бабруйску паказаўся мне вельмі нудным. Таму я вельмі ўзрадаваўся, калі нарэшце загуў аўтобус і абвясьціў пачатак дню. Ён пабег на край гораду, мінуў некалькі старых заводаў, паглядзеў ля апошняга, як між хмурага бору пайшла ў Слуцкую далячынь шаша, і побач у другі канец, пад Бярозу, за горад, дзе за апошнімі местачковымі вуліцамі і полем бялеюць новыя домікі рабочага пасёлку. Там на высокім беразе Бярозы ўзьнялася цэлая купа вялікіх, нязвычайных, living рознастайнае формы і выгляду, гмахаў суровага цёмнага чырвонага колеру. Сышоўшы з аўтобусу, мінаеш фізкультурную пляцоўку, новыя белыя драўляныя дамы рабочага пасёлку і ўваходзіш у цэлы сваясаблівы гарадок, які вялікімі і малымі дамамі аднолькавага цёмна-чырвонага колеру раскінуўся на беразе Бярозы. Спачатку стаяць побач два аднапавярховыя параўнальна невялікія дамы. Кантора, сталоўка, амбуляторыя і заўком. Насупраць фабзавуч. Далей узьняліся высокія муры інтэрнатаў. А за дашчаным белым плотам вялікія гмахі лесапільнага, фанэрнага і лесадрэўнага цэху, чыгунка, склады, пажарнае дэпо. У цэнтры паўсталі ў неба стромкія чорныя трубы электрастанцыі.

Даўней тут быў лес і сярод лесу некалькі невялічкіх прыватнаўласьніцкіх пільняў, тых самых, якія адзін актывісты рабочы назваў „няшчаснымі мышаловачкамі“. Некаторых з іх няма ўжо зусім. Дзьве абмаладжаныя новым абсталяваньнем і электраэнэргіяй, працуюць і цяпер у складзе комбінату. Адна стаіць супроць лесапільнага цэху, як сым-

баль сьмерці старых капіталістычных заводаў. На ёй няма даху. Адны голыя латы тырчаць, як шкілет. Ля ўваходу—павук зьвіў вялічэзнае павучыньне. З адчыненай чорнай пасьці пакінутага будынку вее магільным подыхам.

Купка высокіх раскіданых хвой захавалася каля электрастанцыі і ні то сумуе аб сваіх загінутых таварышох, ні то радасна гамоніць вітаньне новаму разгону працы, ні то ў глыбокім задуменьні дзівіцца, як з дальных і бліжніх лясоў Бабруйшчыны і Барысаўшчыны плывуць сотні тысяч іхніх сяброў—чырвона-жоўтых бярвеньняў.

Хвалі Бярозы імклівыя і зыбкія ў часе нягоды. Добрым надвор'ем яны жартаўлівыя і гарэзьлівыя. На працягу вякоў яны паразмывалі свае пяшчаныя берагі і парабілі ў іх безьліч зьвілістых згібаў (гэтак званых вазёр) і затокаў. Гэта вельмі спрыяе сплаву леса, бо дае магчымасьць лёгка затрымаць яго ў іх у часе веснавой паводкі. А на возеры Белы Бераг, за 15 кілёмэтраў ад Бабруйску, лес сартуюць на вадзе. З высокага берагу відаць, як у цьмяных колерах небасхілу бялее там дом для рабочых.

База комбінату ўся завалена бярвеньнем. Бераг апяразаны ніткаю электрычных слупоў. Асілкі-элеватары двума заўжды сагнутымі чорнымі рукамі падымаюць бярвеньне з вады ў часе сплаву і складваюць у штабелі вышынёю да 15 мэтраў. Пасьля па меры патрэбы іх спускаюць у ваду і гоняць у басэйн. Доўгая вузенькая белая стужка з дошчак з балясамі пабегла далёка па вадзе паўз базу. Гэта бон. Ён адгароджвае бярвеньням шлях у басэйн. Зьверху басэйн пераплецены масткамі. Высока ў паветры вісяць электрычныя лямпачкі. Рабочыя, узброеныя даўгімі вострымі баграмі, кіруюць бярвеньне на зубы ланцугоў саматасу. І па высокай эстокадзе бярвеньні, быццам па хвалях, спакойна і роўна плывуць на другі паверх лесапільнага цэху. Там іх падхопліваюць сталёвыя рукі і на двох маленечкіх вагонэтках падаюць у рамы, дзе быццам дзікія зьвеpы ў клетцы, бязупынна трапечуцца пілы. Час-ад-часу саматас супыняецца і тоўстае бервяно бывае дойдзе ў гэты момант да яго досыць крутога згібу і, моцна прытуліўшыся камлём да саматасу, задзярэ ў неба сваю шырокую тупую верхавіну. Гэта значыць, што яго папярэднік прышоў на месца, уставіўся галавой у шчыт і чакае пакуль пілы кончаць справу з ранейшым. А тады, рабочы пакруціць старно вагонэткі, падвядзе яе пад бервяно. Толькі ўзьніме руку і пацісьне ўніз працягнены каля яго дрот блоку. Раптам возьмуцца сталёвыя рукі і ў момант пакладуць бервяно на вагонэтку. Адзін паварот старна і вальцы лесапільнае рамы цягнуць дрэва пад зубы піл. Ізноў заварушыўся ланцуг саматасу, тоўстае бервяно павалілася на згіб і паплыло ў лесапільню. Нэрвовы гул і сыканьне піл вылятае на двор. І ачмуранае, усыпленае ім бярвеньне ў апошні раз глядзіць на лясную далячынь за Бярозай, успамінае родны бор і, пакарыўшыся розуму і волі чалавека, ціха плыве ў лесапільню.

Два рады рам акантоўваюць іх і піляць на дошкі. Другія рабочыя тутжа рэжуць на цыркулярках аполкі і брак і спускаюць у люк на ніз. Там з іх выбіраюць тое, што можа яшчэ згадзіцца і робяць маленькія дошчачкі для скрынак. Толькі абсолютна нягодныя адкіды транспарцёр прапускае праз драбілку і выкідае на двор. Адтуль іх вывозяць на звалку, на апал для электрастанцыі. Туды-ж на апал ідуць і апілкі, хаця ёсьць ужо іншы проект.

— „Мы ў хуткім часе такой роскашы сабе дазваляць ня будзем, кажа адзін з працаўнікоў комбінату.—Вось толькі набудзем амэрыканскі прэс і тады апілкі будуць перапрацоўваць на дошкі, а на апал пойдзе торф.

Напіленыя дошкі шэрагам валікаў перадаюцца на траспарцёр і праз двор падаюцца ў суседні будынак сартавальні. Сартаваньне дошчак таксама па магчымасьці мэханізавана. Крокавы транспарцёр увесь час соўгае свае доўгія ступні (крочыць), а на краі яго стаіць рабочы і адмысловым падважнікам адчыняе і зачыняе праходы для розных дошчак. На дварэ дошкі складваюцца ў штабэлі, памерам у чвэрць вагону.

Амэрыканскія аўтавозы з задорлівым гіканьнем сырэн весела падбягаюць пад сартавальню. (Іх хуткасьць 25 кілёмэтраў у гадзіну). Некалькі хвілін яны зухавата пакручваюцца, каб падыйсьці акурат на штабель. Мэханік, седзячы ўверсе, пакручвае падважнікі. Доўгія рукі аўтавозу моцна сьціскаюць цэлы штабель і мігам перастаўляюць яго з аднаго месца на другое, вязуць да вагону. Неўзабаве на комбінат прыбудуць яшчэ два такія аўтавозы. Пакуль іх ня было—іхнюю працу рабілі 50—60 фурманак. Кажуць, тады быў страшэнны гам, шум, гармідар. Глядзіш і не налюбуешся на гэтага лоўкага каня, які за чатыры разы забірае цэлы вагон дошчак і робіць гэта за некалькі хвілін.

Стары завод стаіць на краі тэрыторыі комбінату на водшыбе. Саматас на ім цягнуць рабочыя лябёдкамі. Некалькі хвілін трэба мерыцца, пакуль ланцуг зловіць у пятлю бярвеньне. Пасьля іх на версе прыходзіцца навальваць цэлаю кучаю. Дошкі трэба цягаць вагонэткамі. Нізкае дашчатае памяшканьне неяк цісьне сваім змрокам і густым гулам і хочацца вырвацца з яго на волю. Ідзеш назад у лесапільны цэх. Сьвежыя мяккія апілкі пахнуць шпігінарам. Людзі спакойна стаяць на мясцох і кіруюць мэханізаваным організмам пільні. У бакоўцы шпарка круцяцца аўтоматычныя пілаточкі, і брускі пырскаюць снопам іскраў. Выйдзеш на саматас, дзе ў тры рады плыве да рам сасновае бярвеньне. Вецер сьпявае ім песьні дальніх лясоў. За Бярозай у глыбокай задуме маўчаць і дзівяцца палі. Белыя хмаркі на небасхіле трывожна прытуліліся да даляў зямлі, быццам хочуць ім штосьці паведаміць. А ўнізе, у басэйне ўсё новае і новае бярвеньне падхопліваюць зубы саматасу. І гэтак працуюць яны бесьперапынна—круглыя суткі, круглы год. Басэйн ніколі не замярзае, бо ўзімку яго ацяпляюць гарачай адпрацаванай вадою. Цяпер яна яму непатрэбна і з ракатаньнем ды рыкам вырываецца з свайго падземнага каналу на волю, у хвалі Бярозы.

Вецер неяк раптам пагнаў з поўначы цёмныя хмары. Паліў сьцюдзёны дождж. Ён у момант цьмянай плёнкай заслаў усе далягляды і прымусіў схавацца ў цэх. Мне з трывогай успомніліся ўчарайшыя магілеўскія бузацёры і незасыпаньне ямы.

На сьценах у цэху графікі пульсу цэхавай работы—выкананьня промфінпляну і іншыя паказальнікі ўнутранога цэхавага жыцьця. Сьценгазэты-ільлічоўкі. У іх асаблівую ўвагу зьвярнулі оргінальныя вострыя мэтоды самакрытыкі—карыкатуры і вікторына.

На вялікім плякаце ўдарнікі б'юць трывогу аб недавыканьні прамфінпляну за першую дэкаду і заклікаюць хутчэй выканаць і перавыканаць, ліквідаваць прарыў. А побач, на чырвонай дошцы пад дэвізам „5 лет у 4 гады“ красуецца некалькі імён таварышоў, якія выканалі плян у мінулым месяцы з перавышэньнем.

---

Фанэрны цэх, уласна кажучы, уяўляе сабою зусім асобную фабрыку. Яго вытворчы процэс праходзіць зусім адасоблена і незалежна ад працы іншых цэхаў і заводаў комбінату. У яго асобная база, асобныя склады, ды і сам ён падзяляецца на некалькі аддзяленьняў—цэхаў: лушчальнае, клеільнае, сушыльнае і г. д.

Доўгая эстокада праходзіць паўз базу. Тут саматас выгружае запасы дрэва. Другі саматас падае іх на пляцоўку да цыркуляркі. Цыркулярка рэжа бярвеньні на адпаведную даўжыню. Тут-жа іх накладаюць на вагонэткі і падаюць у парылкі. Дрэва парыцца восем гадзін і на тых самых вагонэтках адвозіцца да лушчыльных станкоў. Побач з імі ў апошні час асталяваўся замежны фанэрны станок для дубовай фанэры. Шырокі і нізкі, чорны з чырвонаю пасьцю, як нейкі дзівосны зьвер, ён цяжкімі драпежнымі рухамі расплоствае дубовую калодку на тоненькія фанэрныя лісты. Пакуль што, ён, здаецца, зьяўляецца адзіным у Саюзе.

Доўгія палосы фанэры, якія выходзяць з лушчыльных станкоў, клеяцца ў наступным аддзяленьні на вальцах. Далейшы іх шлях праз прэсы, высокія квадратовыя адчыненьня шафапавеці, дзе пад ціскам ў 250—300 атмосфэр і пры тэмпэратуры ў 160° фанэра прасуецца і сушыцца. Прэсы дыхаюць кіпучым сокам і парай. Сушка канчаецца ў наступным аддзяленьні на сушыльных барабанах. У прэсах фанэру трымаюць 15—20 хвілін—у сушыльных станкох 5 хвілін. Тут кожны ліст праходзіць між кантовых драцяных вальцаў. Нарэшце, на абрэзачных станкох нажы надаюць кіпам фанэры роўны стандартны памер і яна паступае на склад, дзе ў вялікім будынку ўтварае цэлыя цясьніны і горы. Вось у кароткіх рысах шлях вырабу фанэры ад саматасу да складу.

Кажуць, што фанэрны цэх Бабруйскага комбінату можна лічыць адным з лепшых у Саюзе. Ён зараз ужо вырабляе ў год (разам з старым фанэрным заводам імя Томскага, які таксама ўваходзіць у склад комбінату) 35.000 кубамэтраў фанэры, з якіх 15.000 ідзе на замежны рынак, на экспорт.

## Машыны і людзі

На Бабруйскім лесаапрацоўчым комбінаце працуе каля трох з паловай тысяч рабочых. Ён пераапрацоўвае ў год звыш паўмільёна дрэў і, пачынаючы з ліпеня гэтага году, будзе пераходзіць на выраб выключна зусім скончаных фабрыкатаў—фанэры і будаўнічых дэталяў.

Пра жыцьцё комбінату можна было-б напісаць цэлую кнігу. Але ў кароткіх нарысах-эскізах можна адзначыць толькі асноўныя рысы, якія даюць уяўленьне аб характары новых буйных соцыялістычных фабрык і заводаў на Беларусі.

Пабудова комбінату была распачата ў 1927 годзе. Першым быў пушчан у ход лесапільны цэх 1 чэрвеня мінулага году. Электрастанцыя тады яшчэ ня была ў эксплёатацыі і цэх працаваў першы час на гарадзкой энэргіі. Рабочых спачатку было ў ім усяго 180 чалавек. За год гэтая лічба ўзрасла да 2000. Першага лютага гэтага году быў пушчан фанэрны цэх. І, нарэшце, нядаўна, на сьвята дзесяцігодзьдзя вызваленьня Савецкай Беларусі ад белапалякаў была пушчана ў ход яшчэ новая фабрыка комбінату—цэх будаўнічых дэталяў. Пабудова комбінату скончана. Зямля яго тэрыторыі, якая яшчэ нядаўна калацілася ў гармідары ліхаманкавага будаўніцтва, супакоілася і пачала апранацца ў брук і памост. Бабруйск упрыгожыўся буйным прадпрыемствам, абсталяваным паводле самага апошняга слова тэхнікі. Інжынэры кажуць:

— „У нас ня знойдзецца ніводнага станка, які можна было-б замяніць лепшым. Ніводнай устарэлай машыны. Тут найнавейшыя дасягненьні тэхнікі. Усё самае новае і найлепшае ў сьвеце. Цяпер застаецца толькі як сьлед наладзіць працу і організаваць вытворчы процэс“.

Бязумоўна, у першую пару працы сустракаюцца цяжкасьці, бываюць, як завуць іх на прадпрыемствах—непаладкі. Аднэй з найбольш балючых непаладак аказалася цякучасьць рабочага складу. У фанэрным цэху за першы месяц працы прайшло каля 900 чалавек. Гэта, бязумоўна, уносіць дэзорганізацыю ў жыцьцё прадпрыемства. Прамфінплян па цэху быў выканан за той месяц усяго на 50 проц. Праўда, трэба мець на ўвазе, і гэта характэрна наогул для ўсіх новых фабрык, што большасьць рабочых упяршыню становіцца за варштат. Сярод рабочых комбінату каля 35 проц. прышлі проста з вёскі. Таксама ёсьць шмат моладзі, якая раней таксама нідзе на заводзе не працавала і ў першы час яны яшчэ вучацца, практыкуюцца. Праходзіць месяц—і ў сакавіку фанэрны цэх выконвае прамфінплян ужо з перавышэньнем. У красавіку праводзіцца конкурс лепшых ударнікаў і нарэшце за травень прамфінплян выкананы на 108 проц. Наогул па ўсім комбінаце прамфінплян быў выкананы з перавышэньнем у сярэднім на 17,5 проц. Усе цэхі абвешчаны ўдарнымі. Штомесячна адбываецца праверка соц. спаборніцтва і лепшы цэх атрымоўвае пераходны штандар. Дзеля атрыманьня яго патрабуюць стопроцантнага выкананьня прамфінпляну на ўсіх паказальніках. Асаблі-

вую ўвагу зьвяртаюць на поўнае выкананьне пляну экспортнай продукцыі, палепшаньня якасьці, зьніжэньня сабекошту.

Апрача штандару праводзіцца прэміраваньне лепшых рабочых і ў індывідуальным парадку і ў цэхавым.

Фанэрны цэх, той самы, у якім у першы месяц працы цякучасьць вызначалася лічбай у 900 чалавек і які выканаў тады прамфінплян усяго на 50 проц., атрымаў праз некалькі месяцаў у выглядзе прэміі бібліотэку і радыёўстаноўку. У ліпені таксама ў яго быў і пераходны штандар.

Пераходны штандар, наяўнае азначэньне вынікаў соцыялістычнага спаборніцтва, як сымболь лепшых змаганцаў на фронце пасьпяховага выкананьня пяцігодкі, зьяўляецца паходняй, вакол якой разгортваецца на комбінаце інтэнсыўнае змаганьне.

Пазнавата ўвечары аўтобус быў перапоўнены актывістымі. Праца іхняй зьмены скончылася даўно, але калі канчаецца праца ля варштату, актывістых чакае цэлы шэраг вялікіх і малых пытаньняў імклівага заводзкага жыцьця. Таму яны пазьней за іншых варочаліся ў горад. Побач са мною малады рабочы—ён на паседжаньні—сябра заўкому. Перад намі сядзелі комсамольцы з фанэрнага цэху—у іх быў цэхавы сход ячэйкі.

— Глядзеце, дзяўчаты,—зьвярнуўся да іх мой сусед, ён аказаўся таксама рабочым фанэрнага цэху—завод № 7 імкнецца адабраць у нас штандар. Глядзеце, я чуў, што яны імкнуцца.

На яго жывым і рухавым твары цень заклапочанасьці.

— У нас у гэтым месяцы цэх стаяў два дні з-за адсутнасьці кляільных матэрыялаў. А цяпер мы наўрад ці пасьпеем дагнаць, бо завод № 7—гэта старая пільня—вельмі завіхаецца. Яны вельмі хочуць адабраць у нас штандар.

— Дык гэта-ж не па вашай віне...

— Усё адно, у нас гэта ня лічыцца. Але я кажу ім, што калі мы ў наступным месяцы возьмем яго назад, з гэтым яшчэ трэба будзе згадзіцца, а калі не—дык нам будзе сорамна. Гэта нашы ўдарніцы—кіўнуў ён у бок комсамолак.

Дзяўчаты весела і бойка размаўлялі, сьмяяліся. Пасьля цэлага дню працы і сходу, у іх ня відаць было ніякай адзнакі стомленасьці. Бадзёрасьць і маладасьць буйна пырскалі з прамяністых бліскучых вачэй і энэргічных тварыкаў. Ды яно і ня можа быць іначай, калі прад чалавекам шырокія далягляды і вялікія мэты.

Не забываецца на пераходны штандар і лесапільны цэх, які ўладаў ім раней. Між, іншым у ім наглядаецца адна вельмі цікавая зьява. Мэханізацыя зрабіла цэлую рэволюцыю ва ўзаемаадносінах старых і маладых, кваліфікаваных і некаваліфікаваных рабочых. Мне расказалі аб гэтым наступнае:

— На старых заводах, каб вывучыцца на станковага на раме, трэба было вучыцца гады тры—чатыры. Гэта вучэньне давалася ня вельмі лёгка. Трэба было кожны сакрэт на першы погляд простага, а ў сут-

насьці тонкага процэсу расьпілоўкі дрэва, якім-небудзь чынам выведваць у майстра. Часта прыходзілася яго дзеля гэтага як-небудзь задобрываць. Майстар адчуваў сябе мастаком сваёй справы, спэцам. На старых заводах, як дошкі вышлі з рамы, гэтак і ідуць на склад. І праца добрага майстра там выдзяляецца. А на новым заводзе майстра замяняе ўдасканаленая тэхніка. Апрача таго, на буйным прадпрыемстве, дзякуючы наяўнасьці іншых галін вытворчасьці, бракаваныя дошкі таксама утылізуюцца. Профшколец цяпер навучыцца на станковага замест трох-чатырох год за тры-чатыры месяцы. І праз некалькі месяцаў малады профшколец працуе ўжо лепш за старога майстра, бо хутчэй завіхаецца. У выніку—старым прыходзіцца саступаць месца моладзі. Малады становіцца за станкавога, а стары ідзе да яго памочнікам. Некаторыя старыя ніяк ня могуць з гэтым згадзіцца.

— Вось вы пойдзеце на завод № 6 і пабачыце там старых барадатых станкавых. Там куды цяжэй працаваць, але некаторым з іх там больш падабаецца. Там яны адчуваюць сябе гаспадарамі становішча, адчуваюць, што менавіта яны вядуць рэй вытворчага процэсу, што якасьць вырабу залежыць ад іхняга ўмельства. І я разумею іх—казаў мне адзін стары інжынэр—бо я ведаю, што гэтая навука ім нялёгка далася. Каб навучыцца ў старых майстроў, ім часта трэба было ці паставіць яму бутэльку гарэлкі, ці часам даць пяцёрку, адным словам, як-небудзь выслужыцца ў майстры.

— Але, вядома, і на новым заводзе, стары спрактыкаваны майстар зьяўляецца вельмі карысным. Ён хутчэй за маладога заўважыць, калі, часам, здарыцца якая-небудзь ненормальнасьць. Нарэшце, яму і тут ёсьць шырокае поле творчай дзейнасьці ў галіне рацыяналізацыі, вынаходніцтва і г. д. Ну, але некаторым старым тое, што малады стаіць за станкавога, а ён у яго памочнікам усё адно, як нож у сэрца.

Жывую ілюстрацыю да гэтых слоў я пабачыў на вытворчай нарадзе. Ля стала стаўпіўся актыў лесапільнага цэху. Там сабраліся ўдарнікі, людзі, якія хварэюць кожнай самай нязначнай ненормальнасьцю ў працы. Яны—адны спакойна, другія з абурэньнем—крылі па ўсіх недахопах. Абураліся тым, што некаторыя рабочыя ня сочаць за чыстатой інструмантаў, наогул працуюць, як „на чужога дзядзьку“, яшчэ дагэтуль не ўсьвядомілі сабе, што такія нядбайныя адносіны да працы робяць шкоду ў першую чаргу самім-жа рабочым, бо яны-ж працуюць не на капіталістых, а дзеля росквіту сваёй-жа пролетарскай дзяржавы. Між іншым, адзначалі такія выпадкі, калі станкавы няправільна ставіць пілу, а тут-жа стаіць стары рабочы, яго памочнік і толькі насьміхаецца.

Каля мяне сядзеў пажылы вусаты дзядзька і час-ад-часу няголасна бурчэў зласьлівыя рэплікі.

— Ага, станкавы ня ўмее, а памочнік яго вучыць павінен. Дык на што-ж яго паставілі за станкавога. А па мне ты хоць дагары нагамі пастаў, дык я не скажу нічога...

Гэта тэндэнцыя адразу атрымала рашучы адпор з боку яго таксама пажылога суседа.

— А па-мойму ня так. Ты пілы ставіць не павінен. На гэта ёсьць піластаў. Але калі ты бачыш памылку, ты павінен яе заўважыць, каб ня было шкоды.

Вусаты дзядзька змоўк. А новы прамоўца жалезнымі абуранымі словамі, як молатам, куе баявы імпэт. З асаблівым запалам ён біў па цякучасьці, трывожныя адзнакі якой нядаўна зьявіліся ў лесапільным цэху.

— Ёсьць у нас такі „пролетарыят", што ён разам з намі працуе, але ніхто ня ведае, што ён думае, ці хоча ён ехаць куды жаніцца, ці чорт яго ведае чаго ён хоча—і раптам—„заўтра на работу ня выходжу", калі ён па колдагавору павінен за два тыдні аб гэтым папярэдзіць. Дык гэта, таварышы, нават не прагульшчыкі, гэта дэзэртыры працы і з імі трэба рашуча змагацца. Наогул, даволі нам цярпець за ліквідацыю ўсіх гэтых непаладак, даволі ўжо з імі валаводзіцца—і каб пераходны штандар, які адабраў у нас фанэрны цэх ізноў быў у нас!

Мой вусаты сусед памкнуўся быў буркнуць сабе пэд нос—„А на чорта мне гэты штандар",—але яго словы неяк адразу памёрлі. Хутка і сам ён пайшоў з нарады, а ўдарнікі яшчэ доўга абмяркоўвалі рознастайныя пытаньні, каб палепшыць працу.

---

Цяпер яшчэ трэба сказаць аб культурным жыцьці комбінату. Я казаў ужо раней, што яно пачынаецца на нашых заводах разам з першай цаглінай фундаманту. Першыя крокі яго яшчэ вельмі павольныя, быццам нейкія нясьмелыя, як у дзіцяці, калі яно толькі што пачынае хадзіць, але з часам яны робяцца сталымі і, няўхільна перамагаючы цяжкасьці, ідуць далей і далей.

Пад акомпанімэнт упартых рытмаў будаўніцтва і магутнай сымфоніі машын, вызваленая душа працоўнага чалавека сьпявае вялікімі імкненьнямі і рвецца ў соцыялістычнае заўтра.

Дыяпазон гэтых сьпеваў шырокі, як само жыцьцё. Ён тысячай рознастайных нюансаў вібруе ад ліквідацыі няпісьменнасьці да рабочавынаходніцтва, мастацкай дзейнасьці і вышэйшых навучальных устаноў.

Каб ахапіць усе праявы гэтага жыцьця трэба шмат часу і месца. Я спынюся толькі на самым характэрным, не ўдаючыся ў дэталі і мінуючы усё агульнае.

35 проц. рабочых комбінату прыходзіць з вёскі. Шмат моладзі прыходзіць на працу ў пяршыню. Адразу яны праходзяць уводныя курсы. На працягу двух месяцаў яны вывучаюць гісторыю комбінату, процэс вытворчасьці і профработу. Нормальнай працы курсаў перашкаджае цякучасьць рабочага складу. Але ў разьвіцьці сьвядомасьці моладзі і тых, каму завод яшчэ толькі становіцца новай бацькаўшчынай, яны адыгрываюць

вялікую ролю, як трапна сказаў старшыня заўкому — „праслухаўшы іх, хлопец адразу робіцца сапраўдным рабочым“.

Па лініі асьветы комбінат абслугоўваюць, апрача пачатковых устаноў, профтэхкурсы, курсы электротэхнікаў, фабзавуч, курсы для падрыхтоўкі ў тэхнікум, ВНУ і ВТНУ. З восені ў Бабруйску адчыняецца дрэваапрацоўчы тэхнікум.

Апрача вытворчай працы і вучобы, нашы прадпрыемствы, як вядома, зьяўляюцца школай і кузьняй новага чалавека. На комбінаце аформлена 8 ударных брыгад, за параўнальна-кароткі час яго існаваньня 60 рабочых запісаліся ў партыю. Комбінат трымае шэфства над суседнім Рагачэўска-Жлобінскім агра-комбінатам. Рабочыя брыгады прымалі чынны ўдзел у правядзеньні колектывізацыі і веснавой пасеўнай кампаніі. Цяпер у парадку дню наступнага агульнага сходу рабочых было пастаўлена пытаньне аб удзеле ва ўборачнай кампаніі і падрыхтоўцы да васеньняй пасеўнай кампаніі.

Масавая праца ўлетку праводзіцца ў садзе на комбінаце. Паміж іншых форм працы—сходаў, прыежджых артыстых (у часе майго прабываньня яны ладзілі, напрыклад, літаратурны вечар, прысьвечаны творчасьці Маякоўскага), спэктакляў тутэйшага драмгуртка і інш., у садзе сыстэматычна адбываюцца лекцыі-гурткі на рознастайныя палітычныя і іншыя тэмы. Аб колектывізацыі, індустрыялізацыі, пяцігодцы, пяцідзёнцы, рэалізацыі пазык, па тэхніцы апрацоўкі дрэва, мэдыцыне і г. д. Тэмы для наступнай лекцыі заўсёды прызначаюць самі слухачы. Найбольшай увагай іх карыстаюцца тэмы вынікаў пяцігодкі.

Апрача летняй сцэны, у садзе ёсьць чытальня. Узімку праца пераносіцца ў горад, у клюб дрэваапрацоўнікаў. Але раскіданасьць рабочых па ўсім горадзе і цесната памяшканьня клюбу не даюць магчымасьці шырока разгарнуць працу. У заўкоме скардзяцца, што ўвосень і ўзімку вельмі цяжка бывае нават склікаць сход у клюбе, што цяжка ўцягці ў працу старых рабочых. Пасёлак „Пролетары“ зьмяшчае ўсяго 40 сем'яў. Апрача іх на комбінаце жыве ў інтэрнатах каля 200 чалавек профшкольцаў і фабзавучнікаў ды інжынэрна-тэхнічныя працаўнікі, якія з прычыны трохзьменнай працы комбінату павінны на ўсякі выпадак знаходзіцца тут-жа на месцы. Рэшта рабочых раскідана пакуль-што па ўсім горадзе. Вядома, гэта мае шмат нявыгод. Заўком бачыць у гэтым адну з асноўных прычын цякучасьці і наракае на Дрэўбуд, за тое, што той, складаючы пляны комбінату абсолютна ня прыняў пад увагу жыльлёвае будаўніцтва. Але, бязумоўна, гэта зьява часовая. Гэтым летам распачата ўжо пабудова клюбу, на якую асыгнавана 300.000 рублёў і жыльлёвага дому на 52 кватэры. У будучым годзе будавацьмуць яшчэ адзін дом на 60 кватэр. Апрача таго, заўком мяркуе, што будзе магчымасьць часткова разьвязаць жыльлёвае пытаньне за лік стандартных васьмікватэрных дамоў, якія ў бліжэйшы час пачне выраб ляць новы беладрэўны цэх будаўнічых дэталяў.

## Першы ў Саюзе

Раніцой на цямочку на сьвята дзесяцігодзьдзя вызваленьня Савецкай Беларусі ад белапалякаў я выехаў з Менску ў Бабруйск. На вакзале—страшэнная даўка. Мне ледзьве ўдалося ўзяць білет ды і то толькі дзякуючы камандыровачнаму пасьведчаньню. У ранішняй сьвежасьці далі палёў і сенажацяй веялі бязьмежнай воляй, абуджалі навалу ўспамінаў і дум. Па асоцыяцыі часу ізноў паўставалі ў памяці колішнія крывавыя ночы, спаленыя вёскі, параненая, расстраляная зямля.

У вагоне было страшэнна цесна. Але ехаць было вельмі весела. Бо ў нашым купэ ехалі колгасьнікі. Пажылы худы дзядзька з бледным і вострым упартым тварам, у акулярах і некалькі маладых хлопцаў. Хлопцы, усе як адзін, былі ў гарадзкім адзеньні—гарнітуры і плашчы, у некаторых таксама і гальштукі. Дзядзька чытаў газэту, а хлопцы ні на хвіліну не пераставалі жартаваць і да таго заўзята і ёмка, што прымушалі бязупынна рагатаць і дзядзьку і ўсіх пасажыраў. Гэта-ж пераліваласся ў іх цераз край радасьць вольнае працы.

У Міхановічах ім яшчэ большай вясёласьці паддаў адзін стараваты дзядок, у жакетцы і маленькай шапцы шляхетнага выгляду, які раптам схамянуўся і ўстрывожаным голасам запытаўся, быццам з гарматы стрэліў.

— А ці скора будзе Койданава?

Гэта значыць, ён сеў ня ў той цягнік і заехаў у зусім іншы бок. Добра яшчэ, што ў Міхановічах якраз чакалі цягніка на Менск, але дзядок даў матар'ял для жартаў усяму нашаму вагону.

Цягнік узьнята грукацеў угрунь і плыла насустрач яму паўз чыгункі белая строма рознастайных лясных матэрыялаў.

Бабруйскія вуліцы зьвінелі бязупынным рухам дэмонстрацый. Комбінат быў спавіты ўрачыстай цішынёю. Толькі зьлёгку дымілася адна труба электростанцыі—сёньня пуск новай турбіны—і вялікая стрэлка гадзіньніку на яе вежы няўхільна набліжала пуск беладрэўнага цэху.

Час-ад-часу цішыню парушалі бадзёрыя выгукі аўтавозу. З прычыны тэрміновых заданьняў праца пагрузкі вагонаў не магла быць спынена і на сьвята.

Уваход у беладрэўны цэх перагароджан чырвонай істужкай. Унутры ён быў поўны сур'ёзнай напружанасьці. Маладыя хлопцы профшкольцы, ў новенькіх чыстых „юнгштурмах", некаторыя з гальштукамі, некаторыя ў сьветла-шэрых спэцоўках паверх гарнітуру, завіхаліся яшчэ сям-там каля варштатаў з стрыманай пасьпешнасьцю дактароў каля парадзіхі, і ў іхніх вачох сьвіцілася любасьць маткі да свайго першага дзіцяці.

Варштаты, найноўшае слова эўропэйскае тэхнікі. Кожны з іх выглядае складанейшым жывым організмам. Сыстэма шматлікіх органаў, мускулаў. І якіх толькі дзіў тут няма! Шліфавальны варштат—у некалькі хвілін дошка праходзіць паміж самых рознастайных шліфавальных

матэрыялаў ад наждака да валасяной шчоткі і выходзіць быццам паліраваная бліскучая і гладкая, як шкло. Фрэйзэрныя варштаты, у якіх энэргія падаецца праз „сваю маленькую электростанцыю“ — сыстэму 6—7 маленькіх электраматораў. Гэта сыстэма дае вельмі вялікую хуткасьць току, роўную хуткасьці радыё-хваляў. Вал фрэйзэра воку здаецца нярухомым. А між тым; ён круціцца з шалёнай хуткасьцю, робячы 6, а некаторыя нават 9 тысяч зваротаў у хвіліну. Шпунтавальна-клеільны аўтомат. Вялікі—даўжэзны варштат. У розных напрамках побач ідуць ланцугі конвэйераў і з абрэзкаў склейваюць вялікія сталярныя шчыты. Гэтым ён дае магчымасьць вельмі экономічна выкарыстоўваць усялякія адкіды комбінату.

У канцы цэху і ля ўваходу ў зборачным аддзяленьні стаялі ручныя і аўто-цялежкі. У чаканьні працы ляжалі кучы дошчак, фанэры. Нябачаныя артэрыі электраправадоў папаўзьлі да сэрца кожнага варштату— адгароджана рашоткай электроматору. Уверсе пад стольлю пабеглі сівыя тоўстыя вены—пыласосы.

За цэхам знаходзіцца ляборatорыя і сушыльная гаспадарка. Яна налічвае дваццаць дзьве вялізныя камэры у якіх за адзін абарот высушваецца 35 вагонаў дошчак. Па-за камэрамі ў машынным аддзяленьні стаіць доўгі рад сушыльных машын. Яны складаюцца з электрычных вэнтылятараў і колорыфэраў, апранутых у круглыя, як барабан цёмна-белыя асбэсцытавыя футляры. Дошкі сушацца цёплым паветрам. Пяцідзесяцімілімэтравая дошка высушваецца за кароткі час. Сушыльная гаспадарка Бабруйскага комбінату па сваёй вялічыні—першая ў Саюзе і, кажуць, што другая ў Эўропе.

---

Загадчык цэху т. Бэркман сядзеў у канторы цэху. На яго няголеным твары сьвяцілася нэрвовая радасьць глыбокай узрушанасьці.

— Ну, ці хутка-ж зайграе ваш оркэстр? — запытаўся ў яго ўваходзячы высокі худы інжынэр.

— А й праўда. Оркэстр. Тут кожная машына сьпявае асобным голасам. Хутка. Павінна быць а трэцяй гадзіне.

— Толькі што-ж вы не пагаліліся?

Канчаў аўтамат. Я сёньня нават і не лажыўся. А вось ужо з яго й дошка. Цяпер мы ўжо ня будзем вывозіць самую лепшую сыравіну за мéжы, а будзем тут у нас выкарыстоўваць яе да канца і вывозіць гатовыя фабрыкаты.

— Хочаце яшчэ раз паглядзець цэх?—зьвярнуўся ён да мяне.

Таварыш Бэркман малады тэхнік. Монтаж усіх гэтых складаных машын зроблен на працягу шасьці месяцаў пад яго кіраўніцтвам бяз рысункаў і замежнай дапамогі, ад якой цэх адмовіўся. Тав. Бэркман рабіў яго, як ён кажа, па інструкцыі, карыстаючыся толькі замежнай літаратурай і фотоздымкамі.

— Ведаеце, у царскай Расіі дрэваапрацоўчая прамысловасьць была самая адсталая. Нам цяпер прыходзіцца пачынаць спачатку. Трэба сказаць, што ў монтажным проэкце Дрэўбуду мне давялося зрабіць шмат адступленьняў. Буйнейшы савецкі спэцыялісты дрэваапрацоўчай прамысловасьці проф. Квяткоўскі ўхваліў іх і трэба сказаць, што ён адзін даў нам конкрэтную карысьць. Нашыя спэцыялістыя з Лесбелу, якія нават езьдзілі за межы, не маглі даць нам ніякай дапамогі. На мой погляд дрэнна, што рэдка пасылаюць у замежныя камандыроўкі працаўнікоў з вытворчасьці, ад варштату.

Мы прайшлі цэх, сушыльню і вышлі на двор.

— Сёньня роўна год, як пачалі будаваць цэх.

Год таму назад тут быў яшчэ густы лес...

Я глядзеў і ня верыў.

— Такім чынам пабудова комбінату скончана.

Калі атрымаем з Масквы другі трансформатар, пачне працаваць цэх стандартных дамоў. Ён, там, за чыгункай. Але, здаецца, хутка час ісьці на мітынг.

---

У садзе пачыналі зьбірацца рабочыя комбінату і гарадзкія госьці. У вялікай альтанцы-чытальні сядзелі за газэтамі, гулялі ў шашкі, шах маты, доміно. Праходжваліся проста па сьцежках паміж зялёнага возера буйнага аўсу і галіністых яблынь.

Ва ўсіх на тварах узьняты сьвяточны настрой. Толькі дысонансам мільгала здаровая постаць чорнага барадатага вартаўніка, які праходжваўся па садзе з кіем у руках і пільна абараняў непарушнасьць зялёнае плошчы. Хутка пачаўся мітынг. З музыкай падышлі чырвонаармейцы. Прамовы і прывітаньні былі ўсе прасякнуты патосам соцыялістычнага будаўніцтва, яны яскрава паказвалі слухачам, як там, дзе дзесяць год таму назад паны пакінулі руіны, узьняліся волаты індустрыі, падкрэсьлівалі вялікае значэньне беладрэўнага цэху. Ён ажыцьцяўляе ідэю комбінаванай лясной прамысловасьці, бо тут-жа на месцы вырабляе гатовы фабрыкат. Ён робіць цэлую рэволюцыю ў экспорце лесу, бо дае магчымасьць заместа сыравіны вывозіць гатовую продукцыю. Ён дапамажа колектывізацыі і вырашэньню жывёлагадоўчай проблемы, бо будзе выраблядь гатовыя сілосныя вежы. За першы год ён павінен быў даць іх 1000. Але пасьля плян быў падвоены. Ён ня менш як на 50 проц. патаньніць кошт будаўнічых дэталяў—вокан, дзьвярэй. Іх ён выпусьціць у гэтым годзе 1 мільён квадр. мэтраў. Ён павялічыць агульны кошт продукцыі комбінату з 8—9 млн. руб. у гэтым годзе, да 25—30 мільёнаў у наступным.

Пасьля прывітаньняў выступалі прадстаўнікі рабочых і інжынэрна-тэхнічных працаўнікоў цэху і запэўнялі, што ня гледзячы на велічнасьць ускладзеных на іх задач і розныя цяжкасьці, якія могуць сустрэцца, яны аддадуць усе свае сілы, каб апраўдаць ускладзеныя на іх спадзеі.

Пасьля прыняцьця тэкстаў прывітальных тэлеграм ураду, партыі і лесапрамысловым арганізацыям мітынг скончыўся.

Удзельнікі яго накіраваліся ў цэх. Разрэзана чырвоная стужка. Пакручана старно рубільнікаў. І паліліся гукі магутнай сымфоніі турбін. Спачатку яны зьвінелі салаўінымі пошчакамі, пасьля прыгадалі мне нейкую мэлёдыю, чутую дзесьці ў тэатры і нарэшце зьліліся ў адзін бязупынны звон.

Комбінат пачаў жыць поўным жыцьцём.

Спачатку думалі ў гэты-ж дзень зрабіць некалькі дзьвярэй пакуль удзельнікі адчыненьня пройдуць праз цэх. Але іх сабралося столькі, што гэта аказалася немагчымым.

Бэркман пацірае рукі ад захапленьня.

— Падумайце, якое гэта мае вялікае політычнае значэньне. Беларусь, у мінулым бедная, занядбаная краіна экспортуе гатовы фабрыкат куды—у краіну перадавой тэхнікі—Англію. А мы павінны даць ім у гэтым годзе 300 тысяч дзьвярэй.

— Але малайцы нашы хлопцы. Звычайна, калі робіцца спроба, яны, маладыя, кідаюць свой варштат і бягуць глядзець як у другога. Я, прызнацца, трохі за іх баяўся. Але яны малайцы.

Хлопцы вясёлай гурмою праходзілі паўз шкляныя дзьверы канторы.

— Т. Бэркман! дык заўтра пачынаем працу?

— Абавязкова. З раньня прыходзьце.

На фізкультурнай пляцоўцы загарэлыя стройныя дзяўчаты і хлопцы гулялі ў футбол, волейбол, баскетбол. У садзе пачынаў граць оркестр.

У гэты-ж дзень адбылася ў Бабруйску закладка другога ляснога асілка—цэлюлёзавага комбінату. А да канца пяцігодкі лясныя комбінаты вырастуць і ў Барысаве, Полацку, Мозыры. І цэлы шэраг паасобных дрэваапрацоўчых заводаў густою сеткаю пакрые колішні „край журлівых лясоў“—Беларусь.

5—11 ліпеня 1930 г.

# ПЕРАКЛІЧКА ПАРАВОЗАЎ

**Юрка Лявонны**

Адценьнямі яблык гатунку апорт
Лізнуў адвячорак дарогу.
І вецер прыносіць
З далёкіх дэпо
Жалезны, хвалюючы скрогат.

Цудоўнай сімфоніяй гукаў і фарб
За паркам трамвайным—будынкі.
Там зелень ліхтарняў,
І стрэлачны жар,
І ростані таюць,
як дымкі.

А супроць усходаў,
Дзе блікі настурцый
Ляглі, як аздоба вакзалу,
Тугу па ахвярах сама рэволюцыя
Ў просьценькі помнік зьвязала.

Учора
ня рэйкі гулі пад гарой,
І стома ня кратала цела,—
Ў суровай кацельнай
Такою парой
Адозва ЦК палымнела.

Вялізнымі зрухамі ў новай сяўбе
Пахмурыя сьцены набраклі:
— На бойку з прастоямі
Ўзьнімем сябе,
Ганьбуем прарывы і брак мы!

І сёньня—
Ля топак,
у бляску машын
Ня людзі—індустрыі богі!—
Прамерылі шчырасьць рабочай душы
Манометрам перамогі.

... Тут праца кіпіць
На мажорным страі
Упартай ударнасьцю тыдняў,
Таваразваротам савецкіх краін,—
На зайздрасьць нязьлічаным злыдням!

З барханаў Турксібу,
З Каўкаскіх вышынь,
З палёў ільняной Беларусі
Цякуць эшалёны сырцу і машын.
У цёплым
і ладным
хаўрусе;

У час гэты
Сьмела гасьцей запрасі:
Вясёлым, асьнежаным ранкам
Складанаю гамай трывогі і сіл
Ліюцца сьвісткі на паўстанках.

Магутных артэрыяў сьвежую кроў
Па ўсім організьме краіны
Няўпынна нясе цягніковы строй
Скрозь буры,
завеі
і стыні!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

І ўспомніўшы тых,
Што калісьці ляглі
Ў змаганьні на шчасным парозе,
Як волаты росквіту
нашай зямлі,
З рамонтных плывуць паравозы.

Грукочуць катламі
І прагнасьцю жыць,
І кожны выбрырue мускул.
Здаецца, зьмятуць яны ўсе рубяжы
І возьмуць любую нагрузку!

Празрысты сузмрок
Па над пляцам прасьцёр
Месяцам вытканы джэмпар.
... Крычаць паравозы
ў стэповы прастор
Пра ярасьць нябачаных тэмпаў.

7-IX-30. Менск.

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫЯ ВЫСОТЫ

*(Уражаньні з выстаўкі)*

**Цішка Гартны**

Шустрая рэзвая трамвайная адзінка ўпіраецца ўтупік. Кандуктар выгуквае:

— Сходзіць з задняе пляцоўкі, направа.

Направа выстаўка. Яе плошча пачынаецца да астаноўкі трамваю. Яе павільёны прыцягаюць да сябе ўзрокі з-за дробных будынкаў Камароўскай ваколіцы.

Але вось—выстаўка, як на далоні. Вагромная ў 75 гэктараў прастора выставачнага пляцу цягнецца ўправа да лесу, а наперадзе, паднімаючыся ўзвышшам, адгароджваецца жывёлаводнымі будынкамі.

Высокая, нарадная брама аддзяляе пляц ад Барысаўскага тракту. Але і самы тракт на працягу трох кілёмэтраў свайго адгону таксама экспонат. Ён закованы ў клінкер, у цэмэнт, у каменьні, і роўнаю стужкаю імчыцца да лесу. Імчыся, бяжы, мы завяртаем у браму.

Перад намі дзьве роўныя, шырокія вуліцы з лёгкіх, прыгожых павільёнаў. Жоўценькі пясок пад нагамі і кветкі, кветкі.

За павільёнамі—выставачныя палі, усе з густымі ўрадлівымі расьлінамі.

Гэта жывыя экспонаты.

Над імі—высокая башта і адбегшыя ў бакі выставачныя будынкі.

Разьбягаюцца вочы—куды пайсьці ў першую чаргу?

Не, за раз не агледзець—усё роўна адкуль пачаць.

Выстаўка патрабуе многаразовых наведаў і пільнае ўвагі.

Яна ўмяшчае ў сябе вялікія і багатыя дасягненьні.

Яна дэманструе посьпехі рабочае клясы на гаспадарчым і культурным франтох на працягу яго дзесяцігадовае працы.

Яна сьведчыць за нячуваны ўздым соцыялістычнага будаўніцтва, якое праводзіць Комуністычная партыя і Савецкая ўлада.

Яна няшчадна б'е клясавага ворага рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Яна дапамінае: кулаку, нэпману, шкодніку, беларускаму контррэволюцыйнаму нацыянал-дэмократу.

— Бачце:

Гэта ваша магіла.

Савецкая, работніцка-сялянская Беларусь, у цесным братнім саюзе з другімі савецкімі рэспублікамі цьвёрдымі, рашучымі, нячуванымі крокамі набліжаецца да соцыялізму.

І дарэмны ўсе патугі—унутраных і ўнешніх інтэрвэнтаў паперашкодзіць гэтаму!..

---

У паднятых, лунаючых сьцягах—рэе нячутны, але жывы і абудны прызыў Ільліча:

— Наперад!

---

Налева—павільёны прамысловасьці.

„Дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны ў тэхнічных і эканамічных адносінах“,—агалошвае лёзунг.

Краіна рабочых упэўнена ідзе па гэтым шляху.

Павільён—яскравая сьведка.

Вось машыны, якія выраблае завод „Энэргія“. Цэлы рад стройных прыгожых варштатаў, якія нядаўна наяжджалі да нас гасьцямі з заграніцы.

Абуткавы варштат.

Такарны варштат.

Сьвярлільны варштат.

Абутковая машына для шкленьня.

Двухпавярховы экстрактар.

Граві-сартыроўка.

Гэта вытворчасьць аднаго заводу, які да вайны быў невялікаю кустарнай майстэрняй.

Помеж другімі буйнейшы завод „Камунар“, з сваімі вырабамі: двухцыліндровая помпа, ручныя сьвярлільныя варштаты, рознакаліберныя ціскі-камнедрабілкі. І гэта ўсё дасягненьні апошніх пяці-шасьці гадоў. „Камунар“, як і „Энэргія“, на вачох з маленькае майстэрні вырас у буйнае прадпрыемства з лікам рабочых у 1200 чалавек. Завод працягае расьці і разьвівацца, мэханізуючыся і ўскладняючы сваю вытворчасьць,

Посьпехі металёва-машыннай вытворчасьці працягаюцца посьпехамі скуранога выграбу, прадстаўленага заводам „Бальшавік“. Продукцыя „Бальшавіка“ займае значнае мейсца ў павільёне і адрозьніваецца вялікаю якасьцю і адмысловым выглядам. Тут усе гатункі скуры, пачынаючы ад грубае юхтавае выцяжкі і канчаючы тонкім элястычным шаўро. Гатункі шаўра надзвычай багаты і рознастайны і нічым ня ўступаюць замежнаму. Адмысловым зьяўляецца і выраб сьвіное скуры. Пры гэтым „Бальшавік“ выраблае нават сьвіную падошву, якая па сваёй носкасьці дужа трывалая. Але ня толькі ў гэтым заключаюцца дасягненьні нашае скураное прамысловасьці. Іх багацьце папаўняецца яшчэ сваёй выпрацоўкай тых хэмічных экстрактаў і фарбаў, якія патрэбны для скуранай прамысловасьці. Гэты род тавараў увесь час імпартаваўся з-за мяжы і ставіў наш скураны выраб у залежнасьць ад капіталістычных краін·

Зараз і фарбы і экстракты свае. Вось яны паказаны ў роўным шэрагу шкляных банак. Іх колер выразна глядзіцца з разьвешаных выробленых скурак, прыцягаючы да сябе пільную ўвагу наведвальнікаў выстаўкі.

Тым-жа багацьцем адрозьніваецца і вырабчасьць беларускіх шкляных заводаў. Яна за апошнія часы значна сягнула наперад. Асортымэнт вырабу высокі, якасьць дасканалая. Ня дзіва таму, што шкляная прамысловасьць пасьпяхова заваёўвае іншакраёвыя рынкі, выціскаючы вытворчасьць капіталістычных краін (Малая Азія).

З другога канца прамысловага павільёну дэманструе свае дасягненьні наша папяровая прамысловасьць. Яе рост і разьвіцьцё яскрава сьведчацца прыведзенымі лічбамі. Калі ўзяць папяровую продукцыю ў 1913 годзе за 100 проц. ці ў суме 18450 тонаў, то ў 1930 годзе яе тонаж дасягае 43170 тон, ці амаль не на трыста процантаў павялічэньня! К канцу пяцігодкі колькасьць вырабчасьці паднімецца да 65450 тон.

Адпаведна гэтаму вырасла і продукцыя картону. У 1913 годзе яна зьмяралася 2580 тонамі, у 1930 годзе—5775 тонамі, к канцу пяцігодкі—22300 тонамі! Лік рабочых, занятых у папяровай прамысловасьці, выказваецца ў бягучым годзе ў 2930 чал. і мае падняцца к 1933 году да 4177 чалавек. Калі да гэтых лічбаў колькаснага росту дадаць яшчэ рознастайны асортымэнт вырабу, яго палепшаную якасьць—то перад вам ва ўсёй вялікасьці паўстане дасягнуты посьпех у галіне папяровай прамысловасьці. Яна можа чым пахваліцца!

Насупраць экспонатаў Дабрускай і Шклоўскай папяровых фабрык сьціпла прымасьцілася невялічкая вітрына з узорамі нітак і тканіны з штучнага шоўку. Пад шклом паказаны ў малюнках процэс яго вырабу. Гэтым будзе займацца магілеўская фабрыка, гордасьць беларускае прамысловасьці, якая мае ў канцы бягучага году распачаць сваю чыннасьць. Фабрыка будзе вырабляць штучнага шоўку з хваёвага дрэва па папярэдніх наметках—1200 тон у год. Гэты волат нашай лёгкай прамысловасьці мае ўсесаюзнае значаньне.

Вагромнае значаньне мае зусім новая прамысловасьць па апрацоўцы мінэральнага ўгнаеньня. Гэта справа пачалася некалькі год назад і зараз шпарка пасоўваецца наперад. Крычэўскі завод і Клімавіцкі млын заняты перамолам фосфарытаў—давёўшы сваю продукцыю да 16000 тон у бягучым годзе і маючы падняць яе да канца пяцігодкі да 160.000 тон. Здабыча цьвёрдага фосфарыту ў 1930 годзе дала лічбу ў 60.000 тон. Залежы яе каля Бахраўкі вылічаны ў 10 мільёнаў тон! Гэтыя вялікія багацьці іскапаемых, якія пойдуць для нашых колгасных і савгасных палёў, зробяць цэлы пераварот у справе ўзьняцьця іх ураджайнасьці. Да фосфарытаў трэба дадаць яшчэ Віцебскія вапнякі, якіх здабыта ў 1930 годзе 30000 тон, хэмічную крэйду, сапрапэль, мазырскі граніт.

Асабліва характэрны „сапрапэль". Ён залягае па розных мясцох БССР на абшарах у 35 тысяч гэктараў. Шляхам перапрацоўкі гэта

цікавая парода дае: смалу, кокс, попел, парафін, крэазот, глаўбэраву соль, сернакіслы амоні...

А вось дзе кавалак новаадкрытага мазырскага граніту. Гранітныя залежы злучаюць сабою тэрыторыю БССР з тэрыторыяй УССР.

Такім чынам павільён навочна засьвядчае шпаркі рост нашае соцыялістычнае прамысловасьці, які рашуча зьмяняе нашы ўзаемаадносіны з капіталістычнымі краінамі шляхам вызваленьня ад іх залежнасьці.

Павільён таксама, выразна паказвае, як Савецкая Беларусь пасьпяхова ператвараецца з краіны аграрнай у краіну аграрна-індустрыяльную

Павільён яскрава дэмонструе вялікія дасягненьні рабочае клясы БССР, дружна і самаадданa ажыцьцяўляючага генэральную лінію Комуністычнай партыі, свайго правадыра ў барацьбе з комунізм.

---

Пра гэта сьведчыць не адзін павільён прамысловасьці. Насупроціў яго ўлева, вы пападаеце ў рад павільёнаў сельскае гаспадаркі. У першым з іх сабраны ўзоры рэзультатаў досьледаў вопытных сельскагаспадарчых станцый. Вось вопыты Турскае станцыі з лугавою травою: на мейсцы нястраўных дзікіх асотаў—багаты ўраджай дасканалых кармавых траў. Удалымі пучкамі яны глядзяць на вас са сьценак павільёну. Насустрач скуткі досьледаў Віцебскае комуны „Новы Шлях" з завапнянасьцю глебы. Тут ужо проста цуды: палі, якія давалі 80 пуд. з гэктару дробнасаломеннага засьмечанага зельлем жыта—пасьля вапнаваньня давялі ўраджай да 250 пудоў на гэктар! І што за жыта—люба паглядзець! Ня меней захапляе ўраджайнасьць траў, даведзеная вопытнымі станцыямі да 67 цэнтнераў з *га* мешанкі (канюшына з цімафееўкай).

А вось процэс культываваньня сыпучых пяскоў. Там, дзе вятры ўздымалі хмары пылу, з першага вопыту дасягнуты збор 2,2 цэнтнэраў жыта з *га*. Праз два—тры гады ўраджайнасьць дасягае 16,7 цэнтнэра з *га*! Некаторыя станцыі давялі ўраджай жыта да 32 цэнтнэраў з *га* і вагі пшанічнага зерня 1000 штук у 38,79 грам!

Нельга ня спыніцца на цукровых бураках і бульбе. Цукравыя буракі даюць да 18 проц. цукровасьці, гэткім чынам даводзячы ўраджай цукру на *га* 55,1 цэнтнэраў. Бульба, якая дае 12 проц. валавога даходу сельскае гаспадаркі, даведзена ўраджаем да 125 цэнтнэраў на *га*! Усе паказаныя ў павільёне досьледы праведзены на сваіх парашках! Фосфарыты, якія маюць 17 проц. кіслаты, карналіты, апатыты, вапнякі—раней замежныя—зараз свае. Свае і парашкі супроціў шкоднікаў—тут іх багатая колекцыя з хлорыстага барыя, сераугляроду, формаліну, палісульфіду, кальцыя, тутунёвага экстракту і інш. Ці-ж гэта не яскравая, вагромністая рэволюцыя ў сельскай гаспадарцы, прынесеная краіне Саветаў шляхам пасьпяховага ажыцьцяўленьня генэральнае лініі нашай Ленінскае Комуністычнае партыі? Ці-ж гэта ня цуды, якія родзіць сваёй уздымнаю

працаю гаспадар краіны, рабочая кляса БССР у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам, на чале якога стаіць партыя Леніна?

Усе гэтыя дасягненьні, увесь паказаны вопыт маглі адбыцца толькі ва ўмовах савгасна-колгаснага разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Гэта кожны пераканаецца, уважліва аглядзеўшы павільён!

---

Ня дзіва, што ён прыцягае да сябе пільную ўвагу вялікае колькасьці наведвальнікаў выстаўкі. Жыта і пшаніца, буракі і травы, ператвораныя ва ўраджайную глебу, пяскі і адноўленыя лугі—не даюць ад сябе адарвацца.

Вось грамадка гомельскіх колгасьнікаў: яны зьдзіўлена ківаюць галовамі і хорам прыпяваюць:

— О-о-й жа! Дзі-ву-тка! Ды каб-жа тое хутчэй да ў наш колгас...

Тлумач спачувальна ўхмыляецца:

— Год, другі і ваш колгас, дзядзькі, будзе паказваць гэтыя-ж скуткі вашае працы...

Колгасьнікі вераць у гэта і сваё ўверра перадаюць адзін другому ў задаволеных позірках...

Адна, дробная, індывідуальная гаспадарка гэтага не дасягне. Ведайце, таварышы. А колгас—цалкам і поўнасьцю...

Тлумачова ўказка абводзіць ядраныя пукі махрастага вусатага ячмяню, гэткай-жа вусатай пшаніцы—яркі.

— Бачыце колас!

— Аж люба! Фунт з аднаго!..

Жаночыя вочы прыліпаюць да сьцяны і ядуць жоўтае пучкі высокае, важкае збажыны. Ім ня хочацца пакідаць павільёну.

Але наперадзе многа другіх. З дзьвярэй у дзьверы—павільён паляводзтва. Восем акруг, ужо разьбітых на раёны, сустракаюць наведывача паказьнікамі свае вытворчасьці. Між сьцен, тэрасаю, сотні мяшэчкаў з зярнём. На сьценах пучкі збожжа і травы. На ператочных сьценках параўнальныя табліцы.

Колгасьнікі-гомельчане разводзяць рукамі, мэрам-бы хочачы абняць усё ўгледжанае перад сабою і моцна прыгарнуць да грудзей. „Аграмаджаны сэктар"—чырвоны радок літар, па некалькі разоў перачытвае кожны экскурсант.

Аграмаджаны сэктар з першага ўзроку паказвае буйную перавагу над індывідуальным.

Дзесяць гадоў соцыялістычнага будаўніцтва, якое вядзе Комуністычная партыя і Савецкая ўлада, перагналі тысячагадовае правяданьне ва ўмовах старога, прыгоннага ладу...

Вось—на прыкладзе: жыта—у рост чалавека, авёс гоніцца за жытам, веерам раскідаючы буйныя бабкі зярнят.—Пачакай, вопытная станцыя!

Індывідуальны сэктар пакорліва апускаецца на многа цаляў ніжэй. Дробнае, загірсованае жыта, рэдкі нізкарослы авёс і не трава—а мураўка.

— Паглядзеце на параўнальныя табліцы ўраджаю—на адзін гэктар:

Менская акруга.

Колгасы даюць: жыта 8,3, індывідуальныя палі 8,2; аўсу: колгасы—9,1, індывідуальныя—7,8; бульбы: першыя—104,9, другія—97,5.

Аршанская акруга.

Жыта: колгасныя палі—8,5, індывідуальныя—7,6; авёс: колгасныя палі—10,1, індывідуальныя—7,9; бульба: першыя—95,1, другія—85,1.

І гэтак у кожнай акрузе, перавышка ўраджаю заўсёды ў аграмаджаным сэктары.

Але гэтыя лічбы толькі папярэднія: скутак першых спроб, пачатку. Колгасы і савгасы шпаркім тэмпам павялічваюць сваю ўраджайнасьць. Гэта зразумела ўсім, апроч заклятых ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Гомельчане-экскурсанты з задавальненьнем выслухоўваюць тлумача і падцьвярджальна ківаюць галовамі. Іх ужо ніхто не саб'е з абранае дарогі колгасьнікаў. Перавагу колгасу над індывідуальнаю гаспадаркаю яны адчулі на вопыце; і выстаўка ўсяго адбівае жыцьцё, сапраўднасьць.

---

Якава гэта сапраўднасьць—асабліва выразна паказваюць жывёлаводныя павільёны. Іх некалькі ў рад. І заўсёды яны напоўнены глядачамі-экскурсантамі. Ужо пры ўваходзе на выстаўку можна заўважыць на ўзвышшы, каля падвеснага перадатчыка корму, грамадкі наведнікаў. Туды сходзяцца з усіх павільёнаў выстаўкі. Ды таму ня дзіва. І тут ёсьць на вошта паглядзець. Павільён дробнае жывёлы, сьвіней, выключна павучальны. Гадоўля гэткіх экзэмпляраў магчыма толькі ва ўмовах аграмаджанае гаспадаркі. Адна ў адну белыя тлустыя сьвіньні, як няма лепш, сьведчаць за гэта. Калі селянін-індывідуальнік меў у сябе што падобнае? Ніколі. Гэта ведаюць усе. Проблема жывёлагадоўлі вырашыцца праз організацыю жывёлаводчых савгасаў і колгасаў. Навочны прыклад. Праца сьвінаводных станцый дэмонструецца на выстаўцы. Яна паказальна і ўплывова. Ад „чэмбэрленаў“, „гануляк“, „нінак“—гладкіх, крывалычых харашуноў колгасьнікам-сялянам ня хочацца адыходзіць. Палюбавацца спорным прыплодам падзесяцёрнага (і нават 13 парас.) маладняку, пацікавіцца сотнямі кілёграмаў вагі і запамятаваць, што колгас-выгадавальнік выстаўленага багацьця. Тутака і тлумач не патрэбен.

Можна абыйсьціся без тлумача і ў гавядным павільёне. У чатыры рады чырвоныя экспонаты кароў; масьць адна, а парод—да дзесятку: беларуская, мяшаная, нямецкая, швіц, ангельская, палепшаная. Любуйся. І экскурсанты паважна прыглядаюцца да абазначальных дошчачак, чытаюць назвы і запамінаюць вагу, удойнасьць, пароду.

Ізноў аграмаджаны сэктар. Бо пры якіх-жа іншых умовах даступны магчымасьці навуковага падыходу да справы жывёлагадоўлі? На індывідуальнай гаспадарцы? Сьмешна. Гэту вочавідную недарэчнасьць бароніць кулак ды яго ідэолёг—нацыянал-дэмократычны экономіст—профэсар, тэорэтык хутароў і дэмократычнае рэспублікі. Гэта аспрэчвае правы ўхілісты, які падхоплівае лёзунг кулака, ачышчаючы яму дарогу для „мірнага ўрастаньня“ ў соцыялізм.

Ды як-жа не спрачацца кулаку і яго ідэолёгу супроціў таго, што зьнішчае ўсякую падставу для іх эксплёататарскае дзейнасьці, што няшчадна зьнішчае яго як клясу?

Пяройдам да чарговага павільёну. У ім прадстаўлены бык і з розных саўгасаў і колгасаў. Вось гэты крайні першага раду, вага якога ў 850 кілё, назваю „Макс“ з магілеўскае дзіцячае комуны. Яго сусед, галяндацстракач „Грозны“ ў 940 кілё—ужо далёкі да лятучасьці. Яго паказвае саўгас Ружанполь, Менскай акругі. І ў рад, некалькі іх таварышоў павaжна раздумоўваюць самавітымі лэндлёрдамі.

— Бачыце-э!—тыя-ж гомельцы, што дзівіліся са збажыны ў павільёнах вопытных станцыяў.

— Во-ась га-вя-ада-а!—абводзяць яны пальцамі па радох адборнае прыгожае гавяды.

— Не раўня нашай мізэры!

— Ясна—не раўня, як нельга параўнаць індывідуальную гаспадарку з гаспадаркаю колгаснай.

Наведнікі-экскурсанты не рашаюцца выходзіць з памяшканьня... А да іх нясупынна далучаюцца ўсё новыя ды новыя людзі, ажно цесна робіцца ў праходах. Быкі абводзяць сваіх цікуноў недаверным і ўзрокамі і спакойліва пажоўваюць жвачку.

---

На паўкілёмэтравым адгоне ад жывёлаводных будынкаў красуецца ўдала разубраны павільён электрычных прыладаў ды сельскагаспадарчых машын. Да павільёну простая дарога і туды не абмінае зайсьці кожны, хто глядзеў жывёлу. Сельскагаспадарчыя машыны—гэта іншага роду здабытак колектыўнае гаспадаркі. Шырокія прасторныя палі колгасаў прызначаны для вось гэтых рознастайных складаных машын, што імі запоўнены вялікі пакой павільёну. Тут машыны розных фабрык і розных краін. Побач з гомельскаю сілосарэзкаю стаяць замежныя чатырохлямешныя плугі. Але замежныя сельскагаспадарчыя машыны—выпадковыя. Ужо даўно нашы савецкія заводы перагналі паказаную конструкцыю.

А вось, перад намі ўзоры вытворчасьці украінскіх заводаў. Вагромная чырвоная снасьціна, з добрую сельскую хату—гэта малатарка вырабу заводу „Чырвоная Зорка“ у Зіноўеўску. Машына намалочвае і на-

сартоўвае ў гадзіну тры тоны збожжа. І кошт яе—толькі дзьве тысячы рублёў. Помеж—жатка і снопавязалка. Кошт 480 руб.!

— Абедзьве машыны пераважаюць па якасьці замежныя. А коштам яны многа таньней—паведамляе тлумач.

З вытворчасьцю заводу „Чырвоная Зорка“ знаёмы многія колгасьнікі і тыя, хто наведваў колгасы. І жаткі-снопавязалкі, і малатарні, і дыскавыя бароны, і сеялкі—усе ўжо здалі экзамен дасканалай працы на колгасных палёх. Толькі-б пабольш іх! Затуліся замежны прадпрыемца—годзе з табою мець справы! Досыць трымаць нас у сваёй залежнасьці! Краіна рабочых і колгаснага сялянства рашуча зьнішчае перакідныя да цябе масты. Яна шпарка пераходзіць на ўласнае самаабслугоўваньне сваімі тэхнічнымі сродкамі. Яна нагоніць і перагоніць капіталістычныя краіны. Першыя два гады пяцігодкі яскрава сьведчаць аб нячуваных посьпехах у разьвіцьці нашае прамысловасьці, нашага паляводзтва, сьведчаць аб нашых навукова-тэхнічных дасягненьнях.

Прыклад з комбайкам. Бач гэту новую складаную машыну выпускае ўжо савецкі завод у Запарожжы! Гэта ня форды і ня жондэры, а свае, пролетарскія, савецкія харашуны, што ўжо дзесяткамі гуляюць па розных кутках вялікага Саюзу.

— Я бачыў,—апавядае тлумач,—як некалькі гэтых волатаў працавалі ў савгасе „Гігант“ Данецкай акругі. Люба паглядзець! Не нацэшыцца!

— Дзіва сказалі!—адказвае з густа абвіўшае комбайн сьцяны людзей сівабароды дзядуля:—Во, чаго дачакаліся!—дзівіцца ён і пільна разглядае складаную цікавую машыну.

— І колькі-ж хоцькі яна напрацуе ў дзень?

— Сажне і змалоціць ад 15 да 20 гэктараў!

Тлумач уважліва паказвае, здаецца, зусім просты процэс жатвы і малацьбы, якую праводзіць комбайн. Збажына роўнымі градкамі падхопліваецца жнівярнымі скрыдламі машыны, кладзецца на прасторны рухавы пояс і падаецца ў малатарню, дзе салома адпіхаецца к заду, а зярнё, правеянае ад мякіны, сыплецца ў трубу, а адтуль у падстаўленую пасудзіну... Комбайн мае пры сабе і рэзэрвуар у паўтоны зьмяшчэньнем.

— А як тады, калі збожжа сырое?

Тады жнівярны мэханізм перастаўляецца і зжатая збажына ападае пад машыну, між калёс, дзе роўна і акуратна кладзецца напрост; падсохшы, яе чыста і акуратна падбіраюць зубцы жнівяркі і поясам адпраўляюць у малатарнае аддзяленьне. Такім чынам...

Тлумача перабіваюць з усіх бакоў запытаньнямі:

— А ў нас, у БССР, ён ужо ўжываецца?

— А ці сам комбайн рухае, ці яго цягне буксір?

— А колькі ён каштуе?

Адказы тлумача здавальняюць цікаўных, але навіна гэткае складанае машыны, як комбайн, ня можа іх адразу заспакоіць.

— Да чаго людзі дадумаліся!

Ї ў суцэльным, бліскуючым вобразе паўстае перад наведнікамі выстаўкі нячуванае зьявішча вялікае эпохі соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэта толькі і магчыма ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, у вызваленай краіне саветаў, пад мудрым кіраўніцтвам Комуністычнае партыі. Гэта толькі і магчыма там, дзе колектыўная праца мільённай рабочай гушчы мае перад сабою мэтаімкнёнае накіраваньне ў агульных інтарэсах. Разгойданы ўздым працоўнага энтузіязму творыць нябачныя цуды! Стагоднія адгоны праходзяцца часамі, векавыя ўстоі ломяцца буйнымі парывамі соцыялістычнага пэратварэньня. Блытаныя, гнілыя тэорыі буржуазных прарокаў падаюць, як пажоўклае лісьце, і замацованая імі „непрэложнасьць" соцыяльных законаў рассыпаецца парушынаю ў дынамічнай дзейнасьці рэволюцыйнага ленінізму.

---

Але прагледжанае намі выяўляе сабою яшчэ няпоўны абраз паказаных выстаўкаю дасягненьняў Савецкае ўлады на экономічным фронце. Посьпехі прамысловасьці, паляводзтва і жывёлагадоўлі папаўняюцца буйнымі посьпехамі ў нашым унутраным і замежным гандлі. Вось павільёны, якія дэмонструюць наш вываз. У лесбелаўскім павільёне ён пачынаецца з запалак. Тут паказан увесь процэс гэтае вырабчасьці і вітрына тых малюнкаў і памераў нашых славутных запалак, якія застаўляюць буржуазію капіталістычных краін так многа клапаціцца і злавацца на іх. Цэлы шэраг буржуазных краін, пачынаючы ад лімітрофаў і канчаючы гарачаю Афрыкаю, знаёмы з савецкімі запалкамі. Іх міглівыя агеньчыкі разносяць па зямляной кулі пякучыя іскры-полымя пролетарскае рэволюцыі. І сваёю якасьцю і сваёю вэртасьцю яны б'юць капіталістычную вытворчасьць, выціскаючы яе з рынкаў. Эх, гэта савецкая запалка! Ці-ж не праз яе ўзьнята столькі гоману сярод буржуазіі! Ці не ад яе туляцца нямецкія соцыял-фашыстыя і польскія фашыстыя, азіраючыся на швэцкіх каралёў запалкавае прамысловасьці. У вайне з савецкаю запалкаю нажыў сабе нямала клопату вядомы швэцкі капіталісты, запалкавы прадпрыемца Івар Крэйгер. Ён вытрас свае кішэні на пазыкі за запалкавую манаполію і буржуазна-соцыял-фашыстоўскай Нямеччыне і панскай Польшчы. Яго нахабная рука працягалася і да Савецкага Саюзу,—але па ёй моцна ўдарыла савецкая запалка! Прэч! Краіна рабочых абыйдзецца бяз панскае ласкі!

Пры запалках—славутная беларуская фанэра. Шырокія эластычныя лісты гэтага практычнага ва ўсіх адносінах вырабу распрасьцерліся на сажнёвую вышыню і перакідаюцца „ўзрокамі" з дубоваю клёпкаю, з дубовымі брускамі і знатнымі мятровымі ў дыямэтры дубовымі кражамі. Вунь некалькі гэтых волатаў прытуліласяў кутку заможнымі свахамі. Гэта слаўнейшыя прадстаўнікі лясных багацьцяў Савецкае краіны. Яны знаюць сабе кошт! Ня здарма-ж на гэтыя дубы ўвесь час памыкаецца

інтэрвэнісцкая буржуазія нашых суседзяў. І не здарма-ж на гэтых будакашалёўскіх ды васілевіцкіх дубох, як і на брагінскіх ды менскіх хвоях, прадажніцкая беларуская рада меркавала будаваць фінансавую падставу для свае контррэволюцыйнае ўлады! Яна заваблівала лясным багацьцем на Беларусь і нямецкіх окупантаў і Пілсудзкага, яна суліла лясныя багацьці Скарападзкаму і францускім інтэрвэнтам за апякунства і дапамогу ў яе змаганьні з рабочымі і сялянствам БССР, з іх Савецкаю краінаю. Для злачыннага гандлю народным лясным багацьцем беларускія белагвардзейцы засноўвалі гандлёвыя палаты, рабілі экономічныя досьледы і пабіраліся адкідамі з акупанцкіх сталоў.

А вось цяпер, во, і дубы, і хвоі, асіна і ёлка вярнуліся да сваіх сапраўдных гаспадароў—рабочае клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства. Цяпер яны аддаюць сябе на магутны развой соцыялістычнага будаўніцтва, якое з нячуваным посьпехам вядзе партыя Леніна.

---

Павільёны коопэрацыі. У ім багаты асортымэнт іншых экспортных тавараў: грыбы, зьвярыныя скуркі, жывёльны клей, яйцы, воск, ягады, садовіна і лён. Усё ў выглядзе—гатовым да пераезду. Але лён і садовіна—тут, як-бы выпадкам. Яны маюць пад сябе асобныя павільёны, якіх нельга не паглядзець, якімі нельга не пацешыцца. Тым болей, што экспонаты іх, захапляючыя глядача-экскурсанта, павінны сваёй каштоўнасьцю і сваімі багатымі якасьцямі ізноў-жа таму і адзінаму аграмадзянаму сэктару, саўгасам і колгасам. Вось павільён садовіны, гародніны і лекавых траў. Выходзіш і шаломішся ўнікумнымі ўзорамі фунтовых яблык, летніх антонавак, смуглых цыганак, чырвоных апортаў, бялюткіх папяровак. Сотні розных гатункаў, смакаў, росту, выгляду. Табліца выразна адзначае, што ў 1925-26 г. г. плошча пад садамі займала 21168 *га*, а ў 30 гаду—ужо 30490 *га*! Валавая продукцыя ад садоў у 30 годзе дасягала вагі ў 127 тысяч тонаў.

У асяродку жывога яблычнага поясу высіцца вітрына, запоўненая цікавым асортымэнтам выробленага з яблык продукту. Тут і павідла, і жэле, і натуральны сок, і сыроп, і мармелад!.. А недалёка паказная майстэрня, дзе вы можаце бачыць, як садовіна перарабляецца ў дужа прыемныя і смачныя далікатэсы. Глядзіш і радуешся, якія магчымасьці адчыняюцца перад гэтага роду прамысловасьцю!

Ну, мы забеглі наперад, ня кончыўшы аглядаць садова-гароднага павільёну. Аддзел гародніны і лекавых зёлак дасьць ачко фруктоваму аддзелу. Глядзеце і дзівецеся: вось вам мар'іна-горская дыня. Праўда, яна ня гэткая салодкая, як яе украінская сястра, усё-ж стараецца не адстаць. Побач 28 гатункаў цыбулі! А гарбузы гароду колгасу „Чырвоны гароднік“—48 кілё вагою! А шклоўскія гуркі-доўжыкі да кілё вагою, а як падняць—кабачкі, бручка, капуста, кармовыя буракі? Узрокі ня ў моцы спыніцца, абягаючы цуды вытворчасьці адноўленай колектыўнай працаю зямлі!

Вызваленая з-пад капіталістычнай эксплёатацыі, стаўшы здабыткам мільёнаў працоўных—гэта зямля адкрывае ім свае нявычарпаныя скарбы. Дзесяць год таму, як лепшая частка яе, захопленая памешчыкамі, пладзіла зграю дармаедаў, а вагромныя прасторы сялянскіх ніў ня высыхалі ад сьлёз, недастачаў і нэндзы. Рабочая кляса і бядняцка-серадняцкае колгаснае сялянства, ажыцьцяўляючы генэральную лінію Комуністычнае партыі—выкрываюць вагромністыя багацьці свае зямлі, ператвараюць яе ў падваліну соцыялізму.

Асабліва цікаўна справа культываваньня лекавых расьлін. Стае, што і яны могуць расьці ў нашых умовах і пры гэтым папаўняць наш экспорт. Мальва, рамонак, валяр'яна, мята. Кожная з гэтых расьлін дае свой асобны продукт. З мальвы, да прыкладу, здабываецца так празываная шток-роза, якая ідзе на падфарбоўку він, як бясшкодная, і на афарбоўку шоўку. Этэрна дае лекавы алей. Экспонаты і шток-розы і алею тут-жа, на воку. Але цікавей тое, што пры павільёне, на вопытным выставачным полі вы можаце бачыць жывымі: мальву, этэрну, валяр'яну і іншыя травы, паказаныя на выстаўцы ў павільёне новых расьлін.

І садовіна і гародніна складаюць вялікую стацьцю ў нашым экспорце. Аднае цыбулі вывозіцца за межы да 4 мільёнаў пудоў!..

Але пяройдам да агляду павільёну тэхнічных культур. Гэты павільён наводдаль ад іншых, ну не пабыць у ім—проста грэх. Бач лёнаводзтва займае досыць паважнае мейсца ў нашай сельскай гаспадарцы. За апошніх два-тры гады заснована многа вялікіх ільнаводных савгасаў. Па засеву плошчы ільну БССР займае шостае мейсца ў сьвеце, а па валакну—другое! У павільёне паказана ўраджайнасьць ільну ў колектыўных і савгасных гаспадарках і параўнальна ў гаспадарках індывідуальных. Зьлічвайце! Вось арцель імя Молатава ў Магілеўшчыне. Лён дае 6,3 цэнтнэра валакна на *га* засеву. А насупраць, лён з індывідуальнае гаспадаркі паказвае толькі 3—3,5 цэнтнэра. Комуна Вінчэўскага на Віцебшчыне вырошчвае лён з гэктару засеву 6,2 цэнтнэра валакна, а Віцебскія аднаасобныя гаспадаркі ледзьве дацягаюць ураджай да 4 цэнтнэраў. І так усюды, па ўсіх раёнах—колгасна-савгасны лён на многа пераганяе ўраджаем лён індывідуальных гаспадарак. Ды справа ня толькі ў адным ураджаі—лён аграмаджанага сэктару і па якасьці сваёй шмат ляпейшы ад лёну паасобнікаў. Рост, мяккасьць, тонкасьць ніткі, вага—усё гэта ўжыўна колгаснаму лёну. Ды ці трэба аб гэтым спрачацца—во, глядзеце, усё перад вашымі вачыма, у наяўнасьці багатых экспанатаў павільёну.

Тое самае зьявішча і ў справе культуры каноплі. На выставачным полі вы бачыце каноплю ў сажань з лішнім росту, тоўстакамлёвую, важкаю па зернятах. Адмысловую каноплю даставілі на выстаўку паасобныя колгасы. Канопля колгасу „Чырвоны Пахар“ былое Віцебскае акругі дае ачко славутнай італьянскай каноплі; колгасная вышэй і таўсьцей яе, а знача і багацей валакном.

У аддзеле каноплі паказаны досьледы з ёю на балотных глебах. І што-ж вы думаеце—ураджай даходзіць да 8,5 цэнтнэраў на га! А калі ўзяць на ўвагу вагромністы прастор забалочанай глебы прыкладна да 2.600 тысяч гэктараў—дык можна ўявіць сабе, якую будучыню адкрывае для соцыялістычнае гаспадаркі культываваньне канаплі на забалочанай глебе!

У павільёне вобразна прыстаўлена разьвіцьцё снасьцін для апрацоўкі ільну. Ад грубых прымітыўных церніц самадзяржаўнае пары, да выраблянай нашымі заводамі мэханічнай складанай машыны!

Рознастайныя вырабы з ільну і каноплі папаўняюць агульную карціну нашага ільнаводнага багацьця.

Пакідаючы павільён тэхнічных культур, нельга не адзначыць паасобных двух яго экспонатаў. Першы—гэта прысланая палойка мяккага шаўкавістага ільну сялянкаю Аўдоцьцяю Жылінскаю, які яна хавала, як памяць ад мацеры, ажно з 1868 году! І другі—гэта саматканая посьцілка прыгожага ўзору з вытканым Савецкім гэрбам, літарамі БССР і лёзунгам „Пролетарии всех стран, соединяйтесь!“—работы сялянкі Круглянскага раёну, Нізок.

---

Неадлучнымі ад посьпехаў Савецкае ўлады ў галіне матэрыяльнай культуры зьяўляюцца яе посьпехі і ў галіне культуры „духоўнай“. Рад павільёнаў адлюстроўваюць гэта багацьцем выстаўленых экспонатаў. Цікавейшым ад іншых—бязумоўна павільён Белдзяржвыдавецтва. У ім выразна адбіты вагромністыя ўздымы культурнага будаўніцтва рабочых гушчаў Савецкае Беларусі ў галіне друку. Зусім нядаўна, тыя-ж дзесяць гадоў назад, як выдавецкую справу ў Беларусі прадстаўлялі сабою мізэрныя, гнюсавыя, рэдкія брошуркі царкоўных брацтваў і саюзаў Міхаіла архангела. Ад гэтых брошур дыхала гнільлю струхлелых мошчаў і смуродам загнілага самадзяржаўя.

„Борьба за святое православие“.

„Слова православной правды“.

„Пятилетие религиозно-нравственных чтений“.

„Торжество православия“.

Гэткімі пэрламі надаралі губэрнатарскія і архірэйскія выдавецтвы шырокія гушчы працоўных Беларусі. Гэткімі атрутлівымі сродкамі напаўняліся школьныя бібліотэкі. І вельмі трапна над гэтай брыдою пастаўлена фігура бравага аўтамата-гарадавога, які найлепш сымбалізуе сутнасьць самадзяржаўнае сыстэмы асьветы. Гарадавы у адной руцэ з бізуном, а ў другой—з пагромнаю брошураю—вось дастойны помнік крываваму самадзяржаўнаму мінуламу...

Кастрычнікавая рэволюцыя рашуча і канчаткова зьнішчыла ўсю спадчыну крывавага самаўладзтва. Магутны ўздым рабочай клясы пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі разбурыў таксама патугі буржуазіі і на-

цыянал-дэмократычных вандэйцаў замяніць самаўладзтва цара і губэрнатараў—уладаю памешчыцкай і капіталістычнай буржуазіі праз эсэраўскія ўчрадзілкі і нацыяналістычна-контррэволюцыйныя рады.

Ленінская нацыянальная політыка Комуністычнай партыі дала магутны штуршок разьвіцьцю і будаўніцтву нацыянальнай пролетарскай культуры. Ліквідацыя няпісьменнасьці, організацыя вышэйшых навучальных устаноў, нараджэньне беларускае пролетарскае літаратуры, актывізацыя рабочых гушчаў вакол бягучых пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва пацягнула за сабою буйны ўзрост друкарскае продукцыі. Абыходзячы колам выдавецкага павільёну, бачыш, якімі нячуванымі тэмпамі павялічвалася выданьне беларускай масавай літаратуры, школьнай, мастацкай, навуковай, ленінскай. Выпуск тому выбраных твораў Леніна болей усяго характарызуе посьпехі ў галіне выдавецкай справы. Аб'ёмам свае продукцыі яна дасягая ажно чатырохмільённай сумы за 1927-1930 г. г.! Гэтыя вагромністыя заваёвы Комуністычнае партыі і Савецкае ўлады на культурным фронце цалкам і поўнасьцю абавязаны той адзінай у сьвеце нацыянальнай політыцы, якую рашуча і пасьпяхова праводзіць Комуністычная партыя. Культурнае будаўніцтва, як надбудова экономічна-прамысловага разьвіцьця, адыгрывае вельмі значную ролю ў агульным соцыялістычным будаўніцтве. І ня дзіва таму, што на гэты вучастак быў накіраваў сваю атаку беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм. Карастаючыся падатлівасьцю раду адпаведных таварышоў, адыгрываючыся на іх даверры і выкарыстоўваючы недахоп маладых марксыцкіх кадраў, беларускі нацыянал-дэмократызм шырокім струменем прасачыўся ў беларускую школьную, мастацкую і навуковую літаратуру.

Абвастрэньне клясавае барацьбы ў скутку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі і гораду, рэконструкцыя сельскае гаспадаркі на падставе суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы—актывізавала ўсіх ворагаў краіны саветаў. Беларуская контррэволюцыйная нацыянал-дэмократыя, як ідэолёг кулацтва і саюзьнік інтэрвэнтаў, выпаўняе волю сваіх клясавых патронаў у змаганьні супроціў рабочае справы, супроціў пераможнага подступу да комунізму.

Але яе намеры і патугі разьляцеліся ў шчэпы. Фронт культурнага будаўніцтва будзе поўнасьцю ачышчаны ад агентаў клясавага ворага, і шчыльна ўключыцца ў суцэльную лінію магутнага, развойнага соцыялістычнага будаўніцтва...

---

„Няхай жыве беларуская пролетарская культура!“

Гэтым лёзунгам убраны другі павільён культурных дасягненьняў. У гэтым павільёне цэлы рад устаноў дэманструюць свае заваёвы. Тут разьмешчаны куток землякарыстаньня, некалькі пакояў колектывізацыі, тры пакоі беларускае Акадэміі Навук, Наркамасьветы і Музэю рэволюцыі.

Багатая колекцыя дыяграм і рознастайных картаў кутка землякарыстаньня ўсебакова выяўляе сабою той грандыёзны ўзрух у вёсцы, які ўнесла ў яе перабудова сельскае гаспадаркі на падставах колектывізацыі. Вось мясьціна лугавое гаспадаркі. На зялёным полі растыканы буйныя плямкі жоўтае фарбы—гэта кулацкія сенакосы. Сярод іх дробнымі чырвонымі крапінкамі—бядняцкія. Тут-жа, пры боку, шырокія, разгорнутыя прасторы колектыўных лугоў.

Насупроціў—карты збожжавых палеткаў. Доўгія, вузкія стужачкі ва ўсе бакі—гэта індывідуальная форма, і роўныя, разгоністыя нівы—гэта колгасныя палі.

Рознаколерныя слупкі дыяграм адзначаюць падзел зямлі на індывідуальны, колектыўны і дзяржаўны сэктары. 1928 год і год 1930. Чырвоны слупэк колгаснага сэктару ў 1930 годзе ў дзесяць раз перарос гэткі слупок 1928 г. Колектывы дасягнулі чатырнаццаці процантаў гаспадарак. Вырасьлі і слупкі, што адзначаюць савгасныя гаспадаркі. І ўсё ніжай ды ніжай апускаюцца слупкі індывідуальнага сэктару.

Цікавыя дадзеныя надзяленьня працоўных яўрэяў зямлёю. Да рэволюцыі яўрэйская насельнасьць мела 11400 *га* на 1910 сем'яў. У 1925 годзе зямельны фонд працоўнага яўрэйства падняўся да 3739 індыв. гаспадарак з колькасьцю зямлі ў 14720 *га* і 42 яўрэйскіх комуны мелі ў сябе 5117 *га*! На працягу 1925 году сярод яўрэйскага земляробскага насельніцтва наглядаецца вялікі ўздым колгаснага будаўніцтва. І ў 1926 годзе налічваецца 118 яўрэйскіх колгасаў з лікам 1000 сям'ёў і з зямельным фондам у 14688 *га*. Наступны год гэту лічбу павялічвае заўважна цішэй.

Яшчэ паўней паказаны гэты гістарычны процэс у аддзеле колектывізацыі.

Акадэмічны павільён добра адбівае ў сябе багацьце парод беларускае глебы. Колекцыя мінэралаў расстаўлена ўсьцяж двух сьценак павільёну і ўпіраецца ў прадоўжныя скрынкі геолёгічных напластаваньняў. Аддзел прыроды і гаспадаркі Акадэміі Навук правёў заўважную працу ў напрамку навуковых дасьледваньняў. Гэта відаць па выстаўленых экспонатах, сярод якіх удалая колекцыя зьвяроў і птушак, насельнікаў беларускіх лясоў. Самавіцей і цікаўней другіх—гэта прадстаўнік вымiраючых—бабёр. Яго ламаччавая хата прыцягае да сябе найбольшую ўвагу наведнікаў павільёну...

Але і на працы Акадэміі адбіўся шкодніцкі ўплыў беларускага нацыянал-дэмократызму. Ён доўгі час паралюшаваў разьвіцьцё акадэмічнае чыннасьці ў бок яе шчыльнага набліжэньня да соцыялістычнага будаўніцтва, у бок яе пераходу на службу рабочай клясе. Замыкаючыся ў вузкі абмежаваны акадэмізм, нацыянал-дэмократы абвярталі яго на служэньне сваім контррэволюцыйным мэтам. У наступным Акадэмія павінна рашуча залатаць гэты свой прарыў, уключыўшы сябе ў зьвяно будаўнікоў пролетарскае, марксыцкае навукі і карысных для пабудовы соцыялізму

навуковых досьледаў. Яна не павінна служыць бэстам рэакцыйных, шкодніцкіх элемэнтаў.

З Акадэмічным аддзелам мяжуе цікавы аддзел Наркамасьветы. Ён складаецца з кутка бязбожніка, кутка профэсыянальнае асьветы, кутка дашкольнае асьветы. Экспонаты профэсыянальных школ выразна сьведчаць пра шпаркае і пасьпяховае разьвіцьцё гэтае галіны асьветы. Дыяграмы малююць вагромністыя поступы ніжэйшае, сярэдняе і вышэйшае адукацыі. Ад 60 процантаў няпісьменнага вясковага насельніцтва—да ўсеагульнага абавязковагэ навучаньня! Ад цёмнае, пахіленае вясковае школы да сьветлых і прасторных будынкаў! Які грандыёзны размах! І дашкольнае выхаваньне прынесла нам Кастрычнікавая рэволюцыя. Дзіцячыя дамы, прытулкі, яські густою сеткаю абвілі Савецкую краіну. З шасьці-сямі гадоў дзіця ўступае на шлях грамадзкага жыцьця, стыкаецца з колектыўнымі формамі быту. Ні гісторыя, ні сьвет ня бачылі дагэтуль тае вялікае адданае ўвагі, якую накіроўвае пролетарская дзяржава справе выхаваньня маладога пакаленьня. На гісторыі асьветы БССР можна ўгледзець тыя нячуваныя заваёвы, якія прынёс і разгортвае далей Вялікі Кастрычнік.

---

Тут-жа, з боку наркамасьветнага аддзелу павільёну, знаходзіцца пакой Музэю рэволюцыі. У ім прадстаўлена ў жывых, яркіх і багатых фарбах гісторыя Кастрычніка на Беларусі, ад якога пачынаецца шлях новага жыцьця.

Гісторыя Кастрычніка на Беларусі багата вялікімі пэрыпэтыямі мужнага змаганьня рабочае клясы на чале Комуністычнай партыі за сваё вызваленьне. Гэта змаганьне цесна зьвязана з агульна расійскім соцыялістычным і рэволюцыйным рухам рабочых, і заходзіць далёка ў гісторыю. Цэлы рад бліскучых перамог адбівае на сваіх старонках барацьба рабочых Беларусі пад сьцягам соцыял-дэмократычнае партыі бальшавікоў. З 90 гадоў закладаліся яе організацыі на Беларусі, вядучы рабочыя масы ў барацьбе з самадзяржаўем і буржуазіяй да подступаў Кастрычніка. Гэтыя подступы былі забраны ў 1917 годзе ў Беларусі адначасна, як і ва ўсёй Расіі. Але ўмовы прыфронтавай паласы, якія дазвалялі пад аховаю нямецкіх штыхоў гуртавацца контррэволюцыйнымі сіламі, адцягнулі на нейкі час запанаваньне Кастрычніка на Беларусі.

З лютага 1918 году пачалася нямецкая окупацыя. З благаславеньня окупантаў павяла сваю контррэволюцыйную працу беларуская буржузія. Агнём і мячом пашло зьнішчэньне заваёў Кастрычнікавай рэволюцыі. Расстрэлы рабочых і пажары вёсак запоўнілі штодзённую хроніку крывавага окупанска-белагвардзейскага рэжыму. І гэты рэжым цягнуўся ажно да лістападу 1918 г., калі бурлівы ўздым рэволюцыйнай хвалі парваў ланцугі окупанскага прыгону і вярнуў Беларусь Савецкай Фэдэрацыі.

Першы зьезд Комуністычнай партыі Беларусі ў сьнежні месяцы 1918 г. абвясьціў Беларусь Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай. Але наступ

бела-палякаў вымусіў яшчэ на год прыпыніць пачатае з канца 1918 г. савецкае будаўніцтва БССР. Над ёю ізноў павісла цяжкая рука на гэты раз бела-польскага акупанта, які вярнуў на Беларусь сярэднявяковыя жахі. БССР абярнулася ў арэну нячуваных зьверстваў, гвалту і крывавых расправаў. Між тым беларускія белагвардзейцы з прывітаньнем сустракалі гэтых „збавіцеляў беларускага народу“. Аддаўшы сябе ў паслугу панскім гвалтаўнікам, яны сваёю прадажніцкаю дзейнасьцю дапамагалі нішчыць заваёвы рабочых мас Беларусі, дапамагалі разбураць захопленую савецкую краіну. Праз адноўленыя контррэвалюцыйныя арганізацыі (нацыянальны камітэт, вайсковую камісію), праз аплачваны акупантамі друк беларуская радаўшчына выпаўняла волю і заданьне бела-польскіх акупантаў у справе адарваньня БССР ад Савецкага Саюзу. Організуючы белую армію, яна накіроўвала яе на фронт супроціў рабоча-сялянскае Чырвонае арміі, якая ішла на дапамогу рабочым Беларусі ў іх барацьбе за сваё вызваленьне, за зварот на Беларусь вялікага Кастрычніка.

У выставачным аддзеле Музэю рэвалюцыі вобразна паказана разьвіцьцё рэвалюцыйных падзей, пачынаючы з імпэрыялістычнае вайны. У многалікіх здымках, у газэтах і адозвах, у портрэтах і дакумэнтах паўстае перад вамі бурлівая эпоха апошніх пятнаццаці гадоў.

Вось чорнасотніцка-патрыётычныя маніфэстацыі за ўдзел самадзяржаўнае Расіі ў вайне. Вунь сасланыя на катаргу члены бальшавіцкае фракцыі IV Думы. Крывавая авантура самадзяржаўя не павінна быць разьдзета перад працоўнымі гушчамі! Хто гэта пасьмее рабіць—таму катарга. Але ні катарга, ні расстрэлы ня стрымалі абурэньня рабочых і салдацкіх мас, якія адплацілі самадзяржаўю за векавы прыгон пераможнаю рэволюцыяй.

Лютаўская рэволюцыя адбіваецца ў аддзеле багатай колекцыяй фотографій, портрэтаў, друкаваных дакумэнтаў. Перад вамі паседжаньне часовага буржуазнага ўраду і побач засяданьне Пецярбурскага Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў, апрэльскае выступленьне рэволюцыйнай часткі пецярбурскага гарнізону супроціў здрадніцкай політыкі Мілюкова і магутная першамайская маніфэстацыя 1917 г.

Вось першыя нумары цэнтральнага органу нашай Комуністычнай партыі—„Праўды“; тут-жа меншавіцкія „Известия петербургского совета рабочих и солдатских депутатов“... Рэльефна выдзяляецца цікавы здымак групы бальшавікоў—членаў выканаўчага камітэту СРДэпутатаў; сярод іх таварышы: Сталін, Молатаў, Красікаў, Казлоўскі і інш. Побач зафіксаваны рад момантаў з сямнаццатага году на Беларусі. Цікавейшыя гэта: вядомы франтавы зьезд у Менску 7 красавіка, на якім было нанесена паражэньне буржуазнай партыі кадэтаў і часоваму ўраду; ячэйка бальшавікоў 32 тылавога эвакуацыйнага пункту; т. Фрунзе ў якасьці начальніка менскай міліцыі і інш.

Кастрычнікавая рэволюцыя прадстаўлена здымкамі атрадаў чырвонае гвардыі, пасяджэньнем мірнае нарады ў Бярэсьце, багатай колекцыяй адозваў, пастаноў, комуністычных газэт. Асабліва цікаўна паказана праламленьне Кастрычніка на Беларусі. Вось адозвы вобласнага камітэту Комуністычнае партыі да насельніцтва Беларусі; загад аб разгоне беларускага контррэволюцыйнага конгрэсу; група бальшавікоў-падпольшчыкаў; нумары газэт „Зьвязда“, „Комуніст“, нямецкае газэты „Чырвоны Салдат“, нелегальныя лістоўкі і адозвы. Ніжэй, пад гэтым, дакумэнты аб контррэволюцыі на Беларусі. Яны пачынаюцца ўваходам нямецкага войска ў Менск. Далей ідуць адозвы і пастановы рады контррэволюцыйных усебеларускага зьезду і радаўскага ўраду. Апошні таксама ня мінуў прадстаць перад гісторыяй у мізэрных постацях сваіх членаў. Групавы здымак гэтых „герояў“ глядзіць на вас сумнаю плямаю з цёмнага нябыцьця. Рэволюцыя няшчадна растаптала гэтых нікчэмных паўзуноў, хоць прынесеную імі шкоду прыходзілася доўга зжываць. І вось беларуская нацыянал-дэмократыя асьмелілася яшчэ дагэтуль працягваць працу гэтае контррэволюцыйнае нечысьці! Праўда, яна бліскуча здала паўторны экзамен на гэта пры бела-польскай окупацыі. Гэта, адначасна жахлівая і героічная эпоха ў жыцьці Савецкае Беларусі вельмі поўна адбіта Музэем рэволюцыі. Вобразы нячуваных зьверстваў і крывавых расправ драпежнай польскай буржуазіі з дапамогай беларускай белагвардзейшчыны не забудуцца надоўга; яны будуць будзіць і ўздымаць да клясавай памсты да тых часоў, пакуль апошняя не паложыць канец панаваньню буржуазіі...

Вось судовы процэс і крывавая расправа над дукорскімі партызанамі; вунь расстрэлы мазырскіх сялян; тут-жа дзікія зьдзекі з чырвонаармейцаў пад Рэчыцай і дзесяткі здымкаў з пагромных канібальскіх разбурэньняў і пажараў: Менску, Слуцку, Барысаву і дзесяткаў мястэчак і вёсак.

І з якім натхненьнем далей вы ўглядаецеся ў адбіткі тых героічных момантаў, якія зьвязаны з пераможным наступам Чырвонай арміі, з вызваленьнем БССР ад белапольскай окупацыі з пераходам яе на мірнае будаўніцтва.

Празрыстаю бліскавіцаю праходзяць непазбыўныя моманты мужнага змаганьня за вялікі Кастрычнік на Беларусі! Адзін малюнак за другім: наступ Чырвонае кавалерыі на белапольскія банды, адпраўка пяхоты на польскі фронт, т. Мясьнікоў на позыцыях, камандуючы фронтам т. Тухачэўскі, на фронце, пасяджэньне рэволюцыйнага савету фронту, і беларускі рэволюцыйны камітэт!

Перамога Кастрычніка!

Сьледам шэраг гадоў уздымнага соцыялістычнага будаўніцтва, пасьпешнага набліжэньня да комунізму...

---

Выстаўка выразна і поўна адбівае гэта сваім багатым зьместам, сваёю дасканалаю клясыфікацыяй і падборам экспонатаў з усіх галін народнае гаспадаркі БССР. Выстаўка сьведчыць жывымі прыкладамі, наяўнасьцю фактаў аб тых вагромністых посьпехах, якіх дасяглі рабочая кляса і бядняцка-серадняцкае сялянства БССР на чале з Комуністычнаю партыяй бальшавікоў Беларусі. Дзесятак гадоў пролетарскае дыктатуры пакрываюць сотні гадоў жыцьця і працы пры іншых умовах.

Выстаўка заўражае магутнае ператварэньне адсталай заняпаднай краіны ў квітучую цытадэль соцыялістычнага будаўніцтва. Яна выяўляе гіганцкія плёны ўздымнай колектыўнай працы рабочых і бядняцка-серадняцкіх сялянскіх масаў для ўзмацненьня соцыялістычнага базісу пролетарскае краіны. Выстаўка навучае і кліча да новых непаслабных тэмпаў у нашай барацьбе за комунізм.

У гэтым нязьмернае значэньне выстаўкі, яе вялікая прыцягальнасьць да сябе, яе популярнасьць сярод шырокай партыйнай, рабочай, колгасьніцкай грамадзкасьці.

Цікавасьць і захапленьне выстаўкаю ніколькі не памяншаецца, ня гледзячы на паўтарамесячнае яе функцыяваньне. Наплыў наведнікаў-экскурсантаў ня меншыцца, і ўзмоцнены рух трамвайнае адзінкі нясупынна дастаўляе поўныя вагоны людзей.

Да 10 верасьня выстаўку наведала (па дадзеных галоўвыстаўкому) 37000 сялян, з якіх: 35 проц. колгасьнікаў, 25 проц. аднаасобнікаў і 40 проц. сельгаслесработнікаў. Двайную лічбу наведывачоў даў Менск.

Выхаваўчая інструктуючая, пазыўная роля выстаўкі ярка адбіваецца ў тых многалікіх запісах, якія пакідаюць па сябе рабочыя экскурсанты, колгасьнікі, беднякі і серадиякі сяляне.

Вось некалькі характэрных водзываў з тысячаў іншых. Экскурсант фабрыкі імя К. Маркса т. Г. Марчэнка кажа: „Выстаўка ня толькі паказвае нашы досягненьні, але і інструктуе для далейшай работы. Такое інструктаваньне, пабыўшы на выстаўцы, атрымалі і мы“. Бядняк селянін Манько запісвае: „Мы, сяляне, на Ўсебеларускай выстаўцы ўбачылі сапраўдную аднолькавую зацікаўленасьць як рабочых, гэтак і працоўных сялян, у справе перабудовы краіны; убачылі, што толькі самыя буйныя формы землякарыстаньня вывядуць нас з бядоты. Выстаўка дае шмат карысьці, шмат чаму навучае, дае магчымасьць уявіць селяніну будучыню“. Колгасьнік м-ка Вузды з колгасу „Інтэрнацыянал“ т. Марголін засьвядчае: „Я прышоў да выніку, што выстаўка зьяўляецца самым лепшым агітатарам за колектывізацыю“. Лепельскі бядняк селянін т. Юркевіч дадае: „Нам сялянам выстаўка дае шмат відавочнага. У колгасах жыць нам беднякам лепш будзе“. Група экскурсантаў Жыліцкай школы савгасу Вуча, Бабруйскага раёну зазначае: „Мы рухаемся наперад да соцыялізму. Мы разгарнулі соцыялістычнае наступленьне па ўсім фронце. Выстаўка адбівае гэты шлях. Яна лепш, як хто можа даказаць панікёрам, правым ухілістым важнасьць генэральнай лініі партыі“. Кол-

гасьнік т. Башкіраў заяўляе: „Ад экскурсантаў Лупалаўскага раёну Кароўчынскага сельсавету пасылаем прывітаньне Комуністычнай партыі за яе дасягненьні на 13 годзе рэволюцыі і пажадаем ёй правесьці пасьпяхова пяцігодку па ўсім СССР. Пажадаем нашай Комуністычнай партыі быць моцным і нясупынным барацьбітом за нашае соцыялістычнае будаўніцтва, каб даць адпор таму, хто імкнецца перашкодзіць нам правесьці рэконструкцыю сельскае гаспадаркі".

З гэткімі думкамі пакідаюць выстаўку дзесяткі тысяч яе наведнікаў. І толькі выяўны вораг соцыялістычнага будаўніцтва, адкрыты і прыхаваны контррэволюцыянэр, той, хто бачыць сваю гібель у ажыцьцяўленьні генэральнае лініі Комуністычнае партыі—адзавецца аб выстаўцы адмоўна. Ды зразумела чаму: выстаўка хавае пад сабою апошнія іх надзеі на ўзварот мінулага.

---

Яшчэ хочацца раз прайсьціся па раскінутых вопытных палёх выстаўкі. Хочацца паўторна слухаць апавяданьні яе радавых організатараў, зацяжна, з натхненьнем апавядаючых пра цуды ўзросту нашае прамысловасьці, вызваляючай нас ад капіталістычнай залежнасьці, аб пératварэньні пяшчаных зямел у плённыя ўрадлівыя нівы. „Яшчэ толькі вясною тут высечана дваццаць пяць тысяч пнёў,—кажа адзін з членаў дырэкцыі, т. Кіпрыянец:—а цяпер—паглядзець: якое было жыта! А каноплі ростам у тры мэтры, а цукровыя буракі, а лекавыя зёлкі, капуста, сланэчнік, гарбузы, лён. Усё гэта на пяшчанай цаліне". Тав. Кіпрыянец вялікі прыхільнік садазодзтва. Вось ён з зацягненьнем тлумачыць паказнае вырашчэньне садовых дрэў. Перш дробныя дзічкі, пры боку ў рост чалавека гадавалыя шчэпы; далей двухгадоўкі з пяцьма тоўстымі ралкамі, а за імі—роўна рассаджаны садок. Як проста і стала! Як цікава і прыёмна!

І хоць ноч на дварэ—выстаўкі ня хочацца пакідаць. Яна трымае вас у сваім цёплым абдыме, варушыць думкі і ўздымае палкія імкненьні да няспыннай працы на карысьць пролетарскай соцыялістычнай краіны. Яшчэ крыху палюбавацца яе вячэрнім выглядам: паглядзець на пераліва рознаколерных агнёў, на выблізкі зазыўных лёзунгаў. І перанесьціся думкамі ў праменьнях пражэктарнай вежы туды, на захад, за межы, дзе голасна прагукаць: мы заняты мірным будаўніцтвам, мы пасьпешна нячуванымі тэмпамі разьвіваем сваю гаспадарку—і той, хто задумае гэтаму пaперашкодзіць—сустрэне наш рашучы, зьніштажаючы адпор.

Але сярэбраны званок трамваю кліча да ад'езду. Дзесятая гадзіна. Гомельчане-колгасьнікі накіроўваюць да выйсьця. Заўтра паўтарэньне агляду.

# НА ЎЗДЫМЕ

*(1912—1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі)*

**Якуб Куніца**

## Прамысловасьць і рабочы рух у раёне напярэдадні вайны 1914 году

К пачатку імпэрыялістычнай вайны прамысловасьць у Слонімскім раёне Заходняй Беларусі заметна вырасла ў параўнаньні з тым становішчам, якое склалася ў першыя гады рэакцыі, у гады заняпаду і прамысловага застою. У 1912-14 гг. у раёне ўжо налічвалася: два заводы па вырабу цьвікоў, некалькі чыгунна-ліцейных, запалкавая фабрыка, шоўкава-прадзільная, фабрыка хустак, шэраг тэкстыльных прадпрыемстваў у м-ку Ружанах, некалькі новых гарбарань, тартакоў, бровараў і інш. Усе гэтыя прадпрыемствы былі большай часткай дробных і сярэдніх разьмераў, якія налічвалі па 30—250 ня больш рабочых. У мэталяапрацоўчай, тэкстыльнай і гарбарнай прамысловасьці захаваліся старыя кадры рабочых, бо шэраг прадпрыемстваў гэтых галін прамысловасьці былі пабудаваны ў раёне яшчэ да рэволюцыі 1905 году, прычым у мэталяапрацоўчай прамысловасьці пераважалі рабочыя-беларусы і палякі, а ў тэкстыльнай і гарбарнай — рабочыя-яўрэі. На тартаках і гарбарнях, на запалкавай фабрыцы большасьць была рабочых беларусоў прычым пераважала сялянская моладзь, якая вярбавалася з ваколічных вёсак. У саматужных прадпрыемствах, швэйнай, абутковай, харчовай і будаўнічай прамысловасьці працавалі значныя групы яўрэйскай рабочай моладзі.

Рабочы рух, які ўзмацніўся ў сувязі з прамысловым уздымам выліўся ў шэраг забастовак, якія, аднак, аж да вайны 1914 г. не перарасьлі ў масавы рух. Забастоўкі ахаплялі большай часткай невялікія групы рабочых і то, галоўным чынам, дробнай саматужнай прамысловасьці, праходзілі неорганізавана, і заканчваліся безадкладна, як толькі прыходзілі да тэй ці іншай компромісной згоды з гаспадарамі. Тлумачыцца гэта тым, што бальшавіцкай організацыі ў раёне ня было. Організацыі Бунду, „Поалей-Цыён“, „сыёністых-соцыялістых“, усе гэтыя дробна-буржуазныя яўрэйскія організацыі, якія некалькі ажывілі сваю дзейнасьць у пэрыод 1912-14 гг., уцягнулі ў свае шэрагі невялікія групы рабочай яўрэйскай моладзі, занятой у асноўным у саматужнай прамысловасьці, служачых

і саматужнікаў. Праводзячы месяцы і гады ў дробных сварках і спрэчках паміж сабой, — гэтыя організацыі ўсё-ж адзіным фронтам праводзілі працу па адрыву паасобных груп яўрэйскіх рабочых ад агульнай масы рабочых, па ўзмацненьні тых шовіністычных настрояў, якія ў масе яўрэйскіх рабочых падтрымліваліся дробна-буржуазным абкружэньнем.

Напярэдадні вайны таксама ажывілі сваю дзейнасьць паасобныя групы рабочых і інтэлігентаў, якія належалі да саюзу „Максымалістых“. Яшчэ ў 1906 годзе, пад напорам наступаючай рэакцыі з аднаго боку, і адходу ад рэволюцыі дробна-буржуазнай інтэлігенцыі і часткі рабочых — з другога, — групы рабочых, бязумоўна, рэволюцыйна-настроеных, вышлі з шэрагаў Бунду, меншавікоў і эсэраў і ўліліся ў атрады анархістых і максымалістых. Непамерна жорсткія расправы з боку ўраду, здрады з боку тых, каго яшчэ ўчора лічылі сябрамі і рэволюцыянэрамі, жаданьне хутчэйшай і рашучай перамогі над жорсткім ворагам, жаданьне помсты за пралітую кроў, за расстрэлы і шыбеніцы, — штурхнулі групы рабочых, якія згубілі веру ў магчымасьць організаванай перамогі і якія захапіліся рэволюцыйнай фразай і настроямі, дзейнічаць рашуча і бязьлітасна, на шлях экспропрыяцыі і тэрорыстычных актаў. Ахапляючы групы гарадзкіх рабочых, пераважна саматужнай і гарбарнай прамысловасьці, паасобных мэталістых пасаду Альбэртын і тэкстылей м-ка Ружаны, групы максымалістых і анархістых Слонімскага раёну склаліся і праводзілі сваю працу пад ідэёвым кіраўніцтвам і непасрэднай дапамозе вялікай організацыі максымалістых і шматлікіх груп анархістых суседняга Беластоцкага раёну.

Ад асноўнай масы рабочых максымалістыя таксама былі адарваны, не праводзілі сярод іх ніякай працы, ня цікавіліся зусім пытаньнямі забастовачнай барацьбы пытаньнямі штодзеннага жыцьця рабочых. Станоўчая роля ў дзейнасьці паасобных максымалістых выражалася толькі ў тым, што на масавых падпольных сходах яны часта выступалі з рэзкай крытыкай нацыяналістычнай тэорыі і практыкі яўрэйскіх дробна-буржуазных організацый, што ў спрэчках паміж бальшавіцкай і меншавіцкай фракцыямі Дзяржаўнай думы, паміж газэтай „Праўдай“ і „Лучом“, яны заўсёды трымалі бок бальшавікоў. Але, абараняючы быццам бальшавікоў, яны скарыстоўвалі гэта толькі як сродак свайго наступленьня супроць Бунду і інш., а ад саміх сябе яны-ж несьлі такую-ж дробна-буржуазную „гэрась“, прыкрываючыся толькі „левымі“ рэволюцыйнымі фразамі.

Такім чынам, ні максымалістыя, ні Бунд, ні іншыя дробнабуржуазныя організацыі сярод рабочых асноўных прадпрыемстваў раёну, ніякае працы не вялі і не карысталіся сярод іх ніякім уплывам. І хваля рэволюцыйнага ўздыму, якая пракацілася ў пэрыод 1912-14 гг. ва ўсіх прамысловых раёнах Расіі, зусім слаба закранула гэтыя групы рабочых, а паасобныя забастоўкі, якія выбухалі на тым ці іншым прадпрыемстве, у сілу адсутнасьці кіраўніцтва і адпаведнай агітацыйнай работы, хутка ліквідаваліся і досыць часта не з карысьцю для рабочых.

## Замяшаньне ў пачатку вайны

Вайна захапіла ўсіх зьнянацку. Гэта, як нельга лепш, скарысталі буржуазныя організацыі (кадэты, сіёністыя і інш.) і царскія чыноўнікі, якія безадкладна прыступілі да организацыі патрыётычных маніфэстацый і мітынгаў. Масы рабочых і сялян „пакорліва“ накіроўваючыся на зборныя пункты, з злосьцю абыходзілі ўсе гэтыя маніфэстацыі, а накіроўваючыся паасобнымі часткамі на станцыю чыгункі, ішлі панура раскіданымі шэрагамі, мясцамі зьмяшаўшыся з натоўпам праважаўшых і адчайна плачучых матак, жонак, сясьцёр і дзяцей. Плач жудасьці і роспачы заглушалі бас оркестраў, якія ішлі наперадзе часьцей, што накіроўваліся на фронт і крыкі ўра, якія раздаваліся з натоўпу буржуазнай моладзі і дам.

Спробы даць ацэнку падзеям, што склаліся, на рабочых сходах былі зроблены толькі па ўплыве 3—4 тыдняў пасьля пачатку вайны. З іх найбольш характэрным зьяўляецца адзін сход, праведзены ў лесе пад кіраўніцтвам бундаўскай організацыі. Устаноўку на гэтым сходзе даваў М. Лур'е, сын мясцовага лесапрамыслоўцы, які стаяў у той час блізка да кіруючых цэнтральных органаў Бунда. Асноўныя думкі дакладчыка заключаліся ў тым, што ніякім чынам ня трэба жадаць паражэньня царскай арміі і адсюль перамогі нямецкаму мілітарызму, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай для сусьветнай дэмократыі. Таму ўсе сілы павінны быць мобілізаваны для барацьбы з арміяй нямецкага кайзэра. Да таго, перамога нямецкіх штыхоў азначае захоп Нямеччынай Польшчы і Літвы, дзе жыве асноўная маса яўрэйскага насельніцтва, занятога галоўным чынам саматужнай вытворчасьцю і дробным гандлем. Высока разьвітая прамысловасьць і гандаль Нямеччыны выцісьне тады дробны гандаль і саматужную прамысловасьць Літвы і Польшчы, што прывядзе да поўнага зруйнаваньня бяднейшых груп яўрэйскага насельніцтва. Адсюль і рабіўся вывад, што з пункту гледжаньня абароны інтарэсаў яўрэйскіх працоўных мас, нам таксама трэба абараняцца ад нападу нямецкай арміі.

Характэрна, што гэтая недарэчная дробна-буржуазная абывацельская „страпня“, падмацаваная бессаромлівым падтасоўваньнем фактаў з гісторыі мінулых войн і рэволюцый, спаткала адабрэньне з боку большасьці слухачоў. З членаў організацыі Бунду пярэчыў і то невыстарчальна сьмела, толькі адзін. Гэта быў т. Белкін (Закгэйм), які стаў пасьля актыўным бальшавіком і кіраваў пасьля Кастрычніка партыйнай організацыяй у г. Яраслаўлі і загінуў у часе Яраслаўскага мяцяжа. Тав. Белкін стаяў на паражэнцкім пункце погляду, мотывуючы гэта тым, што паражэньне прывядзе да хутчэйшага рэволюцыйнага перавароту ў Расіі.

Паведамленьне аб арышце бальшавікоў дэпутатаў Дзяржаўнай думы шмат каму адчыніла вочы. Паасобныя рабочыя, галоўным чынам, старыя рабочыя, актыўныя ўдзельнікі рэволюцыі 1905 году, ня гледзячы на сваю афіцыяльную прыналежнасьць да максымалістых ці бундаўскай органі-

зацыі, адкрыта пачалі адстойваць пункт гледжаньня бальшавікоў у пытаньнях вайны. Імення пад націскам гэтых рабочых кіраўнік організацыі максымалістых т. Волах, вярнуўшыся тады з Сібіры, дзе знаходзіўся ў васьмігадовай ссылцы і які таксама ў першы час абараняў тэорыю абарончай вайны супроць нямецкага мілітарызму, прымушаны быў зьмяніць свой фронт і прызнацца, што першапачатковы яго пункт гледжаньня быў неправільным. Ажывілася таксама дзейнасьць рэволюцыйных рабочых, якія пачалі выступаць на паасобных падпольных сходах і гурткох, павялі агітацыйную працу сярод салдат. Гэта прымусіла настаражыцца офіцыяльных кіраўнікоў бундаўскай організацыі. Яны павялі шалёную атаку для абароны сваіх позыцый і ў першую чаргу пачалі зрываць сходы. Так, на адным сходзе дакладчык З. Куніца, актыўны працаўнік організацыі максымалістых, крытыкуючы абарончую позыцыю Бунда і інш., заявіў, што паасобныя кіраўнікі Бунда (назваў іх прозьвішчы) гатовы цяпер ня толькі абараняць буржуазію ў гэтай грабежніцкай вайне, але і спрабуюць цалаваць казацкія нагайкі. Узьнялося непамернае выцьцё зьняважаных „правадыроў“ і сход быў сарваны. У такой абстаноўцы міжпартыйнай барацьбы і досыць часта дробных непаразуменьняў і сварак мінуў першы год вайны.

## Нямецкая окупацыя

Паражэньне царскай арміі і адступленьне на ўсім заходнім фронце ў працягу лета 1915 года суправаджалася бязьлітасным зруйнаваньнем усіх тых раёнаў, па якіх армія адступала. Вёскі пагалоўна паліліся і разам з імі зьнішчаўся толькі што зьняты ўраджай, а сялянства гвалтоўна выганялася з старых насіджаных месц. Сотні тысяч народу сабралася на дарогах і цэлымі тыднямі перасуваліся ад Берасьці, Беластоку, Горадні і Коўна — на Ўсход. Тысячы народу, пераважна старыкоў, жанчын і дзяцей, гінулі ад халеры, чорнай воспы і тыфусу. Целы загінуўшых валяліся па дарогах, нікім няпрыбраныя, і страшныя і чорныя яны пашыралі наўкола дзікі смурод. Адступаючая армія, пераважна пяхотныя часьці, зьмяшаліся з гэтай вялізарнай масай людзей і павозак, якія рухаліся наперад надзвычайна паволі (наўкола ўтварыліся заторы і па некалькі дзён стаялі на адным месцы), а нямецкія аэропляны, якія іх даганялі, лёталі проста над галовамі людзей, бязупынку скідвалі бомбы, вялікае руйнавальнае сілы, пакідаючы пасьля сябе груды разарваных цел людзей і коняй, зьмешаных у адну кучу.

Такім чынам, у Слонімскім раёне, як і сярод рэшты раёнаў Заходняй Беларусі, у паласе адступленьня царскай арміі захавалася ад зруйнаваньня толькі невялікая група вёсак і мястэчак. Сам горад быў спалены напалову, фабрыкі і заводы ва ўсім раёне былі таксама спалены, а машыны, калі іх не пасьпелі вывезьці, былі зьнішчаны. Адступаючыя часьці,

асабліва апошнія, прыкрываючыя атрады казакаў і чаркесаў, дзіка зьдзекваліся над насельніцтвам, зьбівалі, рабавалі, гвалтавалі жанчын і, калі не ўдавалася адкупіцца, палілі пагалоўна ўсё, што пападалася на шляху. Нямецкія часьці, якія акупавалі раён у першых чыслах верасьня 1915 г., у першы час вялі сябе амаль узорна. Гвалтам і рабункам адразу быў пакладзены канец, халера і тыфус былі выкаранены ў працягу двух-трох тыдняў і сяброўскімі былі адносіны салдат да акупаванага насельніцтва. Гэта было да таго часу пакуль праходзілі перадавыя часьці, але як толькі фронт аддаліўся на 50—60 вёрст на Ўсход, а ў розных пунктах раёну пачалі засноўвацца штабы, тылавыя часьці і шпіталі, адразу адчулася „культрэгерскае“ папячэньне нямецкіх юнкяроў. У вёсках у сялянскага насельніцтва, што засталося, пачаліся рэквізыцыі, строгія кары за самыя нязначныя ўчынкі, частыя расстрэлы быццам-бы за шпіёнаж і г. д. У горадзе ўсё працоўнае насельніцтва зараз-жа было прыцягнута да работ у рабочых батальёнах, дзе за бясцэнак, за марку-паўтары ў дзень працавалі з золку да вечара. Частку моладзі, пераважна рабочай, пагналі ў Нямеччыну і трымалі там у лягерох нараўне з ваенна-палоннымі. Частку гарадзкога бяднейшага насельніцтва ў ліку каля 5100 сем‘яў, у адзін дзень, даўшы ім тэрмін для збораў толькі 24 гадзіны, высялілі ў далёкія запусьцелыя вёскі, дзе захаваліся некранутыя агнём паасобныя жыльлёвыя пабудовы. І ў працягу трох год (асабліва ў апошнія два гады) маса народу, за выключэньнем гандляроў і спэкулянтаў, адарваная ад нормальнага вытворчага жыцьця, пухла, ад голаду, сьмяротнасьць дзяцей асабліва павысілася і галодны тыфус, выгнаны немцамі ў пачатку свайго прабываньня, зноў пачаў касіць направа і налева.

У такой абстаноўцы разрозьненасьці, убоства і голаду ўсякі рэволюцыйны рух у першыя часы амаль зусім заглох. Толькі ў канцы 1916 г. па ініцыятыве групы рабочых і служачых, належаўшых да розных партыйных організацый і якія працавалі тады народнымі міліцыянэрамі пры гарадзкім самакіраваньні і рамонтнымі рабочымі на чыгунцы, зноў ажывіліся старыя падпольныя сходы. На першым сходзе асноўным стала пытаньне адносна барацьбы з мясцовым самакіраваньнем, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі гарадзкой буржуазіі і два прадстаўнікі яўрэйскіх дробна-буржуазных організацый. Самакіраваньне цалкам знаходзілася на поваду ў нямецкіх улад, бясспрэчна выконвала ўсе загады нямецкай комэндатуры, дамагалася толькі розных прывілей для буржуазных пластоў насельніцтва ў сэнсе разьвіцьця гандлю, адчыненьня паасобных прадпрыемстваў і г. д. Самакіраваньне гэтае было створана да моманту адыходу царскіх войск, за два тыдні да прыходу немцаў, і пры ім-жа тады, на дабраахвотных асновах стварылася народная міліцыя для аховы гораду ад рабункаў і пажараў, у склад якой увайшла значная частка рабочых. За год працы самакіраваньне ўзьняло супроць сябе амаль усё працоўнае насельніцтва, і ўлічваючы ўсё гэта вырашана было прыступіць да мобілізацыі мас, шляхам компромітуючых выступленьняў супроць

гарадзкога самакіраваньня. На тым-жа сходзе было абгаворана пытаньне аб правядзеньні агітацыйнай працы сярод нямецкіх салдат.

Лютаўская рэволюцыя і ўтварэньне ў Расіі Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў унесла яшчэ большае ажыўленьне ў пачатую працу. Але адначасна ажывілі сваю дзейнасьць старыя дробна-буржуазныя організацыі Бунд, Поалей-Цыён і інш. і адразу вызначылася дзьве асноўных плыні. Адна лічыла, што вызбаўленьне ад жахаў вайны, і ў тым ліку ад нямецкай окупацыі, повінна прыйсьці шляхам пераможнага наступленьня „рэволюцыйнай" рускай арміі (гэта армія Часовага ўраду і Керанскага) супроць нямецкай арміі, што змусіць апошнюю на заключэньне дэмократычнага міру без анэксый і контрыбуцый. Да гэтага ў асноўным зводзіўся пункт гледжаньня ўсіх організацый меншавіцкага кірунку. Другая плынь, так званая левая група, якая складалася з двухтрох таварышоў, якія лічылі сябе бальшавікамі, з паасобных максымалістых, левых бундаўцаў і групы беспартыйных рабочых, абараняла позыцыю няўхільнасьці другой рэволюцыі ў Расіі, калі ва ўлады сапраўды стануць Саветы Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, якія даб'юцца безадкладнага сканчэньня імпэрыялістычнай вайны. Адсюль задача вядзеньня агітацыі сярод нямецкіх салдат за хутчэйшую перамогу рэволюцыі ў Нямеччыне і падрыхтоўку рабочых і сялян окупаваных краін да аднаўленьня савецкае ўлады ў сваіх раёнах. Вось з гэтай групы таварышоў, па ўплыве некалькіх месяцоў, склалася першая падпольная бальшавіцкая організацыя ў раёне.

## Кастрычнікавая рэволюцыя ў Расіі і першы падпольны зьезд Саветаў

Кастрычнікавая рэволюцыя ў Расіі выклікала хвалю ўздыма ў значных груп рабочых, хоць бундаўскія і іншыя кіраўнікі дробна-буржуазных організацый адразу разгарнулі ўсе свае сілы, каб пашырэньнем усякіх чутак, ілжой і брудам ачарніць правадыроў Кастрычнікавага перавароту і расьсеяць тыя радасныя надзеі, якія былі зьвязаны з гэтай вялікай перамогай. Карыстаючыся ўздымам настрою мас, левая група безадкладна прыступіла да працы. Перш за ўсё ўзьнікла пытаньне аб закупцы зброі з мэтаю стварэньня баявога ўзброенага атраду. Грошы на гэтую справу даставаліся з вялікай цяжкасьцю, прыпадала ў першыя часы пазычаць пад гарантыю таго ці іншага аўторытэтнага таварыша, з абяцаньнем у бліжэйшым часе зьвярнуць. У мэтах захаваньня паўнейшай консьпірацыі ў гэтай небясьпечнай справе, каб не праваліцца і не страціць тыя паасобныя вінтоўкі, браунінгі і набоі, якія праз знаёмых і блізкіх да нас нямецкіх салдат здабываліся з вялікай цяжкасьцю, аўтар гэтага артыкулу быў упаўнаважаны толькі адзін атрымаць зброю ад таварышоў, якія закупалі яе і падбіраць пункты хаваньня, пра якіх ніводзін з членаў групы не павінен быў ведаць. У першыя месяцы

гэтая праца пасувалася надзвычайна паволі. Так, да восені 1918 года была набыта ня больш дзесятка вінтовак і некалькі браунінгаў. Пачынаючы з лістапада месяца, калі рэволюцыйныя падзеі ў Нямеччыне пачалі нарастаць з нязвычайнай хуткасьцю, гэтая праца таксама пачала пасувацца значна шпарчэй.

У дні Берасьцейскіх перагавораў, галоўным чынам, па ініцыятыве левай групы, стаў падрыхтоўвацца першы адкрыты масавы рабочы вечар, які адбыўся 22 (9) студзеня 1918 года у дзень расстрэлу Піцерскіх рабочых. Фактычна гэта было першае адкрытае сьвяткаваньне рабочымі гораду Кастрычнікавага перавароту ў Расіі. Але гэты сход быў першым і да рэволюцыі ў Нямеччыне—апошнім, бо пасьля зрыву Берасьцейскіх перагавораў і заняцьця немцамі ўсёй Усходняй Беларусі, Украіны і Прыбальтыцкага краю, зноў пачаліся старыя парадкі, а прасьледваньні і дбайнасьць нямецкіх улад яшчэ павялічылася. Пасьля заняцьця немцамі другой часткі Беларусі і Украіны, у Заходнюю Беларусь пачалі звараччацца групы салдат былой царскай арміі, якія пры тэй шпаркасьці нямецкага адступленьня затрымаліся на ўноў акупаваных краінах. Гэтая маса ўнесла значнае ажыўленьне ў рэволюцыйны рух у раёне і асабліва ў вёсках. Шмат хто з іх, пападаючы ў горад, праяўлялі вельмі часта выстарчальную настойлівасьць, каб даведацца, дзе знаходзіцца бальшавіцкая організацыя (тады яшчэ левая група), гэтым таварышом даваліся розныя заданьні і праз іх устанаўлялася паступова неабходная сувязь з вёскай, з узмацненьнем-жа сувязі з вёскай зарадзілася настойлівая думка склікаць падпольны павятовы зьезд саветаў. Безадкладна ўзяліся за падрыхтоўку. Але ў хуткім часе рэволюцыя ў Нямеччыне паставіла перад намі шэраг іншых, ня менш важных, задач.

Справа ў тым, што ўся праца да Кастрычніка 1918 года праходзіла пад сьцягам левай групы. Трэба было хутчэй сьпяшыць з афармленьнем самастойнай бальшавіцкай організацыі. У лістападзе месяцы такая ячэйка была афармлена ў складзе толькі пяці чалавек, а 6 сьнежня ў адным з закінутых дамоў, на ўскраіне гораду, у памяшканьні былой кашары, быў праведзены першы сход рабочых, спачуваўшых бальшавіком, на якім падалі заявы аб уступленьні ў організацыю 35 чалавек. Праз некалькі дзён выбраны на гэтым сходзе партыйны камітэт устанавіў сувязь з іншымі партыйнымі ячэйкамі ў раёне (м-ка Ружаны і Дзятлавічы), а таксама зьвязаўся з Менскам.

9 сьнежня адчыніўся падрыхтаваны з вялікімі цяжкасьцямі зьезд Саветаў. Дэлегатаў на ім прысутнічала 36 чалавек: 27 дэлегатаў ад сельскіх раёнаў, 5 чалавек ініцыятыўная група па скліканьню зьезда, атрымаўшая на зьезьдзе права пастаноўчага голасу і 4 дэлегаты ад гарадзкога савету. Адчыненьне зьезду адбывалася ў легальных умовах. Бо праз Нямецкі Савет Салдацкіх Дэпутатаў удалося выхлапатаць дазвол на скліканьне нарады прадстаўнікоў гораду і вёсак для вырашэньня шэрагу зямельных і іншых гаспадарчых пытаньняў. Адчыненьне

было ўрачыстае з удзелам значнай масы рабочых, але пад наглядам прадстаўнікоў нямецкае ўлады. Пасьля сканчэньня гэтага ўрачыстага сходу было абвешчана, што з заўтрашняга дня прыступяць да працы паасобныя камісіі па выпрацоўцы практычных прапаноў, па пытаньнях пастаўленых на павестку дня. І фактычна, з наступнага дню ў адным з малых пакояў Народнага Дому зьезд, пазбавіўшыся такім парадкам ад нагляду прадстаўнікоў нямецкае ўлады, прыступіў да свае працы. У асноўным былі прапрацаваны пытаньні організацыі ўлады на мясцох, падзелу і скарыстаньня абшарніцкіх зямель, здабычы зброі і ўзброеньня рэволюцыйнай часткі вёскі.

К канцу працы зьезду зьявіліся чатыры дэлегаты гарадзкога савету, якія не пажадалі спачатку прымаць удзел у працы зьезду. Справа ў тым, што Гарадзкі савет, які ўтварыўся ў першыя дні рэволюцыі ў Нямеччыне, і выбраны выключна галасамі рабочых саматужнай прамысловасьці, служачых і настаўнікаў, у сваёй вялізарнай большасьці зьяўляўся меншавіцкім. Таму, кіраўнікі гарадзкога савету былі вельмі незадаволены тым, што левая група праз іх голаву склікала павятовы зьезд саветаў. Яны спачатку ня верылі, што маленькая група здолее ў працягу вельмі кароткага часу ахапіць амаль увесь павет, дабіцца абраньня дэлегатаў у большасьці валасных пунктаў і сабраць гэтых дэлегатаў у павятовым цэнтры. Таму адчыненьне зьезду ім звалілася, як сьнег на галаву. Дэлегацыя Гарсавету, зьявіўшыся на чале з двумя кіраўнікамі бундаўскай організацыі (Закіным і Валіцкім) зьвярнулася да зьезду з заявай, што Гарсавет не прызнае за зьездам тых правамоцтваў, якія ён бярэ на сябе, бо зьезд скліканы па ініцыятыве самазваннай групы, нікім на тое не ўпаўнаважанай і што толькі Гарсавет быў у праве падрыхтаваць і склікаць павятовы зьезд саветаў. Яны атрымалі безадкладны і рашучы адпор з боку ўсіх дэлегатаў зьезду. Ім прапанована было не перашкаджаць, ня зрываць нормальную працу зьезда лішнімі дэкляарацыямі і калі яны хочуць, то могуць застацца і прымаць удзел у працы зьезду нараўне з усімі дэлегатамі. Трое з іх засталіся, прымалі ўдзел у галасаваньні амаль па ўсіх пытаньнях, і ў тым ліку ў выбарах Выканаўчага Камітэту, а двое з гэтай дэлегацыі (рабочыя) ужо ў наступны дзень афіцыяльна заявілі пра свой выхад з Бунду і далучэньні да бальшавікоў. У Выканком, абраны зьездам, вайшло 9 чалавек: 6 комуністых-бальшавікоў, адзін максымалісты, 1 анархісты-комуністы і 1 левы поалей-сіёністы.

## Савецкая ўлада ў раёне і барацьба з белапалякамі

Выканаўчаму Камітэту, як выбарнаму органу ўлады, прышлося працаваць ня больш 3 тыдняў. Заняцьце Менску чырвонымі войскамі і набліжэньне чырвоных атрадаў да Баранавіч, паставілі перад бальшавіцкай організацыяй, а таксама перад Выканаўчым Камітэтам задачу стварэньня

больш гібкага, Ваенна-рэволюцыйнага Камітэту, які па-баявому арганізаваў-бы ахову раёну ад адступаючай нямецкай арміі і ад спроб захопу раёну польскімі атрадамі, якія прыходзілі на зьмену адступаючаму нямецкаму войску. Выканаўчы Камітэт на адным з сваіх паседжаньняў вылучыў з свайго складу Ваенна-рэволюцыйны камітэт і тым самым спыніў сваю дзейнасьць. Важнейшай задачай ваеннага рэўкому было стварэньне вялікага баявога атраду і загатоўка неабходнае зброі для гэтага атраду. Патрэбныя сродкі на гэтую справу былі атрыманы ад групы таварышоў, прыехаўшых з Менску. Праца закіпела. Аўтар гэтых радкоў, як член рэўкому, вылучаны для гэтай працы, скарыстаў ранейшую практыку і старыя сувязі для правядзеньня закупкі зброі, дабіўся таго, што ў вельмі кароткі тэрмін тры пункты аказаліся заваленымі вінтоўкамі, бомбамі і тэлефоннымі апаратамі. У працягу дзесяці дзён атрад, больш як у сто чалавек, быў узброены і прыведзены ў поўную гатоўнасьць. У атрады ўваходзіла група гарадзкіх рабочых і сяляне з ваколічных вёсак, нядаўна прыбыўшыя ў родныя месцы з Савецкай Расіі.

Першае баявое хрышчэньне атрад атрымаў ва ўзброенай сутычцы з немцамі—у ноч адступленьня апошніх нямецкіх часьцей, калі яны спрабавалі зрабіць выбух двух чыгуначных мастоў на рацэ Шары і яе канале. Атрад залёгшы паабапал мастоў, пад захаваньнем лясных матэрыялаў, сабраных на беразе рэчкі, зорка сачыў за кожным праяжджаўшым нямецкім эшалёнам. Ведалі, што ўзрываць масты будзе апошні эшалён. Таму, атрымаўшы паведамленьне, што апошні эшалён вышаў са станцыі, атрад падышоў бліжэй да палатна чыгункі і пры падыходзе эшалёну да першага маста адкрыў па ім гураганны агонь. Немцы пачалі адстрэльвацца з двух кулямётаў, але ўсё такі прымушаны былі хутчэй праскачыць праз абодвы масты, пасьпеўшы толькі крыху пашкодзіць першы з іх. Для правядзеньня гэтае опэрацыі атрадам у тую ноч камандаваў т. Волах, прыехаўшы за некалькі дзён да гэтага з Савецкае Расіі. Тав. Волах у той час яшчэ быў максымалістым, у дні рэволюцыі быў адзін час рэдактарам часопісі „Максімаліст“, Цэнтральнага органу саюзу максымалістых. У організацыі савецкае ўлады ў Слонімскім раёне, у пачатку 1919 года тав. Волах, бязумоўна, адыграў вялікую ролю і ў красавіку месяцы гэтага-ж году ён перашоў у шэрагі комуністычнае партыі. У пачатку 1920 года тав. Волах памёр у г. Гомелі ад тыфусу, зьяўляючыся ўпаўнаважаным НК Замежнага Гандлю на Заходнім фронце.

14 студзеня 1919 года раніцою ў горад увайшлі першыя чырвонаармейскія часткі Горадзенскага палка, а днём у гонар прыбыцьця гэтых часьцей была наладжана грандыёзная дэмонстрацыя. У адзнаку ад тэй абстаноўкі, якая была пры немцах, жыцьцё ў горадзе адразу забіла поўнай крыніцай. У першыя дні бывала сустракаеш на вуліцах толькі радасныя і вясёлыя твары рабочых, асабліва моладзі, буржуазія пахавалася, ці пасьпела ўцячы яшчэ да адыходу нямецкіх войск. Але радасны

і нават узьняты настрой вельмі хутка зьмяніўся трывогай за лёс раёну, бо Слонімскі раён быў апошні, заняты чырвоным войскам і на граніцы яго ўжо гаспадарылі і рабавалі атрады белапалякаў. Ня гледзячы на гэта, органы савецкае ўлады былі організаваны ва ўсіх пунктах раёну і безадкладна было прыступлена да організацыі нормальнага забесьпячэньня насельніцтва і Чырвонай арміі патрэбнымі продуктамі шырокага спажываньня.

Праз месяц органы ўлады настолькі ўмацаваліся, што стала магчымым склікаць другі павятовы зьезд саветаў. На гэты зьезд прыбыла з усіх канцоў раёну больш 150 дэлегатаў. Меншавіцкая дэлегацыя (Бунд, эсэры і інш.) была прадстаўлена на зьезьдзе ў ліку ня больш 20 чалавек. Але за тое на гэтым зьезьдзе прышлося сутыкнуцца з плыньню, якая моцна аддавала настроямі беларускага нацыянал-шовінізму. Група дэлегатаў, на чале з паасобнымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, вырашыла дабіцца абраньня прэзыдыуму зьезда, а таксама выканаўчага камітэту пад лёзунгам „Беларусь для беларусаў" і пад патрабаваньнем увядзеньня ў склад выбарных органаў вялізарнае большасьці сялян беларусоў, а гэта разам азначала яўнае імкненьне вырвацца з-пад кіраўніцтва рабочае клясы і яе партыі. Характэрна, што асобы, якія выступалі з такімі патрабаваньнямі, выстаўлялі сябе, як спачуваючых комуністычнай партыі, а на сходзе фракцыі бальшавікоў патрабавалі для сябе пастаноўчага голасу. Частка членаў партыі, асабліва вясковая, незразумеўшы адразу ў чым справа, спачатку нават пачала падтрымліваць гэтую групу нацыянал-шовіністых. І нямала працы прышлося патраціць, пакуль на фракцыі, складаўшай большасьць зьезду, удалося стварыць адпаведны пералом.

Новаму Выканаўчаму Камітэту прыпала працаваць вельмі кароткі тэрмін, ня больш двух тыдняў. Не пасьпелі Выканком і яго аддзелы разгарнуць сваю працу, як абстаноўка, што стварылася, прымусіла ўсю ўвагу сконцэнтраваць на барацьбе з наступаючымі белапалякамі. Некалькі раз польскія атрады падыходзілі зусім блізка да гораду і кожны раз іх спробы варвацца ў горад, сустракалі рашучы адпор. Але ў ноч з 1 на 2 сакавіка 1919 года горад быў абкружаным палякамі і польскі кавалерыйскі атрад заняў пасад Альбэртын, які знаходзіўся ў трох вярстох на ўсход ад горада. І характэрна, што камандваньне чырвонаармейскай часьці (4-га Варшаўскага палку), якая знаходзілася ў горадзе, паведаміла аб гэтым у Выканком толькі тады, калі адзін з членаў Выканкому пратэлефонаваўшы ў Альбэртын, вельмі хутка пераканаўся, што з ім гаворыць польскі легіонэр. Факт здрады ці грубейшай памылкі дапушчанай камандваньнем, быў у наяўнасьці. Марудзіць нельга было. Кожную хвіліну палякі маглі варвацца ў горад і захапіць зьнянацку ўсю партыйную організацыю і ўвесь склад палка. Пад кіраўніцтвам тав. Кундо, прадстаўніка цэнтральнай улады Літвы і Беларусі па Гарадзенскай губэрні, насьпех складзены атрад комуністых гарадзкой пар-

тыйнай організацыі, пайшоў да шосэйнага маста у кірунку на Баранавічы,—адзінае месца, адкуль была яшчэ надзея магчымасьці прарвацца. Па шосэ за вярсту ад лесу разьмясьціўся ўвесь 4-ты Варшаўскі полк.

Нярухаючыся з места на ўскраіне лесу, загараджваючы дарогу, сьпешыўся атрад польскіх кавалерыстых, чакаючы напэўна хвіліны, калі полк накіруецца наперад. Іншага выхаду ня было, як ісьці на прарыў, бо ў горад ужо варваліся першыя кавалерыйскія часьці, а з правага флянгу абыходзілі пяхотныя часьці, якія спрабавалі ўтварыць кола.

Камандаваньне палка апусьціўшы рукі адмаўлялася даць загад чырвонаармейскім часьцям ісьці наперад—на прарыў. Тады тав. Кундо выступіў наперад з комуністычным атрадам, які складаўся ўсяго з 25 чалавек. Сарваўшыся з маста атрад па зусім адкрытаму месцу, па гладкаму лёду замёрзшай рэчкі, накіраваўся ў кірунку на ўскрай леса. Польскія кавалерыстыя адкрылі агонь з ручнога кулямёту і нейкім цудам з атраду быў паранены толькі адзін чалавек (тав. Ткачоў,—начальнік павятовай міліцыі). З крыкам ура атрад варваўся на ўскрай леса. Польскія кавалерыстыя адступілі тады ў глыб сасновага бору. Атрад комуністых, наступаючы, пайшоў усьлед за адступаючымі кавалерыстымі, ачысьціўшы, такім чынам, дарогу па шосэ паміж лесам. Полк накіраваўся наперад, пакінуўшы з-заду сябе заслону для абароны ад наступаючых польскіх часьцей.

Горад і раён занялі белапалякі. Польскія афіцэры і салдаты зьбівалі, рабавалі, расстрэльвалі, жорстка зьдзекваліся над мірным працоўным насельніцтвам. І зноў у падпольлі пачалася гарачая праца па падрыхтоўцы новых сьвежых сіл рабочае клясы і працоўнага сялянства для будучых баёў і перамог.

## Некаторыя вывады

Выкладзеная ў кароткіх рысах гісторыя ацэнка падзей, што мелі месца ў Слонімскім раёне ў пэрыодзе 1912—19 г. г., характэрна і для большасьці рэшты раёнаў Заходняе Беларусі. Тое-ж становішча прамысловасьці і сельскае гаспадаркі напярэдадні вайны за выключэньнем найбольш выдатнага ў прамысловых адносінах Беластоцкага раёну. Тыя-ж этапы рабочага руху, партыйнай і клясавай барацьбы, якія прайшлі, праўда, не ва ўсіх раёнах і ў аднолькавыя тэрміны і меўшыя ў кожным раёне свае паасобныя мясцовыя асаблівасьці. Той-жа жахлівы малюнак разбурэньня, галечы і ўціску, які адбыўся дзякуючы бязьлітасному зруйнаваньню краю ў 1914—15 г. г., адступаючай царскай арміяй, дзякуючы трохгадоваму „гаспадараньню“ нямецкіх окупантаў, на зьмену якім, пасьля невялікага перапынку, прышла ўлада польскага абшарніка, фабрыканта і жандара. Гэтая аднароднасьць асноўных этапаў і падзей прымусілі аўтара артыкулу ўзяцца за гэтую працу, каб аднавіць у памяці кожнага з нас мінулае яго роднага краю, які б'ецца цяпер у ціскох польскага фашызму.

Рабочы рух і рэволюцыйная барацьба ў апісаны намі пэрыод з выстарчальнай яснасьцю кажа нам пра тое, што толькі пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе партыі тысячныя масы працоўнага сялянства ўцягнуліся ў актыўную барацьбу за аднаўленьне ўлады саветаў, што рабочая маса зьяўляючыся гегемонам ва ўсёй рэволюцыйнай барацьбе ў раёне, пад кіраўніцтвам бальшавіцкай організацыі, яшчэ ў падпольлі стварала баявыя ўзброеныя атрады, уважліва сачыла за тым, што робіцца ў краіне саветаў, радавалася кожнаму посьпеху савецкае ўлады і Чырвонай арміі і сваёй рэволюцыйнай організаванасьцю, сьвядомасьцю і запалам узмацняла сувязь з працоўным сялянствам, уцягвала яго ў баявыя рэволюцыйныя атрады, кіравала і дапамагала яму організоўваць органы савецкае ўлады на мясцох.

Здрадніцкая і контр-рэволюцыйная роля яўрэйскіх дробна-буржуазных організацый (Бунд, Поалей-Цыён і інш.) і беларускіх нацыянал-шовіністых (праўда, не пасьпеўшых тады яшчэ шырока разгарнуць сваю працу ў зьвязку з наступленьнем польскіх атрадаў) у асноўным заключалася ў адным: распыліць сілы рабочае клясы, вырваць сялянскія масы з-пад уплыву і кіраўніцтва рабочых організацый, узмацніць шовіністычныя настроі ў адсталых пластох рабочае клясы і сялянства. Пад кіраўніцтвам бальшавіцкай організацыі і шэраговыя групы рабочых рашуча змагаліся з гэтай бруднай накіп'ю на целе працоўных, паступова вырываючы паасобныя групы рабочых і перадавых сялян з-пад уплыву дробна-буржуазных шовіністычных настрояў.

Урокі мінулага ёсьць урокі для гісторыі будучыні. Не адна сотня тысяч працоўных Заходняй Беларусі жыве цяпер цьвёрдай упэўненасьцю, што „будзе сьвята і на іх вуліцы“, што ўлада рабочых і сялян у іх краіне таксама не за гарамі. Вось гэтым сотням тысяч энтузіястаў, барацьбітоў, якія рыхтуюць пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі перамогу савецкай улады ў сябе ў краіне і ва ўсім сьвеце—прысьвячаецца гэты нарыс.

# НЕКАЛЬКІ ЭПІЗОДАЎ З БАРАЦЬБЫ ЗА ГОМЕЛЬШЧЫНУ

**А. Аранштам**

У сакавіку 1917 г. 250 чалавек членаў партыі і рабочых Сакольніцкага раёну ўліліся ў Маскоўскі Рэвалюцыйны атрад Чырвонай гвардыі, прыбыўшы з Украіны. Атрадам гэтым камандаваў т. Цімафееў, які быў забіты ў баі каля вёскі Карней, яго памоцнікам быў т. Сірэнка. На чале Сакольніцкай групы былі т. т. Маленкоў (загінуў на Ўсходнім фронце), Мядзьведзь (зараз ПП АДПУ г. Ленінграду) і шэраг іншых. Той хто піша гэтыя радкі быў пешым разьведчыкам гэтага атраду.

Атрад атрымаў назначэньне на Заходні фронт. Уваходзілі мы ў склад 1-й Рэвалюцыйнай арміі па барацьбе з контр-рэвалюцыяй, штаб яе знаходзіўся ў Новазыбкаве, камандаваў ёю спачатку т. Аўсяньнікаў (дзе ён цяпер ня ведаю), а затым былы генэрал Шарпанцье. Задача нашага і іншых атрадаў, што ўваходзілі ў склад „арміі“, была выбіць немцаў з Добруша і захапіць Гомель. Зразумела, пісьмовых загадаў нам не давалі. Хто быў управа, хто ўлева ад нас—ня ведалі, паводле вестак, якія аднекуль дайшлі да нас, мы ведалі, што пад Бахмачам стрымлівалі напор нямецкіх акупантаў чэха-славакі і часам да нас даходзілі водгукі артылерыйскай кананады з таго боку, управа па тых-жа вестках, у Бабруйску было войска Доўбар-Мусьніцкага.

Паасобныя дакуманты з гэтага пэрыоду былі мною здадзены ў 1925 г. у Маскоўскі музэй рэвалюцыі і таму ўсё прыходзіцца аднаўляць па памяці.

Атрад наш складзены часткова з удзельнікаў баёў на Украіне, часткова з маскоўскіх бальшавікоў (былі і катаржане), а затым значная група іванава-вазьнясенскіх бальшавікоў і рабочых, быў вельмі моцным і згуртаваным, хоць тактычна і ў ваенных адносінах вельмі слабы, як і ўсе іншыя атрады.

Мы былі добра ўзброены і забясьпечаны ўсім, што можна было дастаць у інтэнданцкіх складах Масквы.

Жылі мы ў вагонах, і ідучы ў бой пакідалі нашы вагоны, але не адыходзілі ад палатна чыгункі ў кожны бок далей 4—5 клм. На ноч пакідалі вартавых, а самі ішлі ў вагоны спаць.

Унутраны распарадак быў надзвычайна прымітыўным. Камандзіра атраду мы абралі. Наогул, галасаваньні аж да таго ісьці ў наступленьне ці ня ісьці, як гэта было ў нас на ст. Злынка—былі ў модзе.

Харчаваньне ў нас было організавана таксама орыгінальна. Жылі мы комунамі адвольнай велічыні. Прадстаўнік наш ішоў да капцінармуса і той даваў цукер і галеты жменямі, у залежнасьці ад настрою. Колькасьць банак консэрваў таксама вызначалася настроем капцінармуса.

У ваенных адносінах, за выключэньнем групы старых салдат, мы былі поўнымі невукамі. Частка з нас мела практыку Кастрычнікавых баёў у Маскве.

Тым ня менш мы былі атрадам, якому ня раз давалі вельмі сур'ёзныя даручэньні. Ня раз нам прыпадала з сьпевам Інтэрнацыяналу ехаць з тылу на позыцыю, забіраць зброю і іншую ваенную маёмасьць, кінутую ў паніцы якім-небудзь атрадам.

Першае баявое хрышчэньне—быў бой і забраньне Добруша. Камандваньню атраду абрыдла бяссэнсавая артылерыйская дуэль паміж нашымі „броняпляцоўкамі“ (вельмі прымітыўна пабудаванымі) і броняцягнікамі немцаў.

Вось мы і пашлі наступаць на Добруш. Пасьля кароткага бою нам удалося выцісНуць немцаў з Добруша і заняць яго. Ужо ў процэсе боя намі была атрымана тэлеграма аб тым, што паміж намі і немцамі заключана перамір'е і ваенныя дзеяньні прыпынены. Выводзіць атрад з бою нельга было і мы Добруш занялі.

Насельніцтва пасьля немцаў спаткала нас, як вызваленцаў. Рабочыя паперні спаткалі нас добра. Мы мелі ў сваім атрадзе вельмі высока кваліфікаваных партыйцаў і таму дзень ці два, праведзеныя намі ў Добрушы, мы скарысталі для агітацыйнай работы і організацыі савецкіх органаў. На другі дзень нашага знаходжаньня ў Добрушы, нам на дапамогу прыбыў яшчэ нейкі атрад. Мы яму здалі вартавы вучастак, а самі накіраваліся ў вагоны нашага эшалёну, які прыбыў на ст. Доброш на начоўку.

На золаку мы былі разбуджаны кулямётнай і аружэйнай страляніной. Аказалася, што немцы скарысталі такі момант, як слабое нясеньне вартавой службы, зайшлі нам у флянг, занялі мястэчка Добруш і павялі атаку на станцыю.

Атрад хутка выскачыў з вагонаў і кінуўся ў бой. Адбіць немцаў мы ўжо не маглі. Трэба было адыходзіць і мы пачалі адступаць да палатна чыгункі. Мне з таварышом Цярэнка прышлося неяк затрымацца, бо з нашага месца добра абстрэльваўся чыгуначны мост, па якому рабілі перабежку немцы. Калі мы выйшлі на лінію чыгункі, перад нашымі вачыма паўстаў наступны малюнак. Па ўсім палатне, наколькі вока магло ахапіць, выцягнуліся эшалёны. Апошні эшалён быў без машыністага і стаяў, наўкола ні жывой душы, толькі гул стаіць ад крокаў наступаючых на нас немцаў. Каля паравозу стаіць нехта ў чорнай шапцы (аказаўся, як пасьля мы даведаліся, чыгуначнікам гомельскіх майстэрняў) і побач з ім не звaрачаючы ўвагі на сьвіст куль, з трубкаю ў зубах і карабінкаю за плячыма тав. Мядзьведзь Піліп.

Мядзьведзь загадаў чыгуначніку ўзьлезьці на паравоз, сам узьлез на пляцформу за кулямёт, я з Цярэнкам за 3-х цалёвую гармату, што стаяла на тэй-жа пляцформе і адкрылі кулямётны і артылярыйскі „агонь“ па супраціўніку, якога было відаць няўзброеным вокам. Нeяк нам удалося выцягнуць і гэты апошні эшалён.

Адышлі мы на ст. Злынка, адкуль нас перакінулі ў Новазыбкаў. Там была атрымана тэлеграма з Масквы, у якой прапанавалася паслаць нам парламэнтараў да немцаў і на падставе дагавору аб перамір'і ўстанавіць з нямецкім камандаваньнем дэмаркацыйную лінію. Парламэнтарам вырашылі паслаць мяне, бо я ведаў нямецкую мову. Мы пайшлі на дыплёматычную хітрасьць. З метаю даведацца што-небудзь ад немцаў, вырашана было даць мне перакладчыка, а мне прыкінуцца, што я мову ня ведаю, дык мо' ў маёй прысутнасьці немцы прагаворацца.

Далі мне нейкага перакладчыка, забясьпечылі парламэнтарскімі паўнамоцтвамі (яны мною здадзены ў музэй Рэволюцыі) і мы пашлі праз лінію фронта да немцаў. У нас хадзілі чуткі, што немцы сустракаюць большавіцкіх парламэнтараў агнём. Шмат пажаданьняў таварышоў і мы пайшлі.

Ішлі мы гадзіну і, нарэшце, напаткалі іх пост. Нас не кранулі, паглядзелі на белыя павязкі і павялі да заставы. Фэльдфэбель, які быў на заставе пачаў нам робіцъ допыт. Мой перакладчык стаў адказваць на цісьцейшым жаргоне і фэльдфэбель ад неразуменьня разьвёў рукамі. Прышлося мне ўмяшацца ў гутарку. Уся наша дыплёматычная хітрасьць лопнула.

Нямецкія салдаты, якія нас абкружылі ўсё казалі „бальшавік, бальшавік“, адзін досыць нядвусэнсоўна, паказваючы пальцам на нас, праводзіў пальцам па сваёй шыі і паказваў на верхавіны соснаў. Нам завязалі вочы і павялі ў Добруш. Нават тое, што нам удалося ўбачыць зьдзіўляла сваім парадкам у параўнаньні з тым, што было ў нас. Усюды тэлефоны, правады, патрулі і г. д.

Нарэшце мы прышлі ў Добруш. Нам разьвязалі вочы і мы ўбачылі, што паміма вартавых нас абкружаў шматлікі натоўп рабочых і работніц, які вельмі нам спачуваў, што мы такія маладыя папалі да гэтых немцаў і нас расстраляюць. Нам з жыхарамі не дазвалялі гаварыць.

Нарэшце нас увялі ў штаб (здаецца, у канторы паперні). Прышлося чакаць некалькі часу. Прысутныя разглядалі нас з цікавасьцю, зьмешанай з злосьцю (гэта былі ўсё афіцэры і пісары). Раптам усе, апрача нас, якія трымалі сябе падкрэсьлена свабодна, замёрлі, адчыніліся дзьверы і вайшоў нейкі высокі генэрал. Мы сказалі яму, зачым мы прышлі. Генэрал падвёў нас да карты, якая ляжала на стале, і пасьля правёў лінію каля Сухініч і сказаў: „Тут Украіна і няхай бальшавікі выйдуць з Украіны, а тады мы з імі будзем гаварыць, да таго часу наступленьне ня будзе спынена“. Нас вывелі да комэнданта і ён павінен быў правесьці нас праз фронт назад да нашых.

У комэнданцкай управе нам удалося выкрыць, што нямецкая армія, ня гледзячы на свой вонкавы лоск, пачынае развальвацца. У комэндантуры нам запрапанавалі каву. Цукер і галеты былі ў нас з сабою. Мяркуючы па тым, з якою ахвотай кожны з прысутных нямецкіх салдат (а іх было каля двох дзесяткаў) прапанавалі нам—бальшавіком свае кружкі, мы зразумелі, што гэта ня нашы ворагі. У часе нашай ежы комэндант задаў нам пытаньне, што сабе думаюць бальшавікі, гэтая жменька „авантурнікаў"? Я пачаў адказваць. Запанавала глыбокая цішыня. Салдаты, якія знаходзіліся ў пакоі, літаральна елі нас вачыма, адкрыта ў дзьвярох сабраўся цэлы натоўп і прагавіта слухаў нашу гутарку з комэндантам. Комэндант зразумеў, што ён зрабіў памылку і выгнаў усіх салдат, пасьля чаго спыніў усякія разгаворы, ды і нам ня цікава было гаварыць з комэндантам. Нам зноў завязалі вочы і павялі назад. Па тых сяброўскіх гутарках і прыяцельскіх падтрымліваньнях пад руку канваіраў і просьбе не прагаварыцца фэльдфэбелю аб тым, што канваіры з намі разгаварваюць, мы зразумелі, як ім абрыдла вайна, як яны нам сымпатызуюць.

Пасьля гэтага мне прыпала ехаць у Маскву на даклад. За час маёй адсутнасьці наш атрад прымаў удзел у баю пад Корсьняй, панёс вялікую страту, у тым ліку загінуў і камандзір атраду тав. Цімафееў. Камандзірам атраду быў абраны тав. Мядзьведзь. Наш атрад адвялі ў Клінцы.

На гэтым скончыўся наш непасрэдны ўдзел у баёх за Гомельшчыну. Іншыя эпізоды з жыцьця нашага атраду ня зьвязаны непасрэдна з гэтай кампаніяй і пра іх казаць ня буду.

# КНІГАПІС

**Бібліотэка школьніка. Андрэй Александровіч. „Гудкі“.**
*Вершы. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск,—1930 г. Стар. 36. Цана 20 к.*

Да гэтага часу ў сэрыі „Бібліотэка школьніка“ Б. Дз. В. выпусьціла шэраг мастацкіх, выключна, прозаічных твораў і зусім чамусьці мы ня мелі ў гэтай сэрыі твораў поэтычных, вершаваных. Гэта надавала „Бібліотэцы школьніка“ некаторы аднабаковы характар. І, толькі першае, трэба сказаць удалае і станоўчае, пачынаньне ў выпуску ў гэтай сэрыі і вершаваных твораў, робіць Б. Д. В., выданьнем зборніку поэзіі „Гудкі“ — Андрэя Александровіча. Зборнічак „Гудкі“ складаецца з 14 даволі значных па памерам выбраных лепшых, як наогул, гэтак і ў дастасаваньні да дзіцячага ўзросту, вершаў гэтага поэты. Над усімі мотывамі вершаў зборніку дамініруе мотыў соцыялістычнага гораду. У гэтых мотывах поэта выступае не як пасыўны сузіральнік, а як актыўны барацьбіт, непасрэдны ўдзельнік соцыялістычнае перабудовы сьвету. У нязначнай колькасьці вершаў зьмешчаных у гэтым зборніку дадзены даволі шырокі абхват нашага творчага сёньня. Пачынаючы з першага вершу „Гудок“, баявая, творчая ўзьнятасьць завалодвае чытачом. На фоне раніцы, калі

„У поле-шыр зьбіраюцца
Колгасьнікаў палкі,
А ў горадзе ўзьвіваюцца
Гудкі... гудкі... гудкі“,

поэта падае вобразы, як

„Рабочыя адважныя
на фабрыку ідуць“
. . . . . . . .
„У колгасы з самажнейкамі
імчацца цягнікі“.

І поэту захапляе кожная перамога на фронце будаўніцтва новага сьвету.

„Як глянеш, сэрца радуе,—
будуем новы лад.
У кожнай хаце радыё
і радасьць расьцьвіла“

Поэта бачыць перамогу над балотамі і векавой нэндзаю.

„Была дрыгва далінаю
праз цэлыя вякі,
Цяпер гудуць машынныя
Гудкі... гудкі... гудкі“.

Поэта ўспамінае хвіліну, калі „ня стала сярод нас Леніна“ і далей, як залог зьдзейсьненьня Ленінскіх заветаў, гучаць радасна-ўздымныя радкі якія зьяўляюцца поўнасьцю сугучнымі, ці лейтмотывамі ідэолёгіі ўсяго нашага маладога, падрастаючага пакаленьня.

„І крэпнем і расьцём!
Мы будзем комуністымі,
На зьмену мы ідзём
Мы будзем абаронаю,
Мы ўсе—франтавікі,—
Хай клічуць нас чырвоныя—
Гудкі... гудкі... гудкі“.

Такія вершы як „Як дзеці памагалі будаваць самалёт“, колектыўная дэклямацыя „Першамайская“ напісаны спэцыяльна для дзяцей і носяць спэцыфічна-дзіцячы характар, які ўзьдзейнічае на дзяцей ў напрамку задач пролетарыяту ў соцыялістычным будаўніцтве. Рытмы соцыялістычнае працы пададзены не на агульным слоўным матэрыяле, а на конкрэтызаваным матэрыяле.

Поэта бачыць цяжкасьці будаўніцтва, ён не закрывае вочы, каб іх ня бачыць, паказвае іх, гэтых бу-

даўнікоў новага. Але побач з будаўнікамі гэтага новага ён паказвае нам ворагаў будаўніцтва, якія гатовы кожную хвіліну падарваць нашу працу, але „сіл не стае ім“.

„Корчыцца помста ў іх сэрцы здраньцьвелым“...

Поэту ня пужаюць гэтыя перашкоды, ён бачыць плёны соцыялістычнай працы, і гэта яго бязьмежна радуе.

Насычана-мастацка пададзены малюнкі рабочага быту, як у вершы „Герой працы“.

Або ў вершы „Акцябрыны“, дзе адзін з малюнкаў новага быту—чырвоныя акцябрыны:

„Піонэр ад рабочых
гальштук чырвоны паднёс.
Прамовай гарачай папросту
пажадаў, каб вялікі рос“.

Песьня чырвонаармейская дапаўняе гэтыя вершы.

Новая савецкая сталіца, якую ўчора яшчэ „певень прывычнаю песьняй будзіў“, і якую „з замкавых веж старыны ганьбілі звонам званы“, а сёньня... „гудком сёньня сьцелецца дзень“, „ваграніка няспынна іскрыцца, плавіць званы на мэталь“, „сталіца ў прыбоях творчых хваль“. А заўтра нашае сталіцы—гэта соцыялістычны ўзыход „сонца разьлівам душы“, паказваецца ў вершы „Сталіца“, які поэта канчае радасным воклікам:

„Рэспубліні нашай сталіцы
у Вялікае Заўтра—крыляй!“

І тут-жа за гэтым даюцца сілуэты вуліцы, вытворчыя рабочыя песьні, паказ вуліцы гораду з яе людзьмі, як газэтчыкі і інш.

Бадзёрыя і вершы „Вясна ідзе“ і „Новы год“. Але даючы паказ нашага радасна-творчага сёньня, поэта не забываецца і на Заходнюю Беларусь, дзе:

„Лепшы сын краіны
Сёньня катаржанін“.

Але за гэтым ён бачыць уздым рэволюцыйнага руху і, набліжэньне таго часу, калі:

„Узойдзе й там пагода
Савецкай Беларусі!“

Поэта не забываецца на эўропэйскі і наогул сусьветны пролетарыят, ён бачыць, як:

„Бяз працы ў голадзе гінуць
Мільёны рабочых краін
На біржах працы
Зьнят сход“

Як разгараецца зьніч пролетарскай рэволюцыі:

„Выходзіць змагацца,
галодны паход!
На барыкады засесьці ў акопы
Клічуць рабочых Эўропы!“

У адказ на „крыжавы паход“ сусьветнае буржуазіі супроць сусьветнай бацькаўшчыны пролетарыяту СССР, поэта адказвае:

„Разам з прадажным
Штандарам хрыстовым
Крыжам зьляжа—
„Паход крыжовы“!

Бо „Мы закон жыцьця зьмянілі!

„Ня стрымаць нас, не асіліць!
Рух на Захад! мусім там быць!
Узарвем заставы—дамбы!“

І краіна саветаў што хвіліны мацнее і мацнее. Мы перайшлі ў сябе—ужо да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі, што дае нябывалае ўзмацненьне соцыялістычнага сэктару—

„Трактар пераверне
хутар кулака!“
„Чырвонасьцяжныя паходы
год за годам лавай!
Новых дзён цьвітуць усходы
Бальшавіцкай славай“

Зборнік поэзіі „Гудкі“ зьяўляецца каштоўным укладам у пролетарскую дзіцячую літаратуру. Гэты зборнік нясе ў дзіцячыя масы пролетарскую ідэолёгію, веру ў перамогу, натхняе сілы моладзі да вялікага будаўніцтва новага сьвету і рашучага выкарчоўваньня ўсяго старога, аджываючага, спарахнелага.

Б. Д. В. неабходна паклапаціцца, каб гэта пачынаньне ў выданьні ў сэрыі „Бібліотэкі школьніка“, поэтычных твораў так і не засталося пачынаньнем, а ўвайшло ў пляны БДВ сталай задачай і справай факту.

**Ул. Сядура.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* *М. Нікановіч* выдае другім дапоўненым выданьнем кнігу апавяданьняў „Золак“. Кнігу друкуе Белдзяржвыдавецтва.

* *В. Каваль* падрыхтаваў да друку ў БДВ зборнік апавяданьняў пад назваю „Сны аб крыльлях“.

— У дзяржаўным выд-ве Украіны „Кнігоспілка“ вышла ў перакладзе на украінскую мову асобнай кніжкай яго апавяданьне—„Ілька“.

— Таксама юнсэктар ДВУ выпускае на украінскай мове зборнік яго выбраных апавяданьняў.

* *Кузьма Чорны* напісаў аповесьць пад назваю „Вясна“ з жыцьця калгаснага будаўніцтва, якая будзе друкавацца ў „Полымі“.

* У Маскве ў Дзяржвыдаце вышла з друку ў перакладзе на расійскую мову К. Якаўчыка кніга аповесьцей і апавяданьняў З. Бядулі—„Повести и расказы“.

* *С. Баранавых* здаў у друк дзьве аповесьці „Межы“ і „Чужая зямля“, якія выйдуць асобнымі кніжкамі.

— Вышаў з друку зборнік яго апавяданьняў па сэрыі „Бібліотэка школьніка“, пад назваю „Злосьць“.

— Ім-жа перакладзен роман з украінскай мовы Эпіка Р. „Бяз грунту“, які друкуе Белдзяржвыдавецтва.

* 13 верасьня ў Доме Пісьменьніка адбыўся агульны сход Менскай Філіі БелАПП‘у.

Сход філіі аднагалосна далучыўся да рэзолюцыі па дакладу т. Ліманоўскага аб цяперашнім становішчы і перспэктывах далейшае працы БелАПП‘у, прынятай сэкратарыятам і комфракцыяй БелАПП‘у.

На чарзе быў даклад т. Бэндэ аб творчай дыскусіі ў Расійскай Асацыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў.

* У адказ на адозву ЦК УсеКП(б) БелАПП стварыў 6 брыгад, якія кінуты на прадпрыемствы і ў колгасы ў дапамогу выкананьню прамфінпляну. Да БелАПП‘аўцаў далучыліся некаторыя пісьменьнікі з „Узвышша“.

Да прадпрыемстваў Фрунзаўскага раёну прымацаваны дзьве брыгады. 1-я брыгада: т т. Броўка, Чорны, Нікановіч; 2-я брыгада: т.т. Хадыка, Гародня, Маракоў, Лявонны.

Дзьве брыгады прымацаваны да прадпрыемстваў Кастрычніцкага раёну. 1-ая брыгада: т.т. Астапенка, Таўбін, Глебка, Аляхновіч; 2-ая брыгада: т. т. — Вішнеўская, Казлоўскі, Скрыган, Дарожны.

Брыгада, якая паслана ў Гомель, складаецца з т. т.: Звонака, Бобрыка, Хведаровіча.

У студэнцкую брыгаду членаў БелАПП‘у, якая выехала ў колгасы, увайшлі т.т.: Салагуб, Кучар, Шалай, Паўлоўскі, Пальчэўскі, Баранавых, Ліўшыц.

* Нацыянальная камісія ЦВК БССР прыняла шэраг пастаноў аб перабудове работы нацкамісій у сувязі з ліквідацыяй акруг. Адказнасьць за правядзеньне нацпалітыкі ўскладаецца на раённыя і гарадзкія савецкія і профэсыянальныя органы. Для кіраўніцтва і кантролю за правядзеньнем нацполітыкі на мясцох організуюцца раённыя і гарадзкія нацкамісіі. У 5 больш буйных гарадох БССР — Менску, Віцебску, Гомелі, Магілеве, Бабруйску — мяркуюцца асобныя нацменаўскія інспэктары.

* 16 верасьня (г. г.) у Менск пры-яжджалі украінскія пісьменьнікі Гжыц-

кі і Быкавец. Пісьменьнікі былі камандыраваны Наркамасьветы УССР і украінскай федэрацыяй пролетарскіх пісьменьнікаў у адказ на запрашэньне НКА БССР.

Украінскія пісьменьнікі азнаёміліся з першай усебеларускай с.-г. выстаўкай, з культурнымі ўстановамі гораду, пабывалі на фабрыках і заводах.

Па прыезьдзе на Украіну яны зьмесьцяць ва украінскіх часопісах нарысы, прысьвечаныя дасягненьням БССР у галіне сельскай гаспадаркі і прамысловаеьці.

* За тры м-цы яўрэйскі дзяржаўны вандроўны тэатр абслужыў Менскую і Бабруйскую акругі. Усяго было дадзена 66 спэктакляў, на якіх прысутнічала 20.000 чал. Пасьля прагляду пастановак тэатр наладжваў шырокія конфэрэнцыі рабочых гледачоў. У Менску тэатр абслужыць экскурсантаў на выстаўцы і дасьць шэраг пастановак у рабочых клюбах.

* Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр 20-га верасьня „Гутаю“ Рыгора Кобеца адчыняе сэзон у г. Віцебску. Апрача „Гуты“ з старых рэчаў пойдуць—„Міжбур'е“ і „Ярасьць“. Перарабляецца таксама „Каваль-Ваявода“.

Для БДТ-1 піша зараз новую п'есу рэжысэр А. Міровіч.

* БДТ-2 25-га кастрычніка распачынае ў Менску зімовы сэзон пастаноўкаю п'есы В. Кіршона „Горад вятроў“. З рэчаў былых сэзонаў у рэпэртуар БДТ-2 уключаны—„Простыя сэрцы“, „Рэйкі гудуць“, „Калі сьпяваюць пэўні“, „Разлом“, „Авангард“, і ў перапрацаваным выглядзе—„Каля тэрасы“. Таксама будзе пастаўлена п'еса Вішнеўскага „Першая Конная“.

* У кастрычніку Галоўмастацтва БССР склікае шырокую нараду па пытаньні мастацкага абслугоўваньня шырокіх працоўных мас і масавае работы мастацкіх прадпрыемстваў, на нарадзе будуць дырэктары і мастацкія кіраўнікі тэатраў, загадчыкі клюбаў, старшыні культаддзелаў ЦП профсаюзаў, прадстаўнікі культпропу ЦК КП(б)Б, Культсэктару ЦСПСБ і рэдакцый цэнтральных газэт.

* Пасьля пастановак на Ўсесаюзнай тэатральнай алімпіядзе, беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатр даў некалькі пастановак у Нікалаеве. Пастаноўкі тэатру прашлі з вялікім посьпехам.

10 верасьня тэатр прыступае да заканчэньня новай пастаноўкі—„Выстрэл“ Безыменскага, у пастаноўцы Рафальскага і Норда. П'еса „Выстрэл“ будзе ў першы раз паказана ў Гомлі, дзе тэатр адчыняе сэзон. Акрамя таго тэатр прапрацоўвае п'есы Добрушына з жыцьця яўрэяў-перасяленцаў, пастаноўка Айзэнбэрга.

* 26 жніўня ў Менску пачаліся гастролі дзяржаўнай маскоўскай студыі імя Айсэдоры Дункан. Студыя нядаўна вярнулася з паездкі па гарадох ПАЗШ, дзе дала 450 спэктакляў.

За граніцай, ня гледзячы на тое, што мастацтва студыі ўносяць рэволюцыю ў прызнаныя формы балету і носіць выразнае адлюстраваньне савецкага краю, студыя мела нячуваны посьпех.

* Калегія Наркамасьветы пастанавіла абвясьціць конкурс на проэкт будынку новага тэатру ў Менску.

* *Тав. Кацовіч* напісаў сцэнары „Сталіца БССР—Менск“, які адлюстроўвае разгортваньне будаўніцтва ў горадзе.

* Белдзяржкіно намеціла выпусьціць у гэтым годзе шэраг новых культурфільм, прысьвечаных А с і н а ў с к а й электростанцыі, Аршанскаму ільнакомбінату, Сельмашбуду і г. д. Будзе зазьняты фільм, які малюе жыцьцё ўдарных брыгад і бытавых камун. Усяго ў гэтым годзе павінны быць зазьняты 32 фільмы.

* Скончыліся здымкі новага культурнага фільму Белдзяржкіно „Жанчына“. Рэжысэр фільму—Штэрцэр, асыстэнт—Паскрэбка.

* Гукавая лябораторыя ленінградзкай кіно-фабрыкі Белдзяржкіно прырыхтавала шэраг экспэрымэнтальных работ да кіно-гукавой конфэ-

рэнцыі, што адчынілася 25 жніўня ў Маскве. Фабрыкай зазьнята, для параўнаньня з аналёгічнай п'есай, выкананай на амэрыканскай фонограме — фірмы „Радыё-корпорэйш" увэртура Офэнбаха да п'есы „Орфэй у пекле".

Робяцца прылады, вынайдзеныя лябораторыяй. Гэтыя прылады будуць выдзяляць з струмэнтальнага ансамблю патрэбныя гукі. Вынаходніцтва гэта дэманстравалася ў Маскве і сустрэла поўнае адабрэньне з боку спэцыялістых.

* Закончаны і выпускаюцца ў пракат наступныя кіно-карціны:

— „Ненавісьць" — мастацкая карціна на тэму аб рэволюцыйным руху пролетарыяту на Захадзе. Сцэнары і пастаноўка рэжысэра Ю. Тарыча. Опэратар Б. Фільшын.

Карціна дэманстравалася на Ленінградзкай Краёвай Партыйнай конфэрэнцыі і на грамадзкіх праглядах Сестрарэцкага і Іжэўскага заводаў організаваных ОДОК, і ўсюды атрымала станоўчыя водгукі. Пленум Ленінградзкага Клюбнага Маст. актыву раіў карціну ў рабочыя клюбы.

Карціна ў Галоўрэпэрткоме РСФСР атрымала 11 катэгорыю.

— „Заваяваная Зямля" — поўнамэтражны політасьвет-фільм на тэму пра барацьбу за пэратварэньне непраходных Мар'інскіх балот у Савецкай Беларусі—у колгасныя палі. Сцэнары А. Вольнага. Рэжысэр — В. Вайншток, опэратар—А. Кальцаты.

— „Маланка" — кароткамэтражны політасьветфільм, пра рэлігійныя забобоны адсталых мас, які дае навуковае тлумачэньне ад чаго бывае маланка. Сцэнары Б. Шрэйбэра. Рэжысэр — В. Моломонік, опэратар — В. Мітлін.

— „Папера" — кароткамэтражны політасьветфільм вытворчага характару, які паказвае ўсе стадыі вытворчасьці паперы і ролю паперы, як аднаго з матэрыяльных фактараў разгортваньня культурнай рэволюцыі. Рэжысэр—В. Корш, опэратар—Файман.

* Канчаюцца пастаноўкай карціны:

— „Асабістае жыцьцё" — мастацкая фільма па сцэнарыю Л. Залкінда. Пастаноўка рэжысэраў—А. Гаўровскага і О. Уліцкай. Опэратары—Шпоглейт і Сокалаў.

Тэма—узаемаадносіны комсамольцаў на грамадзкай працы і ў асабістым жыцьці ў абстаноўцы абвостранага змаганьня за выкананьне прамфінпляну на запалкавай фабрыцы ў Беларусі.

— „Нельга забыцца" — мастацкая фільма па сцэнарыю—А. Крон. Карціна пабудована на дзіцячым матэрыяле і паказвае дапамогу колектыву ў змаганьні з акаляючай дзяўчынку дробнабуржуазнай абстаноўкай у хатнім быце. Рэжысэр—Ю. Вінакураў, опэратар—С. Файман.

— „Умацоўвайце сілы"—кароткамэтражная політасьветфільма, якая агітуе за фізкультуру, за здаровага чалавека. Сцэнары—Д. Рафановіча. Рэжысэр—Ю. Вінакураў, опэратар—Б. Мітлін.

— „Колгасны май"—докумэнтальны кіно-нарыс у 3-х частках пра колгаснае будаўніцтва ў Магілеўшчыне. Рэжысэры—Дзіган і Шрэйбэр. Опэратар—Н. Страж.

— „Здарэньне на мяжы" — мультыплікатарная дзіцячая комэдыя ў двух частках, якая паказвае „Крыжовы паход" на СССР. Сцэнары Х. Хэрсонскага і Ю. Вінакурава.

* У экспэрымэнтальнай лябораторыі фабрыкі робяцца вопыты па ўдасканаленьню гукавой апаратуры сыстэмы Ахотнікава і Машковіча (работнікаў фабрыкі).

* Знаходзяцца ў вытворчасьці і пераходзяць на 1930—31 год:

— „Сонечны паход" — мастацкая фільма на тэму пра колгасны рух у паўднёвай частцы БССР і барацьба кулацтва з колгасам. Сцэнары — А. Вольнага. Рэжысэр—В. Корш, опэратар—Д. Шлюглейт.

— „Суд павінен ня спыняцца"—мастацкая фільма на тэму пра змаганьне з дробна-буржуазнай мораллю і норавамі ў адносінах да жан-

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* М. Ірчан здаў у друк вялікі зборнік новэль „На півдорозе“, Мастацкі нарыс „З прерій Канади в стэпи України“, п'есы „Родина щіткарів“ (пятым выданьнем) „Підземна Галичина“ (трэцім выданьнем).

В-ва „34“ выдае трэцім выданьнем п'есу „12“. Зараз М. Ірчан працуе над вялікім романам з жыцьця канадзкіх комунараў „Поерії“, і закончвае новую п'есу „Факт“.

В-ва „Плужанин“ выпусьціла зборнік апавяданьняў „Тайна ночі“.

* І. Ткачук выпусьціў у ДВУ брошуры „Проти просвітянства, хуторянства та проткультівства“ і „Українці за океаном“. У нацменсэктары ДВУ вышла кніга яго апавяданьняў у перакладзе на польскую мову „Z szumem smereków“. Здаў для масавай бібліотэкі ДВУ кніжку апавяданьняў „Безробітний“. Напісаў два новыя апавяданьні з жыцьця Зах. Украіны „Активіст“ і „Страйк“—абодвы гэтыя апавяданьні увайшлі ў вялікі зборнік, які друкуе ДВУ пад назваю „На вкраденій землі“. Працуе над романам „Мільйоны йдуць“.

* А. Турчынская выпусьціла у ДВУ аповесьць „Смок“. Працуе над другою часткаю гэтай аповесьці.

* М. Качанюк здаў у ДВУ навукова-крытычную працу пра „Футурызм“.

* М. Кічура выдаў у выд-ве Західня Україна“ зборнік поэзій „Передодні“. Здаў у друк вершаваныя „Політсатыры“. Працуе над новым зборнікам поэзій.

* І. Сьцепанюк здаў у друк зборнік поэзій „Струмують дні“. Рыхтуе новы зборнік поэзій і зборнік апавяданьняў.

* С. Канюк здаў у ДВУ кніжку „Буковына в румунській неволі“. Канчае вялікую гісторыю Буковини.

* Для ўзмацненьня сувязі з украінскаю рабочаю эміграцыяю за кардонам праўленьне суполкі „ЗУ“ пастанавіла за кошты суполкі выслаць бібліотэчкі для украінскіх рабочых організацый у эміграцыі, у Францыі, Нямеччыне, Бельгіі і Аргентыне.

* Донбаскаму рабочаму тэатру суполка „ЗУ“ выслала матэрыялы пра Заходнюю Украіну. Гэтыя матэрыялы тэатр выкарыстоўвае для выстаўкі, якую ён наладжвае пры пастаноўцы п'есы М. Ірчана „Підземна Галичина“.

* Козорыс М. здаў да друку ў ДВУ зборнік дзіцячых п'ес пад назваю „Про що жайворонок щебече“, выд-ву „Західня Україна“—зборнік апавяданьняў „По кам'яній стежці“; выд-ву „Український Робітник“—„Чорногора говорить“, якая выйдзе масавым тыражом.

* Дмітэрка Л. склаў умову з ДВУ на выданьне зборніка поэзій. Закончыў поэму пра Франка „Великий Каменяр“.

* Грынчэнка Барыс выдае крытычны нарыс „Робітництво в українські дожовтневій літературі“.

* Зора Ю. выдае зборнік апавяданьняў і роман „Дэпо“.

* Радчэнка П. выдае зборнік нарысаў пра колектывізацыю і аповесьць з жыцьця старой школы, пад назваю—„Залізні шори“.

* Шыян А. надрукаваў аповесьць „Баланда“. Прырыхтаваў і здаў у друк „Зьбірку оповідань“.

* Піліпэнка С. рыхтуе кніжку апавяданьняў пад назваю „Записки рэдактара“.

* Дорошэнка Ю. падрыхтаваў і здаў у друк выд-ву „Плужанин“ зборнік поэзій.

* Нечай П. здаў у друк другую частку роману „Мухи“; працуе над трэцяю часткай.

* Выдавецтва „Кнігоспілка“ выдае „Антологію українськоі поэзіі“, якая ахапляе украінскую поэзію з часоў Ів. Котлярэўскага да нашых дзён. Антолёгія складаецца з 3-х томаў. Першы том ужо вышаў. У анталёгіі падаюцца портрэты поэтаў.

* З гэтага году ў Адэсе мае выходзіць літаратурна-мастацкая і грамадзка-політычная часопісь „Мэталеві дні“.

Часопісь будзе яднаць пераважна пролетарскіх пісьменьнікаў і ў сваім кірунку апіраецца на пляцформу ВУСПП.

„Металёві дні“ будзе зьмяшчаць апавяданьні, нарысы, мастацкі рэпортаж, поэзіі, крытычныя нататкі, публіцыстыку, артыкулы на розныя актуальныя пытаньні па соцбудаўніцтву і інш.

* Прэзыдыум Усерасійскага Выканаўчага Камітэту запрапанаваў Сібірскаму Крайвыканкому распачаць выданьне украінскай газэты для абслугоўваньня Сібірскага працоўнага украінскага насельніцтва.

* Вышаў першы нумар друкаванай газэты „Стэпова комуна“ суцэльнай колектывізацыі ў Бэрэзіўскім раёне на Адэшчыне. Гэта першая на Украіне колгасная газэта выдаецца пры Шэўчэнкаўскай машынатрактарнай станцыі. Адэскія рабочыя—друкары ў парадку шэфства організавалі на машынатрактарнай станцыі друкарню.

* У Асацыяцыі Рэволюцыйных композытараў Украіны наступныя навіны:

— Композытар Костэнка В. закончыў опэру „Кармэлюк“.

— Яноўскі Б. закончыў балет „Ферренджі“.

— Мэйтус Юлі напісаў музыку да п‘есы Ів. Мінітэнкі „Дыктатура“ (тэатр „Березіль“).

— Клебанаў Д. закончыў музыку да п‘есы Безыменскага „Стрэл“ (тэатр „Веселий Пролетар“).

— Літвінюк Р. закончыў сюіту для народных струмантаў (на украінскія народныя поэмы).

— Ступніцкі В. працуе над тэмаю пра географічны уплыў на народную песьню.

* Композытары АРКУ здалі ў друк 1-ю частку „Шкільноі збірки“ для працоўных школ і распачалі працу над 2-ою часткаю гэтага зборніка песен.

* Малады украінскі композытар Грыневіч напісаў на ўласнае лібрэта опэру „Дзвоны гудуць“.

* У Кіеве організоўваецца музэй украінскай музычнай культуры. У музэі будуць сабраны рукапісы, фотографіі, програмы, афішы, рэцэнзыі і інш. Музэй будзе мець асобныя аддзелы композытараў М. Лысенкі, М. Леонтовіча, К. Стэценка, Я. Стэпавага і выдатных музычных організацый. Таксама будзе спэцыяльны аддзел „музыка ў быце“. Музэй пэрыодычна будзе наладжваць выстаўкі, якія ілюстравацьмуць разьвіцьцё рабочай музыкі. Мяркуецца таксама наладжваць перасовачныя выстаўкі па рабочых клюбах, якія ілюстравацьмуць разьвіцьцё украінскай музычнай культуры.

* Пры карціннай галярэі (Кіеў) утвораны новы аддзел графікі, які цяпер знаходзіцца ў стане організацыі, папаўненьня колекцый і навукова-экспозыцыйнага апрацаваньня. Новы аддзел рэпрэзэнтуе старыя гравюры заходня-эўропэйскія і расійскія, а таксама сучасную украінскую графіку. Акрамя таго ў аддзеле ёсьць шмат малюнкаў расійскіх майстраў сярэдзіны XIX стагодзьдзя. Аддзел мае каштоўную колекцыю мініятур заходня-эўропэйскіх майстроў другой паловы XVIII стагодзьдзя і першай чвэрці XIX стагодзьдзя. У гэту колекцыю ўваходзяць і мініяа-

туры расійскіх мініятурыстых першай паловы XIX стагодзьдзя.

* Кіеўскі музэй мастацтваў у парадку сыстэматызацыі музэйных фондаў кіеўскай карцінпай галярэі 113 нумароў карцін старых заходня-эўропэйскіх майстроў. Сярод гэтых карцін ёсьць некалькі выдатных твораў італійскай, флямандзкай, голяндзкай і францускай школ.

На некаторых карцінах ёсьць №№, якія сьведчаць пра колішнюю прыналежнасьць іх да колекцыі „імпэратарскага“ Эрмітажу,—гэта карціны з ліку тых, што ў 1854 годзе „знаўца мастацтва“ Мікалай 1-шы „разбазарыў“ з аукцыёну. У часе гэтага „разбазарваньня“ частка гэтых мастацкіх рэчаў, якія яму не спадабаліся, была спалена.

* Кіеўская карцінная галярэя рыхтуе выстаўку карцін Ленінградзкага аб'яднаньня „Круг художніків“, якая складаецца пераважна з маладых мастакоў, сярод якіх некаторыя маюць ужо пэўнае імя.

* У будынку літаратуры ім. Блакітнага адбылася выстаўка карцін і макетаў грузінскіх мастакоў, якія наведалі Харкаў разам з грузінскім тэатрам.

* З травеня м-ца ў Харкаве распачаў свае гастролі дзяржаўны театр ім. Заньковецкай, які дагэтуль гастраляваў у Палтаве. Тэатр гэты добра вядомы украінскаму грамадзтву і вельмі рабочым Украіны. За восем год свайго існаваньня тэатр аб'езьдзіў амаль усю Украіну, галоўным чынам—Донбас, Крываръжжа, Запарожжа і Дняпропятроўшчыну.

* Шэўчэнкаўскі інстытут канчае ўкладаць спэцыяльны навуковы зборнік, прысьвечаны барацьбе з ефрэмаўскімі концэпцыямі ў літаратуразнаўсьцьве. Зборнік складаецца з 20 артыкулаў харкаўскіх і кіеўскіх навуковых працаўнікоў. Артыкулы гэты прысьвечаны дэталёваму аналізу асобных твораў Ефрэмава пра розных пісьменьнікаў і пра розныя зьявішчы ў літаратуры і літаратурным жыцьці. У зборніку будзе зьмешчаны таксама агульны артыкул пра Ефрэмава—публіцыстага, крытыка, гісторыка літаратуры і інш.

* У апошні час Наркамасьветы атрымоўвае весткі, што па асобных акругах трапляюцца выпадкі выкарыстоўваньня колгасамі для гаспадарчых патрэб старадаўных будынкаў і розных помнікаў культуры і старадаўняга мастацтва. Нішчацца помнікі як украінскага старога мастацтва, гэтак і нацменаўскага. У пагоджаньні з Нар. Кам. Унутраных Спраў дадзена катэгорычнае распараджэньне ўзмацніць ахову помнікаў культуры і мастацтва, і руйнаваньне іх, выкліканае гаспадарчымі патрэбамі, праводзіць толькі ўзгодніўшы гэта з адпаведнымі органамі Галоўнавукі.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* Т. Гладкоў скончыў аповесьць „Новая земля“, якая будзе надрукавана ў альманаху „Земля и фабрика“, і апавяданьне „Вдохновенный гусь“ — надрукаванае ў „Красная Нови“. Пабыўшы на Днепрабудзе т. Гладкоў напісаў некалькі нарысаў.

* Г. Нікіфараў напісаў новы роман „Встречный ветер“—пра будаўніцтва саўгасаў.

* Г. Саньнікаў працуе над нарысамі пра Туркменію.

* Вышаў зборнік трыццаці апавяданьняў савецкіх пісьменьнікаў у нямецкім перакладзе, названы „30 новых апавядальнікаў Новай Расіі“, выдадзены бэрлінскім „Малік-Фэрлат. У гэты том увайшлі апавяданьні: Бабеля, Гладкова, Замяціна, Зозулі, Зошчэнкі, Веры Інбер, Ус. Іванова, А. Караваевай, Катаева, Леонава, Лідзіна, Малышкіна, Маякоўскага, Неверава, Огнева, Пастэрнака, Пільняка, Ларысы Рэйснер, П. Романава, Савіча, Сейфулінай, С. Семёнава, Слонімскага, Н. Ціханава, А. Талстога, Тынянава, Федзіна, М. Шагінян, Шолахава і Эрэнбурга.

* Сэкратарыятам МООКП вядзецца падрыхтоўчая праца па афармленьню нізавых літаратурных гурткоў. Галоўная ўвага накіравана на організацыю гурткоў у колгасах і саўгасах. Для працы ў іх падбіраецца кадр кіраўнікоў.

* Па прапанове Наркамзему СССР, пісьменьнікі Львоў - Марсіянін, Д. Крэпцюкоў, Дальні і Ойсьлендэр сэкратарыятам МООКП накіраваны ў калгасы і саўгасы Сібіры, Казакстану, Ніжняй Волгі і Паўночнага Каўказу для вывучэньня пастаноўкі вэтэрынарнай справы і жывёлагадоўлі. Акрамя нарысаў, кожны пісьменьнік мяркуе напісаць аповесьць альбо апавяданьне на тэму пытаньняў жывёлагадоўлі.

* Адсутнасьць у апошні час добрых кінокарцін у значнай меры тлумачыцца тым, што пісьменьнікі зусім адарваны ад процэсаў вытворчасьці карцін, распрацоўкі вытворчых плянаў кінофабрык, удзелу ў складаньні лібрэта і сцэнарыяў. З мэтаю ліквідацыі гэтай хібы МООКП вылучыў сталым прадстаўніком у сцэнарны аддзел Дзяржкінофабрыкі тав. Дземеньцева, якому даручана прыняць актыўны ўдзел у рабоце Савету аддзелу.

* У канцы жніўня прэзыдыум ЛОКФ высылае ў 51-ю перакопскую, 15-ю сівашскую і 30-ю дывізіі, якія ўдзельнічалі ва ўзяцьці Перакопу, адну брыгаду пісьменьнікаў. У брыгаду уваходзяць 8 пісьменьнікаў і журналістых, сяброў аб'яднаньня: Ф. Гладкоў, Матэ Залка, Е. Зазуля, О. Равінскі, Гугуеў, Бахінцаў, Шчыпачоў, Обрадовіч.

Літбрыгады ў часьцях азнаёмяцца з вучобай і жыцьцём чырвонаармейцаў, вывучаць па матэрыялах, якія маюцца ў часьцях, гісторыю баявых палкоў. Акрамя таго, пісьменьнікі выедуць на месца перакопскай опэрацыі для атрыманьня поўнай карціны баёў. У часьцях пісьменьнікі правядуць літаратурныя вечары, дапамогуць у організацыі і працы чырвонаармейскіх літгурткоў і ў падрыхтоўцы да сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя ўзяцьця Перакопу.

* Да дзесятай гадавіны Перакопу ЛОКАФ выпускае спэцыяльны альманах. У альманаху зьмяшчаецца

шэраг урыўкаў лепшых мастацкіх твораў пра Перакоп. Акрамя таго, шэрагу поэтаў—Н. Асееву, А. Безыменскаму, С. Кірсанаву, М. Сьветлову, В. Лугаўскому, Н. Ціханаву, Г. Корэневу, Сасюру, Усэнку і інш.—запрапанована напісаць у альманах новыя вершы пра Перакоп.

* Трупа тэатру Мэйерхольда вярнулася з паездкі за мяжу і па СССР.

15 верасьня тэатр адчыняе зімовы сэзон п'есай А. Безыменскага „Стрэл". У першай дэкадзе будуць таксама паказаны п'есы „Лес" і „Клоп".

* Ленінградзкі драматург т. Лапшын даў тэатру Мэйерхольда новую п'есу „На западном фронте будут перемены" (па тэме вядомага роману Рэмарка). Рэжысура тэатру, пасьля чыткі п'есы з прадстаўнікамі трупы, дала аб ёй станоўчы водзыў. Тэатр мае таксама шэраг новых п'ес да пастаноўкі.

* А. Безыменскі піша для тэатру Мэйерхольда новую п'есу. П'еса будзе скончана к сярэдзіне сэзону.

* Маскоўскі тэатр юнага гледача ўлетку гастроляваў па Волзе. Спэктаклі былі дадзены ва ўсіх паволскіх гарадох ад Яраслаўля да Сталінграду. Акрамя спэктакляў, тэатр правёў шэраг конфэрэнцый з піонэрамі, пэдагогамі і важатымі па пытаньнях мастацкага выхаваньня.

Па ініцыятыве МТЮГ у 7 гарадох была вынесена пастанова аб адчыненьні мясцовых ТЮГ.

* У выдавецтве „Маскоўскі рабочы" вышлі з друку па сэрыі „Новинки пролетарской литературы": кнігі нарысаў — Б. Галіна „Пераход", Е. Строгавай—„Хозяева и штатные единицы" і Альманах татарскай літаратуры. Па сэрыі масавай крытычнай бібліотэкі „На литературном посту" вышлі з друку кнігі: Л. Авербах—„Памяти Маяковского", І. Новіч—„Перевал сегодня", В. Ермілаў—„Наши творческие разногласия". Акрамя таго выпушчаны кнігі: С. Шчукін—„Две критики" (Плеханаў-Пераверзеў), В. Кіршон—„За развернутое наступление" (На літаратурным фроньце), А. Безыменскі—„Слово большевика-напостовца XVI с'езду".

* У бліжэйшы час выходзяць з друку кнігі: роман А. Фадзеева—„Последний из Удэгэ", апавяданьні А. Караваевай — „Глина", роман Б. Гарбатава—„Наш город", роман М. Завьялава—„Металл", аповесьці і апавяданьні М. Коласава і В. Герасімава—„Проба", і роман В. Сьмірнова—„Гарь".

* Па сэрыі „Новинки западноевропейской революционной литературы" вышлі з друку кнігі: роман Монтэгю—„Прочь с карты" (роман прысьвечаны выяўленьню твару імпэрыялістычнай вайны) і кніга пра вайну, напісаная нямецкім рабочым—пролетарскім пісьменьнікам Адамам Шарарам—„Без отечества" (кніга адначасова выходзіць і ў выданьні „Роман-газеты").

У бліжэйшыя дні выходзіць з друку новая поэма-п'еса Бруно Ясенскага—„Галицийская жакерия", аповесьць румынскага пролетарскага пісьменьніка М. Кахана—„Акционерное Общество Тарацкош" (хроніка клясавага змаганьня ў румынскім мароштале) і роман венгэрскага пролетарскага пісьменьніка Лапоша Кіша—„Героический район" (з дзён венгэрскай рэволюцыі).

* Організавалася новая асоцыяцыя працаўнікоў рэволюцыйнага тэатру. Асоцыяцыя аб'яднае працаўнікоў тэатру, аўтарскія сілы, драмгурткоўцаў і г. д., для правядзеньня ў жыцьцё мерапрыемстваў па пролетарызацыі савецкага тэатру шляхам выпрацоўкі новай тэматыкі і форм, падняцьця палітычнага і грамадзкага ўзроўню тэатральных працаўнікоў, падрыхтоўкі кадраў.

* Леў Жданаў напісаў па сюжэту Бэрнарда Шоу палітычную камэдыю—памфлет „Император республики англо-саксов", якая ўхвалена Галоўрэпэрткомам.

* Б. Бабовіч і А. Золін скончылі п'есу—агляд „Альбом", пабудаваную

на тыпах і матэрыяле (Салтыкова-Шчэдрына („Помпадуры“, „Семья Головлевых“ і інш.).

* 25 жніўня адчынілася першая Ўсесаюзная конфэрэнцыя па гукавому кіно. У конфэрэнцыі прымаюць удзел прадстаўнікі ўсіх кіноорганізацый і кінофабрык, асоцыяцыя працаўнікоў рэволюцыйнай кінематографіі, Наркомпочтэль, рэжысэры, опэратары, сцэнарыстыя, мастакі, композытары і інш. Запрошаны шэраг пісьменьнікаў, прадстаўнікі ВОАПП і РАПП, Усераскодрама і інш. організацый.

* У Монголію выехала экспэдыцыя для заздымкі вялікай гукавой фільмы „Рэволюционная Монголия“. Адначасна экспэдыцыя будзе працаваць над антырэлігійнай гукавой фільмай пра ламанізм.

* Усходкіно мяркуе пабудаваць у Маскве гукавую кінофабрыку.

* На фабрыцы Міжрабпомфільм рэжысэр Н. Экк працуе над поўнамэтражнай гукавой фільмай „Путевка в жизнь“. Тэма фільмы — працоўнае перавыхаваньне злачынцаў, пераключэньне зладзейскіх звычак на працоўныя. Нямы сцэнары належыць Н. Экк, А. Столпнер і Р. Янушкевіч. Музыка да сцэнарыя распрацавана Н. Экк разам з композытарам Я. Столяр, якому даручана і напісаньне музыкі.

* Камітэт выстаўкі „Писатель и колхоз“ наладзіў 11-га верасьня у клюбе ФОСП другі вечар дакладаў пісьменьнікаў пра колгасы. На вечары былі заслуханы даклады: З. Рыхтэр—„Месяц на Кубані“ і А. Ісбаха—„Дваццаціпяцітысячнікі“. З. Рыхтэр падзялілася вялікім фактычным матэрыялам, які яна сабрала ў колгасах Кубані. Цікавы даклад А. Ісбаха быў прысьвечаны ролі рабочых—дваццаціпяцітысячнікаў, якія пайшлі ў вёску будаваць колгасы.

Уражаньні ад паездкі ў колгасы і шматлікія докумэнты, сабраныя А. Ісбахам, паслужаць матэрыялам для кнігі аб дваццаціпяцітысячніках.

* Пры ФОСП організуецца Літаратурнае бюро, якое будзе забясьпечваць цэнтральныя і провінцыяльныя газэты літаратурным матэрыялам да „Дню ударника“.

Бюро будзе выпускаць бюлетэнь з добраякаснай літаратурнай продукцыяй—апавяданьнямі, нарысамі, вершамі, вершаванымі лёзунгамі і п'есамі.

* З Ленінграду 11-га верасьня вярнулася першая брыгада пісьменьнікаў, організаваная ЛОКАФ, у складзе т.т.: Е. Віхрава, А. Саргіджана, С. Гехта, І. Рахіло і Ул. Наседкіна. Разам з гэтаю пісьменьніцкай брыгадаю ў манэўрах прымаў удзел І. Бабель.

Брыгада прымала непасрэдны ўдзел ва ўсіх этапах манэўраў.

Пісьменьнікі сабралі шмат матэрыялу з чырвонаармейскага быту і вучобы, каторы будзе перапрацаваны ў шэрагу нарысаў і апавяданьняў. Акрамя нарысаў і апавяданьняў у газэтах і часопісях будзе выдадзены спэцыяльны зборнік, які адлюструе працу пісьменьніцкай брыгады на манэўрах.

* Рэдакцыя „Малых форм клубного зрелища“ выпускае экстраны зборнік, прысьвечаны пытаньням ліквідацыі прарыву прамфінпляну. У зборнік увойдуць творы: А. Золіна, Б. Бабовіча, Я. Радзіонава, М. Пустыніна і інш. Усе творы прысьвечаны змаганьню за прамфінплян і напісаны ва ўдарным парадку.

## ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

### Амэрыка

* Таварыства прыяцеляў СССР і ПАЗШ шырока разгарнула сваю дзейнасьць. Т-ва мае выдаваць ілюстраваны месячнік, мэта якога,—„мобілізаваць амэрыканскіх рабочых і ўсіх, хто спачувае змаганьню за абарону Савецкага Саюзу ад імпэрыялістычнага нападу і за прызнаньне СССР Злучанымі Штатамі“.

Т-ва выдала ўжо 3 брошуры пра СССР—пра соцыялістычнае змаганьне, сельскую гаспадарку і пяцігадовы плян.

### Англія

* Ангельская літаратурна-мастацкая часопісь „Эвэрымэн“ прыступае да друку сэрыі новэль Ефіма Зозулі ў перакладзе Эдварда Бэрнштэйна.

У апошнім нумары часопісі зьмешчаны артыкул Бэрнштэйна „Модны рускі“, у надта прыязных тонах, які знаёміць ангельскага чытача з творчасьцю і біографіяй Е. Зозулі.

### Гішпанія

* Эўропэйскія газэты з здавальненьнем паведамляюць аб звароце гішпанскага пісьменьніка Унамуно на бацькаўшчыну. Унамуно першы і амаль адзіны з гішпанскіх пісьменьнікаў узьняў сьцяг протэсту супроць дыктатуры Прымо дзі Рывэра, за што і быў высланы на адзін з Канарскіх вастравоў. Уцёкшы адтуль, ён пасяліўся ў францускім мястэчку Эндат на мяжы Гішпаніі і стаў асяродкам радыкальна настроенай інтэлігенцыі і політычнай эміграцыі. Падзеньне дыктатара дало яму доступ у Гішпанію, межы якой былі закрыты для яго на працягу шасьці год. Няцяжка прадбачыць новы конфлікт яго з урадам, які наўрад-ці прыдзецца яму па душы.

### Італія

* Марынэцьці, футурысты, які яшчэ так нядаўна адмаўляў граматыку і сынтакс для „волі поэтычнай творчасьці“, зрабіўшыся акадэмікам, сур'ёзна ўзяўся за акадэмічную працу: ён напісаў авіяцыйны слоўнік, асноўнай задачай якога зьяўляецца ачысьціць італійскую мову ад мноства ангельскіх і францускіх тэрмінаў, якія існуюць у авіяцыйнай літаратуры. „Чыстата нацыі“ патрабуе „чыстату мовы“.

### Нямеччына

* Эрых Марыя Рэмарк, вядомы аўтар роману „На Западном фронте без перемен“, не аднойчы заяўляў пасьля выхаду сваёй кнігі аб тым, што ён ня пісьменьнік, што гэта кніга напісана ім ледзь не выпадкова. Цяпер ён працуе над новым раманам, прысьвечаным нямецкай моладзі пасьляваеннага пэрыоду. Роман гэты загадзя прадаваўся з таргоў, і ганорар узьняўся да гэткіх памераў, што нямецкія выдавецтвы не маглі справіцца з ім; роман адкупіла амэрыканская фірма. Цяпер Рэмарк ужо „сапраўдны пісьменьнік“.

### Норвэгія

* Увосень выйдзе ў сьвет выпускаемы адначасова на дванаццаці мовах новы роман Кнута Гамсуна—„Август Мораплаўца“.

### Португалія

* Адзін з перадавых партугальскіх пісьменьнікаў Карлош Бастош перадрукоўвае ў газэце „A „verdade апублікаваную ў канцы мінулага году адозву расійскіх пісьменьнікаў да заходніх з прычыны паклёпных выпадаў Істраці супроць СССР.

Не становячыся на бок гэтай адозвы, Бастош патрабуе аднак уважлівага стаўленьня да голасу савецкіх пісьменьнікаў і сумняваецца ў об'ектыўнасьці кнігі Панаіта Істраці. „Гэта адозва да заходніх пісьменьнікаў заслугоўвае ўвагі, таму што яна прымушае нас патрабаваць пэўных вестак пра СССР і ставіцца падазрона да тэндэнцый асобных людзей".

### Францыя

* Францускі пісьменьнік Андрэ Люруа, які стаў нядаўна вядомым сваім романам пра Байрона, падпаў пад заядлы напад з боку часопісі „Крапуйо". Яму інкрымінуецца тое, што ён прадаў аднэй амэрыканскай тытунёвай фабрыцы свой портрэт і аўтограф для фабрычнай маркі. Такога роду ўзаемнае рэклямаваньне пісьменьніка і „табачніка" выклікае думку: хто каму павінен плаціць?

* Француская прэса адзначыла стогадовы юбілей Элізэ Рэклю, які нарадзіўся у 1830 годзе. Рэклю—герой парыскай комуны, прымаў удзел у бойках на вуліцах Парыжу з „вэрсальцамі". Па палітычных пераконаньнях—анархісты-комуністы. Памёр Рэклю 5 ліпеня 1905 году на чужыне—у Туру, каля Бругге ў Бельгіі, куды яго выслаў урад Т'ера за ўдзел у комуне.

Элізэ Рэклю славутая постаць ня толькі палітычнаю дзейнасьцю. Ён вялікі вучоны, географ сусьветнай славы. Яго „Новая сусьветная географія", якая пачала выходзіць з 1875 году, зьяўляецца клясычным творам і перакладзена амаль на ўсе мовы.

Далёка пазьней, за два гады перад сваёю сьмерцю Рэклю выдрукаваў у часопісі „La Revue" ад 1-га лістапа[illegible]у 1903 году артыкул пра „Панславізм і еднасьць Расіі".

* Пасьля перапынку, які цягнуўся некалькі гадоў, адноўлена выданьне органу францускай компартыі „Ouvriere" (Работніца).

Рэдакцыйная колегія: А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.

Выдавец: Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

## ЗЬМЕСТ